ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# Якар надзеі

---

Аповесці і апавяданні



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1979

# ЯКАР НАДЗЕІ

*Рамантычная гісторыя ў трох частках з эпілогам*

Навучы мяне..., як любіць радзіму, жонку, бацьку, як прыплыць да далёкага берага выратавання, хоць бы і зведаўшы крушэнне.

*Сенека*

## Частка першая

Алёша!

Няўжо табе ні кропелькі не сорамна? Паехаў і нават не развітаўся. Зараз жа напішы мне «да пабачэння».

Г. Ж.

2 жніўня.

Добры дзень, Галя!

Толькі наважыўся табе пісаць і прасіць прабачэння за тое, што не сказаў «да пабачэння», як пошта прынесла твой ультыматум. О, калі б усе ультыматумы былі такія прыемныя! Што ж, даруй, даруй... Забегаўся ў апошні дзень — ледзь паспеў на поезд. Званіў табе з вакзала, але тэлефон ваш не адказваў. Каб ты ведала, які засмучаны пакідаў я Мінск! Пасля прыезду хацеў адразу табе напісаць, але з усіх бакоў навалiліся розныя турботы і клопаты. А шчыра кажучы, неяк пачаў я раздумваць: ці варта пераводзіць паперу? Мо ты і не чакаеш маіх пісьмаў? У каханні мы не кляліся. Разам здавалі экзамены, хадзілі ў кіно і елі марожанае. Ну, і што з таго? Прабач, мо пішу не тое, што трэба... Відаць, увосень пайду ў армію. Учора выклікалі ў ваенкамат. Ніякіх ільгот завочнікі не маюць. «Здаў за першы курс універсітэта? Малайчына! Адслужыш і здасі за другі. Вучыцца, браток, ніколі не позна». Так сказаў ваенком. Толя Раманоўскі, наш першы сакратар райкома камсамола, абяцаў дамагацца адтэрміноўкі, бо я застаўся адзін інструктар на ўвесь райком. Але навошта! Мне ўжо скора дваццаць. Аднагодкі служаць. Лепш не будзе, калі пайду служыць пазней. І ведаеш, хочацца паспытаць салдацкага хлеба. Прайсці гэтую школу. Каб не гава-

рылі, што я які-небудзь белабілетнік. «Ат, што ты за хлопец! Цябе на камісіі збракавалі»,— так кажуць адзяўчаты ў нашай вёсцы пра тых, хто не служыў у арміі. Але гэта — жарты. Трэба выканаць свой абавязак. У вольны час буду грызці граніт навукі. Мо будуць адпускаць на сесіі? А калі не, дык потым экстэрнам як фугану курсы два адразу. Маўляў, ведай нашых!

Пішы, Галя. Чакаю. Праз тыдзень, мусіць, вазьму водпуск. Буду ў вёсцы. Памагу бацькам назапасіць сена карове, дроў нарыхтаваць, дах трэба перакрыць.

Ну, да пабачэння!

6 жніўня. А. Гардзіевіч.

Алёша!

Ты не ўяўляеш, як узрадаваў мяне твой ліст! Праўда, калі прачытала, мне стала сумна. Чаму ты думаеш, што я не чакаю тваіх пісьмаў? Наадварот, вельмі чакаю... Нейкі дзіўны настрой. Здаецца, вось-вось здарыцца нешта харошае-харошае, а яно ніяк не здараецца. Разумееш, чаканне нейкае напружанае, яно проста знясільвае... А ты, Алёша, далёка. І жыццё ў цябе іншае... Пішу і прыгадваю, як мы стаялі каля Опернага і чакалі, калі перастане дождж. Ты даў мне свой пінжак. О, як хацела я, каб дождж ішоў доўга-доўга!.. Помню, як сядзелі ў скверыку каля універсітэта, гаварылі аб усім на свеце, як стаялі ля расчыненага акна на перапынках. А памятаеш, неяк ля дзвярэй аўдыторыі, дзе прымалі экзамены, стаяў цэлы натоўп дзяўчат і хлопцаў, усе сур'ёзныя, заклапочаныя. Потым падышоў да нас ты, весела прывітаўся, і Люся Крыловіч раптам так шчыра, па-дзіцячы непасрэдна ўсклікнула, што любіць цябе за тое, што ты заўсёды такі жыццярадасны. Усе заўсміхаліся, а ты неяк сумеўся, адышоў убок, далей ад Люсі, і зірнуў на мяне адтуль так ясна і ласкава, што я ў тое ж імгненне перастала злаваць на Люсю за яе прызнанне.

А помніш, як у парку, седзячы на траве, елі вішні з саквояжа Віталя Ярохіна?.. Потым смяяліся цэлы вечар. Ты гаварыў, што Віталь вёз вішні на Камароўскі рынак, а мы ўсе з'елі... А як сядзелі ля помніка Купалу і чыталі вершы... Так, гэта было, але яно прайшло. Сумна, што ўсё так хутка скончылася. Калі ты станеш салдатам, я буду з нецярпеннем чакаць тваіх лістоў...

Што яшчэ хацела напісаць? Нашу вуліцу ўсю разварочалі: зносяць старыя дамы. Аўтобусы не ходзяць, у школу як хочаш, так і дабірайся. Хаджу пехатой, паўз чыгунку, добра, што не дужа далёка. І яшчэ навіна: хутка скончыцца мая дзейнасць на пасадзе піянерважатай — твая добрая прыяцелька Галіна Жданко стане настаўніцай! Буду вучыць першакоў. Каб ты ведаў, як я баюся! Уяўляеш, сорак маленькіх чалавечкаў! Паспрабуй адразу запомніць усіх. А з іх бацькамі, кажуць, яшчэ горш паладзіць. Што й та будзе?!

Ну, ладна, Лёша, пакуль. Пішы хутчэй.

12 жніўня. Галя.

P. S. Лёша, мілы, каб ты ўсё ведаў!!!!!!

Ты зараз, відаць, падумаў: «О божа, няўжо ёй няма чаго рабіць — столькі клічнікаў напісаць!»

Шаноўная настаўніца!

Віншую з новым навучальным годам! Як бы я хацеў апынуцца ў першым класе, каб ты мяне вучыла пісаць і чытаць! Я быў бы самы паслухмяны і прыкладны вучань. Шкада, што я пераростак...

Нарэшце вырваўся ў адпачынак. Паспеў пакасіць «проценты», палаяцца са старшынёй калгаса. Дацягнулі гэтыя «проценты» да восені. Трава даўно пасохла на караню, у ёй не засталося нічога жывога. Які там пратэін — адна труха. Наясіся малака з такога сена. А старшыня сваё: «Часу няма. Хоць разарвіся. Пакуль скасілі калгаснае, падышло жніво. Лён трэба выбіраць... Ну, зацягнулі проценты, затое сена болей, падрасло яно...» Калі б ён быў разумнейшы, дык бы даў улетку. За суботу і нядзелю ўсё б зрабілі: і скасілі, і высушылі, і прывезлі. А цяпер як пачаўся дождж — амаль штодзень залева, дык цэлы тыдзень марнаваліся людзі і сырое звезлі...

Папраўдзе, Галя, не ведаю, пра што табе пісаць, што цябе цікавіць? Успамінаць экзамены, якія разам здавалі, няма настрою. На вуліцы зноў дождж. Сыпле і сыпле, нібы праз сіта. «Дождждык-рабацяга. Усё прамочыць»,— так гаворыць бацька. Затое грыбоў колькі! Асабліва лісічак — хоць касу закладай. Я толькі нядаўна прыйшоў з лесу. Прыцягнуў цэлы кош. Адных баравікоў семдзесят два! А якія яны прыгожыя! Цуд прыроды! Калі знайду ладнага чорнагаловіка — дзіў-

люся, як ён ацалеў. Бо столькі людзей, лес гудзе, галёкае, мох узрыты, нібы прайшлі дзікі, вакол карэньчыкі — аж бела. У мяне свая «метода» збору грыбоў. Знайду аднаго, стаўлю кош і пачынаю абмацваць мох, быццам на піяніна граю — балазе да абеду было суха. А пад мохам яны такія бялюткія, адно капялюшыкі трохі смуглявыя. Чорнагаловікі трапляліся такія моцненькія, крамяныя, проста любата. Пад елкамі, у чарнічніку, гадуюцца пяшчотна-карычневыя даўганогія баравікі-арыстакраты, цыбатыя, стройныя. Вачэй не адарваць...

Грыбы цяпер — мая самая вялікая радасць і асалода. Наогул, жнівень я вельмі люблю. Які тыдзень назад былі такія ночы — светлыя, зорныя, ціхія, да звону ўвушшу. Я блукаў па ўзгор'і. На жаль, адзін. А мо і лепш? Бо ў такую ноч трэба маўчаць. Умеюць жа гэта далёка не ўсе. Меў рацыю той мудрэц, які сказаў, што чалавеку даецца два гады, каб навучыцца гаварыць, і ўсё жыццё, каб навучыцца маўчаць. Да таго ж жанчыну, бадай, і два вякі не зробяць маўклівай. Ты, канечне,— выключэнне. Вось таму я і блукаў, як здань, самотны па высокім беразе. Рака ў такую ноч нагадвае бліскучую стужку серпантыну, прыбітую да зямлі срэбранымі цвікамі: кожная зорка адлюстроўваецца ў вадзе, пакідае срэбны слупок, і чым ярчэй зорка, тым ярчэйшы слупок.

А якая раса ў жніўні! Буйныя кроплі, што боб — на траве, на лісці, на дрэвах. І трымаецца раса доўга. Мне здаецца, Галя, што ў горадзе і расы не бывае, ва ўсякім разе, я не бачыў. Сонца, мабыць, аднолькавае, як і ў вас,— удзень яшчэ прыпякае, але гэта ўжо агонія лета... У жніўні спрабуюць голас маладыя пеўнікі. Каб ты пачула хоць раз! Ідзеш па мяжы, і раптам з бульбоўніку: «Ку-ка-гэ-ку». Такое хрыпатае, бы з прастуды, і кароткае, мабыць, не хапае духу. Гэта не апішаш. Трэба пачуць... Затое ў лесе ўжо ціха. Птушкі змоўклі. Адно сарока падасць голас, ды дзяцел патукае. І зноў ціха. І ведаеш, Галя, іншы раз можна падумаць, што і прырода вучыцца маўчаць, нібы рыхтуецца да зімовага сну. І ў лузе цішыня. Ці бачыла ты калі, як паважна шпацыруюць па балоцвінах буслы, падоўгу дрэмлюць на стагах, здалёк нагадваючы дзяўчат у белых хусцінках. Шпакі лётаюць купкамі, то саб'юцца

ў трапяткі шар, то расцягнуцца імгненна ў зіхатлівае пад сонцам воблачка, то зноў збяруцца ў шар, а то сядуць на парыжэлы луг і знікнуць. Скора вырай. Буслы ўжо адлятаюць. А за імі журавы і ластаўкі панясуць нашае лета ў далёкую Афрыку. Потым качкі, гусі — і зіма. Не хачу думаць, якой яна будзе. Не прападу. Што міру, тое і бабінаму сыну.

Чаму я пішу пра гэта? Сам не ведаю. Мусіць, і я, як тыя птахі, збіраюся ў вырай і быццам развітваюся са сваёй вёскай, з роднымі мясцінамі. А дождж ідзе... Хачу, каб ён перастаў. Трэба прывезці з лесу дровы. Потым буду іх калоць. З усіх вясковых работ — гэта, бадай, самая любімая. Скажу без пахвальбы, тут я мастак. Любому кругляку, які б ён ні быў сукаваты, дам рады. Асабліва цяжка паддаюцца разгатыя камлюкі. Праўда, мяне яны не палохаюць. Выбіраю самы тоўсты сук, б'ю ў цэнтр яго, і кругляк разлятаецца напалам. Вядома, не адразу. А лягчэйшае палена дзеўбанеш сякерай, паднімеш над галавой, потым — гак, аж прысядзеш, каб ямчэй было, і — гатова. Бывае, уходзішся, пот цурком, далоні гараць. Але адчуваеш такі прыліў бадзёрасці, адчуваеш сілу і моц.

Ну, і распісаўся я. Не шкадую твайго часу. Даруй, мая настаўніца. Пастаў мне двойку з мінусам за гэтую мазню. Апішы, калі ласка, як пачнуцца заняткі. Не забывай, што я ў душы педагог, і нават дыплом педвучылішча маю ў кішэні. Шкада, дзяцей давялося вучыць толькі адну чвэрць...

Пішы. Ужо чакаю адказу.

Аляксей, Васілёў сын.

27 жніўня.

Алёша!

Дзякуй табе за ліст. Перачытала яго некалькі разоў. Дарэчы, за каліграфію я б табе паставіла двойку з мінусам, а за змест — яшчэ б прыбавіла два балы... Ты з такім захапленнем усё апісваеш, што мне захацелася пабыць у тваёй вёсцы... З адказам трохі затрымалася, прабач. Часу не хапае. Немаведама, калі што рабіць. У мяне сорак тры вучні. Гэта восемдзесят шэсць сшыткаў, іх трэба праверыць, кожнаму прапісаць новую літару. Адзнак яшчэ не ставім, каб не крыўдзіць. А планы? Наглядныя дапаможнікі? Самой трэба рыхтаваць іх. Вось толькі сёння, у нядзелю, са-

бралася адпісаць табе. Ужо два тыдні працую. Цікава ўсё пачыналася.

Пастроілі дзяцей на школьным двары, у цэнтры — важныя, самавітыя дзесяцікласнікі, насупраць іх — прыціхлы радок дашкалят [redacted] дзіцячага сада, справа і злева — шарэнгі першакоў. І ўсе дзеці — вялікія і малыя — [redacted] букетамі. Уяўляеш: мора кветак і мора віхрастых дзіцячых галоў. Здавалася, у горадзе пасвятлела ад бялюткіх фартушкоў і бантаў. А дзень выдаўся надзвычай светлы, сонечны. І стары наш Мінск быццам памаладзеў... Для мяне такія ўрачыстасці — не навіна, раней сама іх рыхтавала, але на гэты раз, мне здаецца, усё было інакш. Мо таму, што я стаяла наперадзе свайго класа? Каб ты ведаў, як я хвалявалася! І дырэктар гаварыў як ніколі ўсхвалявана. Ён сівы ў нас, што голуб, хоць яму толькі пяцьдзесят, і яго белая круглая галава мне заўсёды нагадвае дзьмухавец. Здаецца, дзьмухне вецер, і не застанецца аніводнай валасіны. Раз ты педагог, Алёша, і цябе ўсё цікавіць, дык слухай, што ён сказаў:

— Дарагія маленькія сябры! Цэлае лета вы хваляваліся і не ведалі, што з вамі будзе. І вось сёння ўсё зрабілася ясна: вы прыйшлі ў нашу вялікую і светлую школу. Ну што ж, першакласнікі, выглядаеце вы добра: рослыя, загарэлыя, такія ўрачыстыя, толькі, можа, занадта сур'ёзныя. Весялейшымі трэба быць! Сёння ў вас радаснае свята — свята ведаў. Жадаю, каб вы, як гэта сонейка, свяціліся, радавалі сваіх настаўнікаў і бацькоў. Каб вы не прыбавілі ім ніводнай маршчынкі, ніводнай сівой валасіны... І я хачу вітаць вас у нашай школе. Давайце паздароўкаемся. Добры дзень, дзеці!

У адказ пачуўся нястройны хор галасоў. Дырэктар прымусіў яшчэ раз паўтарыць. Дзеці адказалі дружна і звонка. І вочы мае напоўніліся слязьмі. Потым Іван Сцяпанавіч — так завуць дырэктара — гаварыў пра дысцыпліну, што ўставаць трэба раненька, рабіць зарадку, мыцца, што трэба навучыць гэтаму таксама дзядулю і бабулю. А калі хто прыйдзе заспаны, то не пазнае свае настаўніцы. Дзеці адразу заўсміхаліся, мусіць, прамова дырэктара ім спадабалася. О, ён умее сказаць! А які бывае строгі! Нават грубы часам. Я, шчыра кажучы, баюся яго.

Наогул, усё было добра. Праўда, бацькі мяне хвалююць і палохаюць. Відаць, я не зрабіла на іх уражання. Вось два прыклады. Калі дзеці дарылі кветкі, адна маці кажа свайму хлопчыку: «Аддай дзесяцікласнікам. Настаўніцы ўжо хопіць». Дробязь, але неяк непрыемна закранула. А другая маці пытае: «Вы настаўніца?.. Ну, ладна. Хай будзе ў вас...» Зрабіла ласку. І сказала гэткім тонам, што скрабанула па сэрцы.

І яшчэ адна дэталь. У нашай школе ёсць настаўніца Вераніка Пятроўна Журава. Сёлета яна вучыць трэці клас. А яе сынок Алег прыйшоў у першы. Ой, якая была за яго барацьба паміж маімі калегамі! Я-то ведала, што ў мяне ён не будзе — пачынаючая. А чаму змагаліся? Бабуля ягоная — нейкая шышка ў міністэрстве асветы, а бацька — у другім міністэрстве. І вось уяві такую сцэну. Мае калегі праглядаюць спісы сваіх вучняў. Нямая цішыня. І раптам Вольга Сяргееўна, яна заўсёды такая важная, модна апранутая, знешне абыякавым тонам пытаецца: «А ў каго Жураў?» — «У мяне»,— адказвае Яніна Іванаўна. Вольга Сяргееўна спахмурнела: яна лічыць сябе самай лепшай настаўніцай, а тут пакрыўдзілі. Яна сапраўды — вопытны педагог, але пусціла пагаласку, што збіраецца пераходзіць у іншую школу, бо мужу абяцаюць новую кватэру. Ну, а раз так, то Алега і далі Яніне. Яна, дарэчы, маладая настаўніца, але разумная, старанная, яе заўсёды хваляць на педсаветах. Вольга Сяргееўна гаворыць, што Яніне падабралі дзяцей з інтэлігентных сем'яў, каб у Алежкі было добрае «акружэнне». Але гэта плёткі, пра якія не хочацца пісаць. Між іншым, да мяне ў клас трапіла настаўніцкая дачушка: выкладчык спеваў даверыў мне сваю Юльку. Я з ім часта лаялася, калі была піянерважатай: ён здольны чалавек, але заядлы да гарэлкі. Бывала, прызначым рэпетыцыю, а ён возьме і не прыйдзе; танцуем тады «пад язык». Пабачым, чаго вартая яго Юлька. Першы страх у мяне прайшоў, адчуваю сябе больш упэўнена. На другі дзень ведала ў твар і імя амаль усіх сваіх вучняў. А я так баялася, што не запомню іх! Бо назаві Пецю Колем, і ўсе захіхікаюць.

Ну, хопіць, а то напляла абы-чаго. Жанчына, нават калі яна настаўніца, застаецца жанчынай. Але ж сам вінаваты: прасіў расказаць аб усім,— вось і атрымлі-

вай. І калі ты педагог у душы, дык табе павінна быць цікава. О, яшчэ пра адно забыла. Ведаеш, што я прыдумала? У першы дзень раздала ўсім па аркушу з альбома для малявання, каб кожны нешта напісаў, што можа — мама, тата, сваё імя, горад, вуліцу, і нешта намаляваў — сонца, кветкі, дом. Такія смешныя гэтыя аркушы атрымаліся! Падпісала іх, буду берагчы тры гады, на развітанне потым раздам: хай кожны ўбачыць, чаму навучыўся. Гэта я сама прыдумала. Цяпер, здаецца, усё. Пішы, як мага хутчэй.

14 верасня. Галя.

Вітаю цябе, настаўніца!

Прабач, што доўга не пісаў: чакаў, калі высветліцца мой лёс, мая будучыня. Не ведаю, як і што будзе, але ясна адно: дваццатага кастрычніка іду служыць. Чакай пісем з трохвугольным штэмпелем!

Дзякуй табе за ліст: я нібы ў тваёй школе пабыў. Ведаеш, я нават зайздрошчу табе. Шкада, што я мала працаваў настаўнікам, ну, але ўсё яшчэ наперадзе. Пасля адпачынку я зноў распачаў бурную дзейнасць у райкоме. Ты не смейся, сапраўды так. Не магу кіснуць, сядзець і пазяхаць. У адной вёсцы ў нас пабудавалі новы прыгожы клуб, яшчэ вясной адсвяткавалі дзень яго нараджэння — наваселле, ці, як у нас гавораць: улазіны. Адкрыццё было ўрачыстае, выступіла наша агітбрыгада — я адзін з яе артыстаў. А што далей? Клубаў мы шмат набудавалі. Ды якіх! І, акрамя кіно і танцаў, нічога там не бывае. А людзі ж і ў пустую царкву не ходзяць, яны ідуць туды, калі там ёсць малебен, ці як гэта ў іх называецца. Я прапанаваў арганізаваць у новым будынку клуб цікавых сустрэч. Не вялікая навіна. Ды нешта ж трэба рабіць! Прадумаў план. Ухвалілі. Паехалі адкрываць. Набілася ў «газік» чалавек сем. Стары камуніст, між іншым, былы настаўнік, гісторык; галоўны ўрач раёна, дырэктар лясгаса — былы партызан; прадавец кнігарні — паэтэса; загадчыца метэаралагічнай станцыі; баяніст з раённага Дома культуры. Людзі вельмі цікавыя. Едзем — жарты, песні... Дарога восеньская: гразь, калдобіна на калдобіне. Матор аж вые ад натугі. І ўсё ж, як ні стараўся шафёр — заселі, і колы схаваліся ў гразі. Да вёскі кіламетраў пяць, а цемень хоць вока вы-

калі. Што рабіць? Пайшлі пехатой. Я ўзяў пад руку старога. Ён трымаўся малайцом і нават другіх падбадзёрваў. Расказваў, як некалі хадзіў пешкі ў горад за шэсцьдзесят вёрст ды басанож, а боты нёс на кійку і абуваў іх перад горадам. Карацей, дайшлі мы, сустрэлі нас такімі гарачымі воплескамі, што ў мяне ад радасці ледзь слёзы не пасыпаліся, а можа, гэта проста ад яркага святла? У мяне дзіўны характар: рэж — не заплачу, а ад радасці ці замілавання адразу макрэюць вочы. Словам, вечар прайшоў выдатна... Так хораша гаварылі людзі, проста, шчыра...

Нават не верыцца — праз які тыдзень адпраўка ў армію. Хаджу яшчэ з чубам. Ваенком дазволіў як артысту агітбрыгады. «Можаш гойсаць з чубам да апошняга дня. Але на станцыю каб з'явіўся як агурчык...» Не ведаю, як усё атрымаецца. Сябры рыхтуюць урачыстыя провады.

Учора сустрэў свайго аднавяскоўца Міколу Баброва (у нас шмат Бабровых,— мусіць, таму, што ў рэчцы водзяцца бабры). Мне чамусьці вельмі ўрэзалася ў памяць, як наша вёска выпраўляла Міколу ў армію. Было гэта даўно, я яшчэ ў школу не хадзіў. Апоўдні ў нядзелю ўся вёска высыпала на вуліцу. Каля кожнай хаты стаялі бабы, дзяды. Я, зусім яшчэ жаўтароты, таксама лётаў па дарозе і першы заўважыў, калі паказалася з-за павароту падвода. Дуга была ўпрыгожана кветкамі, абвіта дзеразой. На возе сядзела маці Міколы, а сам ён ішоў паперадзе, заварочваў да кожнай хаты і з усімі развітваўся. Мужчынам паціскаў рукі, абдымаўся, а з жанкамі тройчы цалаваўся. Плячысты, каржакаваты, трохі крываногі, за што яго празвалі кавалерыстам, ён ішоў і зямлі не чуў пад нагамі. На ім была шаўковая блакітная сарочка з расшпіленым каўняром, салдацкія галіфэ і наваксаваныя, што люстэрка, боты,— якія яшчэ больш падкрэслівалі яго кавалерыйскія прыкметы. Але што значыла гэтая запрагана ў параўнанні з яго талентамі! Мяркуй сама: першы ў брыгадзе касец, адмысловы гарманіст і заўзяты танцор. Карацей, хлопец-зух. Дзеўкі па ім так і сохлі. Яны ішлі за возам сцішанай стракатай купкай. Некаторыя не-не ды і падносілі да вачэй скамечаныя хусцінкі. А Мікола ўсё абдымаўся і цалаваўся. Колькі цеплыні, шчырасці было ў гэтых праводзінах! Мо та-

му яны гэтак і запалі ў душу. А ці запомняцца мае? Мікола вярнуўся пасля службы дамоў, цяпер лепшы механізатар, мае дзяцей паўнюткую печ — хлопцы, як грыбкі-баравічкі, адзін пад адзін. Ён заўзяты рыбак, паляўнічы, мы не раз рыбачылі з ім. Дык вось сустрэліся ў райцэнтры, пагаманілі, я нагадаў, як выпраўлялі яго ў армію. Мікола ўсміхнуўся, неяк адразу памаладзеў, махнуў рукой: «А, браток, даўно ета было. Пайшлі кульнём па чарцы за тваю службу». Што мы і зрабілі...

Ведаеш, Галя, я ўсё думаю пра сваю вучобу. Дзесьці ў глыбіні душы жыве, варушыцца надзея, што мне дазволяць вучыцца, і мы з табой будзем сустракацца. А пакуль што чакай пісьма з новым адрасам.

12 кастрычніка. Аляксей.

Прывітанне з берагоў Балтыкі!

Матрос Гардзіевіч ужо амаль два тыдні праслужыў «на флатах». Прабач, што не пісаў табе адразу: не ведаў, які будзе адрас. У адным горадзе нас фарміравалі, апранулі ў флоцкую форму, потым перавезлі ў другі, дзе знаходжуся ў вучэбным атрадзе. Вучуся на гідраакустыка. Заняткаў многа. Напачатку ледзьледзь паспяваў. Часу мала. Пад'ём у шэсць раніцы, а я так не люблю рана ўставаць, бо звычайна клаўся позна. І пакуль прывык, дык першая думка раніцай была: «Хутчэй бы наступная ноч, каб адаспацца».

Неяк у нас былі заняткі за горадам, і я ўволю нагледзеўся на мора. Дзьмуў даволі моцны вецер, белагрывыя зялёныя хвалі быццам лізалі пясчаны бераг, усыпаны дробным каменнем. Мокрыя каменьчыкі зіхацяць усімі колерамі вясёлкі, а сухія — шэрыя, зусім не цікавыя. Пясок тут белы, як цукар, калі ідзеш, ён спявае, і здаецца, што дзесьці далёка-далёка крычаць журавы. Але ж яны даўно адляцелі... Затое на шастах, якія трымаюць рыбацкія невады, сядзелі чайкі, павярнуўшыся галовамі пад вецер. Яны нагадалі мне сарок, што злятаюцца адусюль, калі ў вёсцы восеньскаю нядзеляй смаляць вепрука. Сарокі сядаюць на агароджу, на голыя, шаравата-цёмныя, як на гравюры, яблыні, і бялеюцца, нібы камякі ранняга снегу. Чакаюць, лётаюць, нахабна траскочуць, пільнуюць, каб нешта ўкрасці. А чайкі былі задумныя, ціхамірныя.

Мудрыя птахі! Хаця нахабства і прагнасці ім таксама не пазычаць. Між іншым, я недзе чытаў, што жывуць чайкі да сарака чатырох гадоў. Не так і мала, праўда?

Пішы, калі ласка, што ў цябе чуваць? Як твае падшыванцы?

Віншую са святам Кастрычніка!

1 лістапада. Чакаю адказу.

А. Г.

Алёша!

Нарэшце прыйшло тваё пісьмо — белы канверт з сінім трохкутнікам, з якарам і надпісам: «матросское письмо». Я доўга чакала гэты ліст, і калі ён прыйшоў, хоць кароценькі, увесь дзень хадзіла вясёлая. Як мала трэба чалавеку для радасці!.. І ўрокі ў той дзень былі цікавей. Першакоў сваіх ужо трохі ведаю, вывучаю іх характары. У класе дзяўчынак болей, чым хлопчыкаў. Ад гэтага не лягчэй. Многія дзяўчынкі непаслухмяныя, спешчаныя. Ёсць у мяне Света Катовіч, прыгожанькая: вочы сінія, сама бялявая, з белым бантам, што мятлушка. Неяк пытаюся ў яе, чаму ты, Света, неакуратна напісала? Яна падымае на мяне вочы, а вейкі ў яе доўгія, пушыстыя, і самым сур'ёзным тонам кажа: «Я не Света, я Свецік...» Ад нечаканасці я разгубілася, а потым захацелася зарагатаць на ўвесь клас, ледзь стрымалася. «Ну, добра, Свецік. Ты харошая дзяўчынка, але ты станеш яшчэ лепшая, калі навучышся пісаць акуратна, прыгожа і сшытак твой будзе прыемна ўзяць у рукі». Пагаварыла з ёй так ласкава, далікатна. Апошнія дні стала папраўляцца. Я не вялікая прыхільніца чыстапісання і каліграфіі; ды і пішам мы шарыкавымі ручкамі, проста трэба прывучаць да акуратнасці.

А хлопцы ёсць вельмі добрыя. Першую пяцёрку паставіла Андрэйку Рабцэвічу. Дарэчы, у класе тры Алегі, столькі ж Ігараў, два Пеці і два Колі. Ну, што за бацькі пайшлі! Не могуць выбраць імя. А ўсё таму, што мала дзяцей у сям'і, таму і Свецік такая.

Раскажу гісторыю пра фотакарткі. Каб не забыць, пішу зараз: Алёшка — фотакартку! Хачу пабачыць, які ты ў форме. Чакаю і хутчэй! А гісторыя вось якая. Мы фатаграфаваліся. Здымак будзе называцца «Настаўніца першая мая». Усе дзеці з такім нецярпеннем

чакалі фатографа. Толькі Петрык Стрэльскі кажа: «Мне мама гаварыла, каб я не здымаўся. Маіх фотакартак і так многа. І ў шафе ляжаць, і наверсе...» Я пашкадавала, бо думаю, такую картку трэба мець кожнаму першакласніку — памяць на ўсё жыццё.

Петрык — цікавы хлопчык. Вось яшчэ адзін штрых. У панядзелак дзеці здаюць грошы на снеданне на ўвесь тыдзень — дзевяноста капеек. Звычайна даюць рубель, а я даю дзесяць капеек рэшты. Неяк Петрыку не хапіла. Кажу яму, запішу, што табе не аддала, атрымаеш заўтра. На другі дзень, як толькі зайшоў у клас, адразу пытаецца: «Дзесяць капеек аддасцё сёння?» А ў мяне зноў дробных манет не аказалася. І што ты думаеш? На ўроку чытання вывучалі мы гук «д». Дзеці прыдумвалі розныя словы з гэтым гукам. А Пеця назваў слова «доўг». Вядома, ён меў на ўвазе маю запазычанасць. І я пастаралася яе хутчэй ліквідаваць. Праз тыдзень прынеслі фотакарткі. Атрымалася добра. Уверсе — фота настаўніцы, вядомай табе Галіны Максімаўны, пасярод — партрэт вучня. Картка каляровая, прыгожая. Вочы ў дзяцей так і заблішчалі. А Петрык захліпаў. Не стрымаўся. Ледзь супакоіла. Схадзіла да яго дамоў, угаварыла маці, потым папрасіла фатографа, каб прыйшоў, бо яшчэ дзве дзяўчынкі не здымаліся — хварэлі. Карацей, ва ўсіх дзяцей будзе здымак на ўспамін.

Алёшка, мілы, табе, можа, усё гэта не цікава? Але ж ты сам просіш пісаць пра ўсё. А па-другое, і самой хочацца выказацца, бо я жыву работай і вучобай. У гэтым — усе мае радасці.

Ну, як не расказаць табе пра сваю акцябрацкую групу! Каб ты ведаў, колькі я думала, якую даць назву. Звычайна групы называюцца «гайдараўцы», «цімураўцы», «гагарынцы». Гэта вельмі добра, што ёсць гагарынцы ў Брэсце і ў Хабараўску, у самай паўднёвай Кушцы і ў запалярным Нарыльску. Але чаму ва ўсіх школах павінна быць аднолькава? І мне захацелася даць другую назву, адметную. Параілася з маёй першай памочніцай Ганнай Міхайлаўнай Рабцэвіч — гэта Андрэйкава маці. Яна біёлаг, кандыдат навук, абралі яе старшынёй бацькоўскага камітэта. Дык вось, пачалі мы з ёй думаць. Я кажу, а можа, «гастэлаўцамі» назваць? З'ездзілі б да яго помніка, аформілі б

альбом пра жыццё. Тады Ганна Міхайлаўна і кажа: «А мо купалаўцы? Гучыць добра. А які прасцяг для пошукаў! Які канцэрт можна падрыхтаваць! У музей з дзецьмі можна схадзіць, у купалаўскі тэатр. На радзіму ягоную з'ездзіць... Мне здаецца, вельмі добрая назва. Купала — наш пясняр. Увесь свет яго ведае...»

Назву зацвердзілі. Я ўзялася перачытваць вершы, знайшла добрыя радкі для дэвізу: «Ідзі сам наперад, другіх ведучы». Нашай песняй вырашылі ўзяць, ведаеш якую? «А зязюлька кукавала...» Яна ўсім спадабалася. У кожнага вучня ўжо ёсць сшытак з партрэтамі Янкі Купалы на вокладцы. Вырашылі хлопчыкам на каўнерыкі нашыць істужкі з беларускім арнаментам, а дзяўчынкі будуць насіць паясы, таксама з арнаментам. Зараз афармляем куток. Тут будзе наш дэвіз, тэкст песні, альбомы пра жыццё і творчасць паэта, фотаздымкі выдатнікаў. Мне здаецца, куток атрымаецца цікавы. Алёша, можа, ты што-небудзь параіш? Напішы, калі ласка.

Першая чвэрць скончылася. Я свой клас не атэставала. Так трэба. А якія адзнакі буду ставіць за другую чвэрць? Ужо думаю зараз пра гэта. А як яны будуць вучыцца далей у старэйшых класах? Калі пераканаюся, што ў мяне нічога не выходзіць, кіну. У школе нельга працаваць абы-як. Новая праграма складаная. Што раней завучвалася механічна, зараз павінна быць засвоена асэнсавана, ды і методыка зусім іншая. Асабліва палохае матэматыка — дужа цяжкія задачы.

Вось так я і жыву. Аднойчы з сястрой Ларысай ішлі вечарам па праспекце, і міжволі прыгадалася, як мы гулялі з табой. Помніш — ззяюць рэкламы, снуюць машыны, поўна вакол людзей: ідуць, смяюцца, размаўляюць. І мы сярод іх... Дзіўна, зараз мне здаецца, на праспекце вечарам не так светла, і людзі калі і ўсміхаюцца, дык чамусьці не так весела, быццам у кожнага на душы затоены смутак... Ці не таму сумуюць яны, што няма сярод іх нас? Ты скажаш, што я фантазёрка. Так яно і ёсць. З самага дзяцінства я забіваю сабе галаву ўсялякімі фантазіямі. Пра цябе я не столькі ўспамінаю, колькі мару — думаю пра тое, чаго не было і, можа, ніколі не будзе. А пасля гэтага мне здаецца, што было ў нас з табой многа-многа харошага... І раптам лаўлю сябе на думцы, што было мала

чаго, што мы проста знаёмыя, што я ўсё прыдумала, што гэта — мары. У мяне заўсёды так: мінулае зліваецца з марамі пра будучае і таму здаецца — ёсць на свеце добрае і светлае! Алёша, я не магу правільна выказаць, але спадзяюся, ты мяне разумееш.

Хутчэй пішы пра свае прыгоды, усё-ўсё, што з табой надарылася за гэты час. І наогул, давай будзем перапісвацца ўсё сваё жыццё! Хоць гэта і смешна гучыць, але... Хочаш? Будзем?

Алёша, мілы, яшчэ планы не пісала, таму канчаю ліст.

Усяго добрага!

Галя.

10 лістапада.

P. S. Алёша, міленькі — фотакартку!!!

Прывітанне з берагоў Балтыкі!

Мабыць, усе мае новыя сябры так пачынаюць лісты. А пішуць хлопцы шмат. Санька Партноў з Варонежа піша адразу чатыром дзяўчатам. І ўчора ён адправіў два лісты, а вечарам спахапіўся: «Хлопцы, бяда! Пераблытаў! Валіна пісьмо паслаў Тамары, а Тамарына — Валі. І абедзвюм напісаў, што я — бывалы марак, што ад камбуза да гальюна ў чумічцы плаваю...» Увесь кубрык лёг ад смеху. Прабач за непрыстойнасць, але расшыфрую гэтую фразу: камбуз — сталоўка, гальюн — туалет, чумічка — апалонік. Ну, а скласці сказ можаш сама. Хоць мы яшчэ «салажаты» — так завуць маладых матросаў,— але сёе-тое ўжо засвоілі: манеры, словы. Ужо ніхто не скажа «ўключы святло» — урубі. І мы яго не выключаем, а «вырубаем». Ніхто не скажа «есці» — рубаць, не скажа займі месца ў клубе — «забей местечко», ну, і канечне ж, камбуз і чумічку ўсе ведаюць добра. Жывём мы на беразе, у казарме, але падлога ў нас — палуба, пакоі — кубрыкі. А спачатку...

Прыгадаю адзін выпадак. Нас толькі апранулі ў флоцкую форму, і спецыяльная камісія адбірала, каго куды накіраваць. Нашу каманду завялі ў клас, там былі сталы і на іх радыёключы. Мічман, немалады, лысы, вусаты, загадаў: «Дастаць банкі!» Мы стаім, пераглядваемся. Мічман усміхнуўся: «Пад сталамі ёсць табурэты. Вазьміце іх і сядайце». Вось табе і банкі! Потым узяліся за ключы. Пачалі выбіваць кропкі

і працяжнікі: «Каша кіпіць», «наша Маша» і гэтак далей. Я зрабіў усё як трэба, але радыстам не буду. Камісія палічыла, што з мяне выйдзе гідраакустык — вочы і вушы карабля.

І вось цяпер нас вучаць. Ад пад'ёму да адбою час разлічаны да хвіліны. І толькі ўвечары ёсць нейкая вольная гадзіна — каб напісаць табе ліст. Разы два ў месяц пішу бацькам, паслаў пісьмо ў райком Толю Раманоўскаму, старому сябру Алегу Кузьміцкаму — разам вучыліся ў педвучылішчы, ён служыць на граніцы, дзесьці каля Адэсы. Вось і ўсе мае сувязі.

Часта ўспамінаю, як мы з табой блукалі па горадзе. Бывае сумна. Асабліва таму, што мы яшчэ не маем права хадзіць у горад. Неўзабаве скончым курс маладога матроса, прымем прысягу, атрымаем службовыя кніжкі і будзем хадзіць у звальненне, а цяпер за межы падраздзялення — ні кроку, толькі строем у лазню, раніцай строем прабяжым квартал-другі, і ўсё. А так хочацца проста выйсці і пахадзіць па вуліцах. Як зайздросціш людзям, якія ходзяць па горадзе, некуды спяшаюцца: на работу, на заняткі, на спатканне... Мабыць, чалавек заўсёды пачынае шанаваць тое, што траціць. Банальна, але факт.

Пасылаю табе фотакартку. Праўда, не зусім удалая, але лепшай няма. Бесказырку я занадта ссунуў на правы бок, і гэта надае нейкі зухавата-смешны выгляд. Адразу відаць — салага.

Дзякуй за апісанне сваіх школьных спраў — мяне гэта вельмі цікавіць. Разумею твае сумненні. Яны дарэмныя. Дзяцей ты любіш, а гэта галоўнае, і таму вытрымаеш усе пакуты настаўніцкага лёсу, зведаеш горыч і смак гэтага цяжкога хлеба. Як бы я хацеў пасядзець на ўроку, пачуць твой голас, паглядзець табе ў вочы... Ой, так можна і закахацца! А ў нас жа проста сяброўская перапіска. Мы ж з табой «проста знаёмыя». А мо ўжо і не проста? Я пачынаю думаць інакш... Я гатовы перапісвацца ўсё жыццё. Хачу! Будзем?!

Усё, канчаю. Неўзабаве вячэрняя паверка. А тады наш памкамузвода галоўны старшына (старшы сяржант) яшчэ можа зрабіць трэніроўку — павучыць хутка ўставаць і класціся спаць. Так ужо было не раз. Ён камандуе: «Адбой!» Усе кідаемся да сваіх ложкаў, на хаду здымаем робы, укладваем іх на банкі-табурэ-

ты, што стаяць ля кожнага ложка. Самае цяжкае — хутка зняць чаравікі. Урэшце ляжым. Ён правярае. «Партноў, чаму ў шкарпэтках? Устаць, зняць!» Распякае, хто не склаў добра форму. Потым зноў: «Пад'ём! Выхадзі строіцца!» Аглядае, хто не зашнураваў чаравікі, у каго гюйс (блакітны каўнер на плячах з белымі палоскамі) не па форме. Зноў — адбой.

Гаварыў з нашым начальствам наконт вучобы. Нельга. Кепска, але што зробіш. Словам, на сесію прыехаць не давядзецца.

Чакаю пісьмо і фотакартку: будзем узаемна ветлівымі. Некаторыя з хлопцаў ужо атрымалі па некалькі картак ад сваіх дзяўчат, а ў мяне ніводнай, а калі б было некалькі карэспандэнтак, дык ужо меў бы цэлую калекцыю. Жартую, а то сапраўды падумаеш, што я такі донжуан.

Бывай здарова!

А. Г.

3 снежня.

Алёша!

Як я рада — нарэшце атрымала твой ліст і фотакартку. Чым болей чакаеш, тым болей радасці, калі атрымаеш. Толькі ты, Алёша, не зрабі няправільную выснову, а то будзеш па месяцу маўчаць! Так не чэсна. Вялікае дзякуй за фота. Між іншым, форма табе вельмі да твару. І так міла ты ўсміхаешся, але глядзіш некуды міма... Напішы, што, калі ўсміхаўся, думаў толькі пра мяне, інакш не будзе мне спакою... Я ведала, што ты хутка асвойтаешся. Увогуле, Алёша, у цябе добры характар, але чагосьці ў ім не хапае, разумееш? Толькі я не ведаю чаго.

Вельмі шкада, што цябе не будзе на зімовай сесіі. Ты цяпер далёка, і можна прызнацца: пасля апошніх экзаменаў, як толькі ты паехаў, я пачала чакаць зімовай сесіі, каб хутчэй пабачыцца з табой, пачуць твой смех, убачыць тваю ўсмешку. І гэтае жаданне было мацней за звычайны страх перад экзаменамі. Як жа я буду цяпер? Зусім нецікава і сумна... Пазаўчора з Ларыскай, сваёй сястрыцай, была ў Оперным, слухала «Манон», і вось ужо другі дзень з галавы не выходзіць мелодыя дуэта, у душы звініць адно і тое ж:

Не твоя ль рука вновь с моей рукой,
Как в былые дни?..

У школе — звычайныя будні. Праўда, я цэлы тыдзень хварэла — грып, і мы трохі адсталі ад праграмы. Увесь час, пакуль хварэла, думала пра дзяцей. Я паспела да іх прывыкнуць, яны сталі мне як родныя. Замяняла мяне Вераніка Пятроўна, настаўніца вопытная, яна ўмее даць добры ўрок, а яшчэ лепей умее «падаць» сябе перад начальствам. Некалькі разоў гаварыла з ёй па тэлефоне. Яна правільна характарызавала многіх вучняў, хвалілася: дзеці сталі лепш пісаць, чытаць, на ўроках у класе абсалютная цішыня. І я так баялася, што дзеці прывыкнуць да новай настаўніцы, палюбяць яе. З'явілася рэўнасць, няўпэўненасць у сабе — я ж таксама «салага». Калі папраўілася, рыхтавалася да ўрокаў надзвычай старанна, з нейкім новым хваляваннем. Прыйшла ў панядзелак раней звычайнага. Вучняў было ў класе яшчэ мала. Яны з такой радасцю кінуліся да мяне! І астатнія дзеці, калі заходзілі, віталіся са мной неяк інакш. Адчувалася, яны чакалі мяне і былі вельмі рады, што дачакаліся сваю настаўніцу. Неўзабаве я зразумела, што Вераніка Пятроўна занадта многа хвалілася. А карпатлівай, штодзённай чарнавой работы не было відаць. Дзеці сталі горш пісаць, неахайна, брудна. Не засвоена тое, што трэба па праграме. Ну, але нічога — дагонім.

Неяк на ўроку мой Петрык (Стрэльскі, я пра яго пісала) падняў руку. Падыходжу, пытаюся: «Што ты хочаш, Петрык?» — «Галіна Максімаўна, вазьміце, калі ласка»,— шэпча ён і дае... дзве цукеркі. Што было рабіць? Узяла. А на перапынку аддала назад: «Дзякуй, Петрык. Ты яшчэ маленькі. Еш сам цукеркі. А я ўжо вялікая. Лепш пачастуй Ірынку. Яна харошая, сядзіць поруч з табой. Трэба сябраваць...» Петрык пачырванеў і прашаптаў: «Я больш так не буду».

Потым мяне акружылі дзяўчынкі, шэпчуцца, пераглядваюцца. «Галіна Максімаўна, вы зрабілі стрыжку? Вам да твару...» А Свецік не згадзілася: «Мне больш падабалася, калі валасы былі доўгія». Вось табе і маеш! Што за дзеці! Няўжо я, калі была ў першым класе, магла сказаць такое настаўніцы? Ні ў якім разе. А цяпер яны ўсё ведаюць, пра ўсё мяркуюць, як дарослыя, і асабліва пра моды, і смела гавораць у вочы. Некаторыя дзеці надта пяшчотныя. Падыдзе да

мяне на перапынку, абдыме, песціцца. Можа, гэта панібрацтва? Як ты думаеш, Алёша? Мо трэба быць больш суровай? Хаця ў час урокаў я строгая... Ты смяешся, мабыць? А гэта праўда.

У апошнія дні я была на адкрытых уроках у Яніны Іванаўны і ў іншых класах. Асабліва спадабаўся ўрок пісьма ў другім класе. Адчувалася, што паказана работа не аднаго дня. Поўная згода і разуменне паміж педагогам і класам. Бачна сувязь урокаў пісьма і чытання. Вельмі цікава растлумачыла настаўніца новую тэму «Корань слова». Яна гаворыць: «Калі знаеш часткі слова, дык напішаш іх талкова». І вось знаёмства з коранем. Адкрываецца дошка, якая дагэтуль была завешана фіранкай, а там — плакат, маляўнічы, яркі. Дрэва з галінкамі і лісцікамі, карэнне — белае ў чорнай зямлі. Настаўніца расказвае пра часткі слова, а потым пытаецца: «Калі ў дрэва адсячы корань, ці будзе яно расці?» — «Не»,— дружна адказваюць дзеці. «Так і слова. Без кораня яно жыць не можа. А вось як утвараюцца новыя словы...» — з галінак здымаюцца паперкі. Там, дзе корань, напісана слова «лес», а на галінках — лясок, ляснік, лясны, узлесак...

Гэта быў цудоўны ўрок, быццам спектакль. Усе працавалі старанна, напружана. На хатняе заданне — дзесяць хвілін, усё так растлумачыла, што проста немагчыма не выканаць. У Веранікі Пятроўны таксама было цікава, але яе ўрок мне спадабаўся меней. Між тым завуч хваліла больш Вераніку Пятроўну. Хацелася ёй запярэчыць, але я стрымалася, а мо пабаялася? Я да глыбіні душы ненавіджу няшчырасць, усялякае двурушніцтва, а вось выступіць супраць не адважылася. Як ты думаеш,Алёша, я баязліўка ці проста «недаспелы грамадзянін»? Ты не смейся. Гэта вельмі важна. Я ў дзяцей вучуся шчырасці, чэснасці. І сама стараюся ні ў чым не фальшывіць, бо яны, дзеці, адчуваюць гэта беспамылкова. Іх не падманіш.

Нядаўна развіталіся з букваром. Колькі цёплых слоў падзякі выпала на долю першай кніжкі! Яна навучыла чытаць і пісаць. А гэта так многа! Быў ранішнік. Дзеці святочна апранутыя, чысцюткія, прыгожыя, светлыя. Выступіў мой клас добра. Настаўнік спеваў — Юльчын тата — папрацаваў шчыра. Чаго не зробіш дзеля свайго дзіцяці! Напярэдадні ў мяне бы-

ла высокая тэмпература, вельмі балела галава. Маці пазваніла ў школу, што я захварэла і не прыйду. Але раніцай мне стала трохі лепей, і я не ўседзела — пайшла ў школу. Зрабіць бы здымак, калі я нечакана ўвайшла ў клас! Радасць невыказная на кожным тварыку!

Прабач, Алёша, за гэту пісаніну. Проста я люблю доўгія лісты і спадзяюся, ты гэта ўлічыш. Як прыемна атрымаць доўгае пісьмо! Я заўсёды чытаю і думаю: «Зараз скончыцца»,— і гэтая думка атручвае радасць. Апошні твой ліст даўжэй папярэдняга, зусім кароценькага. Хай заўсёды так будзе! Пішы, Алёша, паболей, добра?

Які жах! Да сесіі не рыхтуюся. Няма калі. Сустрэла неяк Віталіка Ярохіна. Наша размова скончылася так:

В. *(весела).* Ну, кантрольных, здаецца, няма?

Я *(жахліва).* Што ты! Дзве!

В. *(глядзіць незразумела).* Як дзве? Ты, мабыць, жартуеш? *(З надзеяй усміхаецца.)*

Я. Сур'ёзна.

В. *(разгублена).* М-да... Ну, бог з імі. А сесія калі? *(Чакае адказу з хваляваннем.)*

Я. Сесія з першага лютага...

В. *(павесялелы).* Ну, яшчэ не скора! Усё добра, Галя!

І смех бярэ, што праз два дні такі ж дыялог паўтарыўся паміж мной і Люсяй. Учора яна званіла зноў і ўсё дапытвалася: ці чула я ад каго-небудзь пра цябе. Я сказала, што быццам Віталь гаварыў,— ты служыш на флоце. Яна здзівілася, а потым ускліклула: «Галька, жывём!» Чэснае слова, ты ёй вельмі падабаешся. Помню, як ты называў яе і прынцэсай Люськай, і Люсі, і нават — Люсяю. Мяне гэта раздражняла (кажу табе на вушка), а яна не крыўдзілася, адно міла ўсміхалася. Яна ўсё табе даравала. Бачыш, як ты зачараваў яе? Дарэчы, Люся перайшла ў іншае выдавецтва і ўжо не карэктар, а малодшы рэдактар. А там, глядзіш, і старшы, а то і галоўны. Я ж усё жыццё буду настаўніцай. Такая мая «планіда». А Люся ідзе ўгару. Так што... падумай, калі да гэтага не думаў. Дзяўчына яна добрая, разумная, прыгожая...

Мабыць, нездарма ты баішся закахацца ў мяне...

А ўвогуле, ці ёсць яно, гэтае каханне? Мне ўвесь час здаецца, што вялікага беззапаветнага кахання не бывае. Людзі хочуць кахаць і пішуць пра гэта раманы, сімфоніі, карціны, а ў жыцці, на маю думку, быць такога не можа, ва ўсякім разе, я такога не бачыла. Вялікае каханне можа разгарэцца, калі на яго шляху ёсць сур'ёзныя перашкоды. Мо я памыляюся, але мне так здаецца... А як хочацца вялікага, вернага, бясконцага кахання, у якога быў бы толькі пачатак!

Ну, хопіць, канчаю. Віншую цябе з Новым годам, хоць і зарана. Калі куранты будуць біць дванаццаты раз, я пажадаю табе шчасця, і яно абавязкова прыйдзе да цябе.

Пішы, я буду вельмі чакаць.

23 снежня. Галя.

P. S. Алёша, хай не ўзбрыдзе табе ў галаву рабіць закіды да Люсі, а то... кепска будзе.

Мілая Галя!

Тры дні і тры ночы я чытаў і перачытваў твае пісьмо. Так, так, не здзіўляйся: днём чытаў, а ноччу ты снілася мне і гаварыла тое ж самае, што ў тваіх лістах, і яшчэ многа пра што, і мы стаялі ля Опернага тэатра — сустракалі ўсход сонца, дзівіліся, калі яно ўзышло, бо яно было густа-сіняга колеру з фіялетавым мадценнем. Бачыш, мне сняцца каляровыя сны! Мабыць, таму было сіняе сонца, што над дзвярыма кубрыка ноччу гарыць сіняя лямпачка. А яшчэ снілася мне, што мы з табой каталіся на лодцы, я веславаў, а потым на лодцы з'явіўся матор, і яна неслася як апантаная, а ты ўсміхалася і аберуч трымала белы капялюшык з шырокімі палямі... Не ведаю, куды б заплыла наша лодка, але прагучала каманда: «Пад'ём! Выхадзі строіцца на фіззарадку!» — і мы ў адных цяльняшках, не зважаючы на мароз, пабеглі па вуліцах гарадка.

Можаш мяне павіншаваць — я здаў курс маладога матроса, прыняў прысягу на вернасць Радзіме! Цяпер нам дадуць службовыя кніжкі, і мы будзем хадзіць у звальненні.

Нядаўна былі стрэльбы. Наша вучэбная рота зрабіла дзесяцікіламетровы марш, а была, дарэчы, завіруха. Калі дабраліся да стрэльбішча, выглянула со-

нейка (сапраўднае, а не сіне-фіялетавае), затое марозік памацнеў. І вось каманда: «На агнявы рубеж шагам арш!» А на гэтым самым рубяжы ляжаць рэчавыя мяшкі, набітыя нечым мяккім, відаць, тырсай — так у нашай вёсцы называюць пілавінне. Леглі. «Зараджай!» Я заклаў тры патроны ў ражок-магазін аўтамата. Камандзір роты ходзіць — правярае. Поруч са мной сапе Хачык Аганесян, з Арменіі, тоўсты, непаваротлівы, з яго мы часта смяёмся на страявых занятках, балазе, Хачык асабліва не крыўдзіцца, між іншым, дома ён быў цырульнікам. Дык вось падыходзіць да яго камандзір. «Аганесян, ты што ўзваліўся, гэта ж табе не падушка!» Усе зарагаталі, і я адразу перастаў хвалявацца. Прыгадалася, як вывучалі аўтамат, у ім ёсць дэталь «шаптала». Ну, і Аганесян спытаў камандзіра, чаму яна так называецца. Камандзір наш ужо не малады, хударлявы, у яго невялікія шэрыя вочы без вейкаў і цёмныя валасы,— трохі падумаў і сказаў: «Шаптала адзіночнага і аўтаматычнага агню ўзаемадзейнічаюць з курком. Шаптала быццам гаворыць: «Бі!» Нібы шэпча. Вось таму і назвалі...»

Нарэшце прагучала каманда «Агонь!». Я дакладна прыцэліўся, уздыхнуў на поўныя грудзі, затрымаў выдых, і націснуў курок.

Потым беглі, спатыкаючыся, да мішэняў. Я падбег да сваёй і не паверыў вачам: у самым цэнтры цёмнага круга бялела маленькая дзірачка, трохі ніжэй яшчэ дзве — дзесятка і дзве дзевяткі. Дваццаць восем ачкоў з трыццаці. Я радаваўся, як дзіця. Нездарма некалі хадзіў на паляванне. «Ты, брат, цалок, Гардзіевіч. Для першага разу проста выдатна»,— сказаў камандзір. А ён у нас строгі, сярдзіты, хаця ў душы, мне здаецца, ён добры. Не лічы мяне задавакам, але адстраляўся я лепш за ўсіх у нашым узводзе. Усе хлопцы стралялі добра. Затым мы стракаталі кароткімі чэргамі. Тут я таксама збіў мішэнь.

А неяк сярод ночы ўзнялі нас: «Вучэбная трывога!» Пастроілі. Дзяжурны афіцэр аб'явіў: «На станцыю прыбыло некалькі вагонаў каменнага вугалю. Трэба тэрмінова разгрузіць». У баталерцы (па-пяхотнаму — капцёрка) нам выдалі ватоўкі, затым пасадзілі на машыны і — на станцыю. А на дварэ — заверу-

ха, мароз, снег забівае вочы, вецер працінае да касцей. Аганесян напачатку ўсё бурчаў: «Паўночны вецер не шкадуе паўднёвага чалавека». Ды і я дрыжыкі прадаваў. А тады як узяўся арудаваць шуфлем, дык зрабілася горача. Вугальны пыл са снегам лез у вочы, у нос. І неўзабаве ў роце зрабілася соладка. Ніколі не думаў, што каменны вугаль саладкаваты на смак! Працавалі мы як апантаныя. Угрэліся, пачалі жартаваць. Санька Партноў падбадзёрваў: «Бяры болей, кідай далей, пакуль даляціць — адпачнеш». Мы рагаталі, не зважаючы на шалёную завею. Да раніцы скончылі. Прыехалі — не пазнаём адно аднаго: усе чорныя, толькі зубы блішчаць. Памыліся, паснедалі і спаць. О, што гэта быў за сон! Мабыць, ніколі ў жыцці не спалася мне так соладка.

Зноў я на сцэне. Чытаю вершы, байкі. На днях выступалі на адным заводзе. Народу — процьма. Я прачытаў байку Кандрата Крапівы «Махальнік Іваноў». У зале былі рускія, многа эстонцаў, латышоў, літоўцаў і, можа, некалькі беларусаў. Але ўсе зразумелі. Поспех быў нечаканы. Вучоба ідзе нармальна. Я ўжо ўцягнуўся, усюды паспяваю, сёе-тое чытаю. Ці чытала ты, Галя, «Пунсовыя ветразі» Грына? Цудоўная рэч! І хоць разумееш, што гэта прыгожая выдумка, усё роўна хочацца яшчэ перачытаць. Мне здаецца, без умоўнасці, без выдумкі, без фантазіі не можа быць мастацтва, літаратуры. Ну, хіба «Дон-Кіхот» не выдумка? Хіба «Мёртвыя душы» пазбаўлены ўмоўнасці? А «Халстамер» Талстога, дзе конь расказвае пра сваё жыццё і пра свайго гаспадара! І, нарэшце, «Белы параход» Айтматава. Колькі ўмоўнасці ў гэтых рэчах і ў той жа час колькі паэзіі, хараства, якая сіла думкі і пачуцця! А песні. Тая ж «Рэчанька»: «...А як жа мне поўнай быць, з беражкамі роўнай плыць?» — адказвае рэчка. Вада гаворыць чалавечым голасам! Не можа быць! Чаму? Гэта ж песня не пра нейкую там раку, а пра дзяўчыну, пра яе каханне.

Бачыш, ува мне загаварыў будучы філолаг. Ведаеш, пра што я зараз падумаў? Я ж некалі збіраўся паступаць на геаграфічны, і мы б з табой не сустрэліся. Але, дзякаваць богу, літаратура перамагла. Адзін з вінoўнікаў гэтага, апроч неіснуючага ўсявышняга,— Янка Купала. Пасля школы пачаў перачытваць і зра-

зумеў, што зусім не ведаю яго. Ды і сам я калісь крэмзаў вершыкі, праўда, даволі хутка астыў. Пра гэта, каханенькая-родненькая, пісаць можна шмат, але неўзабаве вячэрняя паверка, а па-другое, ліст ужо доўгі — я ўзаемаветлівы.

Вечар сёння цудоўны. Ціха, марозік. Падаюць буйныя бухматыя сняжынкі, падаюць павольна, задумна, кружаць у паветры, нібы выбіраюць сабе месца на зямлі... Пішу ў кубрыку на трэцім паверсе нашай «хаты». Цераз калідор, у Ленінскім пакоі, грыміць тэлевізар. Хлопцы глядзяць фігурнае катанне, а мне ўжо надакучыла яно. Мяне агарнуў нейкі сум, думкі, нібы хвалі, набягаюць адна за адной. Аб чым? Аб усім, і нават аб сэнсе жыцця-быцця. Дзеля чаго жыць? Аджылі нашы дзяды, прадзеды, аджывём і мы. А дзеля чаго? Усё роўна растанем, як тыя сняжынкі. Праўда, мы будзем жыць у нашых дзецях, як нашы прашчуры жывуць у нас, у нашых сэрцах і памяці. Мы будзем жыць у нашых справах, калі здолеем нешта зрабіць, вартае людской памяці. І ўсё-такі, як хочацца жыць! Нават дзеля таго, каб даведацца, спазнаць, што і як на свеце робіцца. Не, што ні кажы, цікава жыць. Шкада, няма часу, я б напісаў табе пра мары-жаданні і пра белы параход...

Пішы, Галя, як твае дзеткі-малалеткі? Якія навіны? Мяне цікавіць усё, што ты робіш са сваімі купалаўцамі.

А Люсю не забыў. Добрая дзяўчына, але... Ёсць у мяне Галіна...

Бывай здарова, мілая настаўніца!

19 студзеня. А. Г.

Алёша, дарагі!

Тваё пісьмо прыйшло акурат па раскладу. Сур'ёзна, я заўсёды загадзя разлічваю, калі ты атрымаеш мой ліст і калі прыйдзе твой. Ты яшчэ ні разу не выбіўся з графіка — хоць бы не сурочыць... Пачалася сесія. Шкада, што ты не прыехаў. Я так чакала. Але не бядуй, не перажывай. Нічога страшнага, калі трохі пазней скончыш універсітэт. Мы здалі ўжо рускую літаратуру. Я ледзь выехала на троечцы, бо падрыхтавалася да экзаменаў зусім слаба. Школа забірае ўсе сілы і час. Не ведаю, як я буду далей. Ты не можаш

уявіць, колькі ў мяне работы! Якраз перад сесіяй праводзіла бацькоўскі сход. І што ты думаеш? Бацькі добрых вучняў — прыйшлі, а тыя, чые дзеці хуліганы і двоечнікі — не. Ды ў многіх з адстаючых і татаў няма. Больш дзесяці маіх вучняў — бязбацькавічы. І вайны няма, і мужыкоў няма. Пасля сходаў з членамі бацькоўскага камітэта — дзве жанчыны і тата Андрэйкі Рабцэвіча (бо маці была на лекцыі, дык бацька прыйшоў. Во якія людзі! Не дзіва, што сын добры) пайшлі да Юрасіка. Заходзім — пакой амаль пусты, голая падлога, ніводнага стула, старое крэсла-развалюха, канапа, ложак нікеляваны, на вокнах жоўтыя, брудныя цюлевыя фіранкі. На гэтым старым крэсле сядзела дзяўчо гадоў дзесяці і худы, маленькі, як верабейка, Юрасік у адных трусіках, праз адчыненыя ў другі пакой дзверы, дзе жывуць кватаранты: маладыя муж і жонка, дзеці глядзелі тэлевізар — кіно пра каханне. Хлапчук адразу захліпаў — спужаўся, бо ўкраў у бібліятэцы дзевяць падставак для кніг, іх знайшлі ў яго, давялося абшукваць паўкласа,— таму малы закрыў твар бруднымі далонькамі і плакаў. Але ўбачыў, што ніхто не збіраецца яго біць, памалу супакоіўся, пасмялеў. Пыталіся жанчыны, якія кніжкі чытаў, які гук «б» — галосны ці зычны, але ні слова мы ад яго так і не пачулі. Сястрычка за яго гаварыла, яна вучыцца ў чацвёртым класе школы-інтэрната, часта ўцякае адтуль дамоў. У сям'і трое дзяцей — яшчэ дачка ў шостым класе. Маці працуе санітаркай у скура-венярычным дыспансеры, а мужа пасадзілі ў турму — п'янтос і хуліган. Мы гаварылі, а маці не было: пайшла ў магазін са старэйшай дзяўчынкай. Мы чакалі яе, і вось яна заявілася з авоськай і тортам — значыць, грошы ёсць, не бедная, атрымлівае паўтары стаўкі. Прыйшла яна падпітая: часам з ёй гэта здараецца, любіць выпіць. Сама невысокая, плоскі, тупаваты твар, чорныя вочы, бліскучыя ад гарэлкі. Жанчыны як навалілі́ся на яе: чаму ў хаце брудна, чаму ў Юрасіка бруднае адзенне, чаму кніжак няма дзіцячых, чаму п'е, чаму на сходзе не была?.. «Родненькія, міленькія, чэснае-прачэснае слова, усё будзе... На сходы буду хадзіць, усё памыю, усё зраблю...» Паглядзім, што яна зробіць.

Алёша, паслязаўтра — логіка. Усе баяцца яе: вель-

мі цяжка запамінаецца. Бяруся грызці навуку, таму канчаю пісаць.

12 лютага. Галя.

P. S. Прабач за кароткі ліст. Чакаю ад цябе доўгі.

Алёша, што здарылася? Больш месяца чакала твайго пісьма і не дачакалася. Хіба так можна? Я ўсё перадумала... Перачытала твае лісты з самага першага. Усяго шэсць. Болей чым за паўгода. Так мала. І не сорамна табе?

Сесію здала, хоць і са скрыпам. Цяпер узялася за работу, зноў ваюю з адстаючымі. Учора хадзіла дамоў да Свеціка. Матэрыяльна сям'я забяспечана добра. На падлозе, на сценах шыкоўныя дываны, дарагая мэбля і машына ў іх ёсць. А вучобай Светы бацькі, мне здаецца, малавата цікавяцца. Відаць, больш занятыя сабою, пагоняй за дабрабытам, дарагімі рэчамі. Між іншым, ёсць і кнігі, стаяць акуратна, і ўсе тоўстыя, самавітыя, у прыгожых вокладках. І такое ўражанне, што яны, кнігі,— таксама мэбля і куплялі іх кубаметрамі... Света вельмі здольная, але піша брудна, чытае слаба. Варта было пасядзець з ёй гадзінку, і яна пачала пісаць лепш. Каб кожны дзень я магла да некага заходзіць, памагчы, праверыць. Але ж гэта немажліва — іх сорак тры! Уяўляеш, Алёша, як пачнуць выходзіць з класа, адзін за адным ідуць і ідуць,— я гляджу на іх, і мне робіцца не па сабе: так іх многа! Хай было б трыццаць, яшчэ б неяк справілася. А так — разрываюся на часткі і не паспяваю. Дзе ўжо тут індывідуальны падыход! А праграма новая складаная. Бадай, толькі дзесятак вучняў добра спраўляюцца, астатніх выцягваю. Ёсць зусім слабенькія.

Кепска, што некаторыя бацькі мала памагаюць дзецям... Не магу забыць свой візіт да Юрасіка. Маці хоць гаварыла: «чэснае-прачэснае слова, усё зраблю...» — а зноў на сход не прыйшла. Давялося мне ісці. Прыходжу, сядзіць адзін, хударлявы, бледны, вочы вялікія. «Ты ўрокі зрабіў?» — пытаюся. «Не, я толькі з вуліцы вярнуўся».— «А ты што-небудзь еў?» — «Не, чакаю маму...» — «А калі яна прыйдзе?» — «Яшчэ няскора». А на дварэ ўжо вечар. Пасадзіла Юрасіка за падручнікі, сама пабегла ў магазін, купіла малака, сасісак, зрабіла вячэру, накарміла

хлапчука. Назаўтра прыйшла ў школу яго маці, плакала, зноў клялася, што ўсё зробіць, што трэба, а мяне прасіла: «Вы часцей яго выклікайце». Амаль усе бацькі гавораць тое ж самае — часцей выклікайце дзіця на ўроку. Разумеюць, што вучняў шмат, у адзін дзень усіх не спытаеш. Але я ж сама ведаю, каго трэба выклікаць. Хто слабей, таму і больш увагі, і дадому ходзіш, каб неяк выцягнуць.

Мяне, мусіць, скора выганяць са школы. Ты ведаеш, што я раблю? Пакуль што нікому не прызнавалася, толькі табе. Моцным вучням, такім, як Андрэйка Рабцэвіч, стаўлю адзнакі, не пытаючы. Бачу, як цягнуць рукі, як нецярпліва трасуць імі, як блішчаць вачаняты: хочацца адказаць, пяцёрку зарабіць. Яны ж малыя і вучаць урокі дзеля адзнакі. І я стаўлю ім пяцёркі. Што будзе, то будзе. У канцы чвэрці — праверу.

А вось такі выпадак. Зайшла да Ірынкі — яна таксама адстаючая. У кватэры страшэнны гармідар: на кухні спявае рэпрадуктар, у пакоі грыміць тэлевізар — Ірынка глядзіць перадачу, у другім пакоі надрываецца радыёла — старэйшая сястрычка Іры весяліць сяброўак. Не кватэра — музычны салон. Далікатна прапанавала выключыць «аркестр» — стала так ціха, што было чуваць, як цікае будзільнік. «У нас звычайна ціха. Гэта вы ў такі момант патрапілі»,— апраўдвалася гаспадыня. «А ўчора ж мы таксама ўвесь вечар глядзелі тэлевізар»,— не змоўчала Ірынка. Маці сярдзіта зіркнула на яе: «Гэта ж не ўчора было, а ў нядзелю. І не сунь свае пяць грошай, калі старэйшыя гавораць...» Ох, ужо гэтыя тэлевізары! Яны скора зусім адвучаць чалавека думаць, слухаць, бачыць.

Радуе, што неўзабаве скончыцца трэцяя — самая доўгая чвэрць. Дзеці стаміліся, а яшчэ болей стамілася іх настаўніца. Хутчэй бы канікулы! Хочацца адаспацца, зрабіць кантрольныя, бо вясна праляціць, і не ўгледзіш, і зноў сесія. Каб ведала, што ты прыедзеш, я б так яе чакала...

Алёша, на канверце твайго пісьма — куток старой вуліцы Таліна. Што за прыгажосць! Я так люблю старадаўнія гарады, каб ты ведаў! Абавязкова пабуду ў Таліне, калі выраступ вялікая,— так гавораць дзеці. Вось толькі калі гэта будзе? Як ляціць час! У нас ужо

вясна. Дні стаяць светлыя, цёплыя. Хочацца ўвесь дзень сядзець на балконе і грэцца на сонейку. Бачыш, у мяне з'яўляюцца старэчыя жаданні. Мабыць, я старэю?.. Ведаеш, у мяне навіна. Я пачала разумець сімфанічную музыку! Мне даўно гэтага хацелася. І смешна — дапамог мне сябар маёй сястрыцы — Ігар.

Сёння — нядзеля. Увечары Ларыса, Ігар і я пойдзем на канцэрт польскага піяніста. Цікава, што ты будзеш сёння рабіць? Мабыць, пойдзеш у горад і будзеш там усміхацца прыгожым дзяўчатам? Будзеш, я цябе ведаю. Лёша, а ты пішаш Люсі, а? Скажы, што не, як бы там ні было, а то мне нешта дужа маркотна.

20 сакавіка. Г. Ж.

Дарагая мая настаўніца!

Не крыўдуй, што затрымаўся з адказам: быў вельмі заняты. У нас праз месяц-другі пачнуцца экзамены, і мяне потым накіруюць на падводную лодку. Прывыкай, бо пісаць буду радзей, але затое доўгія-доўгія лісты.

У нас таксама вясна. Снегу ў горадзе няма. Дзяўчат неяк пабольшала на вуліцах, яны папрыгажэлі, хоць насы ў некаторых вясна абсыпала рабаціннем, зрабіліся яны пярэсценькія, як вераб'іныя яйкі. Учора хадзіў на танцы ў матроскі клуб. Дзяўчаты там «нарасхват». Самае цікавае, калі аб'явяць дамскі вальс. Маракі адразу падцягваюцца, распрамляюць плечы, грудзі, выходзяць ■ натоўпу на больш віднае месца, каб прыкметней быць, каб шчасце не прайшло міма. Так робяць тыя, у каго няма сяброўкі: часцей за ўсё гэта зялёныя салагі, першагодкі, накшталт мяне. А тыя, хто ўжо стаў на якар, у каго ёсць «каханка», спакойна пасміхаюцца. Дзяўчаты тут ганарыстыя. Запрашаюць, гледзячы на пагоны: у каго паболей лычкаў — той скора адслужыць, яго трэба вербаваць. Пагладаюць і на значкі на грудзях, бо на пагонах можа быць адна лычка — старшы матрос (яфрэйтар) — а на грудзях поўны камплект адзнакаў матроскай доблесці: значок спецыяліста першага класа, выдатніка Ваенна-Марскога Флоту, спартсмена-разрадніка, значок за далёкае плаванне — значыць, таксама не першагодак, а бывалы марак. А калі ў цябе на пагонах і на грудзях чыста, спадзявайся адно на яго вялікасць шчаслівы

выпадак. Два «дамскіх» я стаяў, уперад не лез, проста назіраў. А на трэці мяне запрасіла маладзенькая, бялявая дзяўчынка, так нічога сабе, зграбненькая, тоненькая. Ведаеш, чаму запрасіла? Пазнала. «Ці не вы, кажа, выступалі ў нас у клубе? Так хораша вы прачыталі байку». І сама гаворыць па-беларуску. Аказваецца, яе маці родам з-пад Мінска. У пачатку вайны трапіла аж у Свярдлоўск, там і нарадзілася гэтае дзяўчо, скончыла васьмігодку і прыехала на Балтыку да цёткі, уладкавалася на завод, ходзіць зараз у дзесяты клас вячэрняй школы. Гаварыць па-беларуску навучылася ад маці, а болей ад бабулі, што жыве ў вёсцы, у якой дзяўчына гасцявала штолета. Бачыш, якая сустрэча. Прызнаюся, правёў яе да хаты. Але спаткання не прызначаў: я ж не вольны, ды і паедзем адсюль скора. Спадзяюся, мілая, што ты не будзеш раўнаваць.

На днях выступаў на палітзанятках. Праводзіў іх сам камандзір вучэбнай роты. Тэма заняткаў — утварэнне нашай дзяржавы. Я перачытаў ленінскую працу «Дзяржава і рэвалюцыя». Калі ты знаёмілася з ёй толькі дзеля заліку, то варта перачытаць нанава. У сваім выступленні я нагадаў словы Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага пра нарады, пасяджэнні: «Узгадненне пытанняў ператвараецца ў нас часта ў карыкатуру: адкрываюцца спрэчкі, «преют», у той час, калі наперад можна сказаць, якое будзе рашэнне. Нарэшце, амаль заўсёды ўзгадніць можна ў звычайнай тэлефоннай размове». Камандзір слухаў вельмі ўважліва, і калі я скончыў, усміхнуўся і сказаў: «Вы добра падрыхтаваліся, матрос Гардзіевіч, але не трэба адхіляцца ўбок». Камандзір наш даслужвае апошнія гады — пойдзе на пенсію. Юнаком ваяваў — быў матросам-падводнікам, дарос да капітана трэцяга рангу, чалавек талковы, кемлівы, але вучыўся, відаць, малавата, бо гаворыць: Расія была **аргарнай** краінай, аргарная палітыка і г. д. Але адказаць можа на любое пытанне, прычым так, што мы ўсе зарагочам (як пра шаптала, помніш?), а ён не засмяецца, толькі будзе вачыма сплюскаць і ўсміхацца. Між іншым, неяк ён са старшыной роты правяраў нашы тумбачкі, ну, каб нічога не было лішняга, угледзеў маю заліковую кніжку з універсітэта, а мы тым часам маршыравалі на страявых занятках. Потым выклікае мяне, аддае кніжку: «Да-

ку́менты трэба берагчы, Гардзіевіч. Гэта ж табе не абы-што, а універсітэт! Адслужыш — спатрэбіцца. Будзеш далей грызці навуку. Эх, не было мне калі вучыцца! Адміралам бы ўжо хадзіў!.. Я з шаснаццаці гадоў на трактары. А ў канцы сорак трэцяга трапіў на фронт. Ленінград вызваляў, Талін, усю Прыбалтыку. Вось такія пірагі, брат Гардзіевіч. Выйду на пенсію. Куды? На завод. Вучыцца на токара. Не буду ж я сядзець склаўшы рукі. Сілёнка ж яшчэ ёсць...» Доўга мы з ім гаварылі, выйшаў я ад яго і адчуў сябе чалавекам, а не «Ванькам-устанькам», які без каманды не можа кроку ступіць.

Аднак хопіць пра гэта, каханенькая-родненькая. А то я сапраўды адхіліўся. На двары буяе вясна... Як хацеў бы я пахадзіць з табой па горадзе, паслухаць музыку. Згодзен нават на сімфонію, хоць яна да мяне не даходзіць: мядзведзь на вуха наступіў. Дарэчы, камандзір наш неяк пасля заняткаў расказаў жарт, між іншым, наконт музыкі. Значыць, адзін чалавек усё пісаў на радыё і прасіў перадаваць сімфоніі. Урэшце ім зацікавіліся, прыехаў карэспандэнт, каб зрабіць перадачу пра заядлага меламана. А ўсё аказалася надзвычай простым: у суседа заўсёды на ўсю моц грымеў дынамік і выключаўся толькі тады, калі перадавалі сімфонію. Вось чалавек і пісаў, патрабаваў класічнай музыкі. А заадно слухай, Галя, і яшчэ гісторыю. Таксама расказаў камандзір: мы неўзабаве закончым вучобу, раз'едземся на розныя караблі, і камроты Саблін цяпер гаворыць з намі зусім не так, як напачатку. От, бывала, ён ганяў нас! Ён вельмі любіць страявыя заняткі, і калі ў нас бывае страявы агляд усяго атрада, наш камандзір на вачах маладзее — грудзі наперад, ідзе, быццам зямлі не чуе. Дык вось якая гісторыя: на адным караблі камітэт камсамола разбіраў персанальную справу — падвыпіў матрос. Гэта ж ЧП. «Што піў?» — строга спыталі ў яго. «Спірт».— «Разбаўлены?» — «Не, не разбаўлены».— «Чаму не разбавіў?» — «Вады прэснай не было». Запісалі: за тое, што піў неразбаўлены спірт, аб'явіць строгую вымову. А калі б разбавіў? Было б добра? Вось якая гісторыя, каб не гаварыла, што я пішу табе сухія лісты.

А цяпер зноў пра музыку. Днямі за апошнія грошы ўзяў білет на французскі квартэт. Гралі Дэбюсі, Раве-

ля і Русэля. Сёе-тое спадабалася. Асабліва «Месячнае святло», «Дзяўчына з валасамі колеру льну». Між іншым, быў такі выпадак. Калі выконвалі «Балеро», на скрыпцы лопнула струна. Скрыпач, малады, сімпатычны, з бародкай, нервовы твар, тонкія белыя нервовыя пальцы, спачатку разгубіўся. Затым музыканты ціпіком параіліся. Маэстра з бародкай устаў, нетаропка пайшоў за кулісы, а трыо сядзела, чакала. Неўзабаве скрыпач вярнуўся, хуценька настроілі інструменты, і зноў загучала «Балеро». Так што ўлічы, у камерпай музыцы я трохі кумекаю. Пачакай, дабяруся і да сімфоній.

Ну, хопіць. А то мая настаўніца, каханенькая-родненькая, пойдзе ў школу без планаў.

23 красавіка. Будучы меламан А. Гардзіевіч.

P. S. Люсі не пішу. Па-першае, няма калі, па-другое, не ведаю яе адраса, а па-трэцяе... здагадайся сама.

Мілы Алёшка!

Каб ты ведаў, як люблю я прыйсці са школы і ўбачыць на стале пісьмо ад цябе! У мяне ніколі не хапае цярпення акуратна дастаць ліст з канверта, разрываю, шкуматаю канверт, каб хутчэй дабрацца да ліста. Мама заўсёды дакарае мяне за гэта.

Так, наконт планаў ты не памыліўся. У той вечар я пакуль не нацешылася тваім лістом, не напісала плана ўрока чытання. Але прайшоў ён цудоўна. Экспромт. Расказала пра гэта Яніне Іванаўне, дык яна і кажа: «Сумленнаму, вопытнаму настаўніку план не патрэбен, ва ўсякім разе, падрабязны. А мы пішам. Бо патрабуе завуч. А завуч баіцца, што праверыць дырэктар ці якая камісія. Што скажуць, калі не будзе плана?» Мне, канечне, абавязкова трэба пісаць, бо я салага, а вопытным, сумленным я б дазволіла рабіць так, як яны лічаць патрэбным. Думаю, горш не было б... Дзеці пачалі вучыцца з меншай ахвотай. Вясна. Стаміліся. Усё-такі новая праграма цяжкаватая. Добра, што менш механічнага завучвання, трэба думаць, параўноўваць. А гэта не ўсім адразу даецца. Нават Андрэйка Рабцэвіч, мой выдатнік, няправільна рашыў задачу і засмуціўся, што не атрымаў пяцёрку, а з ёй і яшчэ адну зорачку. На сшытак, у каго пяць пяцёрак,

наклейваю чырвоную зорку. Як гэта радуе дзяцей! У Андрэйкі ўжо чатыры зоркі. Магла б і пятая быць, і вось гэтая задача... Я суцешыла Андрэйку, зайшла да яго дамоў. Бацька хлопчыка працуе на заводзе, ён інжынер-канструктар, кіраўнік групы, маці — кандыдат навук, біёлаг, выкладае ва універсітэце. Вядома, грошай у іх хапае, а ў кватэры ўсё проста, нічога лішняга. Разумныя, інтэлігентныя людзі. Андрэйка развіты, начытаны, паслухмяны. А ведаеш, што ён сказаў? «Хачу, каб вы вучылі мяне да дзесятага класа...» Не думай, што выхваляюся. Проста мяне гэтыя словы вельмі кранулі. Таму што часта бывае зусім інакш. Прыйду са школы і плачу: здаецца, што я нічога не ўмею, мае дзеці нічога не ведаюць і мяне неўзабаве прагоняць з работы. І тут такое прызнанне Андрэйкі... Каб ты ведаў, як цяжка працаваць у школе! Якой трэба быць, каб вучні любілі, каб у іх засталася добрая памяць пра настаўніцу на ўсё жыццё?!

Дзеці так прывыклі да мяне, я — да іх. А ў чацвёртым класе «прадметнікі» пачнуць выкладаць. Далей-болей. Кожны будзе патрабаваць сваё, фізік — закон Бойля-Марыёта, матэматык — квадрат гіпатэнузы, сінус і косінус, філолаг — прадуктыўныя і непрадуктыўныя суфіксы. І кожны выкладчык лічыць свой прадмет самым важным...

Ніколі не забуду, як летась увосень я сустрэла Яніну Іванаўну — яна несла нешта ў прыгаршчах. «Во, дзецям расу хачу паказаць. Нясу ў клас». І я ўбачыла на лістку тры буйныя кроплі, трохі драбнейшыя срэбныя пацеркі блішчалі на травінках. Яна пайшла далей, а я стаяла бы аглушаная... Потым і я сваім прыносіла расу, а сёлета ўвесну і кветкі сону. І ведаеш, Алёша, цяпер я адчуваю сябе больш упэўнена. І з бацькамі ў мяне даволі добрыя адносіны. А гэта — справа тонкая і складаная. Нядаўна яны раззлавалі мяне: на Восьмае сакавіка падаравалі чайны сервіз. Сабралі, відаць, па рубліку, прыцягнулі ў клас. Я не ўзяла, ледзь не згарэла ад сораму і ўцякла. Прынеслі дамоў. Маці абазвала мяне апошняй дурніцай, сама прыняла «падаянкі». Ну, навошта гэта? За сваю работу я атрымліваю зарплату, хай невялікую, але сумленна зароблёную, і непатрэбны мне ніякія «подношения». У нас дома праз гэта раскол. Бацька на маім баку, а маці,

Ларыса і нават Томка — супраць. І самае дзіўнае, малая Томка болей за ўсіх пярэчыла: «Як гэта можна адмовіцца ад падарунка! Ты ж не ўкрала! Нашай класнай таршэр падарылі. Яна не адмаўлялася...» Пераканаць Томку я не змагла: прыклад класнай быў перад вачыма. Усё гэта засмуціла свята. Праўда, дзеці ўзрадавалі — засыпалі паштоўкамі. Некаторыя былі без штэмпеляў: самі прыносілі і клалі ў нашу скрынку. Тры дні бацька, маці, Ларыса і Томка даставалі паштоўкі. Што і казаць, было прыемна, і мой аўтарытэт у вачах маіх сямейнікаў значна падрос.

Нешта падобнае перажылі і мае калегі. Яніна Іванаўна расказала пра такі выпадак. Бацька яе вучня працуе ў гандлёвай установе... І вось што ён сказаў: «Зрабіце ўсе магчымае і немагчымае, каб мой сын добра вучыўся. Калі вам трэба што-небудзь — модная кофта або чаравікі, растварымая кава або ікра — толькі скажыце. Усё будзе». Яніна адмовілася ад гэтакіх паслуг. Дык ён пачаў яе абвінавачваць: «Калі мой старэйшы сын вучыўся ў першым класе, настаўніца ставіла лепшыя адзнакі. А вы знарок прыдзіраецеся да майго хлопца, заніжаеце адзнакі...» Давёў яе да слёз. І такіх «дабрадзеяў» хапае. Прыходзіцца і мне з імі змагацца. Бывае, што бацькі ідуць на розныя хітрыкі, абы дзіця атрымала добрую адзнаку. Не так даўно пісалі мы кантрольную работу па матэматыцы. Некаторыя маці скардзіліся, што адзнакі заніжаныя. Адна сказала, другая. А Петрыкава мама, тая, што не дазваляла фатаграфавацца, гаворыць: «У нас таксама падобра і ўсяго тройка». Гляджу: папраўдзе — адна памылка нязначная. «Давайце перапраўлю. Мабыць, я памылілася».— «Не, не трэба. Навошта?» — сумелася жанчына. Прыйшла я дахаты і ўсё думаю: чаму занізіла Петрыку адзнаку? І раптам успомніла: ён не рашыў задачу, не паспеў, заблытаўся. Прыгледзелася — так, адказ на апошнім радку. Значыць, дома рашылі, дапісалі і патрабуюць пяцёрку. Што за людзі! Але, бачыш, усё-такі сорамна стала, не дала пераправіць.

Алёшачка, даруй за гэтую «вульгарную сацыялогію». Будзеш ты чытаць і пазяхаць. Але ж сам прасіў пісаць пра ўсё ў школе. Вось і выкладаю, як на споведзі. Яшчэ адзін кур'ёз. Неяк Ірынка, у якой кватэра — «музычны салон» — прыносіць мне запіску. Мама

піша: чаму вы паставілі тройку? Я пераканала Іру, што яна выканала практыкаванне добра і чацвёрка ёй гарантавана (гэтае слова падкрэслена), а вы занізілі адзнаку. Напішыце тлумачэнне. Мяне ахапіў жах, і захацелася напісаць заяву: прашу звольніць па ўласнаму жаданню... Так расхвалявалася і румзала, як бялуга. Але тата ўгаварыў, што трэба смяяцца, бо такая запіска — музейная рэдкасць і яе варта зберагчы. Калі прыедзеш, пакажу табе гэты унікальны твор. Цяпер ты разумееш, чаму мяне так узрадавалі словы Андрэйкі, такія шчырыя паштоўкі-віншаванні.

Ну, вырашыла: заўтра бяруся за кантрольныя работы. Сесія не за гарамі. Так, Алёша, я чытала «Дзяржаву і рэвалюцыю», але не ўсё як след зразумела. А ці чытаў ты пісьмы Флабэра? Ой, як здорава! Чытаюцца яны нібы цудоўны раман. Як піша ён пра каханне! Пра мастацтва, пра жыццё. Вось як пра пацалункі ў яго напісана: «Бывай». Тысячу гарачых пацалункаў. Твой, увесь твой...» Во як трэба пісаць! Няўжо людзі развучыліся кахаць?! Развучыліся гаварыць пра каханне!.. Хутчэй бы скончылася твая служба! Мне так не хапае цябе, Алёша... А ты не сустракаў болей тую, што запрасіла цябе на вальс? Я раўнівая, улічы.

Учора ўпершыню за гэту вясну пачула салоўку. Ды дзе?! У завулку, за нашым домам. Тут зносяць старыя хаты, і на рагу застаўся адзін драўляны дом з садам. Я вярталася са школы, свяціла сонейка, і ў гэтым садзе, дзе стаяць белыя, быццам аблітыя малаком, вішні, заспяваў салавей. Вакол грукаталі бульдозеры, трактары, на вуліцы раўлі самазвалы, а ў садзе чуўся пяшчотны пошчак салоўкі. Ён нібы адпяваў гэты куток альбо славіў неўміручасць прыроды. Малайчына, птаха!

Пішы, Алёша, чакаю.

17 мая. Г. Ж.

Мілая Галя!

Твае лісты для мяне — нібы глыток чыстай крынічнай вады, дарагія весткі з роднага краю. Каб ты ведала, як зайздросцяць мне хлопцы! А наш паштальён пазнае твае пісьмы па почырку — круглыя, на дзіва прыгожыя, акуратныя літары! На канверт, падпісаны

табой, прыемна паглядзець. Ды што паглядзець! Ім можна доўга любавацца. А каб ведаў паштальён, што за ліст у тым канверце! Твае пісьмы я перачытваю па некалькі разоў. Добра, што яны доўгія. Але з-за гэтага ў мяне бывае чырвоны нос. На флоце такі звычай: атрымліваеш пісьмо — б'юць канвертам... «прама па носе». Колькасць удараў залежыць ад таго, у які дзень прыйдзе пісьмо. Горш за ўсё, калі ў суботу або ў нядзелю — шэсць-сем удараў адлічаць хлопцы. Ты звычайна пішаш у нядзелю, прыходзіць ліст у сераду ці ў чацвер. Не так і многа — тры разы. Але твае пісьмы тоўстыя, так што нос чырванее адразу. Праўда, мяне гэта не палохае, бо ўсё робіцца жартам — парагочам, і жыць весялей. Скажаш, кепскі звычай. Не думаю. Флоцкая служба цяжкая, і тэрмін яе даўжэйшы. А даўней служба на караблі была надзвычай цяжкая і небяспечная: палуба — не маці-зямелька. Колькі розных шхун, фрэгатаў, крэйсераў і субмарын (падводных лодак) ляжаць на дне марскім! Колькі маракоў узяла ў свае халодныя абдымкі сіняя бездань!.. Карацей, на флоце без гумару немагчыма. Вось таму і прыдумана шмат звычаяў, традыцый, каб было з чаго пасмяяцца, парагатаць. Вось чаму маладых матросаў прымушаюць вастрыць якар, каб ён лепей уваходзіў у грунт, «прадзімаць» макароны, каб яны смачней былі, вось чаму квітнее на флоце «траўля», і чалавека, які ўмее «травіць» — весела, па-мастацку хлусіць,— маракі гатовы насіць на руках. Словам, пішы, мая мілая, доўгія пісьмы, не шкадуй майго носа, бо і я пасмяюся і хлопцы таксама.

Вельмі рады, Галя, што цябе так любяць дзеці. Але ты занадта многа сіл аддаеш рабоце. Не шчыруй так ужо, беражы сябе, бо ты ж і завочніца яшчэ, і мне пішаш лісты. Дзіўлюся, як ты паспяваеш. Мабыць, стамілася за гэты год? Пастарайся ўлетку добра адпачыць, не перажывай дужа на экзаменах. Паўтараю, шануй сябе, мілая мая настаўніца. Самае галоўнае — рытм жыцця, рэжым. Упэўнены, дзецям і іх бацькам ты часта гаворыш пра важнасць рэжыму, а сама, мусіць, чытаеш начамі.

Навошта гэта? Праграма вялікая, класікаў шмат. Адразу ўсіх не схопіш. Наперадзе ў нас усё жыццё — многа чаго перачытаем. Даруй за сентэнцыі. Неяк не-

чакана вырваліся. Мо і я пачынаю старэць, раз пацягнула на мараль?

У мяне таксама неўзабаве экзамены. А пасля іх гідраакустык Гардзіевіч паедзе на новае месца службы. Тут маю ўжо столькі сяброў і аніводнай сяброўкі. Дарэчы, можаш не хвалявацца, зямлячкі больш не бачыў. Дык вось, сяброў у мяне шмат. І кожнаму магу сказаць слова-другое на ягонай мове. Ведаю па-армянску сёе-тое: Хачатур Аганесян навучыў. Ён адгадаваў сабе вусікі. Аднойчы памкамузвода на вячэрняй паверцы сказаў: «Прыгожы ты хлопец, Аганесян. Але без вусоў быў ты сімпатычней».— «Так точна, таварыш галоўны старшына,— выцягнуўся ў струнку Аганесян.— Толькі без вусоў на Каўказе мужчына — не мужчына, а жэншчын». Мы ўсе засмяяліся. «Размовы ў страю спыніць! — скамандаваў памкамузвода.— Раўняйсь! Смірна! Напра-ва! На выхад не ў ногу шагам арш!» — бо калі «ў ногу» мы тупнем, то і падлога не вытрымае. Пасля паверкі ў нас заўсёды вячэрняя прагулка з песняй. Я ішоў поруч з Аганесянам. Яго цяпер не пазнаць — зрабіўся стройны, як сапраўдны горац: страявыя заняткі пайшлі яму на карысць. Другі мой сябар — узбек Ахад Абдуназараў, смуглявы, чарнавокі, з шыракаватым скуластым тварам, таксама стройны, але ніжэй на галаву за Хачатура. З Ахадам вітаюся па-ўзбекску: «Ассалям алейкум!» Песні спяваем розныя. І «Не плачь, девчонка», пра Марусю, «Дальневосточная... смелее в бой!» Запявае звычайна Санька Партноў, падхоплівае Ахад, таксама галасісты хлопец, бывае замест «смелее в бой» праспявае «скарэй адбой». Памкамузвода тут як тут: «Абдуназараў, не блытаць словы! А то будзе два нарады». Канечне, «без чаргі». Пасля праходкі — адбой, і спім як пшаніцу прадаўшы.

Утрох — армянін, узбек і беларус — мы часта ходзім у звальненні ў горад. Іншы раз да нас далучаецца эстонец Рэйн, высокі, бялявы, сінія-сінія вочы, спакойны, памяркоўны, дужы — майстар спорту па плаванню. Крыкнеш яму пасля пад'ёму: «Тэрэ омікут, Рэйн!» (Добрай раніцы) — адразу ўсміхаецца. Сябрую з літоўцам. Між іншым, яго ложак — побач з маім. А з другога боку ля майго — ложак Ахада. З Юргісам, так завуць літоўца, мы неяк хадзілі ў кіно на «Хаваншчы-

ну», усё роўна, як у оперны тэатр. Юргіс любіць музыку, сам граў у аркестры на флейце. У яго тонкі слых і роўныя шчыльныя зубы — апошняе вельмі важна для флейтыста, ну, а слых не лішне мець нават і не музыканту. Юргіс добра гаворыць па-руску, але акцэнт адчуваецца. «Пойдэм в кино. Это есть хорошая опера. Послуша́ем»,— так сказаў ён мне. «Герэй (добpa)»,— адказаў я, мабыць, таксама не без акцэнту. Па-літоўску дзякуй — «ачу». Кароценькае слова, усяго тры літары, а скажаш яго — колькі радасці! Прычым «ачу» — гэтакае важкае слова, што не патрабуе і нават не хоча ведаць ніякіх эпітэтаў, тыпу — вялікі дзякуй і г. д.

Усе хлопцы адукаваныя, амаль у кожнага за плячыма дзесяцігодка. Інакш нельга. Цяперашні флот, увогуле сучасная армія — гэта перш за ўсё найскладанейшая тэхніка. Радыё, ракеты, гіраскопы (прыборы для аўтаматычнага кіравання самалётамі, караблямі, тарпедамі), лакатары — усе гэтыя навінкі нарадзіліся ў арміі або створаны па яе заказах. І ты не можаш сабе ўявіць, з якімі складанымі прыборамі я тут, як кажуць, на адной назе, на «ты». Не, я не ведаю іх таямніц, як і з чаго яны зроблены, я — тэхнік па эксплуатацыі. Мая задача — убачыць айсберг, падводную гару, які-небудзь Эльбрус або Казбек, за дзесятак міль, расшыфраваць гук рухавіка сустрэчнага карабля, заўважыць... статак кітоў: сутыкацца з імі субмарыне не пажадана, бо можа быць аварыя і ўвогуле, розныя непрыемнасці, як для кіта, так і для лодкі. А галоўнае, акустык не мае права памыляцца. Калі я перадам недакладны пеленг і дыстанцыю да цэлі, камандзір карабля памыліцца таксама, і цэль не будзе знішчана. Вочы і вушы карабля — во што такое акустык, во, што такое вушы і вочы карабля!

Але хопіць пра гэта. І так ужо ліст доўгі, надакучыць табе чытаць. У цябе апошнія дні навучальнага года.

Як твае першакі? Праз тыдзень яны ўжо стануць другакласнікамі. Як ляціць час, праўда? Скора ўжо год, як я служу!

Пішы, мая родная, хоць кароткі ліст, бо я разумею, як мала ў цябе часу.

23 мая. Твой А.

Алёша, дарагі!

Адказваю амаль што адразу. Я так рада — скончыўся навучальны год. Быццам гара з плеч. Непакоіць адно — у мяне восем выдатнікаў, а ў маіх калег па пяць-шэсць, дык вось і думаю: можа, я менш патрабавальная? Ужо цяпер непакоюся, як мае дзеці будуць вучыцца ў чацвёртым класе?

Закончылі год вельмі ўрачыста. Першакласнікі, іх бацькі сабраліся ў актавай зале. Дырэктар уручыў пахвальныя лісты выдатнікам, сказаў прамову — простую, шчырую і, як заўсёды, смешную. Ён гаварыў пра тое, што летась увосень дзеці баяліся адарвацца ад мам і вось скончылі першы клас, перайшлі ў другі, што за лета трэба адпачыць, набрацца сіл, а то сёлета іншы раз цяжка было зразумець, хто ідзе ў школу — мама ці бабуля: бо партфелі неслі яны!

— Думаю, што ў другім класе вы будзеце самі несці партфелі. Аберуч перад сабой,— усміхаўся дырэктар, і ўсе дзеці таксама ўсміхаліся.— Вельмі добра, што сёння так многа бацькоў прыйшло ў школу. Я хацеў бы вас бачыць штогод. І каб у дзесятым вы былі ўсе. А то бывае, што бацькоў усё меншае з кожным класам. Няўжо яны адвыкаюць ад сваіх дзяцей? Давайце будзем жыць дружна і працаваць разам, бо задача ў нас адна — выхаванне...

Уручаючы ўзнагароды, дырэктар не стрываў, каб не пажартаваць. Хіба можа наш Іван Сцяпанавіч абысціся без жартаў: «Не адчуваю вашых пацяскаў, дзеці! Трэба дужэць!» Потым быў канцэрт. Першакласнікі спявалі, чыталі вершы — гучна, звонка. Мамы і таты выцягвалі шыі, а сёй-той і выціраў слязу...

У класе я раздавала лісты падзякі, затым дзённікі. Спачатку — выдатнікам: на іх дзённіках па тры чырвоныя зорачкі. У каго «пяцёркі» па двух прадметах — дзве зорачкі, адна выдатная адзнака — і зорачка адна. А потым кажу: у Петрыка Стрэльскага дзве пяцёркі, але падзякі яму няма, бо паводзіць сябе дрэнна.

Між іншым, Алёша, эксперымент з пяцёркамі, здаецца, апраўдаў сябе. У канцы года ўсіх выдатнікаў выклікала — адказвалі будзь здароў! І раней я ж не толькі ставіла ім адзнакі, а кожнаму гаварыла: ты можаш вучыцца добра, можаш, толькі не лянуйся, старайся. О, як гэта важна ўнушыць ім веру ў свае сілы!

І самой паверыць, што яны могуць адолець праграму. Мо таму ў мяне і восем выдатнікаў? А магло быць і дзевяць: Свеціка надта хацела выцягнуць, падабаецца яна мне, і ўсё тут, але па пісьму не магла паставіць «выдатна». Паспрабую ў другім класе дамагчыся свайго. А Юльцы паставіла тройку па матэматыцы. Тата яе касавурыцца на мяне, ходзіць як мыла з'еўшы. Але я не магла зрабіць інакш. Ох, каб меней было вучняў! Праўду кажа наш дырэктар: настаўнік мае час пасеяць і не мае часу праверыць, як расце. Дваіх «дэбілаў» усё-такі не перавяла. Завуч гатова мяне з'есці. Ну, як іх можна было пераводзіць у другі клас, калі ні пісаць, ні чытаць яны так і не навучыліся. Вазіла іх у спецыяльны дыспансер на камісію, там праверылі, агледзелі і выдалі даведкі: разумова адсталыя. Без гэтакіх даведак пакінуць на другі год настаўнік не мае права. О, давялося мне папаездзіць, пісаць розныя паперы, характарыстыкі. І рабіла гэта не таму, што я хацела пазбавіцца іх. Думаю сабе: за лета падрастуць, лепш падрыхтуюцца, некаторае ўяўленне пра школу маюць, сёе-тое ўжо ведаюць і памалу будуць вучыцца. А так што? Будуць сядзець у другім класе пень пнём і ніколі не дагоняць, не справяцца з праграмай. Аднаго двоечніка забяруць у спецшколу для слабаразвітых,— нездарма я не магла яму даць рады,— другі застанецца ў нас. Некаму «шчасце» прываліць, дасца ў знакі... Настроіла бацькоў, каб лепей наладзілі адпачынак малых, каб дзеці больш гулялі на волі, менш глядзелі тэлевізар, часцей слухалі радыё, чыталі кніжкі і каб абавязкова навучыліся плаваць. Я сама пачала любіць плаванне і ўжо разы тры ездзіла з Ларысай на возера.

Ой, які цяжкі быў гэты год! Затое цяпер так добра: не трэба правяраць сшыткі, пісаць планы, не трэба рана ўставаць! Але ж сесія... Засталося чатыры тыдні, яны праляцяць так хутка. Мо здарыцца цуд і ты прыедзеш?.. Хаця ў цябе свае экзамены, і, канечне, не адпусцяць. Мілы ты мой гідраакустык, вочы і вушы карабля, ці чуеш ты, як кліча цябе маё сэрца?!

Не сумуй, Алёша, усё будзе добра. Я разумею, што ў цябе нялёгкая служба, але ты вытрымаеш. Чытаючы твае лісты, я ўсё больш пераконваюся, што служба ў арміі і асабліва на флоце — гэта школа мужнасці,

школа жыцця. А колькі новых сяброў! Ты можаш там вывучыць усе мовы народаў нашай краіны. Зайздрошчу я тваёй здольнасці сыходзіцца з людзьмі. Толькі не злоўжывай гэтай сваёй здольнасцю ў адносінах да... «прекрасной половины человечества».

На днях бачыла Ярохіна. Ён ужо не працуе на таксі, уладкаваўся шафёрам міжгародняга аўтобуса, хваліўся, што зарабляе больш за дзвесце рублёў, не лічачы калыму. Уяўляеш, ён яшчэ і калыміць! «Навошта табе універсітэт? У школе болей зарабляць не будзеш»,— сказала я. «Дыплом патрэбен. А там, глядзіш, і кіруючая пасада будзе. Не век жа мне баранку круціць. Ну, і літаратуру люблю. Паперу крэмзаць спрабую...» Дзіўны ён хлопец. Ніяк яго не зразумею.

Вось і пачалося лета. Дні стаяць цёплыя, светлыя. Раніцой сёння дождж прайшоў, лісце на дрэвах такое пяшчотна-зялёнае, яшчэ тонкае, аж прасвечвае на сонцы. Помніш, каля нашага дома высозныя таполі? Яны стаяць нібы ахутаныя зялёнымі аблокамі. А як спяваюць уранні птушкі! Вераб'і, шпакі аж захліпаюцца ад радасці. А таго саду, дзе я чула салоўку, ужо няма — спляжылі. Значыць, адпяваў ён вішні, любіў, мабыць, той садок, пазнаёміўся, можа, там са сваёй салаўіхай... Мне заўсёды шкада як зносяць старыя хаты. Ну калі ўжо яна зусім развалюха,— іншая справа, а калі моцная, на каменным падмурку — магла б яшчэ доўга стаяць. У ёй жылі людзі, нехта нарадзіўся — і раптам роднага дома няма, быццам выдралі нечае карэнне. Я іншы раз думаю: людзі — гэта трава, а карэнне нашае ў зямлі, на якой жылі дзяды і прадзеды. Во, бачыш, Алёша, куды мяне пацягнула, калі не трэба правяраць сшыткі і пісаць планы. Усё, хопіць. Заўтра набяру кніг і паеду з Ларыскай на возера — так хочацца пагрэцца на сонейку... Ніколі не забуду, як мы з табой каталіся на лодцы і ты вучыў мяне веславаць. А помніш, які букет падарыў ты мне тады? Колькі ў ім было розных лугавых красак! Досыць, канчаю ўспаміны. Гэта ўсё роўна што сыпаць соль на старыя раны, яны баляць тады яшчэ мацней...

Пішы, Алёша, хутчэй, пішы пра ўсё, пра сяброў, пра што думаеш, што чытаеш. Мяне цікавіць усё, чым ты жывеш.

Твая Галя.

2 чэрвеня.

Прывітанне, настаўніца!

Я рады, Галя, што ўрэшце ты дачакалася канікул. За лета можна трохі адпачыць, не трэба палохацца сесіі. Здасі, ты ж у мяне разумніца.

Служба ідзе нармальна. Сумаваць няма калі. Дарэчы, здаецца, я не пісаў пра першамайскі канцэрт. Выступаў і я, чытаў вершы, спяваў у ансамблі. Бадай, самы большы поспех выпаў на долю Ахада Абдуназарава: ён добра спявае, асабліва яму падабаюцца сатырычныя прыпеўкі на мясцовыя тэмы. А складалі мы гэтыя «нескладухі» ўтрох: Санька Партноў, Ахад і я. Хлопцы рагаталі да слёз. Ахад пастараўся. Праспяваў прыпеўкі з бляскам. Мастак! Між іншым, на першамайскім парадзе мы стаялі з ім лінейнымі. Ці ведаеш ты, што гэта такое? Прыслухайся да каманд, калі перадаюць парад з Краснай плошчы, і ты пачуеш: «...дыстанцыя на аднаго лінейнага...», убачыш, як крочаць лінейныя, спыняюцца па адным, прыстаўляюць да нагі карабін з чырвоным сцяжком на штыку і нібы застываюць. Дык вось і я стаяў як укопаны, і толькі зрэдку касавурыўся на Ахада, і ў душы пасміхаўся з яго: такі ён быў важны і надзьмуты.

А дзень выдаўся цудоўны, не памятаю такога цёплага Першамая. Мы ў белых форменках — форма нумар два. Раз ты марачка, павінна ведаць усе флоцкія формы адзення: першая — рабочая: белая або сіняя роба; другая — бесказырка з белым чахлом, белая форменка і чорныя штаны, якія некалі былі вельмі шырокімі, хлопцы з мылам нацягвалі іх на фанеру, каб рабіліся яшчэ шырэйшыя, цяпер яны звычайных памераў; трэцяя — усё тое ж, толькі замест форменкі цёмная «суконка»; чацвёртая — бесказырка без чахла і бушлат; пятая — шапка, шынель; нарэшце, шостая — шапка з завязанымі вушамі і шынель. На падводнай лодцы мы будзем у пілотках, там ёсць яшчэ розныя спецформы. У нас на КПП — кантрольна-прапускным пункце — вісіць такі круг, які нагадвае цыферблат, і на ім стрэлка: яна паказвае, як трэба апранацца ў горад, каб патруль не затрымаў за парушэнне формы адзення. Дык вось перад парадам нас добра муштравалі. Давялося папабегаць. Але гэта на карысць. Я цяпер дужы стаў. Раней падцягваўся на турніку тры разы, а зараз дзесяць! Па канаце ўзбіраюся,

як малпа. Калі б я цяпер пацiснуў руку каму-небудзь са старых маіх сяброў, хоць бы самому Віталю, дык ён і сеў бы.

Я пісаў ужо, што ў мяне тут многа таварышаў. У аддзяленні добра ведаем адно аднаго, бо дні і ночы разам, і ў лазні спіны шаруем, так стараемся, пакуль скура не пачырванее, як у варанага рака. Мне аднойчы сцёрлі скуру амаль да крыві. Няёмка ж было прызнацца, што баліць, крычыш, давай, маўляў, шуруй! Ёсць шмат знаёмых і сярод кадравікоў — хлопцаў, што служаць у атрадзе. І ўчора я ў гэтым пераканаўся, зведаў... на ўласнай скуры. Увечары я сеў на камбузе за стол збоку, ля праходу. Уяві сабе наш камбуз: вялікая зала, у тры рады доўгія сталы — па дванаццаць чалавек садзімся, цэлае аддзяленне. Наш стол недалёка ад уваxода. Ідуць, значыць, матросы і другіх рот, з кадравай каманды і ўсе са мной вітаюцца: «Здароў, Лёха!», «Прывецік, Лёшка!», «Салют, Гардзіевіч!» — і кожны цісне руку, я — адпаведна, а лыжка мая гуляе. Ледзь паспеў з'есці кашу. Дарэчы, першыя дні я ніяк не паспяваў есці. Толькі суп пасёрбаю, вазьмуся за другое, а тут ужо каманда: «Устаць! Выходзі строіцца!» Кампот дапіваў на хаду. Цяпер налаўчыўся, паспяваю заўсёды, адно ўчора стаў «ахвярай уласнай папулярнасці». Смешна, праўда?

Не так даўно ў камітэце камсамола мне далі пісьмо адной дзяўчыны з Кубані. Ёсць там горад Цямрук. На канверце напісана «первому попавшемуся». Дзяўчына скончыла восем класаў, працуе на нейкай фабрыцы, хоча перапісвацца, сябраваць, вось і шле ліст. Ці не адгукнецца хто-небудзь. Ліст наіўны, з памылкамі, але шчыры. Хлопцы прапанавалі выправіць чырвоным алоўкам памылкі і адаслаць назад. Адмовіўся, шкада стала дзяўчо.

Ну, відаць, трэба канчаць. Пішу ў Ленінскім пакоі, грыміць тэлевізар — я гляджу рэдка. Сёння, праўда, цікавы фільм «Апошні дзюйм». Але колькі можна яго глядзець? Дарэчы, у гэтым фільме няма ніводнай жанчыны, і таму ён падабаецца асабліва. Нічога не маю супраць жанчын, гатовы цалаваць ім рукі, насіць на руках — хачу быць рыцарам. Нехта з вялікіх сказаў, што культура нацыі, чалавека вызначаецца адносінамі да жанчыны. Бадай, усё мастацтва нарадзілася дзя-

куючы Евіным дочкам. Каханне натхніла і першага мастака, і першага паэта, і першага кампазітара. Але ў апошні час жанчына ўсё меней займаецца тым, што наканавана ёй лёсам, прыродай: быць маці, гадаваць дзяцей. Усё меней жанчыны жывуць для сям'і, усё болей дамагаюцца самастойнасці і незалежнасці, усё меней паважаюць і цэняць рыцарства. Навошта ім рыцары, калі яны самі ходзяць у мужчынскіх штанах, носяць мужчынскія шапкі і мужчынскія гадзіннікі, а некаторыя кураць і п'юць нароўне з мужчынамі? Адна з прычын гэтага — тое, што жанчыны часта выконваюць мужчынскую работу, і жонка часта зарабляе больш за мужа, яна пачынае кіраваць у сям'і. Не думаю, што гэта вельмі добра. Адным словам, сучасная жанчына не лічыць сябе слабым полам, яны самі адцураліся сваёй сілы, бо яна ў іх слабасці. Думаю, што калі-небудзь яны зразумеюць сваю памылку. Мне здаецца, што жанчына ў штанах, чаравіках на платформе і з цыгарэтай у зубах — пабочны прадукт эмансіпацыі.

Даруй, што гэта ў мяне вырвалася, нечакана і блытана. Мажа, я памыляюся, відаць, такі сапраўды памыляюся. За сваё жыццё я ніколі не пакрыўдзіў ніводную дзяўчыну. Гэтыя думкі вырваліся ў мяне таму, што не так даўно адзін наш матрос атрымаў пісьмо: дзяўчына, якая клялася яго чакаць, ужо выйшла замуж. Бачыш, якая спрытная! І года нават не прайшло. Некалькі дзён мы абмяркоўвалі гэтую падзею, суцяшалі хлопца. Я магу зразумець дзяўчыну: мабыць, яна не кахала, проста было захапленне, яно знікла, як ранішні туман, сустрэла другога, падумала, што марачка чакаць тры гады, і не хапіла духу. Падумай і ты, Галя. Чакаць мяне яшчэ доўга — два гады, а то і болей. Мы не кляліся, цяжар абавязкаў цябе не прыгнятае. Жартам пачалі псаваць паперу, жартам можам і скончыць...

Неўзабаве здымаюся з якара і не ведаю, дзе будзе мая гавань. Калі не палянуешся, напішы на гэты адрас. Нават, калі ліст мяне не заспее тут, дык усё роўна знойдзе. На флоце пошта працуе выдатна.

Жадаю паспяхова здаць сесію.

14 чэрвеня. Зялёны акустык А. Гардзіевіч.

Алёша!

Адказваю са спазненнем, каб адпомсціць за знявагу недаверам — «жартам пачалі, жартам можам і скончыць»,— і не ведаю, ці знойдзе цябе гэты ліст. Навін асаблівых няма. Сесію сяк-так здала. Пра цябе многія ўспаміналі. Люся была сумная...

Учора з мамай хадзіла на канцэрт у філармонію. Мне там спадабаўся адзін з аркестрантаў — якраз па маім гусце — тонкі, бледны, на маю думку, высакародны твар, невялічкая цёмная бародка. Рукі тонкія, худыя, вочы сумныя. Я сказала маме, што закахалася, і пачала ўглядацца ў свайго выбранніка. Мама саркастычна заўважыла, што ён бледны, як нябожчык, але на мяне гэта не ўздзейнічала. І раптам — які жах! — мой прыгажун усміхнуўся, і аказалася, у яго ўсе зубы залатыя, і яны асляпляльна ззялі пры святле рампы. Божа, такое расчараванне! Я ўсю дарогу прыкідвалася разбітай горам паненкай. Мама ад смеху ісці не магла. Во якая я легкадумная. Дзе мне чакаць два гады...

Мілы ты мой дурань! Як мог ты напісаць такое глупства?! Адна дзяўчына выскачыла замуж, значыць, усе такія. Дзіўная логіка! Як ты можаш так кепска думаць пра мяне! Каб ужо так хацелася мне замуж, дык даўно б выйшла. Але пра гэта хопіць. У той жа вечар і я глядзела «Апошні дзюйм» і таксама не першы раз. Фільм падабаецца мне. Асабліва ўрэзаўся ў памяць адзін момант: хлопчык цягне бацьку на ручніку да самалёта па пяску. Помніш — строгі смуглявы твар на фоне мора і неба, і гэта песня — помніш, які моцны мужчынскі голас яе спявае?

Учора была ў школе: хадзіла да нашага прафсаюзнага бога. Абяцаюць пуцёўку ў дом адпачынку, куды не ведаю. Наш дырэктар ездзіў у Вену. Расказваў, што да яго прычапіўся нейкі хлюст і пачаў задаваць такія пытанні, што дырэктару хацелася даць яму «прама ў нос». Можна паверыць — наш дырэктар — былы партызан, мужык баявы, строгі.

Пішу пра гэта, бо не хочацца пісаць аб тваіх выказваннях пра жанчын. Не ведаю, што табе сказаць? На першы погляд, здаецца, ты маеш рацыю, а калі зірнуць глыбей, дык не. Тое, што некаторыя дзяўчаты кураць, носяць штаны, мужчынскія шапкі і гадзінні-

кі — усё гэта знешняе і нікольki не азначае, што яны сталі менш пяшчотнымі, што развучыліся кахаць, слухаць кампліменты, што яны страцілі жаноцкасць. Усё гэта — пена, часовая мода. Мабыць, цяпер у жаночым характары паменела ціхманасці, пакорлівасці... Нават і я не пабаялася першая табе напісаць... Але што б там ні гаварылі, а сям'я і цяпер, як і раней, трымаецца на жанчыне. Кепска, што ёй, жанчыне-маці, даводзіцца многа працаваць. Ну, вось калі ў мяне будуць дзеці — тры сама меней, як у той пагаворцы: адзін сын — не сын, два сыны — палова сына, тры сыны — сын,— як цяжка будзе ўсюды паспець. На добры выпадак, дык трэба гады тры прасядзець дома: значыць, перарвецца стаж, адстану ад сваіх калег ды і ці пракорміць муж? Не прасіць жа ў бацькоў дапамогі, хаця яны будуць падсабляць.

У жыцці ўсё намнога складаней, чым мы думаем. І ты разумееш гэта лепш за мяне. Я лічу, што твой усплёск выкліканы тым, што нейкая там дзяўчына выскачыла замуж, не дачакаўшыся свайго марака. Можа, гэта і лепей, чым развод, калі ёсць дзеці, бо раз не было ў іх кахання, не было б і добрай зладжанай сям'і...

Пішу і пазіраю на твой здымак, міжволі прыгадваю, як мы блукалі з табой па горадзе, і вось праляцеў ужо цэлы год, такі доўгі, бясконца доўгі для мяне... Здаецца, чую твой смех, звонкі, жыццярадасны. І ўсмешка твая, трохі іранічная, трохі самазадаволеная, але шчырая, добразычлівая і вясёлая. А ў мяне, Алёша, настрой кепскі: я пасварылася з Люсяй. Хацела напісаць пра гэта ў пачатку ліста, але стрымалася і ўсё ж не магу нічога затаіць... Неяк я прагаварылася, што ты служыш на флоце, вучышся на гідраакустыка. Люся пачала дапытвацца, адкуль я ведаю. Я сказала, што дачулася ад Віталя Ярохіна. Яна да яго, а той у адказ: я нічога не ведаю. І мне давялося прызнацца, што ты даслаў мне некалькі лістоў, проста па-сяброўску. Люся папрасіла твайго адраса. Я сказала, што маю толькі стары адрас, бо ты пераехаў на новае месца службы. Яна гэтаму не паверыла, пакрыўдзілася, але адрас узяла і сказала, што абавязкова цябе знойдзе. Бачыш, якая яна... Але як бы там ні было, ты ўсё ж напішы мне, Алёша, хоць некалькі слоў, доб-

ра? Што б ні здарылася на гэтым свеце, ведай, што я чакаю тваіх пісьмаў.

Будзь рыцарам, мілы!

Хай шанцуе табе ў плаванні!

8 жніўня. Галіна Жданко.

P. S. Алёшка, ці няма ў цябе новенькай фотакарткі, а?

## Частка другая

Добры дзень, Галя!

Ну вось, нарэшце я на новым месцы. Апынуўся далёка ад Балтыкі — на Паўночным флоце. Уражанняў столькі, што не ведаю, з чаго пачаць. Твой ліст яшчэ не атрымаў. А мо ты яго не пісала?

Плаваць буду, як і гаварылі нам у вучэбным атрадзе, на падводнай лодцы. Калі ўбачыў яе, паблукаў па адсеках, палазіў па ўсіх паверхах — маракі называюць іх палубамі,— дык майму здзіўленню не было канца: такая яна вялікая, столькі многа тут баявой тэхнікі, механізмаў, апаратуры. А калі прывялі на пульт кіравання, я застыў як укопаны і міжволі падумаў: няўжо чалавек здольны разабрацца ў гэтай процьме рознакаляровых вочак сігналізацыі, у безлічы кнопак і тумблераў! Уявіць сабе гэта немагчыма — трэба бачыць на свае вочы.

Мяне зноў вучаць, каб дапусціць да самастойнай вахты. Вучаць слухаць і бачыць, чытаць... істужку, чарціць і лічыць. Амаль таму ж вучыш ты (чытаць і лічыць) сваіх падшыванцаў... Лодка наша не самая вялікая і не самая новая. Яна ўжо некалькі гадоў плавае па морах і акіянах. На яе сталёвай абшыўцы шмат умяцін і драпін — іх пакідаюць невядомыя жыхары глыбінь, з якімі сутыкаецца субмарына, бо імчыць з хуткасцю кур'ерскага поезда. Кіту яна звычайна стараецца саступіць дарогу, калі наш брат акустык не праспіць, а акулы і розная малеча хай ратуюцца самі.

Пішы, як твае справы, якія навіны ў Мінску. Калі не запознішся з адказам, дык, можа, і паспею атрымаць, бо, відаць, скора пойдзем у плаванне.

Жадаю поспехаў у новым навучальным годзе!

19 жніўня. А. Г.

Дарагі Алёша! Каб ты ведаў, як узрадавала тваё
пісьмо! Хай яно кароткае, сухаватае, але малайчы-
на — не дачакаўся адказу і напісаў. Я паслала ліст на
стары адрас, і, можа, ты ўжо атрымаў яго, бо пошта
на флоце, калі верыць табе, працуе выдатна. Мілы
мой, у цябе такая цяжкая служба! А на Поўначы, ма-
быць, яшчэ цяжэй?! Не сумуй, будзь мужным! Хай ве-
села гучыць твой смех і ў адсеках субмарыны! Так, як
гучаў у калідорах універсітэта... Два гады праляцяць
хутка. Мы і не агледзімся. Не бядуй, трымайся!

Сёлета я ўпершыню бачыла мора — была ў доме
адпачынку. Ёсць на беразе твайго Балтыйскага мора
(я лічыла яго тваім, калі плавала там, бо не ведала,
што ты ўжо гэтак далёка ад Балтыкі), дык вось ля
Калінінграда ёсць маленькі ўтульны гарадок — Зеле-
наградск. Як добра там было! Я, пэўна, так і не змагу
забыць гэты час. Такія дамы там цікавыя, з усялякімі
вежачкамі, выступамі, з вокнамі самай неверагоднай
формы. А колькі каштанаў! А мора... Во ўжо наплава-
лася. Цэлых дванаццаць дзён... А як гудзе прыбой!
Задуменна гамоняць сосны... Чаму гул прыбою і по-
шум дрэў заўсёды супакойваюць?! Некаторыя дзяўча-
ты там сумавалі, бо хлопцаў было мала, а я так рада-
валася, што вырвалася да мора, на поўныя грудзі ўды-
хала яго магутны салёны водар, з асалодай слухала
музыку прыбою і адсыпалася. Мама сказала, што я
добра выглядаю, паздаравела. Я сапраўды адчуваю
сябе добра. Шкада, што ты мяне не бачыш...

Нарэшце дасылаю свой здымак. Даруй, што доўга
табе давялося чакаць. Я фатаграфавалася зімой, каб па-
слаць картку, але атрымалася так кепска, што я не
адважылася. А гэты здымак, здаецца, нічога — я і
мора.

Учора мы ўсёй сям'ёй ездзілі па грыбы. Бацька
знайшоў больш за ўсіх баравікоў — сорак два. Я за-
няла другое месца — трыццаць пяць, а потым — мама,
Ларыса і Томка. Акрамя грыбоў я назбірала розных
кветак. Пасылаю табе блакітныя званочкі — не ведаю,
як называюцца, але выраслі яны за Радашковічамі, на
зямлі, дзе нарадзіўся Янка Купала. Дарэчы, недалёка
ад гэтых мясцін радзіма і маіх бацькоў. Пра іх, здаец-
ца, табе не расказвала? Яны жылі за Польшчай, у За-
ходняй Беларусі, недалёка ад граніцы. Дзед мой меў

хутар, сам быў вялікі працаўнік, і дзеці ўсе рабілі на зямлі, так што гаспадарка была сярэдняя. А маці жыла ў беднай сям'і, і выйсці замуж ёй было не проста. Але сын хутараніна (мой бацька) моцна пакахаў бедную дзяўчыну (маю маці). Пераканаўшыся, што дазволу на шлюб не будзе, закаханыя кінулі родную вёску, перайшлі граніцу — «да Саветаў». Там спачатку аднесліся недаверліва да закаханых перабежчыкаў, але потым завезлі іх у Барысаў, уладкавалі на работу, пасялілі ў інтэрнат. Праз нейкі час бацьку ўзялі ў войска. Не паспеў ён адслужыць, як пачалася фінская вайна, а потым Вялікая Айчынная. Бацька дайшоў да Берліна са сваім артылерыйскім палком асобага прызначэння, а маці партызаніла — мае медаль, якім вельмі ганарыцца. Карацей, толькі праз сем гадоў закаханыя перабежчыкі адсвяткавалі вяселле. Вось якая іх адысея.

Ужо два тыдні працую. Штодзень хаджу ў школу, пішу каляндарныя планы, рыхтуюся да навучальнага года. Бывае, зайду ў пусты клас, стану ля стала і ў думках перасаджваю дзяцей. Летась жа я не ведала іх, кожны быў — тэрра інкогніта. Цяпер ужо ведаю, хто на што здатны, хто чым дыхае і каго з кім пасадзіць. Сёлета адчуваю сябе больш упэўнена, не так палохаюся, як летась. Днямі была на канферэнцыі настаўнікаў. Гаварылі пра новыя метады навучання, кабінетную сістэму, пра тэхнічныя сродкі і г. д. Адна настаўніца закончыла сваю прамову так: «Не трэба трыццаць тэлевізараў, дайце добрую крэйду, каб можна было напісаць на дошцы і каб вучні бачылі». Зала адразу ажывілася, усе заляскалі ў далоні. Добра сказала! Бо крычым пра тэхнічныя сродкі, а падчас не маем крэйды і паказкі. Дырэктар наш пасля канферэнцыі загадаў: каб ніякіх «ценяў» пад вачыма не было,— значыць, каб не фарбаваліся, каб з густам апраналіся... І не сорамна яму пра такое гаварыць?! Я аж пачырванела. А некаторыя пасміхаліся хоць бы хны. І нават Вераніка Пятроўна, якая аматар да рознай там касметыкі. На мяне яна сэрца мае, так ужо злуе: мой двоечнік трапіў да яе ў клас. «Вазьміце яго назад. Чаму я павінна з ім валаводзіцца? Кожны настаўнік павінен вучыць усіх. Разумных і дурняў...» Словам, дала мне прачуханкі, сапсавала настрой. А тут і так

мала радасці: нечага вельмі важнага не стае мне ў жыцці. І галоўнае, ніяк не даўмеюся, менавіта чаго, ад гэтага яшчэ горай. Але я стараюся меней думаць пра гэта. Ці атрымаў ты, Алёша, ліст ад Люсі? Яна гразілася напісаць.

Бывай здароў!

Галя.

27 жніўня.

Мілая Галінка!

Дзякуй за ліст, за доўгачаканую картку. Ты такая прыгожая! І так міла ўсміхаешся!.. А валасы твае сталі яшчэ даўжэй і, мабыць, яшчэ больш выгаралі на сонцы. Мілае маё дзяўчо, з валасамі колеру льну! Шкада, чорна-белы здымак не перадае колер тваіх вачэй, якія, мусіць, сталі яшчэ больш сінія... Ты — сапраўдная Ундзіна, якая нават Гётэ не магла прысніцца. Ты — мая Ундзіна!.. Прабач, але ліст будзе кароткі: няма часу. Не ведаю калі, але, відаць, неўзабаве мы здымаемся з якара.

Яшчэ раз дзякуй за здымак і званочкі, якія так прыемна пахнуць! Я вазьму іх у плаванне і тваю картку, і наша субмарына абавязкова вернецца ў сваю гавань, дзе мяне будзе чакаць твой ліст.

Цалую!

Аляксей.

5 верасня.

P. S. Паклон тваім слаўным бацькам! Пісьма ад Люсі не было, мусіць, і не будзе. Ці бачыла каго з нашых? Якія ў Мінску навіны?

Алёша, родны мой!

Нарэшце атрымала ад цябе ліст. Нічога, што кароценькі. Галоўнае, ведаць — жывы, здаровы, помніш мяне, і больш мне нічога не трэба.

Вось і пачаліся заняткі. Мы ўжо ў другім класе. За лета дзеці ўсё пазабывалі: сталі горш чытаць, пісаць, на ўроках няўважлівыя, ловяць варон — развучыліся сядзець за партай. Вельмі доўгім здаўся першы тыдзень. Увесь час на нагах, а ледзь прысядзеш на хвілінку, так і заварушыліся мае другакі, і пайшло «шушу»... Учора запаўняла апошнія старонкі класнага журнала: звесткі пра бацькоў і вучняў. У мяне ёсць новенькі — Артур. Паклікала да стала, пытаюся, як яго па бацьку. «Не ведаю»,— адказвае ён. «Як бацьку

завуць?» — «А ў мяне няма таты...» — апусціў вочы. Яшчэ адзін бязбацькавіч! Так шкада стала хлопчыка. Ён хударлявы, востранькі тварык, закінутае, недагледжанае дзіця. Можа быць вельмі злы, як ваўчанё, рабіць назло, прыкідвацца дурасвівым, але, бачу, па натуры ён добры. Так не хапае яму ласкі, пяшчоты. Варта было мне заступіцца за Артура, калі на перапынку хлопцы хацелі яго пакрыўдзіць, як ён быццам прыліп да мяне. У класе паводзіць сябе кепска, такі неслух, а калі застаецца са мною сам-насам, робіцца ціхім-ціхім і ўсё гаворыць, гаворыць. Неяк прызнаўся, што маці часта яго б'е і ён хаваецца ў ванным пакоі, калі паспее зачыніцца. Цяпер Артур не выходзіць з класа, калі я там, праводзіць мяне да веснічак, некалькі разоў перапытвае хатняе заданне. Значыць, хоча выказаць добра, каб парадаваць мяне. Між іншым, я пераканалася, што мае дзеці — кожны паасобку — ціхія, слухмяныя, нібы ягняты. А ўсе разам — сапраўдныя д'ябалняты. Першы тыдзень ніяк не магла ўзяць клас у рукі. Зараз трохі лепей — на ўроках пацішэла, пачалі слухацца.

Ты пытаешся, Алёша, пра мінскія навіны? Горад расце. Як хутка будуюцца дамы! Помніш, нашу вуліцу перасякае чыгунка і якраз ля пераезду стаялі старыя драўляныя дамы. Іду неяк у нядзелю — замест хацін гурбы смецця. А праз тыдзень — бачу агароджу і з-за яе відзён першы паверх. Будзе высозны дом. Як у казцы, так хутка будуецца горад. Хаты былі старыя, і я іх не шкадую.

Днямі ў нас дома адбыўся дыспут. Мая малодшая сястрычка Тома (адзінаццаць гадоў) атрымала пасланне ад свайго аднакласніка. Кароценькае. Вось яно: «Томка, я цябе так кахаю, што на перапынку ўвесь час хаджу за табою. А на ўроках увесь час гляджу на цябе. А ты гаворыш, быццам у мяне пісклявы голас». А подпіс які: «Твой незнаёмы апякун» (!). Мама пачала лаяць Томку, маўляў, рана шуры-муры заводзіш. Я засмяялася, і мама ўзбурылася на мяне, што я патураю Тамарцы. Ларыска ўзяла мой бок, бо мы з ёй прыгадалі нешта падобнае ў свае адзінаццаць год. Тата заявіў, што яго пісьмо «умиляет»,— гэта, каб падражніць маму. Урэшце мама таксама развесялілася.

Наша Ларыса паступіла ва універсітэт на біяфак.

уступныя экзамены, здала добра, але «продкі» прымусілі мяне ісці да Ганны Міхайлаўны, Андрэйкавай маці — яна выкладае на біялагічным,— каб, маўляў, падтрымала Ларысу. Я званіла Ганне Міхайлаўне колькі разоў, але тэлефон не адказваў. Маці кажа: тэлефон выкладчыкі інстытутаў на час прыёмных экзаменаў выключаюць, ідзі да яе дамоў. Ларыса, вядома, пра гэта нічога не ведала, і я пайшла. Іду сабе і думаю: што я скажу? Якімі вачыма буду глядзець на Ганну Міхайлаўну, старшыню бацькоўскага камітэта?.. Дайшла да самага дома, а потым як ірвану назад, каб ніхто мяне не бачыў там. І Ларыса паступіла, без пратэкцыі, без блату. А яе кавалер, Ігар, стаў студэнтам архітэктурнага. Маці неяк гаворыць мне: што б ёй купіць гэтай тваёй жанчыне, чым аддзячыць? Я пачала адгаворваць, а маці сваё: трэба абавязкова нешта ёй падарыць! Што мне заставалася рабіць? І я расказала, як было. Усе рагаталі, асабліва Ларыска і... мама. Яна нават сказала, што яе сярэдняя дачка разумнейшая за старэйшую, гэта значыць, за мяне. Вось так, Алёша. Вось тут і жыві! І пярэчыць няма чаго: бо я ж некалі не паступіла на стацыянар, не прайшла па конкурсу. Дзякуй богу! Інакш бы я ніколі не сустрэлася з табой. Словам, што ні робіцца на свеце, усё да лепшага. Шкада толькі, што лета хутка праляцела, ты не прыехаў на сесію і цяпер яшчэ далей ад мяне. Сумна... На двары ўжо восень. Тры дні ішоў халодны бясконцы дождж. Сёння, праўда, цёпла, але ўжо не тое, што ўлетку. Ведаеш, на сесіі думала, што вось скончацца экзамены, буду штодзень ездзіць у лес або ў поле. Я так любіла некалі ездзіць за горад... А цяпер не тое. Раней была бесклапотнасць, а цяпер усё аб нечым думаеш, перажываеш... Эх, кепска, што назаўсёды знікае дзяцінства!..

Я рада, Алёша, што табе спадабалася мая картка і званочкі. Хай яны нагадаюць табе родную Беларусь, сінявокую сціплую нашу Радзіму.

Алёша, мілы, пішы. Я пачынаю ўжо чакаць.

17 верасня. Галя.

Даруй, мая мілая, але на твой доўгі ліст зноў адказваю кароценькай пісулькай. Страшэнна заняты. Разы два выходзілі ў мора, але недалёка. Рыхтуемся

да вялікага паходу. Калі ён будзе, ніхто не ведае, магчыма, што неўзабаве. За час плавання напішу табе даўжэзны ліст дробным почыркам.

Віншую з Днём настаўніка! Жадаю поспехаў у працы і добрага здароўя. А ты пажадай мне, каб колькасць ныркоў субмарыны адпавядала колькасці ўсплыццяў,— тады атрымаеш ад мяне ліст.

26 верасня. Старшына 2-й стацці
А. Гардзіевіч.

Алёша, родны мой!

Дзякуй за віншаванне са святам. Настаўнікі нашага раёна адзначалі свята ў Оперным тэатры. Сабралася не так і шмат: вялізная зала была запоўнена ледзь напалову. Відаць, не паспелі людзі, бо прызначылі сход на шэсць трыццаць (зарана), а пачалі на сорак хвілін пазней. Вечная наша неарганізаванасць. А мо надакучылі сходы? Нават «Кармэн» не прывабіла маіх калег. Знешне ўсё было па-сучаснаму: на сцэне тры нізкія столікі, на іх кветкі. Збоку — раяль. Спачатку гаварыла загадчыца райана — шпарыла цытатамі, сыпала як гарохам. Рабочы-будаўнік, пажылы ўжо, лысы, выступіў коратка, і ў канцы раптам: «Вялікі вам дзякуй, дарагія настаўнікі, нізкі вам паклон!» — і нізка пакланіўся. Адразу зрабілася ціха-ціха, а потым грымнулі воплескі. Затым гаварыла студэнтка ў акулярах і гэтак бойка, як па пісанаму, мабыць, назубок завучыла сваю прамову, наіўную, школьніцкую. Я сабе падумала: парабіла б ты, мілачка, у школе ды кантрольныя напісала, тады б ведала, што да чаго, і не біла б язык аб зубы. Раённы ваенком выступаў гучна, з пафасам, але на гэтакім узроўні, быццам у зале — дапрызыўнікі. Затым малады кампазітар выканаў сваю песню — мелодыя цікавая, а словы кепскія. Заўсёды дзіўлюся, чаму некаторыя кампазітары пішуць музыку на бяздарныя тэксты, калі ёсць столькі добрых вершаў. Мабыць, не ведаюць, не чытаюць. Я сядзела і думала: як было б хораша, каб поруч быў ты! Мы б разам слухалі і ўсміхаліся... Лепей за ўсіх выступіла настаўніца. Я так хвалявалася за яе. Прыгожая, стройная, у цёмным строгім касцюме (я ніколі раней не бачыла яе і не была ў той школе, дзе яна працуе) настаўніца выглядала вельмі прываб-

на, гаварыла без паперкі, шчыра і хараша. Між іншым сказала, што трэба, каб паболей мужчын, мудрых, добрых, прыйшло працаваць у школу, тады б у нас поспехаў паболела, а дзіцячых нягод паменела б. Праўду кажа. Я абсалютна з ёй згодна. А яшчэ я падумала, слухаючы яе: якая гэта сіла — слова чалавечае! І якая рэдкасць у наш час — талент прамоўцы, нягледзячы на процьму сходаў, пасяджэнняў, канферэнцый, сімпозіумаў (якое мудрае слова)! Можа, таму, што гэтак шмат гаворым, мы страцілі смак да жывога слова з трыбуны. Карацей, я вельмі радавалася, што прамова настаўніцы ўсім спадабалася. Оперу я слухала не першы раз, ледзь выседзела да канца: спявалі халтурна, абы хутчэй прагнаць, толькі адна новенькая спявачка, што выконвала партыю Мікаэлы, шчыравала, асабліва ў трэцяй дзеі.

Напісала пра гэта і задумалася: калі ўжо мы з табой пойдзем на оперу? Першай, якую мы паслухаем, будзе «Травіята», добра? Яна ніколі мне не надакучыць, ніводная так не падабаецца. Мы з табой усе іх перaслухаем, так?.. У тэатры я была разам з Яняй і Веранікай Пятроўнай, якая памякчэла да мяне, перастала вочы калоць «дэбілам», бо хлапчук падае надзеі — за лета маці падцягнула яго, пасталеў трохі, а ў другім класе ён бы плёўся ў хвасце, нервы б тузаў і мне, і маці, ды і сабе таксама. Сядзелі ў ложы бенуара — партэр перад намі як на далоні. Яня заўсёды апранаецца сціпла, затое ў яе каса — тоўстая, пушыстая, каштанавага колеру. Зайздрошчу Яні, бо якія б прычоскі ні былі ў модзе, каса заўсёды да твару. Вераніка Пятроўна фарбуе валасы — яны ў яе зусім белыя. Дык вось яна, модная, прыгожая, доўга азіралася, а тады і кажа: «Вакол адны жанчыны. Сям-там лысіны блішчаць. Дык гэта не настаўнікі. Раўнівыя мужыкі прыйшлі з жонкамі...» І сапраўды, мужчына-педагог — рэдкая з'ява. У нашай школе каля сямідзесяці настаўнікаў, а мужчын усяго дзевяць. Ды і тыя старыя. Дамоў мы ішлі пехатой і ўсю дарогу абмяркоўвалі гэтую «праблему». Вераніка Пятроўна даводзіла, што жанчына не можа з поўнай аддачай працаваць. «Заўжды ў галаве: як там свае дзеці? Што згатаваць на абед? Калі памыць бялізну? Сотня клопатаў. А захварэе Алежка — сяджу дома...» — «Добра, што ў нас

хоць дырэктар мужчына. А то было б, як у нашых суседзяў. Дырэктрыса амаль штодзень у новай сукенцы. І ўсе адна перад адной за модай гоняцца. Са скуры вылузваюцца, каб не адстаць. А плётак колькі!» — падтрымала яе Яніна. «Гнаць нас трэба са школы. А то новае пакаленне вырасце бабскім,— з сябе самой строіла кепікі Вераніка Пятроўна.— Ну, хіба не так? У яслях і ў садзіках — адны жанчыны. У школе — таксама. А дома хто [redacted] дзіцем займаецца? Маці. Бацька або на рабоце, або п'яны. Дзе ж мужчынскі ўплыў? Таму дзеці такія неслухі...» Мы, канечне, з ёй не пагадзіліся. А ты як думаеш? Адслужыш, Алёша, адразу ідзі ў школу. Так не стае нам «мудрых і добрых...».

Учора пісалі першае сачыненне. Ставіла дзве адзнакі — за змест і пісьменнасць. Свецік атрымала пяцёрку і кол. Глядзі, што яна напісала: «Быў цёплы дзень. Я з мамай паехала ў грыбы. Лес быў увесь залаты і маўклівы. Мы знайшлі многа чырвонагаловых падасінавікаў, зялёных і ружовых сыраежак. Я знайшла вусеня, прынесла яго дамоў, палажыла ў слоік. Вусень праляжаў адзін дзень. На другі дзень пакрыўся павуціннем. А яшчэ праз дзень ператварыўся ў кукалку. Буду назіраць за ім да самай вясны». Цудоўна, праўда? Усё лагічна, а якая назіральнасць! І — безліч памылак. Але такой бяды. Затое Свецік будзе вучоным — вялікім натуралістам. І пісаць навучыцца без памылак. Алёша, здаецца, у мінулым лісце не расказвала пра выстаўку летніх падарункаў школе, якую зрабілі мае купалаўцы. Гэтая ідэя нечакана прыйшла мне ў галаву. Андрэйка Рабцэвіч прынёс гербарый, які сабраў за лета, іншыя дзеці таксама пачалі хваліцца: Юрасік знайшоў прыгожы каменьчык, Свецік — вялізнага невядомага жука, Юлька прывезла з поўдня засушанага краба, Петрык Стрэльскі прынёс самаробныя грыбы. Тады мы ўсе разам афармілі цэлую выстаўку. Атрымалася цікава. Прыходзілі вучні з іншых класаў. Андрэйка быў экскурсаводам — расказваў хораша, па-дзіцячы шчыра, непасрэдна і талкова. Добрыя бацькі ў яго, вельмі любяць прыроду. І сын шануе ўсё жывое. Нездарма гавораць: дзеці — павелічальнае люстэрка бацькоў. Яны адлюстроўваюць усё, толькі больш рэзка, яскрава. Аднойчы Ганна Міхайлаўна, маці Андрэйкі, слухала яго «лекцыю», стаяла ля акна, усмі-

халася, а на вачах блішчалі слёзы,— мабыць, ад радасці і замілавання. Якое шчасце мець такога сына!

Мілы Алёша, мусіць, табе гэта не цікава? Скажы, я надакучыла сваёй пісанінай? Але пра што ж іншае я магу пісаць? Школа — маё жыццё, тут усе мае радасці і нягоды. І калі хочаш атрымаць доўгі ліст, дык цярпі. А на субмарыне таксама б'юць па носе пісьмом? Я буду адпраўляць лісты ў чацвер ці ў пятніцу, а ты атрымаеш у панядзелак або ў аўторак — усяго адзін-два ўдары.

Успомніла яшчэ адну дэталь пра бацькоў вучняў (які сумбурны ліст). Неяк вучаніца Анжэла не была два дні на занятках. Пытаюся: «Чаму ты, Анжэла, не хадзіла ў школу?» — «На вяселлі была...» — «Як на вяселлі? На чыім? — «На маміным...» — «На маміным?» — перапытала я і сумелася. Можаш уявіць стан дзіцяці, якое гуляе на маміным вяселлі...

Работы ў мяне, Алёша, па вушы: урокі, сшыткі, планы, кантрольныя... А трэба ж чытаць спецыяльныя часопісы, трэба вучыцца. Настаўнік павінен ведаць і ўмець шмат чаго. Як хораша сказаў Ушынскі: «Настаўнік жыве да таго часу, пакуль ён вучыцца: як толькі ён перастае вучыцца, у ім памірае настаўнік».

У нас ужо восень у поўным разгары. Цудоўнае надвор'е было ў апошні час. А сёння — моцны вецер зрывае разам з жоўтым і зялёнае лісце. Неба нізкае, хмурнае, нібы зацягнутае таўсценнаю шэраю коўдраю. А на моры, мабыць, шторм? Бо калі ў нас такая бура, дык што гаварыць пра акіян! Хаця тваёй субмарыне — хіба я не марачка? Усе назвы ведаю — ніякія хвалі не страшны. «Не бядуй, што сонца нізка...» Трымайся, мілы! Хай заўжды колькасць ныркоў тваёй субмарыны будзе роўнай колькасці ўсплыццяў.

Яшчэ год назад мне так шкада было лета. А цяпер прымірылася, і восень пачынае падабацца. Хай толькі хутчэй ляціць час. Зіма-лета, зіма-лета і — ты прыедзеш. На душы сумна, але сум лёгкі, светлы і спакойны. Мне здаецца, тое самае адчувае чалавек, які звыкся з думкаю, што ён ужо не малады — мне ўжо дваццаць гадоў! І хутка на твары з'явяцца баразны клапот — вестуны старасці... Ведаеш, Алёша, мабыць, менавіта пра гэта напісаў Чайкоўскі ў п'есе «Кастрычнік» з альбома «Поры года». Што за цуд! Я цяпер яе

развучваю на піяніна. Помніш, як мы ў парку на летняй эстрадзе слухалі музыку? Я зараз падумала: як цікава, мы з табой усё болей і болей пазнаём адно аднаго і становімся ўсё большымі сябрамі. Мяне гэта вельмі радуе.

Пішы, калі ласка, хутчэй. Пішы, як маюцца твае бацькі.

Прывітанне ад усіх нашых. І тата, і мама, і сёстры — усе ведаюць пра цябе.

Цалую!

16 кастрычніка. Твая Галя.

P. S. Алёша, міленькі — фотакартку!!!

Добры дзень, Алёша!

Што ж ты не пішаш? Два месяцы прайшло,— ад цябе ні радка. Можа, наступіла раптоўнае пахаладанне? Ці сустрэў прыгажэйшую? Ці зразумеў, што ўсё было памылкай? А мо проста пісаць няма калі ці ў плаванні далёкім! А мо не хочаш болей перапісвацца? Бачыш, што толькі не палезе ў галаву, калі доўга няма ліста. Зараз жа апраўдвайся!

Пішу табе ўвечары. Сшыткі праверыла, планы напісала. Ой, Алёша, ты не ўяўляеш, колькі ў мяне клопату! Працую як чорны вол. Ужо канчаецца другая чвэрць. Сяму-таму дзеці навучыліся. Але ў некаторых вучоба ідзе тугавата, як па смале. Асабліва складаная матэматыка — толькі трэць вучняў спраўляецца. Астатніх выцягваю. Я разумею, калі той жа Артур не рашыў задачу, я не магу яго лаяць, бо ведаю, хлопец ён не дурны, не разбэшчаны, з яго вырасце добры чалавек. А з гэтай задачай не кожны дарослы разбярэцца. Ну і што? Ці так ужо гэта важна? Нам патрэбны матэматыкі, факт. Іх трэба рыхтаваць у спецыяльных школах, а прымушаць пакутаваць усіх дзяцей, іх бацькоў і настаўнікаў навошта? Хіба ж галоўнае ў тым, каб як мага болей даць ім ведаў? Здаецца, Дэмакрыт яшчэ пісаў, што некаторыя шматзнайкі не маюць розуму. Важней выхаваць чалавека, абудзіць у ім усё добрае. А як гэта цяжка! На днях было такое здарэнне. Загадала ўсім прынесці альбомы па маляванню на праверку, каб выставіць адзнакі за чвэрць. Пачала правяраць, і раптам Петрык цягне руку: «Галіна Максімаўна, мой альбом знік. Во тут ляжаў, на парце, і ня-

ма».— «Дзе ж ён дзеўся? Мо зваліўся на падлогу?» — «Я шукаў. Нідзе няма».— «Можа, ты дома забыў яго?» — «Не. Прынёс. Во тут ляжаў... І няма...» — «Дык што ж ён, скрозь зямлю праваліўся? Дзеці, ніхто не браў Петрыкавага альбома?» — «Не, не бралі»,— адказваюць вучні. «Мусіць, ты, Петрык, не паспеў намаляваць, таму і альбом не прынёс. Кепска ты зрабіў. Яшчэ і няпраўду кажаш. Сорам»,— правяраю малюнкі і ўшчуваю хлопца, а ён сядзіць, чырвоны, разгублены, і раптам як закрычыць: «Мой! Я маляваў. Мой альбом...» Авохці мне! Аказваецца, Юлька забыла свой альбом, ціхутка сцягнула Петрыкаў, здала і не абазвалася, калі я пытала, маўчала, калі праз яе ні за што ні пра што лаяла я хлапчука. Якая нахаба! А яна ж дачка нашага выкладчыка спеваў. Здаровы такі мужык, як бугай. Апроч школы яшчэ недзе ў двух месцах падрабляе. Я раней думала, што ён выпівае ці, бывае, хварэе, таму прапускае рэпетыцыі, а то і ўрокі. Калі ранішнік рыхтуеш, яго не дапрасіцца, каб паіграў. Так мяне раззлавала яго дачушка, што хацелася яе адлупцаваць, бо слоў яна не разумее. Пайшла пасля заняткаў да яе дамоў. Сядзіць яна ў калідоры і робіць урокі. «А дзе мама?» — пытаю. «Спіць». Я ўспомніла, што ў іх малое дзіця. «А чаму ты тут сядзіш, а не ў пакоі?» — «Мама сказала тут рабіць...» Кватэра двухпакаёвая, даволі прасторная, на падлозе шыкоўны дыван, аж ступіць на яго боязна, паліцы серванта гнуцца ад крышталю. І машына ў іх ёсць, на поўдзень сваім ходам ездзілі. А дзіця робіць урокі ў калідоры! Выйшла нарэшце мама, адкормленая, гладкая, пра такіх гавораць: кроў з малаком. Сядзіць цяпер штодня дома і не можа прасачыць, каб Юлька зрабіла як след урокі. Чалавек з вышэйшай адукацыяй — скончыла політэхнічны інстытут. А муж — настаўнік. І такое ў іх дзіця. Што гаварыць пра такіх бязбацькавічаў, як Юрасік або Артур. А іх дванаццаць! Мамы працуюць тэхнічкамі, санітаркамі, афіцыянткамі... Ох, і клас у мяне, Алёша, хоць плач. Не ведаю, што і рабіць. Але ад Юльчыных бацькоў я гэтага не чакала. Хаця які ён педагог! Нездарма яго дырэктар не любіць. Аднойчы ён нават сказаў: «Гэта не музы́ка, а хапуга». Такая і дачушка. Яна ўжо, бачыш, засвоіла: абы ёй было добра, яна гатова ўкрасці, падмануць.

І, думаеш, я перавыхаваю яе? Ды хоць я трэсну і разарвуся на дробныя частачкі — нічога не зраблю, калі ў сям'і яна штодзень бачыць і чуе зусім іншае... І яшчэ адно маленькае здарэнне. Учора важатая аб'явіла, каб дзеці прынеслі на ёлку цацак, па адной, вядома, у каго ёсць. Прынеслі толькі чацвёра, паклалі мне на стол. Артур крычыць: «Галіна Максімаўна, Іра таксама прынесла цацку». А Іра сядзіць моўчкі. Так і не аддала. Відаць, мама сказала: «Калі не ўсе прынясуць, дык і ты не аддавай». А мо і сама Іра схітрыла, яна гэта можа. Я некалі пісала табе, Алёша, пра яе маму, якая патрабавала ад мяне тлумачальную запіску.

Але хопіць пра школу. У нас зіма. Ужо цэлы тыдзень на дрэвах іней. Калі ідзеш па Камсамольскай вуліцы да стадыёна, дык здаецца, крочыш у казку. Галінкі дрэў здаюцца крыштальнымі, крохкімі, іней густы, з доўгімі «варсінкамі», і галінкі нагадваюць пер'е нейкага дзівоснага птаха... Так і чакаеш — бепер'е нейкага дзівоснага птаха... Так і чакаеш — белыя дрэвы падымуцца ўгору і паляцяць над асмужаным горадам.

Дарэчы, нядаўна па тэлевізары паказвалі невялічкі фільм «Подых мора» — без слоў, цяпер гэта модна, толькі музыка і мора. Над морам процьма чаек, затым з туманаў выплыў востраў, на яго берагах безліч марскіх коцікаў, равуць раз'юшаныя секачы. Да вострава плыве нейкае судна. Велізарныя хвалі высока ўздымаюць яго, потым параходзік апускаецца ўніз, і яго нос хаваецца ў пеністай прорве — здавалася, ужо не вынырне, а параходзік, нібы скарлупіна ад яйка, зноў узлятае ўгору. Раптам увесь экран закрывае гарбатая магутная хваля, яна знікае, за ёй навальваецца яшчэ больш высокая. Сапраўды — подых мора! Адным словам, глядзець было страшна, не тое што плысці на тым параходзіку. Праўда, я суцяшала сябе, што твая субмарына — мне вельмі падабаецца гэтае слова — можа нырнуць у глыбіню і плысці сабе «з хуткасцю кур'ерскага цягніка», быццам вялікая рыба. Што ёй хвалі! Нейкі гумарыст зазначыў: рыба спакойная нават тады, калі мора хвалюецца. Так і твая субмарына. Не хачу называць яе ні падводнай лодкай, ні падводным крэйсерам, ні падводным ракетаносцам. Адкуль, думаеш, такая дасведчанасць? Неяк у адной газеце ўба-

чыла артыкул пад рубрыкай «Будні флоту», канечне, прачытала. Вось адтуль ды з тваіх пісем усе мае марацкія веды.

Жахліва, але неўзабаве зноў сесія. Кантрольныя зрабіла. Апошнюю адправіла ўчора — па палітэканоміі. Пісала пра новую эканамічную палітыку, славуты нэп! Зрабіла і ўздыхнула з палёгкаю... Алёшка, так хочацца схадзіць на «Рыгалета», але, як назло, няма ніводнага чалавека, хто б мог пайсці са мною. Чамусьці на оперу не жадаюць. Шкада, цябе няма, ты б пайшоў, так?

Нават не верыцца, што праз некалькі дзён — Новы год!

Алёша, мілы! Віншую з Новым годам! Жадаю добрага настрою, бадзёрасці, здароўя.

Г. Ж.

26 снежня.

P. S. Які прыгожы вечар! Алёша, так хочацца пагуляць з табой! Хадзем, га?

Прывітанне, настаўніца!

Так доўга не пісаў табе. Даруй, бо я не вінаваты. Твой ліст, які ты паслала летась, я атрымаў сёлета. Таму што летась увосень мы як задраілі рубачны люк, дык адкрылі яго сёлета: плавалі амаль два месяцы. Гэты паход я не забуду ніколі. І вось што я напісаў пад вадой.

...Быў сцюдзёны, золкі восеньскі надвячорак. Дзьмуў пранізлівы норд-вест. Наша субмарына здымалася са швартоваў. На пірсе купка афіцэраў, маракоў. Нешта крычаць, махаюць рукамі. Міжволі скрабанула па сэрцы: на пірсе аніводнай жанчыны. А ў нашых афіцэраў — жанкі, дзеці, а колькі сяброўак у хлопцаў! Такі ўжо лёс падводнікаў: ні жанкі, ні дзеці, ні сяброўкі не праводзяць іх у дарогу.

Як толькі мы выйшлі ў мора, насунуўся густы туман. Неба зусім не відаць. Хвалі быццам вырашылі расцісунць нашу лодку — так раз'юшыліся. Халодныя вадзяныя валы тысячатонным цяжарам навальваліся на субмарыну, а яна, нібы паплавок, узлятала на хвалю, і салёны вірлівы грэбень адно перакатваўся цераз рубку, шыпеў ад бяссільнай злосці. Хвалі нічога не маглі нам зрабіць. Праўда, лодка так моцна гайдалася, што на камбузе з лагуна вылілася амаль палова

смачнага флоцкага баршчу. І гэта ўсё, што атрымала ад нас мора.

Нарэшце, па фрэгаце — карабельнай перагаворнай сістэме — прагучала каманда ісці на глыбіню. Зазванілі, як твае званочкі, клапаны вентыляцыі. А мяне апанавала дзіўнае пачуццё: як толькі хвалі зліліся над рубкай, з гэтага моманту быццам усё спынілася. Я не адчуваў хуткасці, ніякай «баўтанкі», ні шчымлівага піску чаек, ні пеністага буруна за кармой. Не бачыш нічога, апроч белай выгнутай столі, пераплеценай мноствам рознакаляровых труб і трубачак, і чуваць толькі манатонны гул механізмаў, галасы сяброў, каманды вахценнага афіцэра, ды зрэдку з акустычнай рубкі чуліся гукі, якія нагадвалі крык чайкі. Гэтыя гукі нараджае гідралакатар — такі хітры прыбор для вызначэння адлегласці пад вадой. Значыць, «чайкі» будуць з намі... Мы плывём, але ніякага адчування прасторы і часу. А дзесьці там, на белым свеце, дні змяніліся начамі, зноў свяціла сонца, ішоў дождж або круціла завіруха, усміхаліся з неба зоркі... У нас жа свяцілі адны і тыя плафоны, у пэўны час адны і тыя ж каманды няўмольна падымалі нас з вузкіх ложкаў... Увогуле жывём мы камфартабельна. Адсекі і каюты зроблены з густам: паліраванае дрэва, мяккія цёплыя фарбы. У кают-кампаніі можна наладзіць банкет — такая яна прасторная. У кожнага матроса ёсць тумбачка. На маёй — фатаграфія адной добрай прыяцелькі: я зрабіў з кардону рамачку і ўставіў твой здымак. Вочы твае трохі сумныя, а на вуснах блукае ўсмешка, усмешка Джаконды, «которую надо украсть» — Джаконду, а не ўсмешку.

Ёсць на лодцы добрая бібліятэка. Я ўзяў Маякоўскага, Максіма Багдановіча, «Новую зямлю» Якуба Коласа мне прыслалі з дому. Яна падарожнічае са мною пад вадой. Самы папулярны ў нас Жуль Верн. Вось уяві сабе, ляжу з кніжкай пасля вахты. «Вы любіце мора, капітан?» — пытаецца ў Нэма прафесар Аранакс. «О, так, я люблю яго»,— адказвае Нэма. Так, і я люблю мора, дарагая мая Джаконда. А яшчэ люблю лес. Памятаеш, некалі пісаў табе з вёскі перад службай пра свае вандроўкі па грыбы? Як моцна я люблю лес, адчуў пад вадой. Тут асабліва востра згадаеш усё, так сказаць, зямное, колер зямлі, колер і водар кветак.

Дарэчы, твае званочкі ляжаць ля фотакарткі. Як яны пахнуць! Яны нагадваюць пах свежага сена. У дзяцінстве я вельмі любіў гуляць у жмуркі на лузе. Хаваліся мы ў копы сена. Духмянае, яно яшчэ дыхала гарачынёй, шаргацела і шапацела. У ім стракаталі конікі. Да цёмнага лёталі мы басанож па скошаным лузе, ускоквалі на копы, ці, як у нас гавораць — капёшкі. Гуляючы, мы разбівалі іх, дурэлі, не думаючы пра тое, што ноччу мог заліць сена дождж. Але не заўсёды ішоў дождж, не заўсёды залівау разварушаныя капёшкі. Затое цяпер гэта такі хвалюючы ўспамін! Як бы я хацеў пасядзець зараз пад капой!.. Сядзець і слухаць шоргат сена, цвірканне конікаў, мірныя гукі засынаючай вёскі. І каб побач была ты...

Тут я вучуся слухаць. Неўзабаве, мабыць, пачну разумець сімфанічную музыку. Яшчэ колькі разоў схаджу ў плаванне і абавязкова навучуся. У нас шмат магнітафонных запісаў — больш за ўсё, вядома, песень, частушак, прыпевак. Ёсць першы канцэрт Чайкоўскага — мая любімая рэч. Праўда, слухаць няма калі. Вольнага часу вельмі мала. Іншы раз мы збіраемся ў калідоры, што аддзяляе кубрыкі ад кают-кампаніі. Там вісіць штурманская карта. Між іншым, я з дзяцінства вельмі люблю геаграфію, у школьныя гады мог паўдня праседзець над картай — падарожнічаў. А на самай справе я да пятнаццаці гадоў ні разу не быў у горадзе, акрамя райцэнтра, не ездзіў цягніком, аб чым цяпер ні кроплі не шкадую. Дык вось у паходзе і я часта зазіраў да штурмана. Звычайна па курсе было сіняе поле — адно без валошак і званочкаў і без ніводнай аранжавай плямкі, якія азначаюць сушу. Неяк мы з Тамбіем — мой новы сябар, асецін, добры хлопец — падыходзім да каюты і раптам чуем: «Зямля!» Падбягаем — блізка па курсе востраў. Суша... Не, мы не ўсплывалі, не выходзілі на бераг, толькі пасмяяліся: называецца ўбачылі бераг! Што зробіш, мы ж плывём не на якой-небудзь шхуне «Святая Марыя». І што яшчэ цікава, у нас у паходзе самі сабой склаліся тры сям'і — тры змены. У кожнай свае гадзіны вахты, сну, адпачынку, свой цвёрды рытм жыцця, нават свой баявы лісток — я член рэдкалегіі. Падводныя суткі строга падзелены на тры часткі, табель сацыялістычнага спаборніцтва — тры калонкі, тры кінасеан-

сы. Дарэчы, маем ладны запас фільмаў. Вельмі падабаюцца камеды і, асабліва «Волга-Волга» і «Трактарысты» — нестарэючыя вясёлыя фільмы.

Пісаць сёння больш няма калі. Трэба адпачыць перад вахтай. Мая змена ноччу. Вось калі ты спіш і сняцца табе прыемныя сны, я слухаю акіян, і калі пастараюся, дык магу пачуць нават тваё дыханне і ціхае тахканне твайго сэрца... Усё, бывай, мілая, а то мяне пацягнула на фантастыку. Дабранач. Калі ўдасца, заўтра дапішу ліст.

Тры дні не пісаў, а дакладней — трое сутак, бо мы не адрозніваем ні дзён, ні начэй, а толькі адлічваем суткі. Не пісаў таму, што не мог знайсці хвілю вольнага часу. Вахты, абавязковы адпачынак, шахматны турнір. Як ні дзіўна, заняў трэцяе месца ў сваёй змене — для салагі гэта поспех. Першае месца і лаўры чэмпіёна адхапіў боцман — мічман Харашун, цікавы мужык, пра яго некалі раскажу больш падрабязна.

А які прыз я атрымаў! Самаробнага Бураціна. Радыё і электронікі на лодцы процьма. Вось з розных дэталек, каляровых правадкоў нашы хлопцы робяць «сувеніры». Асабліва добра майструе Слава Аўсюк, дарэчы, зямляк, з Гомельскай вобласці. Мы з ім у адной змене, ён — электрык, служыць трэці год, рыхтуецца паступаць у політэхнічны інстытут. Калі даведаўся, што я скончыў курс універсітэта, дык не адыходзіць ад мяне. Праўда, шахмат не любіць, больш у шашкі рэжацца. Дарэчы, Санька Партноў, Ахад Абдуназараў і Юргіс Журкус — сябры з вучэбнага атрада, таксама трапілі на нашу лодку. Санька і Юргіс у маёй змене, Ахад — у другой. На беразе будзем сустракацца.

Вось так мы і жывём. Наш кок — адмысловы майстар пячы торты. Нядаўна адзначалі дзень нараджэння Тамбія. Хлопцы зрабілі яму каня — «вернага Казбека» і шаблю, кок падараваў надта смачны торт. У нас традыцыя — для імянінніка накрываюць асобны стол і ён можа запрасіць трох сяброў. Перад абедам у паходзе даюць чырвоны партвейн. Хлопцы аддавалі Тамбію свае порцыі, але ён адмовіўся: «Дзякуй, браткі. Я добра ведаю, як нам усім прыеліся кансервы. Без кроплі чырвоненькага нічога ў рот не лезе». Тамбій запрасіў Саньку Партнова, Юргіса і мяне. Вось такое было застолле — шматнацыянальны батальён чацвя-

рых. Дарэчы, смеху было: нашы кухары забыліся захапіць у паход сталовыя фарбы, таму падфарбоўваюць крэм для торта чорнай кавай (на жаль, без каньяку) і рознымі прысмакамі.

...На гэтых словах мяне перапыніў сігнал вучэбнай трывогі, і дапісваю ліст ужо на беразе. Пасля паходаў мы жывём у казарме, амаль такой, як у вучэбным атрадзе. Жывём весела, адчуваю сябе добра, бадзёра, біцэпсы мацнеюць. Як бачыш, быў хвалько і застаўся ім.

Ты неяк пыталася, Галя, пра маіх бацькоў. Ад іх атрымліваю лісты часта і сам пішу «легулярна» — так гаворыць бацька. Старыя жывуць нармальна — дзякуй богу, здаровыя, бульбы хапае; еш ад пуза, дровы ёсць, сена таксама — ляжы на печы без бяды. Гэта ўсё з бацькавага пісьма.

Атрымаў ліст і фотакартку ад сябра Алега Кузьміцкага, з якім разам вучыліся. Праз год у яго канчаецца тэрмін службы, падумвае, куды падацца. Алег піша вершы, прыслаў цэлую нізку. Ёсць нічога, але мне здаецца, занадта яны гладкія, няма за што воку зачапіцца. Гэта ўсё роўна як дыстыляваная вада — солі ў ёй няма... Напісаў яму ўсё, што думаю, праўда, стараўся далікатней выказацца. Бо хто любіць крытыку?! Калі хто і гаворыць, што ён любіць, то, пэўна ж, хлусіць. Яе трэба разумець, хоць і непрыемна слухаць, і рабіць высновы. Калі боцман Харашун перамагае ў шахматы, а ён тады ў добрым гуморы, то кожнаму, хто ўсумніцца ў правільнасці чарговага ходу, адказвае: «Дзякую за крытычныя заўвагі, мон шэр амі» (мой дарагі дружа.— *франц.*) і робіць так, як надумаў. Ён можа пафіласофстваваць наконт гумару. «Што такое гумар? Калі матрос Абдуназараў спявае сатырычныя прыпеўкі пра электрыкаў або матарыстаў — гэта гумар. А калі боцмана зачэпіць — гэта лігахадумства!» Даруй, мяне занесла ўбок. Карацей, спадзяюся, што «мон шэр амі» зразумее крытыку яго вершаў. Мы ўжо сябруем пяць гадоў. Я гасцяваў у ягонай вёсцы на Віцебшчыне, ён — у маёй. Добра ведаем адзін аднаго. Між іншым, Тамбій запрашае пасля службы паехаць да яго ў Асецію. «Спачатку да мяне на Беларусь, а потым да цябе»,— адказваю я. Калі яшчэ тое будзе!..

Пішы, як твае справы, калі сесія, як рыхтуешся? Не сумуй, родная, усё будзе добра.

19 студзеня. Вочы і вушы субмарыны
А. Гардзіевіч.

Мілае маё дзяўчо!

Здзіўляешся, што пішу без чаргі? Нешта сумна стала. Я ведаю, у цябе так мала часу, ведаю, што пішаш мне лісты за лік недасыпу. Я ўсё разумею. Мабыць, скора сесія? Ні пуху ні пяра!

У мяне ўсё добра. Засталося служыць прыкладна паўтара года. Зусім нямнога. Так ляціць час! Хлопцы жартуюць: марак год вучыцца, год служыць, год думае пра «дэмэбэ» — звальненне ў запас. Пішу ноччу — я на вахце, памочнік дзяжурнага па часці. Спаць зусім не хочацца, бо трохі «прыдавіў» удзень: пасля абеду дзяжурны нарад кладзецца спаць да чатырох гадзін. Добра спалася перад вахтай у вучэбным атрадзе! Нават цяпер памятаю, як прачынаўся, вядома, пасля каманды «Пад'ём», не хацелася ўставаць, як пахла падлога ў калідоры — толькі што памытая «палуба»,— змена рыхтавалася здаваць вахту. Помню, як свяціла ў вочы сонца, хораша, па-хатняму ўтульна, пахлі цёмна-сінія «казённыя» коўдры... Цяпер не тое. Магу і не заснуць...

Як у цябе справы? Не трэба пісаць многа, шануй час, але ўсё-такі добра атрымаць доўгі ліст, убачыць на канверце такія роўныя круглыя сімпатычныя літары.

Пасылаю фотакартку. Нейкі я тут надзьмуты, як індык. Прышлі, калі ласка, сваю. Буду насіць яе з сабой, буду размаўляць з ёй і раскажу ўсё, пра што не заўсёды напішаш.

Цалую!

28 студзеня. Аляксей.

Дарагі Алёша!

Атрымала твае лісты, другі — учора. Не ведаю, колькі разоў перачытала іх, і яшчэ буду чытаць. Мне здаецца, што я толькі знаёмлюся з табой. Цяпер ты пішаш зусім інакш. І мне гэта вельмі падабаецца! Дзякуй за здымак. Ён удалы — сур'ёзны, мужны твар, задуменны, строгі пагляд. Бровы, здаецца, сталі яшчэ

гусцейшыя. Сапраўдны марскі воўк... Гляджу на здымак, і так хочацца правесці рукой па тваёй нежнай шчацэ, сказаць што-небудзь пяшчотнае, узяць у абдымкі, расцалаваць.

Прыгадалася, як першы раз убачыла цябе на ўступных экзаменах. «Які прыгажун. Наўрад, каб паступіў»,— падумала я тады. Ты здаўся несур'ёзны і нават пуставаты нейкі. А потым на экзамене па літаратуры мы апынуліся амаль побач — ты выцягнуў білет і сеў спераду мяне за першы стол. А ўсе ж імкнуліся сесці далей. І яшчэ я заўважыла, што ты нічагуткі не пісаў, сядзеў з такім выглядам, быццам пакутаваў ад няма чаго рабіць. З сталічнай фанабэрыяй я падумала, што ты вырашыў: усё скончана — трэба пакласці білет і пайсці. Але потым Люся гаворыць: «А гэты самы Гардзіевіч здорава адказваў. Шпарыў як па пісаному». Гэта мяне здзівіла. А калі на летняй сесіі ты атрымаў «выдатна» па гісторыі КПСС, а мне давялося ехаць на «троечцы», я зразумела, што маё першае ўражанне было памылковым...

Алёшачка! (Толькі адзін раз з суфіксам, можна? Помню, ты ж не любіш суфіксаў суб'ектыўна-ласкавых.) Ведаеш, як я пра цябе думаю? Удзень заўсёды толькі ўспамінаю, звычайна нешта адно. Учора было — Оперны тэатр, пад'езд, дождж. Сёння — парк, фантан, як мы сядзелі ля яго і думалі пра тое, што будзем гэта потым успамінаць. (Я так думала, а ты, можа, і не...) Усё-ўсё прыгадваецца, нібы выплывае з туману, нават такое, пра што тады і не думалася, але што таксама, аказваецца, запомнілася. Так, удзень я толькі ўспамінаю. Але больш за ўсё мне падабаецца думаць пра цябе позна вечарам, ужо лежачы ў ложку, калі так выразна чутны гудкі цягнікоў, а ў фортку дзьме свежы марозны ветрык... Увечары я не прыгадваю, а мару. Такой сонечнай, светлай уяўляецца гэтая будучыня!.. Табе не надакучыла чытаць «сантыменты»? Ты ж у мяне сапраўды не любіш іх. Ну, не буду болей!

Сесію здала. Цікава, па замежнай літаратуры мне выпала «Пані Бавары». Выкладчык нават пахваліў, і па беларускай літаратуры адхапіла пяцёрку. Так добра адчувала сябе пасля экзаменаў, нават дыхаецца вальней. А Жуль Верна я чытала. Капітан Нэма мне

вельмі падабаецца. Мы некалі перачытаем гэтую кніжку разам, добра?

Нядаўна хадзілі ўсім класам у Тэатр юнага гледача на «Зайку-зазнайку». Дамовіліся сабрацца а палове дзесятай ля школы. Выйшла з кватэры, чую на лесвіцы шоргат. Гляджу — мае вучні прыйшлі, чакаюць унізе. Чалавек дзесяць — дзяўчынкі і нават хлопчыкі. І ўсім хацелася ісці побач са мной і трымацца за руку. Падыходзім да школы, усе дзеці пастроены, стаяць са сваімі настаўнікамі і бацькамі. Астатніх маіх вучняў пастроіла маці Андрэйкі Рабцэвіча, але як толькі яны ўбачылі мяне, кінуліся насустрач. І ўсе крычалі: «Я буду з вамі ісці!» У тэатры кожнаму карцела пачаставаць мяне цукеркай, хацелася, каб я сядзела побач. Давялося стаяць убаку і ні з кім не садзіцца, пакуль не пачаўся спектакль. Пастаноўка вельмі спадабалася. Як бурна прымалі дзеці ўсё, што рабілася на сцэне! Калі зайка хапаў ружжо, усе крычалі: «Заражанае!..» І мне таксама хацелася крычаць разам з дзецьмі.

Тэатр — гэта свята. Прамень святла ў школьных буднях. О, гэтыя будні... Трэцяя чвэрць — самая доўгая. Дасца яна ў знакі. Вечары праседжваю над сшыткамі, планамі. А ты там ходзіш у горад, знаёмішся. Мо ўжо і закахаўся? Прызнавайся! А мо пішаш Люсі? Яна зноў цябе ўспамінала. Скажы, што не, а то мне няма спакою.

Цалую!

2 лютага. Г. Ж.

P. S. Пасылаю здымак. Бачыш, якая я старая? Гэта белая шапачка робіць мяне такой... Не забывай, што мне толькі дваццаць адзін год... Хутчэй бы вясна! Сёння сказала так маме і Ларысцы.

Мілая Галя!

Перш за ўсё дзякуй за фотакартку. Ты такая прыгожая! Белая шапачка табе вельмі да твару. А пасмачка валасоў, што выбілася з-пад яе, робіць цябе трохі гарэзлівай, вочы твае здаюцца цёмнымі, глыбокімі, а пагляд які! Як у «Незнаёмай» Крамскога. Але ў той, з карціны, дужа маленькі ганарлівы рот, а ў цябе шыракаваты, абаяльны і ўсмешка прывабная. Ты дабрэйшая, ты самая, самая... Вось гляджу на цябе. Тамбій

жартуе: «Ці не молішся ты? Вячэрні намаз?..» Я смяюся і хаваю картку ў нагрудную кішэню, бліжэй да сэрца.

Спяшаюся цябе супакоіць — Люсі я не пішу. Няма калі. У нас тут разгуляцца няма дзе — наша база, рыбацкі пасёлак, з аднаго боку мора, з другога — скалы і тундра без канца і краю. Дзяўчат мала, ды і няма калі за імі ўпадаць.

Многа чытаю. Дабраўся ўрэшце да пісьмаў Флабэра. Цікава, нічога не скажаш. Піша пра ўсё на свеце, але больш за ўсё, канечне, пра сябе самога. Ведаеш, якая мне прыйшла ідэя? Мы ўсё-такі мала знаем адзін аднаго. Давай будзем пісаць пра ўсе свае заганы і недахопы, каб высветліць: ці зможам мы жыць разам? Для гэтага і трэба як на духу выказаць усё благое, каб ведаць, ці зможам прымірыцца з гэтым, а не таіць, каб потым нечакана не расчаравацца. Ведаць усё пра нашы характары трэба абавязкова. Я пераканаўся ў гэтым у час плавання. Уяві сабе, людзі жывуць поруч і дзень, і ноч. І вось тут я зразумеў, што такое псіхалагічная несумяшчальнасць. Да нас спісалі з другой лодкі матроса, і ён аказаўся такой «скрыпкай», такой занудай, што надакучыў усім, як горкая рэдзька. І пры ўсёй маёй вытрымцы, пакладзістасці здараліся некаторыя сутычкі, праўда, дробязныя, бо ўвогуле жылі мы дружна.

Словам, давай будзем спавядацца, добра? Толькі шчыра, праўдзіва, як на споведзі. Я пачну здалёк. Было гэта, здаецца, на трэцім курсе педвучылішча. Сустракалі мы Новы год. Я выступаў у ролі Дзеда Мароза. Трохі смяшыў, вадзіў карагоды вакол ёлкі. Было весела, баль-маскарад прайшоў з вялікім поспехам. Пад канец вечара — гэта была ўжо раніца — я так стаміўся, што паленаваўся добра памазаць твар вазелінам, каб зняць грым, і праз тыдзень у мяне злезла з твару ўся скура. Але гаворка не пра гэта. На другі дзень наладзілі проста танцы. І я ўжо быў сам сабою, у сваім шэрым касцюмчыку. Да скокаў я і тады не быў вялікі аматар. А ў розных там гульнях удзельнічаў з вялікім захапленнем. Працавала і «пошта». У мяне быў, як зараз помню, дваццаць першы нумар. Некалькі запісак адправіў і я. А сам атрымаў — семдзесят дзве! Набіў поўныя кішэні. Потым я доўга захоўваў

гэтыя пасланні, перачытваў іх. Там былі і прызнанні ў каханні, і жарты, але адна запіска запомнілася на ўсё жыццё: «Гардзіевіч, ты — самаўпэўнены сябелюб і ганарысты, што індык» — і подпіс «В. В. Д.». Хто напісаў яе, так я і не даведаўся, але пазней часта думаў над гэтымі словамі... Цяпер самаўпэўненасці, пыхі стала меней — павыбівала жыццё. А самалюбства? Не ведаю. Відаць, яшчэ нямала. І самае страшнае — я эгаіст. Так, так. Кожны нармальны чалавек — сабе не вораг. Але трэба ўмець думаць і пра іншых. І трэба жыць так, каб усім, хто побач з табой, было добра, каб ты саграваў іх сваёй цеплынёй. Толькі ў такім разе калектыў, грамадства магчымы як разумна арганізаваная супольнасць людзей. А інакш усё, што мы робім, будуем, выконваем і перавыконваем планы,— усё гэта страціць сэнс, калі людзі не будуць шанаваць адзін аднаго, калі кожны будзе дбаць толькі пра сябе, пра сваё бруха, пра сваю кашулю, якая бліжэй да цела...

Дык вось зрабі першы вузельчык на памяць: твой сябар — самаўпэўнены самалюб і эгаіст. У наступным лісце раскажу пра іншыя заганы акустыка, не, не акустыка, а чалавека Гардзіевіча.

Пішы, калі ласка: як твае справы, пра школьныя навіны, пра жыццё-быццё лясное і яшчэ пра сёе-тое...

12 лютага. Твой А.

Дарагі Алёша!

Я згодна з тваёй прапановай. Давай спавядацца! Тое, пра што ты напісаў, магчыма, ёсць у тваім характары, і з гэтым нам давядзецца змагацца. Ведаеш, я прачытала пісьмо, а потым узяла тваю картку, што ты нядаўна даслаў, і пачала ўглядацца. Мне вельмі падабаецца твая форма!.. Мо нават болей, чым ты сам. Але ты можаш запытацца: «А што ж цябе прывабіла раней, да службы?» І мне давядзецца сказаць праўду...

У школе па-ранейшаму клопату хапае. Учора пакінула некалькі сваіх падшыванцаў пасля ўрокаў. Калі застаешся з імі сам-насам — зусім іншыя дзеці: такія шчырыя, паслухмяныя, добрыя. Ёсць у мяне Ігар Вайтовіч, любіць пабегаць, пакрычаць на перапынку. Але гэта не бяда. Кепска, што піша вельмі неахайна і чытае слабавата, але думаць умее, кемлівы хлапчук. Учора я сказала Ігару: «Пайду да тваіх бацькоў, рас-

кажу, як ты сябе паводзіш». Ён паглядзеў мне ў вочы і кажа: «Ой, мяне так б'юць дома...» Мяне нібы апяклo. Гэтак шкада зрабілася хлапчука. Здагадалася, чаму ён пакідае ў класе сшыткі з двойкамі, вырывае лісты з дзённіка, дзе дрэнныя адзнакі,— ратуецца ад лупцоўкі. Правільна робіць. Я б на яго месцы рабіла тое самае. Дурныя бацькі! Яны думаюць, што калі адлупцуюць дзіця, дык яно паразумнее. Хоць я сама гатова была Юльцы даць пудла. Ох, як складана ўсё. А можа, не ўмеюць бацькі выхоўваць дзяцей? Мабыць, яны думаюць, што гэта так проста: накарміў, абуў і ўсё? Маці Ігара працуе ў цырульні, заўсёды «расфуфыраная», нафарбаваная, на руках пярсцёнкі — ледзь не на кожным пальцы. Ёй не да сына. Яна занадта занятая сабою. Клопаты пра мэблю, дарагія рэчы, машыны, дачы адцясняюць дзяцей на другі план (у калідор, як Юльку), хоць усё набываецца нібыта дзеля дзяцей. Хіба не парадокс? На маю думку, глупства — гэты дабрабыт. І я поўнасцю згодна з табой, Алёша: калі кожны будзе клапаціцца толькі пра сябе — дабра не чакай. А пагоня за трантамі — «весцизм», як гаворыць мой бацька, робіць людзей палонзіцамі рэчаў. Але што з таго дабрабыту, калі дзеці будуць расці кепскімі людзьмі, неадукаванымі, жорсткімі, не будзе радасці бацькам. Мой тата аднойчы хораша сказаў: усё лепшае ў жыцці нам даецца бясплатна — права займацца любімай работай, каханне, дружба... Сапраўды, кахання ні за якія грошы не прыдбаеш. Аніякія транты, рэчы не заменяць радасці мець добрага сына ці дачку... Між іншым, мне здаецца, радасці і так не стае... І, мабыць, яшчэ ніводзін чалавек на гэтым свеце не памёр ад радасці, калі не лічыць аднаго амерыканскага джэнтльмена: яму прапанавалі спосаб пазбавіцца цешчы, дык ён адмовіўся — спужаўся, што сам памрэ ад радасці...

Ну, а цяпер пра свае недахопы. Іх у мяне процьма. І нервовасць, і эксцэнтрычнасць, а галоўнае — з мяне будзе кепская, страшэнна непрактычная гаспадыня. Я нічагуткі не ўмею рабіць — ні шыць, ні вязаць, нават смачна гатаваць не магу. Ёсць такі жарт, што жанчына з нічога можа зрабіць капялюшык, салату і трагедыю. Я з трох магчымых магу адно — трагедыю, і не заўсёды аптымістычную. Так што майму суджана-

му давядзецца стаяць у чарзе ў сталоўцы, каб з'есці нейкі там шніцэль, далёка не першай свежасці, або куру, якая палову жыцця прабыла ў халадзільніку. Не дужа вясёлая перспектыва, праўда? Маці суцяшае мяне, маўляў, галоўнае навучыцца скакаць, а працаваць гора навучыць. Хто яго ведае, можа, і так? Ва ўсякім разе, улічы маю непрактычнасць. Яна тым больш дзіўная, што цяпер дзяўчаты вельмі практычныя: умеюць шыць, вязаць, ведаюць безліч кулінарных рэцэптаў, модна апранаюцца. А як умеюць разлічваць! Усё раскладваюць па палічках, рацыяналізм выключны. А я такая... Не сучасная. Адным словам, пакуль не позна — вырашай!

У Мінску вясна — самая сапраўдная: і снег растае, і ручайкі бягуць, і сонейка грэе, адно ні травы, ні лісцікаў зялёных. А хай бы хоць раз здарыўся такі цуд, прыйшла б у лютым вясна, і было б так да самага лета... Пішы, мілы, хутчэй. Прывітанне ад усіх нашых.

Галя.

19 лютага.

P. S. Каб ты ведаў, як мне хочацца цябе пабачыць! Можа, улетку табе дадуць водпуск? А можа, мне прыехаць да цябе? Я смелая — сяду на самалёт і да мора!

Дарагая настаўніца і непрактычная гаспадыня!

Нічога, гэтым ты мяне не надта напалохаеш. Цяпер усё робіць маці, бо калі табе варыць, смажыць? Як прыпячэ, дык навучышся. Кулінарскую кнігу я табе куплю. Бульбу ўмею абіраць, магу падсмажыць яе, булён зварыць, грыбы прыгатаваць па асобаму рэцэпту.

Служба ідзе паспяхова. Як у той прымаўцы — салдат спіць, а служба ідзе. Часта плаваем, але не вельмі далёка. Мне прысвоілі званне старшыны першай стацці, значыць, тры лычкі на пагонах. Пра паходы няма чаго пісаць, але пра адно здарэнне хачу расказаць, бо яно якраз з тых, якія характарызуюць акустыка Гарадзіевіча. Здарэнне вось якое. Мы ішлі на вадзе. Лодку гайдала моцна, хвалі былі вялікія, і мора здавалася гарбатым. Раптам лодка прыцішыла ход, і з дынаміка данеслася:

— Баявая гатоўнасць нумар два! У адсеках агледзецца, дзверы задраіць!

Усе кінуліся на свае пасты. Неўзабаве з адсекаў

паступілі рапарты: усё нармальна, механізмы гатовы.

— Ёсць! — пачулася з дынаміка.— Увага, гаворыць камандзір.

Камандуе нашай субмарынай капітан другога рангу — «кап. два», як завуць маракі — невысокі, хударлявы, лысаваты чалавек, з энергічным тварам, звычайна гладка паголеным і бледным: падводнікі мала бачаць сонца. Камандзір расказаў пра абстаноўку. Здарылася чэпэ. Адзін клапан сталёвага корпуса перастаў шчыльна зачыняцца — прасочваецца вада. Трэба зрабіць тэрміновы рамонт, справа рызыкоўная: хвалі страшэнныя, могуць змыць, як трэсачку, і таму камандзір вырашыў не загадваць, а паслаць добраахвотнікаў. Патрабаваліся два чалавекі, два добраахвотнікі.

— Дакладваць праз пяць хвілін па адсеках,— закончыў камандзір.

І я адразу ўявіў, як бушуе мора, як свішча вада з клапана — у адзін момант можна захлынуцца, і мне, сорам прызнацца, стала страшна. Першым апамятаўся Санька Партноў, потым падняў руку Тамбій, за ім — я, затым — увесь адсек. Тамбій быў цесляром у сваім сяле, Санька працаваў на заводзе, а я — белаauthor і таму не быў упэўнены, што здолею справіцца.

Неўзабаве пачулася з дынаміка: «Дакладвае першы. Добраахвотнікі ўсе!» Такія рапарты паступілі з астатніх адсекаў. Камандзір падзякаваў экіпажу за мужнасць і загадаў двум матросам не з нашага адсека ліквідаваць непаладку. Хлопцы апранулі гумавыя касцюмы, абвязаліся моцным капронавым тросам і палезлі па трапе наверх. Праз гадзіну клапан стаяў на месцы. Мне здаецца, што камандзір выбраў гэтых матросаў адразу: іх «заведванне» — нешта накшталт участка работы, яны ведаюць, што і як, але вырашыў праверыць усю каманду. Гэта разумна. А я ўпершыню перажыў такое пачуццё, быццам палуба вырвалася з-пад маіх ног і я паляцеў у бездань. Але я ж перамог страх і быў гатовы ісці на любую рызыку.

У вольны час чытаю. Толькі скончыў раман Джэка Лондана «Марскі воўк». Гэта яго не лепшая рэч. Хаця яна пераканаўча сведчыць, што бяздушная, бесчалавечая цвёрдасць і жорсткая воля Воўка Ларсена не дапамаглі з'яднаць экіпаж, не прынеслі аўтарытэт капітану, і ён пацярпеў крушэнне. З чалавекам трэба абы-

ходзіцца па-чалавечы — даказвае Лондан. І ён мае рацыю: з чалавекам трэба абыходзіцца па-людску. Наш «баця» — так мы завём камандзіра — добра гэта разумее. Між іншым я прыкмеціў, што ў паходзе хлопцы цягнуцца да кніг, далёкіх ад мора. Здаволіліся. Ахвотна бяруць гістарычныя раманы, увогуле, пра «гражданку» і асабліва — пра каханне. Вясна... Маладая вясна...

Мілая Галя! Я таксама вельмі хачу пабачыцца з табой. Не ведаю, ці ўдасца вырвацца ў водпуск — улетку на флоце заўсёды вялікія вучэнні, далёкія паходы, да таго ж і служыць засталося трохі болей года. Было б вельмі добра, каб ты прыехала, але можаш не захапіць мяне, бо зараз мы шмат плаваем.

Віншую з жаночым святам! Хай будзе яно светлым і вясёлым! Перадай, калі ласка, мае шчырыя віншаванні сваёй маці і сёстрам.

Моцна цалую!

А. Г.

2 сакавіка.

Алёша, добры дзень!

Твой ліст атрымала тыдзень назад і толькі сёння выбрала часу, каб адказаць табе. Учора давала адкрыты ўрок па рускай літаратуры. Тэма яго «Прыкметы вясны». Доўга думала, падбірала матэрыял, знайшла пласцінку з галасамі птушак, ноч напярэдадні спала кепска — усё шпакі нада мной лёталі і спявалі. Праўда, урок атрымаўся нішто сабе, нават завуч пахваліла. Але сёння дзеці мяне раззлавалі. Чаму яны такія? Стараешся, са скуры вылузваешся, а аддачы не відно. А мо я не гэтак раблю, як трэба? Але пра ўсё па парадку. Перад вашым мужчынскім святам — 23 лютага — я сказала: будзем пісаць сачыненне пра сваіх татаў, хто служыў у арміі, трэба яго вайсковую фотакартку, як завуць, дзе працуе зараз,— між іншым, аказалася, што некаторыя дзеці не ведаюць, як імя і па бацьку таты,— аформіць гэта ў асобным сшытку. Бачу, адны вучні ўзрадаваліся, заблішчалі вачаняты, а іншыя спахмурнелі.

— А можна напісаць пра дзядулю? — спытаў Артур.

— А пра дваюраднага брата можна?

— А я хачу пра свайго дзядзьку...

Я сябе кусь за язык: ведала ж, што не ва ўсіх ёсць таты.

— Можна пра дзядулю, калі ён ваяваў ці служыў у войску. Нават пра суседа можна.

Дні праз два здаюць сшыткі. Каб ты ведаў, што яны панапісвалі! І як хораша зрабілі, як акуратна! І амаль без памылак. Алёша, я табе хоць некалькі слоў з Артуравага сачынення: «Мой дзядуля (а на пажаўцелым здымку малады хлопец у будзёнаўцы) ваяваў на трох войнах. А потым быў брыгадзірам, расціў хлеб. Я люблю свайго дзядулю». Юрасік пісаў пра свайго брацеіка — дваюраднага брата, бо пра бацьку пісаць яму нечага, а брацеік — лётчык. Лепш працытую: «...я павіншаваў яго са святам, пажадаў яму светлага чыстага неба над усёй планетай. Хай будзе моцнай наша армія!» Во якое пажаданне! І што мяне здзівіла, некаторыя дзеці не пісалі пра сваіх татаў. Ці, можа, яны не служылі ў арміі? Петрык Стрэльскі, у якога ёсць тата, пісаў пра дзядзьку, які служыць на Ціхім акіяне, плавае на падводнай лодцы капітан-лейтэнантам, а пра бацьку ні слова. Паказала Яніне гэтыя работы, яна гаворыць: правільна, добра зрабіла.

А 23-га мы вырашылі паехаць у горад да помніка Перамогі. На бацькоўскім камітэце ўсё абмеркавалі. Маці Светы Катовіч працуе экскурсаводам (між іншым, я некалі думала пра яе блага — памылілася: прыемнае расчараванне), вось яна ўзялася расказаць нам, а тата Андрэйкі сфатаграфаваць. Дзень быў цёплы, з раніцы гэтакі туман, неба быццам залітае малаком, а дамы абкладзены ватай. Селі мы на тралейбус і — на Цэнтральную плошчу. Прайшлі трохі назад да помніка Грыцаўцу. (Сорам, але я не ведала, што ён першы двойчы Герой.) Затым на вуліцы Карла Маркса, міма тэатра Купалы дабраліся да танка, што стаіць каля Дома афіцэраў, потым уніз, цераз парк выйшлі на плошчу Перамогі. Мы ледзь паспелі ўскласці кветкі, пастаяць хвіліну ля Вечнага агню, як рух перакрылі, загучала музыка, да помніка накіраваліся дэлегацыі заводаў, шарэнгі салдат, а мы праз Свіслач (помніш, хадзілі там некалі?) пашыбавалі да помніка Марату Казею. Наш добраахвотны гід расказвала пра юнага партызана. Ён і пятнаццаці гадоў не пражыў, зусім

хлапчук. І ведаеш, пра што я падумала: мабыць, добра выхоўвалі тады дзяцей бацькі, школа, бо столькі герояў выявіла вайна. Слухалі дзеці надта ўважліва, лепей, чым іншы раз у мяне на ўроках. Потым мы пакіравалі да помніка Купалу, гэтага вялікага песняра нашага народа, паэта, якога я люблю шчыра з самога маленства — нядаўна яго адкрылі, а ўжо не магу ўявіць Мінск без гэтай гранітнай постаці, без фантана і дзяўчат з вянкамі. Мне здаецца, што парк Янкі Купалы — самы прыгожы куток нашай сталіцы. Словам, экскурсія ўдалася, дзеці былі вельмі рады.

А ўчора Андрэйкаў тата прынёс цэлы стос картак. Я сказала, што выберу некалькі для нашага кутка, астатнія раздам дзецям, і пытаюся: «Як жа аддзячыць вам? Столькі клопату было...» Ён кажа: што вы, што вы, нічога не трэба. Дзеці ўсё гэта чулі, і сёння раніцай сустракае мяне Петрыкава маці: «Галіна Максімаўна, прабачце, я спяшалася і не дала Петрыку грошай на карткі. Заўтра перадам».— «А колькі ён прасіў?» — «Паўтара рубля». Я сказала ёй, што ніякіх грошай не трэба, іду далей як сама не свая. Гэта ж трэба дадумацца? Вырашыў маці абдурыць, каб мець на марожанае. «А мо ён не адзін такі?» Пытаюся ў класе: «Ну-ка, падніміцеся, хто прасіў у мамы грошай на карткі? Я ўсё ведаю, уставайце!» Гавару строгім голасам, гляджу на ўсіх, і раптам устае Артур: «Я прасіў дзевяноста капеек». А за ім падымаецца Юрасік: «Я прасіў руб дваццаць...» А Петрык сціснуўся, сядзіць, як мыш пад венікам. «Ну, а яшчэ хто патрабаваў грошай? Смялей падымайцеся!» І тады зрушыўся з месца Петрык, скрозь зубы выціснуў, колькі ён прасіў. Мо і яшчэ былі такія мудрацы, але, мусіць, надта хітрыя і з вытрымкай,— болей ніхто не ўстаў. Дык вось гэта здарэнне сапсавала мне настрой. Працуеш, працуеш, гаворыш, вучыш, а ім як пугай па вадзе. Доўга я ўшчувала жэўжыкаў, думала не даваць ім картак, іншым раздала — па шэсць штук кожнаму, ды такія карткі добрыя, нягледзячы на туман. Бачу, сядзяць гэтыя трое, ледзь не плачуць. «Хочаце мець карткі?» — «Хочам».— «Прасіце прабачэння. Перад класам...» Артур заліўся чырванню, здалося, аж зубы пачырванелі ад сораму, а Петрык асабліва не бедаваў. От, малое, вераб'ю па пяту, жабе па калена, а ўжо ко-

нікі выкідвае. Аддала ім карткі, але ўсяго па тры, хоць такім чынам пакарала.

Алёша, даруй, што пішу пра ўсё гэта — проста неяк дужа маркотна душы, а ты далёка... На днях бачыла Ярохіна, дапытваўся пра цябе. Неяк званіла Люся, таксама пыталася, ці пішаш ты. Я вельмі стамілася, трэцяя чвэрць здаецца бясконцай. Хутчэй бы канікулы, а там якіх два месяцы і — лета.

Пішы, чакаю.

13 сакавіка. Галя.

Алёша!

Два тыдні назад я адаслала табе ліст і вось пішу зноў, не чакаючы адказу. Справа ў тым, што Віталік Ярохін угаворвае выходзіць за яго замуж. Ён, канечне, не ведаў пра нашу перапіску, але калі я расказала яму, адказаў: «Ну, што ж, выбірай. Я цябе кахаю і гатовы на ўсё... Вырашай». Не, Алёша, між намі нічога такога не было. Калі здавалі экзамены, ён іншы раз праводзіў мяне. Быў ён ветлівы і стрыманы, ды я і не давала папускі паводзіць сябе інакш. І вось цяпер... Я не ведаю: што рабіць? Хлопец ён неблагі — ты не можаш з гэтым не пагадзіцца,— і многае ў ім падабаецца мне. Працуе і вучыцца. Другі б піў гарэлку пасля змены ды бегаў на танцулькі, а ён гібее над кантрольнымі, шмат чытае. Мама поўнасцю на яго баку. І мне цяжка з ёй спрачацца, бо я не ведаю, як ты ставішся да мяне: у нашых адносінах столькі няпэўнага. Я заўсёды помню, што першая напісала табе, памятаю твае словы: у каханні мы не кляліся, жартам пачалі, жартам можам і скончыць... Я перачытала ўсе твае лісты. У адным ты напісаў «моцна цалую», у другім — «твой А.» — што мяне тады вельмі ўзрадавала. Але гэта магло вырвацца ў цябе выпадкова, пад настрой... І да таго ж, я добра ведаю, як ставіцца да цябе Люся. Бо напішы ты ёй: я цябе кахаю, кідай усё і прыязджай сюды. Яна ўсё кіне-рыне і прыедзе. А я не ведаю, як бы паступіла на яе месцы. Словам, у мяне ўсё пераблыталася... Шчыра кажучы, мне не дужа яшчэ карціць замуж, і, здаецца, няма ў мяне глыбокага пачуцця да Віталя... Не думай, што ў мяне не хапіла духу чакаць цябе — застаўся ж усяго які-небудзь год.

Я нічога яшчэ не вырашыла... Ва ўсякім разе, Алёша, не асуджай мяне. Калі можаш, даруй...

25 сакавіка. Г.

Добры дзень, Галя!

Што ж, ахвотна дарую. Такога ліста можна было чакаць даўно. Хлопцаў у Мінску хапае, а нявесты — хоць куды. Я б на месцы Ярохіна даўно б зацягнуў цябе ў загс. Дзякуй за параду — звярнуць увагу на Люсю. Пры выпадку я гэтым займуся. Аказваецца, ты ўсё абдумала, нават пра замену паклапацілася... Прабач за рэзкі тон. Бо, калі цвяроза разважаць, у мяне няма падстаў цябе дакараць: мы сапраўды не кляліся ў каханні і ты вольная ад якіх бы там ні было абавязкаў... Вольнаму — воля, уратаванаму — рай. Але я не шкадую, што пісаў табе лісты, не буду шкуматаць тваю фотакартку. Навошта? Хай будзе на ўспамін пра няўдалы паштовы раман... Адно хачу табе сказаць, Галя: калі ты сапраўды кахаеш Ярохіна, то без ваганняў выходзь замуж. А калі не дужа — не спяшайся, яшчэ раз падумай. У наш час ды ў твае дваццаць гадоў не варта звязваць жыццё з нялюбым...

Ярохіна ні ў чым не вінавачу... Зрэшты, час дуэляў мінуў, а займацца боксам па перапісцы я не мастак... І ты асабліва не перажывай, не пакутуй. Суцяшаць мяне нікому не давядзецца. Хлопцам скажу, што проста надакучыла пераводзіць паперу і даваць лішнюю нагрузку пошце. Знайду сабе тут каханку, якую-небудзь рыбачку, што можа кульнуць сто грамаў, а пры выпадку «накрыць мацюком»... А ўвогуле, Галя, мабыць, Маякоўскі меў рацыю, калі пісаў: «Все вы, бабы, трясогузки и канальи...» Ну, усё, канчаю, а то пацягнула на лаянку.

Бывай! Не памінай ліхам!

Будзь шчаслівай!

6 красавіка. А. Гардзіевіч.

Прывітанне, Алёша!

Не думаў, што я табе напішу? Разумееш, я не ведаю, што са мною робіцца... Словам, Віталю я адмовіла. Дома — скандал. Мама колькі дзён са мной не гаворыць. Раней усё дакарала: што ты перабіраеш? Савы смаленай не бачыла, гора не ведала. Глядзі, дачуш-

ка, і вялікага гурту выбераш курту... І нават Томка супраць мяне. Ей, ці бачыш ты, вельмі карціць пагуляць на маім вяселлі. Тата сказаў так: «Я мала ведаю Віталя. І зусім не ведаю твайго марака. Выбірай сама... Але мне здаецца, што гэты Віталік трохі «шаргунок». Занадта ён ветлівы...» Я з ім не пагадзілася і пастаралася даказаць, што ветлівасць — самая станоўчая рыса чалавека, а сяму-таму, між іншым, не шкодзіла б трохі быць ветлівей... Канечне, я разумею, калі чалавек раззлаваны і сярдзіты, яму цяжка стрымацца...

Алёша, я зараз перачытваю твой гнеўны ліст і ўсміхаюся... Бачу між радкоў, які ты быў раз'юшаны, стараўся стрымлівацца, але не-не ды і прарывалася твая раздражненасць, а пад канец пайшлі ў ход «трясогузки и канальи», і нават пацягнула лаяцца. Я чула, што маракі вельмі здорава лаюцца — шматпавярховым мацюком. Ты таксама навучыўся? Вось каб паслухаць, га?

У нас быў агляд акцябрацкага войска. Столькі хваляванняў! Мой клас — маракі. Усе ў белых форменках, на рукаве літара «Ю» — юнга — і белых бесказырках — форма нумар два, ці не так? Знайшлі ваенна-марскі сцяг, развучылі песню, дэвіз. Словам, рыхтаваліся як мае быць. І вось надышоў гэты дзень. Прачынаюся раніцай — дождж, халадэча. Ну, думаю, ляснуў наш агляд. Але пасля абеду прырода злітавалася, хмары распаўзліся, выглянула сонейка, такое яркае, светлае,— мы павесялелі. Прымаў парад высокі малады маёр, пры ўсіх рэгаліях, камандаваў гучна, але занадта коратка, у яго атрымлівалася прыкладна так: «р-няйсь!», «с-сір-а»,— гэта значыць «смірна». Спачатку здавалі рапарты камандзіры атрадаў: пехацінцаў, танкістаў, лётчыкаў, касманаўтаў, дэсантнікаў, ну, і маракоў. І што здзівіла — амаль усе камандзіры, апроч майго Андрэйкі,— дзяўчынкі! Андрэйка бягом памчаў здаваць рапарт, за некалькі метраў перайшоў на крок і звонка-звонка пачаў: «Таварыш галоўнакамандуючы! Атрад маракоў для парада акцябрацкага войска пастроены. Наш дэвіз...» Мы ўсе хорам: «Только смелым покоряются моря». Потым ішлі строем, спявалі песню:

Бескозырка белая, в полоску воротник.
Октябрята смелые спросили напрямик:

— С какого, парень, года? С какого парохода?
И на каких морях ты побывал, моряк?

Знайшла яе недзе важатая, прагучала песня добра. І занялі мы другое месца пасля касманаўтаў. Некаторыя дзеці з іншых атрадаў плакалі, што яны не першыя. І я падумала: ці варта было ўстанаўліваць гэтыя месцы? Проста кожны атрад трэ было нечым адзначыць, і ўсё.

Ведаеш, Алёша, мне так хочацца з табой пагаварыць, пачуць твой голас. Мо тады б я супакоілася... Напішы, калі ласка, хоць колькі слоў. Мне так блага без тваіх лістоў.

24 красавіка. Галя.

Дарагі Алёша!

Што ж ты не пішаш?! Ужо блізка два месяцы пошта не прыносіць канверты з трохвугольным штэмпелем. Так доўга... Думаеш, пагаварыў па тэлефоне, дык і не трэба пісаць?! Не крыўдуй, я разумею. Мабыць, ты зноў у плаванні і не паспеў адказаць на мой ліст.

Як добра, што ты здагадаўся пазваніць! І так нечакана. Раптам увечары настойлівы званок: «Вас выклікае...» — і твой голас, такі звонкі, такі блізкі і родны. За тысячу кіламетраў! Хіба гэта не цуд! А пра што мы гаварылі? Дальбог, не памятаю. Засталося толькі адчуванне той невыказнай радасці і хвалявання... А словы? Словы забыліся...

Алёша, ты не ўяўляеш, як я хачу, каб хутчэй скончыўся навучальны год. Фініш ужо блізка. Затое цяпер у мяне турбот па макаўку. На днях наш клас перадаваў эстафету. Мы павінны былі падрыхтаваць канцэрт мастацкай самадзейнасці, сёе-тое змайстраваць. Цэлы тыдзень я не магла спаць спакойна. Мае калегі хадзілі з такім выглядам, быццам зусім не рыхтуюцца — усе разлічвалі на сюрпрыз. Купалаўцы мае пашчыравалі добра. Настаўнікі завойкалі, калі ўбачылі нашу выстаўку: чырваназорная будзёнаўка, вялікая падводная лодка (мабыць, такая, як твая субмарына), газетніца, куфар, кветкі, матылькі, мноства прыгожых закладак у кнігі, грыбы з пластыліну. А які канцэрт быў! Свецік сёлета займаецца ў балетнай студыі Палаца піянераў, паказала танец. Уяві

сабе: белыя чэшкі, белая майка, белае трыко, і сама бялюткая, адно вочы блішчаць, нібы зорачкі. Яе балетны нумар быў выдатны. Андрэйка Рабцэвіч хораша дэкламаваў, потым мае другакі выканалі «Бульбу». Хор спяваў, а тройкі скакалі. Не падумай, што хвалюся, але наш канцэрт прызналі лепшым, дырэктар у загадзе аб'явіў мне падзяку. І цяпер я пачынаю думаць, што з мяне мо і выйдзе настаўніца.

Дарэчы, Іван Сцяпанавіч, наш дырэктар, неяк даў нам урок педагогікі. А было вось як. Адзін хлопчык з класа Вольгі Сяргееўны, Коля, перастаў хадзіць у школу. Бацька ў яго не родны, а маці ў гэты час была ў радзільным доме. Айчыма Коля зусім не слухае, бо маці звычайна гаворыць: не твой сын — не чапай яго. Хлапчук заве айчыма «Сашка» — так усе яго клічуць у двары. Часта Коля хадзіў у школу галодны, але неяк дзяўчынка, у якой быў дзень нараджэння, хацела пачаставаць яго цукеркай, дык адмовіўся. Ледзь угаварылі: ён панурыў галаву і ўзяў. Дарэчы, у нас традыцыя — імяніннік прыносіць у клас цукеркі і частуе ўсіх аднакласнікаў і настаўніцу. Паспрабуй адмовіцца, колькі будзе слёз. Я хачу пазбавіцца гэтай завядзёнкі. У першы клас яшчэ можна дазволіць, каб мацавалася дружба, а далей, мусіць, не варта. Я пачала гэтак думаць пасля Юльчынага дня нараджэння. Частавала яна дзяцей цукеркамі, гляджу і вачам не веру — кладзе кожнаму паўтары цукеркі (!). Па адной здалося мала, па дзве не хапіла, а мо пашкадавалі, і тады пачалі разразаць напалам, і так акуратна ўсё зроблена. І, відаць, не сама яна гэта рабіла,— мама, а магчыма, і тата — педагог, выкладчык спеваў. Я расказала дома, бацька рагатаў паўгадзіны: «Гэта ж трэба дадумацца? — дзівіўся ён.— Да чаго смешныя людзі». І расказаў жарт, як адзін чалавек заўсёды пакутаваў, калі піў чай: дома ён клаў адну грудку цукру, у гасцях — тры, а любіў чай... з дзвюма грудкамі. Але я адхілілася ў другі бок. Слухай далей пра таго хлопчыка Колю. Дык вось ён блукаў па горадзе, збіраў бутэлькі, здаваў, каб купіць чаго паесці, хаваўся ў сутарэннях. Ён, мабыць, не хацеў заставацца дома з айчымам, а мо не хацеў, каб у сям'і з'явілася яшчэ адно дзіця. Паспрабуй тут разабрацца! Між іншым, сама Вольга Сяргееўна неяк прызналася,

што яе Сержык сказаў: «Калі не хочаш нарадзіць браціка, дык хоць сабаку мне купі. Я не хачу жыць адзін...» Во якія цяпер дзеці. Словам, урокі Коля прапускаў. Аднойчы Вольга Сяргееўна злавіла яго, прывяла ў школу, завуч пачала страшыць міліцыяй. Паклікалі дырэктара. Заходзіць ён, невысокі, сівы, калматыя бровы, вочы звычайна сярдзітыя, строгія, а тут не — глядзяць добразычліва, ласкава.

— Хто не хоча хадзіць у школу? Хто, ты?! Як цябе завуць? Коля? Ну, што ж ты, Коля?.. Чаго ты хаваешся? Ты што — чарвяк?! Гэта ж толькі чарвяк ад усіх у зямлю хаваецца. А ты ж — чалавек. Такі харошы хлопчык,— дырэктар абняў Колю, прыхінуў да сябе.— У нас у школе ўсе дзеці добрыя...

Коля захліпаў, уткнуў галаву ў грудзі дырэктара, потым адышоў і доўга-доўга глядзеў Івану Сцяпанавічу ў вочы. З таго часу Коля не прапусціў ніводнага ўрока. Пасля гэтага і я другімі вачыма паглядзела на нашага дырэктара. Даўно ведала, што ён строгі, прынцыповы, але мне здавалася, што не зусім тактоўны, грубаваты, бо не раз чула, як распякаў ён настаўнікаў. Калі б мяне так, дык згарэла б ад сораму. Але мяне ніколі чамусьці не лаяў. Мо таму, што я і так трохі шчырую. Маці сілком адрывае ад сшыткаў вячэраць: перадыхні, кажа, а то пад вачамі сінія кругі. А некаторыя працуюць абы з рук, планы пішуць хуценька, і ўрокі праходзяць нецікава. Відаць, нездарма лае іх дырэктар. Гэта ж таксама педагогіка: разумець, каго трэба палаяць, каго пахваліць, з кім проста шчыра пагаварыць пра сямейныя справы і быццам між іншым заўважыць пра тое, што не зроблена, пра нейкі недахоп. Складаная рэч педагогіка! Я ўсё вывучаю сваіх дзяцей. Не такія яны ўжо і благія. Шкада, ад мяне пайшлі тры здольныя вучні — бацькі атрымалі новыя кватэры, пераехалі. А вось «двоечнікі» не параязджаюць. У такіх і бацькі часцей за ўсё — п'янтосы, кепскія работнікі. І, вядома, ім не спяшаюцца даваць новыя кватэры. Цяпер у мяне трыццаць восем вучняў. Было б меней, але прыйшоў Артур, у якога няма таты, помніш? Ён малайчына, займаецца без троек. Хачу выцягнуць яго ў выдатнікі.

Алёша, мілы, зноў я не стрымалася і столькі на-

пляла пра школу. Але ты ж сам некалі прасіў пісаць аб усім. Ведаеш, мяне вельмі хвалюе, як мае дзеці будуць вучыцца ў чацвёртым класе. Ад гэтага залежыць мой аўтарытэт. Ды ўрэшце не гэта важна! Самае важнае, каб мае падшыванцы змаглі засвоіць праграму чацвёртага класа, каб яны паспявалі, каб я пераканалася, што не сапсавала дзяцей, а нечаму навучыла.

Нават не верыцца, што праз колькі дзён мы станем трэцякласнікамі, пачнуцца доўгачаканыя канікулы, але, на жаль... неўзабаве экзамены ва універсітэце. Кантрольныя яшчэ не ўсе здала. Часам думаю, куды б паехаць улетку? Так хочацца да цябе, але... Могуць не пусціць бацькі, бо я табе не жонка, а галоўнае, стрымлівае тое, што магу прыехаць і не пабачыць цябе — лодка будзе ў плаванні.

Прыгадваецца Зеленаградск — так спадабаўся ціхі, утульны гарадок. Што цікава — я хутка прывыкаю да новых мясцін, дзе нават і нядоўга пажыву. А потым усё ўспамінаеш, згадваеш. А ўспамінаць прыемнае заўсёды балюча, праўда? Наперадзе і лепшае можа быць, але такога не будзе. Лепш бы ўсё забывалася, не было б мінулага ніколі, толькі сучаснае і будучае. Ты з гэтым не пагодзішся, вядома, бо гэта — песімізм. А ты ў мяне такі жыццярадасны. Сонейка ты маё! Між іншым, тата і мама добра ставяцца да цябе. Уяўляю, як яны палюбяць цябе, калі ўбачаць на свае вочы, калі зведаюць трохі болей, што ты за чалавек. А сёстры ў захапленні ад гідраакустыка Гардзіевіча. І калі яны пачынаюць яго расхвальваць, я забараняю: рэўнасць...

Учора мы глядзелі па тэлевізары камедыю «Суседзі па кватэры». Карціна так сабе, можна сказаць, слабая. Мама ўсміхнулася і паглядзела на мяне, калі ў фільме ад журналісткі пайшоў муж — яна не варыла абеды, курыла і была заўсёды кудлатая. А ты ж ведаеш маё выказванне: «Гатаваць абеды — гэта пачатак хатняга прыгнёту няшчаснай жанчыны». Раней так думала і Ларыска, а цяпер яна выйшла з майго лагера. Давядзецца, мабыць, і мне зрабіць тое ж самае. Відаць, нідзе не схаваешся ад кухні.

Як многа я напляла ўсялякай лухты! Трэба канчаць.

Хутчэй пішы. Прывітанне ад усіх нашых.

18 мая. Галя.

Алёша!

Ніяк не дачакаюся ад цябе ліста. Мабыць, ты ў плаванні? А мо зусім пра мяне забыў? Не ведаю, што і думаць...

Сёння — першы дзень лета, першы дзень канікул. Нарэшце дачакалася. А на дварэ халадэча, неба хмурнае, быццам сонца захінулася цёмнай коўдрай і спіць сабе, не хоча зірнуць на каляндар, не хоча пачуць птушынага спеву. А ў сярэдзіне мая была цяплынь, нават гарачыня, я задыхалася ў класе, як рыбіна на пяску: у нас сонца ў вокны,— а цяпер чамусьці такая сцюдзёнасць. І чаромха адцвіла даўно, і сады, так што чаромхавай халадэчай не назавеш гэтакае надвор'е. Мусіць, каб ты быў побач, у мяне б зусім другі настрой...

Іншы раз думаю: да чаго кволая, нетрывалая рэч — чалавечыя адносіны! Хто б мог падумаць — Яня і Вераніка Пятроўна моцна пасварыліся. І ўсё праз Алежку. Яня паставіла яму чацвёрку за чвэрць па матэматыцы. Вераніка Пятроўна ўзняла такі вэрхал, такі скандал закаціла. Пасля гэтага яны тры тыдні не размаўлялі. А потым перайшлі на афіцыйны тон. Было гэта так смешна, калі наша мілая, добрая Яня, нервова адкінуўшы касу за спіну, гаварыла: «Таварыш Журава, ваш сын зноў дрэнна паводзіць сябе на ўроку». Вераніка Пятроўна бялела, чырванела і скрозь зубы цадзіла: «Мой сын не вінаваты, што ў вашым класе няма дысцыпліны». І пачыналася перапалка. Цяпер яны памірыліся, зноў ходзяць разам. Толькі і чуеш ад Веранікі Пятроўны: «Янечка, Янечка... Мілы чалавек, наша Яніна Іванаўна». Бачыш, як усё мяняецца. І вось яшчэ пра што падумалася: мы з табой ніколі не сварыліся. Раптам палаемся і не зможам памірыцца. Што тады? Але... пажывём, пабачым.

А ў Яніны няшчасце. Захварэў яе муж, паклалі ў бальніцу, і ёсць падазрэнне на рак. Раней я іншы раз заходзіла да іх, бачыла яго — такі чалавек добры, і мужчына што трэба — высокі, плячысты, працаваў майстрам на заводзе. І яшчэ ж малады — нават сара-

ка няма. Яня штодзень ездзіць да яго, а клініка кіламетраў за дваццаць ад горада. Цяжка ёй. Схуднела зусім, адны вочы. Чым ёй памагчы? Якое было ў нас варэнне — ёй перацягнула. Яму неўзабаве будуць рабіць аперацыю. Хоць бы ўсё абышлося... У Яні двое дзяцей: сын перайшоў у пяты клас, а дзяўчо — у другі. Малыя дзеці. Чаму так не шанцуе добрым людзям?

Пішы хутчэй, Алёша. А то мне нічога не лезе ў галаву: усё думаю пра цябе. І калі буду плаваць на экзаменах — таксама праз цябе. Я жартую, мілы. Але пішы як мага хутчэй — гэта сур'ёзна.

**Твая Галя.**

Дарагая, каханая!

Я — гультай і нахабнік, ці, як гавораць у нашай вёсцы — латруга. Зноў адказваю адразу на тры твае лісты, ды і са спазненнем. Учора вярнуліся з паходу — ён быў не доўгі, але дужа складаны і цяжкі. Пакуль адаспаўся, адчуў сябе чалавекам, і трэба ж было сёетое абдумаць, каб ліст быў не такі сумбурны, як наша размова па тэлефоне. І ўсё-такі я рады, што пагаварыў з табою, пачуў твой голас — на душы стала лёгка і светла, але сёння нешта я зноў засумаваў...

Нядаўна адзін наш старшына атрымаў пісьмо ад сваёй каханкі — выходзіць замуж. Ён мой «гадок» — разам пачыналі службу, і не так ужо доўга засталося чакаць. Не дачакалася. Мы суцяшалі хлопца, маўляў, не бядуй, магло быць горай, каб з ёй ажаніўся. Давялося б разводзіцца, пакідаць сына ці дачку. Бо не кахала. А без гэтага што за жыццё? Мы, вядома, шмат дыскутавалі аб вернасці, каханні. Цікава гаварыў наш боцман Харашун. Я пра яго пісаў. Ён беларус, з Гродзеншчыны, прыгожы мужык, даволі рослы, падцягнуты, трохі нават фарсісты, але лысаваты, хавае лысіну, усяляк маскіруе, бывае, жартуе: «Ад былой прычоскі засталася адно расчоска». Дарэчы, калі я гляджу на яго залысіны, прыгадваецца партрэт Чаадаева, што ў падручніку па рускай літаратуры. Боцман плаваў раней на крэйсеры, бываў у многіх краінах, усяго нагледзеўся. Неяк расказваў, як бачыў стрыптыз у адной замежнай краіне.

— Выходзіць яна, значыцца, сюды-туды прайшла-

ся, вільнула кармой. Пад музыку пачынае здымаць свае транты. Далікатна, двума пальчыкамі здымае булгахцір,— боцман выцягвае ў трубачку губы, бярэцца валасатымі пальцамі за клапаны нагрудных кішэняў,— раз — няма! Потым здымае ўсё астатняе. Мужыкі павылуплялі вочы, а яна спускаецца па прыступках у залу... Ядры тваю каламашку! — любімая прымаўка боцмана.— Зала вялікая, пасярэдзіне фантанчык, вакол столікі. Публіка адпачывае, п'е віно, закусвае... Жанчына пад музыку ходзіць ля фантана...

Расказаў боцман, як глядзеў у Швецыі ці Галандыі фільм пра «каханне», дзе людзі голыя, і ўсё паказваецца, што яны вытвараюць.

— Сталы чалавек на гэтае брыдкае відовішча не ідзе, а зялёная моладзь прэ, нібы кілька на святло... І думаеш, з такога сапляка будзе мужчына? Слізняк, мядуза, разбэшчаны, цывілізаваны дзікун! І кахання ён ужо не пазнае. Гэта ўсё роўна быццам наесціся недаспелых лясковых яблыкаў, што растуць на дзічках. Набіць аскому — і ўсё,— Харашун закурыў люльку, памаўчаў.— І сена касяць у пару... Так што вы, хлопчыкі, не спяшайцеся. Беражыце сябе. Вучыцца трэба, стаць на свае ногі ў жыцці, на якар...— Боцман дастаў з кішэні зашмальцаваную запісную кніжачку ў зялёных вокладках, пагартаў, нахмурыў бровы, зморшчыў да немагчымасці лоб, зацягнуўся, выняў з рота люльку, пачаў чытаць:

— Разумныя людзі ядуць і п'юць не з-за любві ды прысмакаў, а таму, што ежа і піццё патрэбны для здаровага існавання. Затым разумныя людзі жадаюць працягваць свой род і не таму, што з гэтым звязана адчувальная асалода, а таму, што род трэба працягваць... Гэта напісаў англійскі вучоны Годвін у трактаце «Аб уласнасці». Даўно напісаў, дзвесце гадоў назад. З таго часу шмат вады збегла ў мора-акіяны. Шмат перамянілася... Словам, разбэсціліся людзі. І тыя ж англічане. І я вам скажу, братва, раней за атамную бомбу загубіць чалавецтва разбэшчанасць і п'янства...

Тут мы ўсе ўсхапіліся, пачалі спрачацца, а калі ўгаманіліся, боцман дадаў:

— Я ўсё-такі думаю, что чалавецтва не загіне. Народ, просты рабочы народ, любіць чысціню ва ўсім і

перш за ўсё — у каханні. І чуе маё сэрца,— Харашун грукнуў кулаком у грудзі,— чуе, ядры тваю каламашку, ідзе хваля чысціні. Хваля пурытанізму... Высокая, чыстая хваля! Дзевяты вал цнатлівасці! І ён змяце гэтую брудную пену. Вось пабачыце!..

Такая размова адбылася пад вадою, у час нядаўняга плавання. На беразе яна амаль немагчыма. А на субмарыне пад манатонны гул механізмаў, калі ніякага адчування прасторы і часу, у абдымках халоднай бездані, неяк асабліва востра думаеш аб жыцці на нашай грэшнай планеце, глядзіш на гэтае жыццё неяк збоку ці, можа, нават знізу, розныя дробязі побыту і штодзённая мітусня знікаюць, нібы туман, і ўсё ўспрымаецца інакш, хочацца разважаць аб сэнсе жыцця, аб сутнасці быцця. І здаецца мне, боцман мае рацыю. Чалавецтва прагне чысціні... А што ты думаеш наконт гэтага?

І яшчэ пра боцмана. Сёлета ён збіраецца паступаць на філасофскі факультэт Ленінградскага універсітэта. Будзе вучыцца завочна. Сям'я, дзеці ды і па ўзросту на стацыянар позна ўжо. Ён страшэнна начытаны, вельмі любіць філасофію. Гаворыць, што яе, цар-навуку, занядбалі цытатчыкі і розныя спекулянты ад навукі. Ад філасофіі адраслі магутныя парасткі новых галін ведаў, а сама яна нагадвае засохлы дуб-волат. Харашун зараз ваўсю рыхтуецца да экзаменаў. Я буду рады, калі ён паступіць. Слава Аўсюк скора паедзе дамоў. Збіраецца паступаць у Мінскі політэхнічны. Калі я дачакаюся ДМБ?.. Гэта ж я ўжо амаль два гады не быў дома, не бачыў бацькі, маці. Каб ты ведала, як хочацца дамоў! Хоць бы на адзін дзень, нават на паўдня, на гадзіну, хоць бы зірнуць адным вокам... Бацька піша, што сёлета дужа моцна, густа цвілі сады: за квеценню не было дзе на яблыні вераб'ю сесці, быццам белаю хустай абвязаў хто дрэва...

Жадаю паспяхова здаць сесію. Пішы, хоць кароткі, ліст, бо ў цябе мала часу.

Цалую.

Твой А.

17 чэрвеня.

Алёша, мілы!

Дзесьці я чытала, што сны людзі бачаць нейкае імгненне, не больш, але мне падалося, што ты сніўся

ўсю ноч. І пасля ўвесь дзень — толькі гэта ўжо не здаецца! — я думаю пра цябе, прыгадваю ўсё, што ў нас было. Як хочацца хутчэй цябе пабачыць, ты хоць трохі адчуваеш?! Алёша, мілы мой, дарагі! Ты мяне кахаеш, праўда?.. Хутчэй бы нам быць разам! Уяўляеш, мы стаім поруч каля Опернага тэатра, адкуль некалі глядзелі на горад, і ты гаворыш што-небудзь ласкавае-ласкавае... Мне часам здаецца, Алёша, што ты скупы на ласку. А мо гэта проста — мужная стрымanasць і сарамлівасць? Кажуць, у такіх людзей застаецца нерастрачаным цэлае мора ласкі і пяшчоты... Твайго боцмана я гатова расцалаваць — такі ён разумны. Ты не раўнуеш, бо ён, мабыць, ужо ў гадах. Мне таксама здаецца, боцман мае рацыю. У нашай школе быў такі выпадак. Аднойчы «анатамічка», маладая, прыгожая настаўніца, расказвала на ўроку пра будову некаторых чалавечых органаў, пра тое, як развіваецца зародак — гэта ж старшакласнікі, яны ведаюць, што не бусел прыносіць дзяцей — і вось устае адзін рослы, здаравенны і гаворыць: «Усё гэта цікава. Але мяне цікавіць другое. Калі мы пяройдзем да практычных заняткаў?» — і так паглядзеў на настаўніцу, а некаторыя вучні зарагаталі, яна разгубілася, выскачыла з класа і да дырэктара. Іван Сцяпанавіч выклікаў гэтага аболтуса да сябе і дзве гадзіны гутарыў з ім у кабінеце. Хлопец папрасіў прабачэння ў настаўніцы, але ж, вядома, думаць аб «практычных занятках» не перастаў, не перавыхаваўся адразу. Так, трэба змагацца за чысціню. Чалавецтва прагне чысціні, жанчыны — цнатлівасці. Яны ж самі дамагаліся правоў на цнатлівасць некалькі стагоддзяў. А цяпер іншы раз здзіўляе, як несур'ёзна, легкадумна ставяцца некаторыя дзяўчаты і хлопцы да сямейнага жыцця і як потым жорстка расплачваюцца за легкадумнасць. Адна дзяўчына з суседняга дома гады тры назад выйшла замуж. Нарадзіўся сын — такі прыгожанькі хлопчык, і муж добры — працавіты, не п'яніца, з выгляду нічога. А неяк мы разгаварыліся з Аксанай, так завуць маладую маці, і расказала яна сваю гісторыю. Аказваецца, жыве з мужам кепска, зусім не любіць яго, дзяцей болей не хоча. І ва ўсім вінавата сама. Сябравала з адным хлопцам яшчэ ў школе. Ён паступіў у ваеннае вучылішча, пачалі перапісвацца, потым з-за

нечага пасварыліся. Не сказала з-за чаго, мабыць, яна вінаватая, бо дзеўка з мухамі ў носе. Віктар перастаў пісаць. Тым часам яго малодшы брат Саша пайшоў у армію і пісаў лісты адной дзяўчыне. Тая расказала пра гэта Аксане. Што ты думаеш робіць Аксана? Пачынае пісаць брату свайго каханага, просіць, каб той нікому не гаварыў пра гэта. Задурыла Сашу галаву. Калі ён вярнуўся з арміі, кінулася яму на шыю, распісаліся і пачалі жыць.

Аксана ўсё часцей успамінала Віктара, бо любіла яго, а выйшла за Сашу назло, каб адпомсціць Віктару. І вось гады праз два прыязджае Віктар з жонкай да бацькоў. Ён ажаніўся, калі даведаўся, што Аксана выйшла замуж, але брату пра свае адносіны з ёй нічога не сказаў. Прыйшлі туды і Аксана з Сашам. Яна гаварыла так:

— Ой, Галька, што я перажыла тады, нельга выказаць. Думала, страчу розум ад рэўнасці. Як убачыла Віктара — прыгожага, стройнага, у афіцэрскай форме, такая ўспыхнула дзікая рэўнасць да ягонай жонкі, што месца не знаходзіла сабе. Падумаю, як ён цалуецца з ёй ды мілуецца, дык хоць вый, што воўк.

Віктар паехаў, а Аксана ніяк не можа яго забыць. У сям'і пачаліся скандалы. Відаць, будуць разводзіцца. Саша часта не начуе дома: то ў бацькоў застаецца, то ў сяброў, а можа, і ў сяброўкі.

Вось якая заблытаная гісторыя. Аксана паступіла страшэнна эгаістычна. Яна думала толькі пра сябе, калі выходзіла замуж. Праз сваю «помсту» пазбавіла шчасця Сашу. А магчыма, тая дзяўчына кахала б яго — ён такі слаўны хлопец. Выходзіць, няшчасныя чатыры чалавекі: Саша, Аксана, яе сяброўка, хлапчук, які будзе гадавацца без бацькі. Яшчэ невядома, як жыве Віктар. Можа, і гэтая сям'я разбітая. І ўсё з-за адной дурной выхадкі. Ну, хопіць, а то я раскладваю па палічках, як у аптэцы, а ў жыцці ўсё складаней.

Дні стаяць цудоўныя — лета ў разгары. Неяк ездзіла з Ларысай на Мінскае мора. Уяві сабе: падыходзіць электрычка, з вагонаў высыпае стракаты, прагны натоўп і навыперадкі коціцца па плаціне, цераз мост — да вады, да гарачага пяску. Сто гадоў назад мінчанам такое і не снілася. Была ў горадзе прыгожая, чыстая

рака, чыстае паветра. Але, на бяду сабе і нашчадкам, чалавек прыдумаў машыну... Алёша, а сапраўды, цяпер немагчыма ўявіць нашае жыццё без машын, без электрычнасці. Я думала пра гэта, калі мы плылі на цеплаходзіку, які сноўдае тут, па моры. Вецер быў моцны, і нас трохі гайдала. І ўвесь час услед за намі ляцелі чайкі. Яны кружыліся за кармой, крычалі, біліся за пячэнне, якое кідалі ім з палубы. Да чаго яны порсткія, гнуткія, імклівыя! Дзесьці я чытала, што чайкі — вельмі карысныя птахі, у Амерыцы ў нейкім горадзе ёсць помнік чайкам, якія ўратавалі жыхароў ад голаду — знішчылі саранчу. Ну, а калі яны і рыбку зловяць — на здароўе, не трэба шкадаваць. Затое, мабыць, якая радасць сустрэць гэтых птушак дзе-небудзь далёка ў адкрытым моры? А праўда, Алёша, што яны і спяць на вадзе?

Усё, канчаю. Больш пісаць няма калі. Цераз два дні — сесія, якую я не здам. У галаве ў мяне каша, у душы — неразбярыха і самота. І з табой мы болей не пабачымся: я альбо кінуся ў Свіслач, альбо правалюся на экзамене і застануся на другі год.

28 чэрвеня. Твая Галіна.

P. S. Я за тое, каб хутчэй кацілася высокая хваля чысціні. Няхай ідзе дзевяты вал!

Любая Галя, светлая радасць мая!

Твой ліст атрымаў амаль месяц назад, але не паспеў даць адказ, як мы зноў пайшлі ў плаванне і толькі ўчора вярнуліся. Спадзяюся, ты не кінулася ў Свіслач, жывая, здаровая, адпачываеш пасля сесіі, якую здала без «хвастоў». Ну, а калі застаўся які-небудзь «хвост» — не бядуй.

Так, я сапраўды не песіміст і не цынік, але добра ведаю, што такое сум і нуда, і нават настальгія. Не падумай, што выхваляюся. Памятаю пра нашу дамоўленасць і павінен табе сказаць, мілая, што ты не памылілася: акустык Гардзіевіч — сухар. Так, так, сухі, бессардэчны чалавек — тое, што ты называеш (мякка кажучы) адсутнасцю сантыментаў. Магчыма, ён вырас такі таму, што ў сям'і, як увогуле ва ўсіх вялікіх сялянскіх сем'ях, не было «сюсюкання». Маці называла яго ласкава, з рознымі суфіксамі: «сыночак, татулечка, мой любенькі», але пацалункаў асабліва не было.

Тым больш не магло гэтага быць [redacted] боку бацькі. І маці, і бацька аддавалі ўсе сілы, каб накарміць, апрануць дзяцей, на астатняе не заставалася часу. Можа, таму гадаваліся мы стрыманымі, сарамлівымі. Між іншым, калі я адыходзіў служыць у армію, дык саромеўся пацалаваць маці. А з бацькам мы толькі парукаліся, паляпаў ён па плячы і сказаў: «Бывай здароў, Ляксей!» Мне здаецца, стрыманасць — адна з вызначальных рыс характару беларуса.

Пішу гэта ўсё, мая родная, каб ты ведала, што за гусь гэты самы Гардзіевіч, чаму ён не любіць сантыментаў і памяншальных суфіксаў, чаму заўсёды, з кім бы ні знаёміўся, называе сваё поўнае імя — Аляксей. А ведаеш, мне іншы раз хочацца клікаць цябе — Галінка! І калі ты называла мяне з «суб'ектыўным суфіксам», я не дужа крыўдаваў, а наадварот, гэта было мне як маслам па душы. Бачыш, я пачынаю адтаваць... Гэта ўсё дробязі, і ў жыцці яны не так і важныя, але ты гадавалася ў іншых умовах і, мабыць, кладучыся спаць, цалавала маці і тату, раніцой віталася з імі. І гэта вельмі добра. У той жа час мой бацька, напрыклад, прабыўшы тры тыдні на лесасплаве, вяртаўся, уваходзіў у хату, мы кідаліся да яго, і ён ніколі не вітаўся, а весела гаварыў: «Ну, як вы тут?» Частаваў гасцінцамі, малодшых браў на рукі, падкідваў угору.

Памятаю, пасля вайны, калі жылі яшчэ беднавата, мы заўсёды чакалі суботы, калі прыйдзе Адарка — старэйшая сястра — прынясе гасцінцы: цукерку, булку, абаранак. Прыходзіла Адарка дамоў кожную суботу, у любое надвор'е, за пятнаццаць вёрст па лясной дарозе, не зважаючы на ваўкоў, якіх вельмі баялася, каб пабачыць нас, прынесці гасцінцы. Яна таксама ніколі не віталася, ніколі не гаварыла, што любіць нас. І я бачу ў гэтым своеасаблівую народную мудрасць: Адарка прыходзіла дамоў, дзе яе чакаюць, дзе яе не забылі, дзе ёй заўсёды рады. І гаварыць пра любоў не было патрэбы — яна была бачна ва ўсім.

Мае бацькі пражылі разам ужо больш сарака гадоў, пражылі дружна, у добрай згодзе, хаця, можа быць, мала гаварылі пра каханне. Але я ўпэўнены, мая маці куды шчаслівейшая, чым тая сучасная «дама», што двойчы ці тройчы разводзілася, або тая, што здраджвала свайму мужу... Маці расказвала, што, калі яны ажа-

ніліся, у дзень вяселля маладым трэба было ісці з хаты нявесты да жаніха — усяго паўкіламетра, і жаніх так саромеўся весці пад руку нявесту на вачах усёй вёскі, што, як толькі выйшлі з дому, ён зірнуў на луг і закрычаў: «Ой, нашы коні зайшлі ў Гайкоўскі луг. Забяруць гайкоўцы»,— і прама з-пад вянца памчаў заганяць коней. Маці заўжды смяялася, калі расказвала гэтую гісторыю.

Мы з табой павінны жыць добра, чыста, дружна і не шкадаваць цёплых слоў. Мы з табой, мая любая, дзеці іншага часу, іншых умоў жыцця. Так што пішы мне «письма нежные». Болей за ўсё на свеце не хапае чысціні і пяшчоты. А мо яшчэ і вернасці, такой, як чайкі верныя мору... Дарэчы, яны сапраўды спяць на вадзе. Боцман Харашун гэта сцвярджае. Ён вельмі любіць птушак і перш-наперш — марскіх. Ну, а я — усялякіх. Калі вярнуся з плавання, дык і вераб'я пабачыць рад. Самая любімая птушка боцмана — альбатрос. Пра яе ён можа гаварыць бясконца.

— О, альбатрос... Кароль акіяна! А які марак! Ніякі шторм яму не страшны. Крылы ў яго — во,— боцман шырока разводзіць рукі.— Тры метры з гакам, ядры тваю каламашку... Альбатросы вандруюць цэлы год. Зямны шар аблётваюць. Сваякі нашы. Мы таксама магём шарык абагнуць... А жывуць альбатросы парамі. І ўсё жыццё зберагаюць вернасць адно аднаму. Во ў каго вучыцца трэба! Мала іх засталося. Калі на Ціхім служыў, там нагледзеўся. А цяпер рэдка ўбачыш...

Ох, і распісаўся я. Зрэшты, экзамены ты здала, а да школы яшчэ далёка, мо і хопіць духу прачытаць. Як прайшла сесія? Якія навіны? Усё часцей думаю аб тым, каб зрабіць кантрольныя работы і ўлетку здаць за другі курс, нават калі не адпусцяць на зімовую сесію. А мо і дазволяць. Прыйдзе выклік з універсітэта, і камандзір дасць «дабро». Напішу заяву ў вучэбную частку, каб прыслалі тэмы кантрольных і каб мелі мяне на ўвазе.

Моцна цалую!

4 жніўня. Аляксей.

P. S. А тваёй Аксане так і трэба. Шкада толькі, што праз дурную бабу пакутуюць іншыя людзі... Ці бачыш

ты каго [redacted] нашых? Як там Люся? Я ўсё чакаю ад яе пісьма. А яго няма і няма. Мабыць, трэба напісаць ёй. Як ты думаеш?..

## Частка трэцяя

Алёша, мілы!

Я нават не спадзявалася, што пазнаю цябе калі-небудзь такім, хоць гэтага мне вельмі хацелася. Асабліва, ведаеш, калі? Неяк мы гаварылі пра тую дзяўчыну, якая падабалася табе яшчэ ў вучылішчы і якая займаецца ў нас ва універсітэце. Гулялі мы тады ў парку, на летняй эстрадзе быў канцэрт. Раптам табе падалося, што выступае яна. Ты збялеў што палатно. Думаеш, я не заўважыла? Такія рэчы я бачу, нават калі іх няма — я вельмі раўнівая... Адзін алах ведае, колькі сцэн рэўнасці чакае цябе наперадзе! Калі хо-дзіш там па горадзе, апускай вочы долу і не глядзі на жанчын маладзей за пяцьдзесят гадоў. І не ўсміхайся зграбным рыбачкам. Ні ў якім разе! І калі ў кінафільме табе спадабаецца гераіня — маладая, прыгожая,— пакідай залу...

Ты, мабыць, чытаеш і думаеш: «Што ж будзе потым?!!» Не палохайся, мой родны, я жартую. Рабі ўсё, што хочаш... Не, усё-такі трымайся далей ад дзяўчат, добра? Ты належыш мне. Толькі адной мне, ці не праўда?

Пішу ўвечары. Усе глядзяць тэлевізар, і ніхто мне не замінае: не люблю пісаць, калі побач размаўляюць. Віншаванне са святам, Днём флоту, я паслала, але ты, можа, яшчэ не атрымаў? Віншую яшчэ раз. Хай шанцуе табе, мілы! Удача хай будзе табе вернай сяброўкай! А колькасць пагружэнняў заўсёды роўнай колькасці ўсплыццяў!

Хутчэй пішы, ці дадуць табе водпуск? Ці зможаш прыехаць? Так хочацца цябе пабачыць! Сесію здала. Маці кажа, што я вельмі схуднела. Цяпер буду ад'ядацца. З'ездзіць, відаць, нікуды не давядзецца. Сумнае лета. Адна ўцеха — грыбы. Учора былі ў лесе: Ларыса, Ігар, Томка і я.

Ведаеш, Алёша, я станаўлюся заўзятым грыбаві-

ком. Учора мне так пашэнціла! Людзей у лесе было шмат, і я зрабіла адкрыццё: у такіх выпадках грыбы трэба шукаць паўз дарогі. Усе кідаюцца далей у лес, а ля дарог застаюцца баравікі. Неяк я адбілася ад сваіх і хадзіла па маладым рэдкім сасонніку. Пачаліся верасы, потым я ўбачыла неглыбокі раўчук, таксама парослы верасам. І чамусьці падумалася, што тут абавязкова знайду баравік. І праўда. Ледзь не наступіла на чорнагаловага мацака. Я ўзрадавалася, укленчыла над ім і доўга любавалася, пакуль не ўспомніла запавет грыбавіка: перш чым зрэзаць знойдзены баравік, азірніся вакол. Я паглядзела наперад — і вачам не паверыла: тры цёмна-вішнёвыя капялюшыкі выторкваліся з верасу, а збоку яшчэ два баравікі, чорнагаловыя, з сівымі падпалінамі. Радасці маёй не было канца. Адразу падумалася, як было б хораша, каб мы з табой знайшлі гэтую мясціну. Успомніла твой ліст з вёскі, два гады назад у якім ты пісаў, што вельмі любіш збіраць грыбы. Божа, мы ўжо два гады перапісваемся!.. Але слухай далей пра грыбы. Я пачала хадзіць «васьмёркай» вакол гэтага раўчука і знайшла сто пяць баравікоў! На адным месцы. Ніколі ў жыцці столькі не збірала. Ды такія здаровыя, тоўстыя, крамяныя і чыстыя, ніводнага чарвяка. Раўчук быў недалёка ад дарогі. Толькі я пазбірала грыбы, як міма прайшоў статак кароў. І адразу па-хатняму запахла цёплым малаком... Раўчук яны абмінулі, бо ён даволі глыбокі. Нашы мяне клікалі, а я не падавала голасу. Затое, калі падышла з поўным кашом, усе завойкалі і так ужо дзівіліся. А болей за ўсіх радавалася я сама.

І яшчэ адно здарэнне з гэтай паездкі. Мы сядзелі ля вогнішча. Пяклі бульбу. Што за дзіва — печаная бульба! Ігар смажыў рыжыкі: начэпіць грыб на дубчык, пасоліць і на агонь, праз хвіліну — гатова. Я таксама пакаштавала. Смаката. Раптам Ларыса ўсклікнула: «Гадзюка!» Мы ўсе заверашчалі, а Ігар падняўся і спакойна сказаў: «Без плямаў, значыць, ядавітая»,— і як падфутболіў гадзюку, дык яна заляцела некуды ў гушчар. Ларыса крычыць: «Яна на дрэве!» — і ўсё пазірае ўгору. А Томка зняла пояс і паклала ля сваіх ног, маўляў, гадзюка да яе не падпаўзе. Я мармытала: «Мілая гадзючка, не чапай нас, дай хоць агурочак да-

есці!» Ігар рагатаў і пытаўся, хто ў каго будзе яд высмоктваць? Бачыш, Алёша, якія мы дзеці яшчэ?

Мой родны, я захапляюся тваёй адкрытасцю, шчырасцю і прагай да чысціні. Я таксама хачу гэтага, хачу, каб мы жылі прыгожа, чыста і чэсна! Пішы, мой любы. Пішы хутчэй. Ты ж ведаеш, з якім нецярпеннем я чакаю твае лісты.

Ледзь не забылася: Люся збіраецца замуж. Ён — інжынер, малады, прыгожы, працуе ў Віцебску, хоча, каб Люся пераязджала да яго. А яна не адважваецца пакінуць Мінск, ды і муж пакуль што зарабляе малавата. Мой бацька з гэтага робіць такую выснову:

— Гэта адна з прычын нізкай паспяховасці ў школе. Асабліва ў старэйшых класах. Вышэйшая адукацыя не цікавіць. Навошта пятнаццаць гадоў сушыць мазгі? Інжынер, урач, настаўнік зарабляюць часам менш, чым шафёр, прадавец або тэхнічка цётка Каця, якая працуе ў трох месцах. З аднаго боку, гэта добра. Не так даўно ўсе дамагаліся дыплома аб вышэйшай адукацыі. А [redacted] другога — школа ўсё роўна не рыхтуе дзяцей да звычайнай карыснай дзейнасці. Вось спытай ты,— звяртаецца ён да мяне,— у сваіх падшыванцаў, кім яны хочуць быць? У адказ пачуеш: касманаўтам, лётчыкам, урачом, артыстам. А колькі іх могуць быць лётчыкамі ды артыстамі? Адзінкі. Астатнія будуць рабочымі. І прыходзяць яны пасля дзесяцігодкі, нічагуткі не ўмеюць, і дзядзька Вася, [redacted] трыма класамі за плячыма, камандуе імі як захоча. Вось табе псіхалагічная траўма, расчараванне... Я не згаджаюся з ім, даказваю, што так было раней.

Вось бачыш, нечакана сацыяльная плынь уварвалася ў мой ліст. Што ж, ад жыццёвых праблем нідзе не схаваешся. Добра страусу: схаваў галаву пад крыло і ўсе праблемы вырашаны, не трэба думаць пра экзамены і кантрольныя работы. Дарэчы, Алёша, я магу схадзіць у дэканат і даведацца, якія трэба кантрольныя рабіць, але і табе напісаць не пашкодзіць, каб ведалі, што ёсць такі студэнт Гардзіевіч.

Учора званіў Ярохін, маўляў, ці не перадумала я? Катэгарычнае «не» было маім адказам. Ён ад'язджае ў адпачынак. Сказаў, што пазвоніць, як вернецца. Смешны хлопец. Думае, за месяц нешта пераменіцца. Хаця ўсё бывае ў жыцці...

Моцна цалую!
8 жніўня. Твая Галя.

Любая Галінка!

Прабач, што доўга не пісаў. Мы зноў хадзілі ў далёкае плаванне, былі ў нас вялікія вучэнні. Пра гэта я раскажу ў наступным лісце. А цяпер шлю кароткую вестку, каб ты не хвалявалася. Дзякуй за ліст. На мяне адразу павеяла водарам лесу, баравікоў, водарам роднага краю.

Сёння пісаць няма калі, канчаю. Чакай доўгі ліст, мой мілы грыбавік! Ты ж мая сыраежачка!.. Каб ты ведала, як хачу я схадзіць з табой у грыбы!!!

Да сустрэчы, каханая!
13 жніўня. Твой А.

Дарагі Алёша!

Нешта сумна мне зрабілася і захацелася табе напісаць, не чакаючы адказу. Учора з Ларысай хадзілі па магазінах, нічога не купілі, а стаміліся вельмі. Нагледзеліся, як жаніхі і нявесты ўскладаюць кветкі да помніка на плошчы Перамогі — была пятніца, самы пачатак вяселляў. Мы стаялі цэлую гадзіну. І за гэты час некалькі троек (механізаваных, па тры таксі) пабывалі на плошчы. Уяві сабе: новыя бліскучыя «Волгі» з белымі стужкамі, упрыгожаныя кветкамі, і нават лялькамі, выязджаюць на плошчу. З першай машыны выходзіць маладая ў доўгай, аж да пят, сукенцы з белага гіпюру, са шлейфам, які нясуць дзве маленькія дзяўчынкі, над галавой нявесты трапечацца вэлюм, поруч — малады ў чорным касцюме, абодва стройныя, рослыя. За імі крочыць дружына. Уся працэсія тарапка абыходзіць вакол помніка, хвілю стаіць каля Вечнага агню. Затым нявеста ўскладае да помніка кветкі, усе фатаграфуюцца, ідуць цераз плошчу. Машыны спыняюцца, прапускаюць вясельную дружыну. На тралейбусным прыпынку, на плошчы, стаяла многа людзей, і некаторыя жанчыны выціралі вочы хусцінкамі. Адна дзяўчынка, трымаючыся за руку маці, задуменна сказала:

— Калі вырасту і буду жаніцца, я таксама прыеду сюды...

Усе заўсміхаліся, а маці тузанула малую:

— Яшчэ ў школу не ходзіш, а ўжо жаніцца думаеш... Рана птушачка запела...

— Вой, і не ўгледзіце, як вырасце,— уздыхнула пажылая кабета ш чорным парасонам.— Я сама так некалі думала. А во ўжо бабуляй стала. Пяцёра ўнукаў маю...

Жанчыны загаварылі пра тое, як хутка ляціць час. І мне зрабілася сумна і шкада... лялек на радыятарах. Гэта мяшчанства чыстай вады. У нас будуць адно ісaskтужкі на антэне, каб відаць было — вяселле. Згодзен, мілы? І я думаю — зусім не абавязкова гэтакай працэсіяй ісці да помніка, каб толькі сфатаграфавацца; навыват хвіліны не пастаіш ля Вечнага агню, бо іншая вясельная дружына ўжо літаральна наступае на шлейф. Мы з табой прыйдзем удвух, лепей вечарам, пастаім неціхутка, пакладзём кветкі — ніякіх там здымкаў! Ненавіджу паказуху! Лаяла сябе, што некалі з дзецьмі здымалася каля помнікаў, а яны потым выпрошвалі ў мацярок грошай, хлусілі. Трэба не пазіраваць каля святога месца, маўляў, як я выглядаю, а думаць, які ты ёсць чалавек, ці так жывеш як трэба, што ты зрабіў добрае для людзей? А мо я памыляюся, Алёша? Як ты думаеш?

На днях пайду на работу, трэба навесці парадак у класе. У мяне ж — кабінет прыроды. Па вясне з дапамогай бацькоў зрабілі шафы, кветкі пасадзілі. Добра, што я зберагла ўсе рэчы з нашай выстаўкі. За лета, думаю, дзеці яшчэ назбіраюць сяго-таго, змайструюць што-небудзь. Кніг, часопісаў аб прыродзе ў мяне шмат, і малюнкі дзіцячыя ёсць. Кабінет будзе не благі, і галоўнае, усё зрабілі самі.

Неўзабаве пачнуцца заняткі, зноў — сшыткі, планы, дзеці, бацькі. І ўсё ж яшчэ амаль два тыдні — вольныя. Шкада, няма грыбоў: удзень гарачыня, а ночы халодныя, і на дрэвах ужо пракідаюцца жоўтыя лісты. Учора прачытала ў часопісе «Иностранная литература» вершы мексіканца Амада Нервы. Адзін, пра восень, мне вельмі спадабаўся:

Как прелесть запоздалая грустна
растений и цветов! Они устали.
«Я — осень, осень,— шепчет нам она,—
Я преисполнена благой печали...
Сменило лето я. В соблазнах женской плоти
тебе не станет больше мниться рай...

Пришел черед таинственной работе
ума. Теперь молчи и размышляй».

Пішы, Алёша, што чытаеш, аб чым думаеш, якія навіны.

Моцна цалую.

15 жніўня. Твая назаўсёды Галя.

Родная, любая Галінка!

Дзякуй за ліст, за цікавы верш. Я разумею твой сум... Нічога, мілая, ужо нядоўга чакаць засталося... А цяпер пра наш паход — абяцаў расказаць, а слова трэба трымаць. Канечне, табе цяжка ўявіць, што такое нашы паходы, вучэнні. Але я пастараюся расказаць папулярна.

Вось адзін прыклад. У нашы воды прарвалася «варожая» падводная лодка. Задача: знайсці і знішчыць яе. На пошукі накіроўваюцца надводныя і падводныя караблі, супрацьлодачныя самалёты. З чым гэта можна параўнаць? Уяві сабе: па дарогах, скажам, Магілёўскай вобласці імчыць машына, трэба яе ўбачыць і «наступіць на хвост», каб далей нікуды не пайшла. Нешта падобнае і ў нас. Толькі субмарына не проста сабе плыве, а хаваецца, змяняе глыбіню, хуткасць, ды і дарогу ёй выбіраць не трэба — мора вялікае, плыві куды хочаш, і ўбачыць яе амаль немагчыма, затое можна пачуць...

Над экранамі прыбораў застылі людзі. Я схіліўся над сваім. Цішыня, аж чуваць, як рыпіць пяро самапісца. У гэты час на лодцы ўсё заціхае, нават выключаецца рэфмашына, якая ахалоджвае цыстэрны з харчамі. Кокі звычайна злуюць на гэта, але, што зробіш,— вынік падводнай дуэлі залежыць ад таго, хто раней пачуе... Раптам на экране з'явіўся ледзь прыкметны ўсплёск — імпульс, шчыльней прыціскаю навушнікі, стаіўшы дыханне, заціхаю, нібы ўвесь ператварыўся ў слых. Чую ціхае шапаценне, акурат як дождж на даху. Мабыць, яна? Дакладваю:

— Па пеленгу... шум вінтоў. Мяркую — падводны карабель...

— Ёсць. Дакладваць праз кожныя тры хвіліны,— загадаў камандзір.

Але неўзабаве цэль знікла. Як ні ўглядаўся, як ні напружваў я слых — нічагуткі. «Мусіць, змяніла курс.

Пайшла на глыбіню. Шчыльнасць глыбокіх слаёў вады рэзка адрозніваецца ад верхніх, акустычныя імпульсы крышацца, губляюць сілу на мяжы слаёў»,— імгненна мільганула думка. Я перадаў сваё меркаванне. Наша субмарына таксама змяніла курс. Некалькі разоў мянялі мы курс і ўрэшце ў хаосе адбітых сігналаў пачуў яе — «варожую» лодку. Адразу дакладваю:

— Чую цэль. Дыстанцыя... пеленг...

— Баявая трывога. Тарпедная атака! — гучыць па трансляцыі.

Аб'явілі вучэбна-баявую трывогу і на іншых караблях, дзесьці за аблокамі загулі супрацьлодачныя самалёты. Разам з караблямі яны сціскалі кола для заключнай атакі. Атака... Адразу ўяўляецца, як імчаць з шашкамі коннікі, бягуць з вінтоўкамі напагатове і з крыкамі «ўра!» салдаты або грозна сунуцца стальныя страшыдлы-танкі, паварочваючы вежу для прыцэлу. У нас жа ўсё зусім не так. Мы не бяжым, не крычым, перад тарпеднай атакай увесь экіпаж лодкі быццам сціскаецца ў адзін кулак, жыве адным дыханнем — усім корпусам: тарпедамі, нашымі ложкамі, нават наскамі чайнікаў, субмарына наводзіцца на цэль. На аўтамаце тарпеднай стральбы ўспыхвае чырвоная, як вока краснапёркі, сігнальная лямпачка. Курс нашай лодкі і «варожай» скрыжаваўся.

— Апараты... плі! — чуецца ў дынаміках голас камандзіра.

Уздрыгнула палуба, і ў адсеках зрабілася яшчэ цішэй. Людзі напружана слухалі мора, хоць кожны ведаў: выбуху не будзе, тарпеды вучэбныя, яны пройдуць пад цэллю, прадзьмуць сціснутым паветрам баласт і ўсплывуць, і толькі наш штурман вострым алоўкам праколе цэль на карце.

Неўзабаве наша лодка ўзнырнула, паднялі антэну і даведаліся, што тарпеды прайшлі дакладна пад цэллю. Адмірал аб'явіў падзяку многім штурманам, акустыкам, тарпедыстам, лакатаршчыкам, матарыстам, ну, і мне таксама, бо я ўсё-такі першы пачуў цэль.

У паходзе, калі надараліся вольныя хвіліны, чытаў. Боцман Харашун узяў з сабою трэці том «Вопытаў» Мантэня. Што за мудрая кніга! Я «праглынуў» яе з вялікай радасцю. Забываеш пра ўсё на свеце, так яна захапляе, хоць няма ніякіх інтрыг, ні сюжэта, ні куль-

мінацыі. Мішэль Мантэнь піша пра сябе. «Аб карысным і чэсным», «Аб раскайванні», «Аб мітуслівасці», «Аб тым, што трэба валодаць сваёй воляй» і шмат іншым. Вось яго класічная фраза: «Увесь свет — гэта вечныя арэлі». Бо ўсё бесперапынна гайдаецца, гаворыць ён, зямля, Каўказскія горы, Егіпецкія піраміды і ўсё астатняе. Што праўда, то праўда. А як ён піша пра каханне! З якой шчырасцю і мудрасцю. Або вось такая думка: кожны пазбягае прысутнічаць, калі нараджаецца чалавек, і кожны спяшаецца паглядзець на яго смерць; каб знішчыць чалавека, шукаюць шырокае поле і дзённае святло; каб стварыць — хаваюцца ў цёмных і цесных кутках. Лічыцца прыстойным хавацца і чырванець, каб стварыць яго, і лічыцца за славу — уменне расправіцца з ім...

Я таму загаварыў пра Мантэня, што мяне зацікавілі яго педагагічныя ідэі. Боцман Харашун іх ухваляе і вылучае з поглядаў французскага філосафа тры моманты. Першы: выхаванне, вучоба павінны служыць адзінай мэце — адукаваць асобу, а не проста, нібы цвікі, убіваць у галаву нейкія веды. Другі: кніжная вучонасць — гэта ўпрыгожанне, аздоба, а не падмурак. Мантэнь спасылаецца на Платона, які сцвярджаў, што сапраўдная філасофія — гэта цвёрдасць, вернасць і добрасумленнасць. І трэці: мала загартаваць душу дзіцяці, гэтаксама патрэбна гартаваць і яго мускулы. Мне здаецца, што стары Мантэнь мае рацыю. Я ўдзячны боцману за кнігу.

Здаецца, я пісаў, што наш боцман збіраецца паступаць на філасофскі факультэт. Летась ён экстэрнам скончыў вячэрнюю школу. Цяпер рыхтуецца да ўступных экзаменаў. У яго два сыны. Старэйшы ходзіць у сёмы клас, піша бацьку лісты. Харашун, калі чытае іх, хмыкае, рагоча і часта паўтарае: «Ну, падшыванец, малаток! Мастак травіць, салага... Вясёлы хлопец. Будзе маракам! Так трымаць!» Дарэчы, боцман — надзвычай дужы чалавек. Неяк ён па-сяброўску ўзяў мяне за локаць, дык я ледзь не сеў: сціснуў, як абцугамі, а сам рагоча. Давялося напружыць усю волю, каб не закрычаць. Расказваюць, што аднойчы Харашун узяў за локаць маладзенькага лейтэнанціка, які толькі прыбыў на лодку, дык той страціў прытомнасць. Далі яму спірту, каб ачуняў. Але потым і было смеху. Неяк па-

дыходзіць да мяне Харашун і пытае, ці бачыў я фільм «Ля возера». «А што, цікавы?» — спытаўся я. «Варта паглядзець»,— адказаў ён. А потым у нас разгарэлася спрэчка пра гэты фільм. Каб паслухаў Герасімаў! Акцёры спадабаліся. Увесь экіпаж закахаўся ў Белахвосцікаву... апроч мяне. Я сказаў, што мне больш падабаецца Шукшын — цікавы акцёр, самабытны пісьменнік. Толькі адзін чалавек мяне падтрымаў — боцман Харашун.

— Шукшын — малайчына. У любой ролі ён жыве, а не іграе. Яму верыш. І як рэжысёр ён надзвычай таленавіты. А пісьменнік які! Усё можа гэты чалавек. Проста дзіва! Рэдкі самародак! — з незвычайным захапленнем гаварыў боцман.

Урэшце ўсе сышліся на тым, што фільм «Ля возера» добры, своеасаблівы, тонкі, хаця і занадта зацягнуты.

— Эх, далі б мне ў рукі, як мой бацька гаварыў, нажэнцы, і быў бы фільм на адну серыю, затое без нудоты. На вялікі з прысыпкай,— боцман паказаў палец і падміргнуў.

Спрачаліся позна. Я дзівіўся, як добра ведаюць хлопцы — па сутнасці, радавыя гледачы — акцёраў, рэжысёраў і густ маюць не благі. Харашун спрабаваў падсумаваць спрэчку, але яшчэ болей заблытаў. Праўда, думку ён выказаў цікавую.

— Чорт яго ведае,— пачухаў ён патыліцу, прыгладзіў сваю «чаадаеўскую» прычоску, агледзеў нас.— Мастацтва — рэч складаная. Вось тэатры цяпер усе новыя спектаклі ставяць у дзвюх дзеях, а не ў трох, як раней. Жыццё імклівае. Няма часу сядзець у тэатры па чатыры гадзіны...

Боцману запярэчылі: за спектакль грошы аднолькавыя незалежна «ад дзеяў», а за двухсерыйны фільм — білет удвая.

— Не, хлопцы, справа тут не толькі ў камерцыі. Вось падумайце самі: жыццё імклівае. Людзі на работу спяшаюцца, з работы таксама бягуць, мітусяцца, ядры тваю каламашку... На вуліцы знаёмыя праходзяць міма, не пазнаюць адзін аднаго... Усё трушком, подбегам, няма калі азірнуцца. Дагнаў чалавек аўтобус, уціснуўся — сістэма ніпель: не націснеш — не ўлезеш. Прыехаў, ледзь паспеў на сеанс. Сеў, і тут на

табе: павольна, шырока разварочваецца дзея, буйным планам — чалавек. Прыгожая, светлая дзяўчына. Слухай, ядры тваю каламашку! Яна з табой гаворыць. Бачыш, яна задумалася? Не спяшайся хоць тут, прыгледзься да яе: якая яна шчырая, чыстая. А яе бацька! Іншыя добрыя людзі... Можа, кіно і спрабуе запаволіць час, спыніць імгненне. Можа, менавіта аб гэтым думаў рэжысёр, ствараючы фільм.

— Харашо гаварыце, таварыш мічман, а сматрэць картыну нэінтэрэсна,— з невынішчальным каўказскім акцэнтам прамовіў Тамбій. Усе засмяяліся, а падбадзёраны Тамбій дадаў: — Дэкрэт нужон. Запрэтыць дэлаць плахой двухсерыйны фільм.

Вось так і скончыўся наш кінематаграфічны дыспут. Ой, мілая мая, доўгі і нудны ліст атрымліваецца, а мне яшчэ захацелася сказаць колькі слоў пра тое, як маракі глядзяць фільмы, раз ужо зайшла гаворка пра кіно. Але пра гэта заўтра — другая серыя. Сёння ўжо няма калі.

Пішу далей. Клуб у нас, на беразе, даволі вялікі, але замест крэслаў — «банкі» (табурэты), збітыя па шэсць штук разам. Гледачоў звычайна набіваецца поўна, і сярод іх — аніводнай жанчыны. Таму падзеі на экране адразу каменціруюцца і часам досыць салёнымі выразамі. Калі на экране цалуюцца, хто-небудзь абавязкова крыкне: «Вахценны, на выхад!» або «Вахценны, тушы лямпу!» А бывае, і даволі часта, з калідора даносіцца: «Старшы матрос Партноў, на выхад!» І адразу вясёлы рогат хваляй пакоціцца па зале: усе ведаюць Саньку Партнова. Ён купіў гітару і зрабіўся папулярным. Я пісаў яшчэ з вучэбнага атрада пра яго: ён слаў пісьмы чатыром дзяўчатам, цяпер, мабыць, ніводнай. Хлопец ён даволі прыгожы, але бакенбарды яму не да твару. І як мы яго ні крытыкуем — не здаецца. І што самае цікавае. Санька надзвычай любіць расказваць пра свае заляцанкі і шматлікія перамогі, і ўвогуле, вялікі аматар «патравіць». Не раз мы выкрывалі яго ману, даказвалі, што ён «чытаў афішы», а не цалаваўся з дзяўчынай. Чытаць афішы — азначае: у кішэні пуста, а да дванаццаці далёка, у часць ісці рана. Партноў не крыўдзіўся і ў наступную нядзелю прыдумваў новую гісторыю пра каханне. Дык вось, ведаючы ягоную слабасць, і крычаць хлопцы «на

выхад», каб ён не пабачыў самы цікавы момант. Часцей за ўсё жартуе Ахад. Прыроджаны артыст, ён выдатна падрабляе галасы. Можа загадаць голасам вахценнага афіцэра ці нават старпома. І бедны Санька стрымгалоў кідаецца ў калідор... А сцены клуба дрыжаць ад рогату. Пасля кіно Санька падыходзіць да Ахада Абдуназарава і гаворыць:

— Скажы мне, кудзеснік, любімец багоў, за што ты абдурыў Назара?

— Якога Назара? Зачым так гаварыш! Я не бачыў яго.

— Ах, ты не бачыў? Зато я бачыў яго. Ён расказаў мне. Калі яго ты абдурыў, то мяне больш не падманеш...

Мы рагочам, хапаемся за бакі. Санька і Ахад — таксама. А праз дзень-два «вахценны» зноў крычыць: «Старшы матрос Партноў, на выхад!!!»

У нас таксама адчуваецца блізкасць восені. Служыць засталося мала: у кастрычніку пойдзе апошні год. Хлопцы думаюць пра інстытуты. Тамбій збіраецца паступаць у радыётэхнічны. Вярбую ў Мінск — не хоча. Цягне мяне на Каўказ. Цікава было б з'ездзіць. Юргіс марыць аб мараходным вучылішчы. Ахад будзе паступаць у Омскі інстытут інжынераў-чыгуначнікаў. Што ж, кожнаму сваё. А Санька сказаў так:

— Не, братва, я ў інстытут лезці не буду. У мяне ёсць рабочая спецыяльнасць. Здам на пяты разрад, потым на шосты. Кавалак хлеба надзейны. Дыплом мне не патрэбен. А вось універсітэт марксізма-ленінізма хачу скончыць, каб у жыцці разбірацца... Дыялектыку трэба ведаць...

Мне здаецца, што ён мае рацыю. Курс яго правільны. Прыслаў ліст Слава Аўсюк. Такі задаволены — паступіў. Перадае табе прывітанне.

Разам з лістом да цябе адсылаю пісьмо ў дэканат. Прышлюць тэмы кантрольных — адразу пачну штурмаваць. Калі нават зімой не змагу прыехаць, дык улетку здам і зімнюю сесіі. Вось такі задумаў я дзёрзкі план.

Віншую цябе, мілая, з новым навучальным годам, жадаю вялікіх поспехаў, і высокага натхнення і крылатай маладосці.

23 жніўня. Твой Аляксей.

Родны мой, дарагі!

Учора атрымала тваё пісьмо, а сёння пішу адказ. Ліст твой, хоць ён і доўгі, прачытала некалькі разоў. І нават уявіла, як праходзяць у вас вучэнні. Глядзі там, добра слухай мора, каб не прарваліся ў нашы воды чужыя субмарыны.

Дзякуй за віншаванне з новым навучальным годам. Сёння займаліся першы дзень. За лета дзеці падраслі, так загарэлі — не пазнаць. А колькі кветак мне падаравалі! Прынесла дамоў вялізнае бярэмя. У кожным пакоі паставілі па тры букеты, астатнія раздалі суседзям. Кветкі атрымліваць, канечне, прыемна. Неяк і да сябе пачынаеш ставіцца з большай павагай. Бачу, ты моршчышся і гатовы сказаць: ну і хвалько! Так, хвалько! Раз у год можна і пахваліцца. А як падумаю, што зноў трэба правяраць сшыткі, пісаць планы і не забываць пра універсітэцкія кантрольныя... Лепш пра гэта не думаць! Табе ж цяжэй, але ты ніколі не скардзішся. Напішы хоць раз пра «тяготы и лишения» службы, як сумуеш, як хочаш дадому, і мне будзе так сорамна за свае ўсхліпы.

Мантэня, Алёша, я пакуль што не чытала. Пра кіно напішу табе наступны раз. Сёння, мабыць, перахвалявалася: галава баліць. Але гэта нічога. Заўтра ўсё будзе добра. А ў суботу ці ў нядзелю напішу табе доўгі ліст і ў адказ буду чакаць такі ж доўгі.

Твая Галя.

1 верасня.

P. S. Люся выйшла замуж і пераехала ў Віцебск. Да Люсі цябе ўжо не раўную.

Дарагі Алёша!

Прабач за спазненне. Праўду кажуць людзі: адклад не ідзе ў лад. Не ўгледзела, як праляцелі тры тыдні. Школа забірае ўвесь час і ўсе сілы. Учора давала адкрыты ўрок па прыродазнаўству. Дзеці назбіралі рознакаляровага лісця, напісалі сачыненні: як адлятаюць журавы, ластаўкі, як паводзяць сябе звяры, як выглядае лес. Я так хвалявалася перад пачаткам урока... Чаму я такая баязлівая? А калі ўбачыла, як дружна падняліся дзеці, як дружна і звонка павіталіся, адразу супакоілася. Света Катовіч (Свецік) намалявала карціну: на ўскрайку лесу стаяць жоўтыя бярозкі, а сярод

іх — рабіна з чырвонымі, што кроў, гронкамі ягад. Андрэйка Рабцэвіч зрабіў сімвалічны малюнак: вясна з кветкамі, восень з яблыкамі. Ды так хораша намаляваў! А колькі дзеці вывучылі вершаў, загадак, прымавак пра восень! Я сама дзівілася. Урок прайшоў добра. Калі скончыўся, усе настаўнікі кінуліся мяне віншаваць, усе гаварылі наперабой. А я быццам нічога не чула. Стаяла і маўчала, у галаве не было ніводнай думкі, здавалася, што яна напхана ватай. Так стамілася, што нават парадавацца не было ўжо сіл. Праз тыдзень яшчэ адкрыты ўрок — матэматыка. Тут асабліва нічога не прыдумаеш, галоўнае, каб дзеці хутка і правільна рашалі задачы і прыклады. А дамагчыся гэтага не проста. Словам, тыдзень будзе цяжкі.

Зноў трэба думаць аб кантрольных работах, універсітэцкіх, а сесці за іх усё часу не стае. Маці захварэла, і хатнія клопаты леглі на мае плечы. Колькі работы ў хаце! Страшна падумаць, што давядзецца займацца ёю з раніцы да вечара. Я баюся патануць у хатняй гаспадарцы, а па-другое, адзінае, што я ўмею рабіць — варыць манную кашу. Табе варта задумацца над гэтым, мілы, ці не праўда? Я ўсё болей пераконваюся, што жыццё — вельмі складаная штука. Неяк ішлі са школы разам з Вольгай Сяргееўнай. Помніш, пісала пра яе? Разгаварыліся пра жыццё-быццё. Настаўніца яна ўмелая, як чалавек добрая, даволі прыгожая, апранаецца заўсёды з густам. Муж яе нейкі начальнік у будаўнічым трэсце — персанальная «Волга» возіць яго. Вольга Сяргееўна гэтым вельмі ганарыцца. У іх адзін сын, ходзіць у чацвёрты клас. Дык вось што яна сказала мне:

— Не працавала б я ў школе, жыла б у вёсцы... Была б жонкай механізатара... Мела б пяцёра дзяцей, займалася б гаспадаркай... Саліла на зіму гуркі, капусту... У дзяцінстве я так любіла чырвоныя качаны. Гэта капуста, прасоленая ў бурачным расоле. Яна такая ружовая і надта смачная. Дык вось, ружовы качан для мяне — сімвал дамавітасці, здаровага і чыстага жыцця... І вось уяві сабе, чакала б я мужа з работы, шыла распашонкі і мо была б шчаслівейшай. А то адзін гэты Сержык залізаны. Ужо не ведаеш, як да яго падступіцца? І тое не так, і гэта не так... Усё аддаеш чужым дзецям... У мужа бясконцыя нарады, пасяджэн-

ні. То гарыць план, то зрываецца графік. Нервы, бяссонне...

Здзівіла мяне Вольга Сяргееўна. Здаецца, такая рэспектабельная, модная кабета. Многія нашы жанчыны зайздросцяць ёй. А яна так не задаволена жыццём, сваім лёсам. А можа, гэта проста часовы ўсхліп? Прапануй ёй нешта іншае — адмовіцца. Можна ж было мець і яшчэ адно дзіця. На год-два ўзяць адпачынак. Пракарміў бы муж. Дык, мабыць, сама не захацела, пабаялася закіснуць дома. А цяпер кусае сябе за локці. І ведаеш, Алёша, мне здаецца, калі ў чалавека кепская сям'я, дык як бы ён ні гарэў на рабоце, колькі б яна ні давала радасці і захаплення, які́м бы вялікім начальнікам ні быў, ён няшчасны. Выключэнне магу зрабіць для геніяў. Бо што такое шчасце? На маю думку, гэта — работа, справа жыцця; гэта — дзеці; гэта — каханне. Вось з такіх трох кампанентаў (даруй за бюракратычнае слова) і складаецца шчасце. А ты як думаеш, Алёша?

Я лічу, што для жанчыны работай, і не менш ганаровай, чым любая іншая, можа быць хатняя работа, догляд дзяцей, клопаты пра мужа. Ва ўсякім разе, так можа быць, пакуль падрастуць дзеці. А потым можна зноў спакойна працаваць да пенсіі. Ой, прыгадалася адна размова, пачутая ў тралейбусе. Я з-за гэтага праехала свой прыпынак — так заслухалася. Гутарылі дзве жанчыны, абедзве ўжо сталыя, гадоў па сорак. Вось аб чым яны гаварылі:

— ...А што цяпер жонка? Хто яна? Што думае? Чым жыве? Толькі ведай — мужу дагадзі, дзяцей дагледзь, на работу паспей... Дзе ўжо тут каханне?

— Мілая мая, пра што ты гаворыш? Напрацуешся за дзень. Нацягаешся па магазінах з сумкаю. Ні рук, ні ног. Ідзеш дамоў, што карова ў стойла... Пераспаў ноч, а раніцай усё зноў пачынаецца...

Гэтыя словы «ідзеш дамоў, што карова ў стойла» мяне вельмі ўзрушылі. А мы гаворым пра высокія матэрыі, лунаем у воблаках... Што ты думаеш аб хатняй гаспадарцы? Ці будзеш памагаць жонцы на кухні? Пішы, мне хочацца гэта ведаць.

У кіно бываю рэдка. «Ля возера» глядзела па тэлевізары. Акцёры цудоўныя, і калі б карціна была карацейшая, яна б выйграла. Неяк Ларыса зацягнула мяне

на фільм «Дзікае сэрца», нейкі замежны — нехта параіў ёй. Што за лухта! Ледзь выседзела да канца. Такая банальшчына, такая меладрама, проста жах. І самае дзіўнае — зала была бітком набіта, а ля ўвахода падлеткі пыталіся, ці няма лішняга білета. Як трэба нам выхоўваць густ! Уменне адрозніваць жывыя кветкі ад папяровых, сапраўднае мастацтва ад сурагату. І пачынаць гэта трэба ў дзіцячым садзе, а болей за ўсё вучыць гэтаму ў школе — вучыць слухаць музыку, разумець карціны мастакоў, вучыць жыць, быць шчаслівымі... Бо веды можна дабраць і пазней. А характар, любоў да працы, добрыя прывычкі, густ — усё гэта закладваецца ў дзяцінстве. Мы пра гэта не дбаем. Галоўнае — паспяховасць. А які чалавек вырасце? Думаць пра гэта няма калі. Ці не хопіць нам ганяцца за нейкай неабсяжнай сумай ведаў? Ці не хопіць толькі напаўняць сасуд і не бачыць жывога чалавека?!

Калі чытала твой ліст, ведаеш, аб чым падумалася? Во, каб трапіць да вас у клуб непрыкметна, сесці з табой побач, затаіць дыханне і глядзець. І раптам вахценны б выгукнуў: «Старшына першай стацці Гардзіевіч, на выхад!» Мы б разам падняліся і пайшлі...

Фантазёрка я, праўда, мілы? Проста я вельмі хачу цябе бачыць, сумую па табе, хачу схадзіць з табою ў кіно на апошні сеанс і каб месцы былі на апошнім радзе... Нават не верыцца, што гэта будзе. Але ж яно скора будзе...

Дзіўнае надвор'е стаіць у нас. Было холадна, раніцой туман, імжа, а зараз цяплынь і дождж ідзе буйны, як у чэрвені. Значыць, будуць грыбы: зялёнкі, радоўкі, рыжыкі ды і баравікі яшчэ могуць пракінуцца. Паехалі ў грыбы! Хоць у думках, а цераз год, нават раней, зробім гэта наяве. Хутчэй бы!

На днях званіў Ярохін. Ён усё яшчэ спадзяецца. Я паўтарыла яму тое, што і раней. «Добра,— сказаў ён.— Пачакаем». Я моўчкі паклала трубку. Ты не думай пра гэта, Алёша. Вер мне.

22 верасня. Твая навечна Галя.

Родная мая, любая Галінка!

Можаш мяне павіншаваць: я — кандыдат у члены Камуністычнай партыі! Рыхтаваўся да гэтага даўно. Але ўсё не адважваўся падаць заяву. Наш парторг не

раз гутарыў са мной. Ну, і ўрэшце, я адважыўся. На бюро прынялі аднагалосна, на партыйнай камісіі злучэння — таксама, але спачатку адбылася такая размова. У мяне быў дзіўны настрой: нейкая ўзнёсласць ці то радасць ахапіла мяне. Я стараўся прыхаваць яе, але водбліскі гэтай радасці, мабыць, былі бачны на твары. Вось адзін з членаў камісіі, немалады капітан другога рангу, з шырокім азызлым тварам, зірнуў на мяне спадылба, з'едліва ўхмыльнуўся:

— А што вы ўсміхаецеся, таварыш старшына? Чаму так не сур'ёзна паводзіце сябе? Вы ж не ў Асавіяхім уступаеце, а ў партыю,— пачаў ён даводзіць.— І прымаюць у партыю самых дастойных, вартых высокага звання камуніста... А гэта значыць...

І пайшло і паехала... Халодным глухаватым голасам даваў ён прачуханкі, а ягоныя пальцы, тоўстыя, парослыя рудаватымі валаскамі, метадычна барабанілі па каробцы «Казбеку». Зрэдку ён ускідваў на мяне стомленыя шэрыя, нібы алавяныя, вочы. Урэшце старшыня парткамісіі, хударлявы, з высокім маршчакаватым ілбом капітан першага рангу, не вытрымаў:

— Гэта што, лекцыя ці выступленне ў спрэчках?

«Кап. два» асекся, сярдзіта чмыхнуў і змоўк. Я расказаў аўтабіяграфію. Звычайна — дзе нарадзіўся, дзе вучыўся. Пыталіся пра бацькоў. «Кап. два» паганяў такі па Статуце, задалі некалькі пытанняў аб сучасным міжнародным становішчы. Потым нампаліт і сакратар партбюро расказалі пра мяне. Шчыра кажучы, хвалілі аж занадта. Не забылі і пра тое, што скончыў курс універсітэта, класны спецыяліст і т. п. Прынялі аднагалосна. «Кап. два» сядзеў хмуры, як восеньскае неба, і не сказаў болей ні слова. Старшыня камісіі моцна пацiснуў мне руку: «Так трымаць, таварыш Гардзіевіч! Курс верны». Выйшаў я адтуль, не чуючы ног пад сабой, і пахмурны восеньскі дзень здаўся светлым, як у маі.

І яшчэ адна падзея. З універсітэта прыйшоў адказ. Далі «дабро». Па-марскому гэта азначае — дазволілі. Прыслалі тэмы кантрольных работ, калі патрэбны падручнікі, кнігі — універсітэцкая бібліятэка можа выслаць. Свет не без добрых людзей! Такі клопат натхняе. Нават калі на зімнюю сесію вырвацца не ўдасца, дык усё здам летам, абы кантрольныя залічылі.

У мяне цяпер такі ўздым, што гатовы спяваць цэлы дзень. Неяк сеў гуляць у шахматы з Тамбіем. Ён гуляе лепш за мяне і звычайна выйгравае. А тут за адзін вечар — тры партыі. Тамбій паківаў галавой: «Харашо гуляеш, Лёха. Савсэм харашо!» — і больш нічога не сказаў за вечар — перажывае нечаканае паражэнне.

Боцман Харашун ездзіў у водпуск на Гродзеншчыну. Вярнуўся задаволены, памаладзелы. Гаварыў, што яго землякі жывуць заможна і хораша. На кожную сям'ю — асобны двухпавярховы катэдж, ёсць газ і водаправод, Дом культуры з басейнам і спартыўнай залай, вуліца заасфальтавана. А колькі тэхнікі ў калгасе! Ёсць нават радыёсувязь з усімі брыгадамі. Едзе старшыня на «Волзе», можа выклікаць любую брыгаду ці ферму і даць прачуханкі каму трэба. Мы ўсе слухалі і дзівіліся. А я, шчыра кажучы, ганарыўся: і мы не лыкам шыты!

— І вось што я прыкмеціў, братва. Яшчэ калі сам быў матросам. Хадзіў у бесказырцы... Да маракоў стаўленне асаблівае. Павага ва ўсім відаць. Гэта яшчэ з часу рэвалюцыі. Людзі памятаюць — «Аўрора» дала залп. Марачкі бралі Зімні... І ў гэтую вайну маракі змагаліся, як ільвы.

Расказаў боцман і беларускі жарт, які пачуў у дарозе. Пасажыр гаворыць праваднiцы: «Пабудзіце мяне ў Жлобіне. Баюся — праеду. Я так моцна сплю, што жонка, калі трэба ўспароць, сцягвае з ложка».— «Даражэнькі мой, я дваццаць гадоў працую. Усялякіх бачыла. Пабудзім, высадзім»,— супакоіла праваднiца. Прачынаецца чалавек: «Што за станцыя?» — «Гомель». Узняў вэрхал: «Як жа так?! Я прасіў... Безабразія!..» Пасажыры пераглядваюцца. Адзін і кажа: «Падумаеш, такое бяды, праехаў станцыю, раскрычаўся».— «Гэта што? — гаворыць другі.— Той, якога у Жлобіне высадзілі, яшчэ не так крычаў...» Было гэта даўно і няпраўда, але мы нарагаталіся ад душы.

Усё часцей думаю пра будучыню. Мо паспрабаваць перавесціся на дзённае аддзяленне, на трэці курс? Праз тры гады я б скончыў універсітэт, усяго на адзін год пазней за цябе. Трэба ж неяк наганяць страчаны час. Хаця ні ў якім разе не лічу службу страчаным часам. Яна дала мне вельмі многа. «На флатах» — во што

значыць вернасць марскому жаргону,— я прайшоў добрую школу жыцця, добрую загартоўку душы і цела. Каб не служба, не ведаю, як бы склаліся нашы адносіны, а так нашае каханне вырасла, узмужнела, і гэтаму паспрыяла разлука, жыццёвыя выпрабаванні. Бадай, Шэкспір меў рацыю, гаворачы:

Калі з разлукі вернецца любоў,
Яна намнога стане трывалейшай.

Маленькую кніжыцу санетаў я набыў, калі здаваў уступныя экзамены і калі мы з табой пазнаёміліся. Нядаўна сястра Адарка, якая жыве з бацькамі, дасла-ла мне санеты. Цяпер не разлучаюся з імі. Скора амаль усе буду ведаць на памяць... Пасля Шэкспіра не хочацца гаварыць і думаць пра хатнюю гаспадарку, і таму пераношу гэтую размову да наступнага ліста.

Учора атрымаў пісьмо ад Славы з нейкімі намёкамі, недагаворкамі. Можа, ён заляцаецца да цябе, клінкі падбівае? Ён здольны на ўсё. Будзь асцярожней. А можа, гэта рэўнасць заварыла атруту, і мне здаецца ўсё не такім, як ёсць на самай справе?

Пішы хутчэй, развей мае сумненні...

Бывай здарова, мая любая!

Цалую!

Увесь твой А.

17 кастрычніка.

Дарагі Алёша!

Віншую цябе з уступленнем у партыю. Разумею тваю радасць і падзяляю яе. Ты павінен быць сапраўдным камуністам-ленінцам, каб я ганарылася табой.

У мяне ўсё нармальна. Праўда, часу, як заўсёды, не хапае, затое хутка ляцяць дні. Гэта трохі засмучае, але болей радуе, бо неўзабаве мы з табой сустрэнемся. Хутчэй бы!

У школе, здаецца, пайшло на дабро. Была завуч нядаўна на ўроках — пахваліла. Але іншы раз задумваюся: ці правільна я вучу сваіх гаўрыкаў? Здаецца, падыход у мяне верны, хоць калі, бывае, сапсуюць настрой, раззлуюць, дык лаю іх у душы і думаю, што не вучу, не выхоўваю іх, а калечу. Праўда, такія моманты здараюцца рэдка, часцей дзеці радуюць.

Вось што было ўчора. На ўроку прачытала ўголас апавяданне Янкі Маўра «Слёзы Тубі». Ты помніш яго? Як жыў хлопчык Тубі з вострава Цэйлон, як ныраў па

жэмчуг і трапіў у пашчу акулы. Скончыла чытаць, гляджу і вачам не веру: Петрык, Юрасік і яшчэ некаторыя самыя гарэзы выціралі кулачкамі слёзы. А дзяўчынкі хліпалі ваўсю. Ну, дзяўчынкі хай сабе — у іх вочы на мокрым месцы. А што хлапчукі пусцілі слязу, гэта мяне вельмі здзівіла, а яшчэ болей узрадавала. А ведаеш, якое пытанне задаў Андрэйка! «Хіба жэмчуг даражэй за чалавечае жыццё?» Я расказала, што для багатых людзей, якім служыў Тубі, самае галоўнае — грошы. «Няўжо ім не шкада было маленькага Тубі?» — уздыхнула Свецік. І я падумала: добра, што мае жэўжыкі не абыякавыя, не чэрствыя, гэтак чула ставяцца да чужога гора. Значыць, вырастуць яны шчырымі, харошымі людзьмі, клапатлівымі бацькамі сваіх дзяцей. Падумаеш так, і не шкада тых вечароў, што праседжваю над планамі і сшыткамі, што хаджу па дамах да адстаючых. Цяжка, але што зробіш. Затое ім лягчэй. Бо, як сказаў некалі Леў Талстой, чым лягчэй настаўніку вучыць, тым цяжэй вучням вучыцца; чым цяжэй настаўніку, тым лягчэй вучню. Чыстая праўда!

Ой, Алёша, чаму так шмат гора на свеце? Мужу Яніны зрабілі другую аперацыю. Ён ужо не ўстае. Яніна штодзень ездзіць да яго, возіць ежу, яна сама варыць дома, там прыбірае за ім. Мы ўсе стараемся памагаць ёй, замяняем на ўроках, каб яна магла раней паехаць. Няўжо медыцына бяссільная перад гэтай хваробай? Мо здарыцца цуд і каханне пераможа?..

Пішы, мой любы, часцей, хоць кароткія лісты: жывы, здаровы, кахаю. І я буду рада.

Моцна цалую!

24 кастрычніка. Твая Галя.

P. S. Алёшачка, ніякіх сумненняў у цябе не павінна быць. Лепш за цябе няма нікога на ўсім свеце! Помні пра гэта!

Родная мая, каханая!

Учора атрымаў тваё пісьмо, а сёння даю адказ. Перш-наперш дзякуй за віншаванне. А па-другое, жывы, здаровы, кахаю. І як сказаў стары Шэкспір: «Любі-мая — гучыць ў радкоў маіх, на новы лад малітваю старою».

У гэтым лісце я абяцаў напісаць, што я думаю на-

конт сям'і. Шчыра кажучы, я цьмяна ўяўляю гарадскую сям'ю, бо вырас у вясковай. У паходах мы не раз гаварылі пра гэта. І вядома ж, боцман Харашун быў завадатарам. Дарэчы, ён даваў мне рэкамендацыю ў партыю. Другую напісаў нампаліт, а трэцюю — дало камсамольскае бюро. Дык вось, нашы гутаркі пра сям'ю, што адбываліся пад вадой, дзе-небудзь у Міжземным моры або ў Атлантыцы, былі даволі цікавымі. Боцман звычайна сыпаў выказваннямі мысліцеляў старажытнасці: у яго зашмальцаванай запісной кніжцы ёсць усё, а потым ён спускаўся з аблокаў на нашу грэшную зямлю, а дакладней, пад ваду. Сумбарына ўвесь час ішла на глыбіні, мы не бачылі ні сонца, ні зорак. Нам свяціла ўсё тое ж роўнае малочнае святло плафонаў. І на зямныя справы мы пазіралі знізу ці збоку, ва ўсякім разе — погляд гэты асаблівы. Я, здаецца, пісаў пра гэта, таму не буду паўтарацца. Дык вось што сказаў боцман:

— Недзе чытаў я такую байку. Сустракае адзін чалавек другога, а той нясе шэсць боханаў хлеба. «Навошта табе столькі хлеба?» — пытаецца першы. «Як навошта? Два боханы з'ядзім мы з жонкай, два пазычу, астатнія два аддам, каб выплаціць запазычанасць, нядоімку»,— адказвае другі. Цікава, ядры тваю каламашку? Хто разгадае гэты рэгбус-краксворд?

Боцман акінуў хлопцаў вясёлым позіркам зеленаватых вачэй, зняў пілотку, прыгладзіў рэдкія валасы — «чаадаеўская прычоска», зноў надзеў пілотку, звыкла намацаў рабром далоні зорачку, каб яна была на лініі носа.

— Дазвольце мне, таварыш боцман? — Тамбій падняў руку, як першакласнік; каўказцы любяць розныя «прытчы», мабыць, таму Тамбій першым змікіціў: — Значыць, два сабе і жонцы. Два дзецям — пазыка, каб потым яны кармілі бацькоў. Два боханы — старым, выплата нядоімкі.

— Правільна, Тамбій. І так яно вялося з давён-даўна. Бацькі гадавалі малых і кармілі старых. А дзяды і бабулькі пасаблялі даглядаць малых. І вось гэты магутны ланцуг звязваў пакаленні людзей. Моцна звязваў, марскім вузлом... Не будзеш мець дзяцей, значыць, на згоне жыцця ніхто табе і вады не падасць. Вось такім чынам, ядры тваю каламашку.

Харашун спахмурнеў, між брывей залягла глыбокая, рэзкая, быццам рассечаная нечым наўскасяк, маршчынка. Улетку вакол яе заўсёды белая пляма — на сонцы ён жмурыцца, моршчыцца, і скура не загарае. Я даўно прыкмеціў, што правае брыво ў яго вышэй за левае, і таму правае вока здаецца большым, і вось гэтая асіметрыя разам з кароткім, задзірыстым носам надаюць твару нейкі незвычайны выраз — быццам Харашун пастаянна нечаму здзіўляецца. Боцман уздыхнуў і гаварыў далей:

— Дык вось цяпер гэты ланцуг ужо не той. Старыя атрымліваюць пенсію. Кавалак хлеба ім забяспечаны. Цяпер не кожная бабуля хоча гадаваць унукаў. Узяць маю цешчу. Назбірае грошай, а тады ў Маскву, а то ў Ленінград. Па тэатрах ходзіць, па канцэртах. А дачка з дзецьмі... Даць рады не можа... Хоць разарвіся, калі я ў плаванні. На маю думку, братва, карэнне сям'і падсекла урбанізацыя. Хто такія сучасныя гараджане? Былыя вясковыя хлопцы і дзяўчаты. Так, так, ядры тваю каламашку. Вяскоўцы складаюць большасць гарадскога насельніцтва. Яны гадаваліся ў сем'ях, дзе бацька араў, сеяў, касіў, вазіў дровы. Маці жала жыта, варыла бульбу, мыла бялізну. Карацей, быў спрадвечны падзел на мужчынскую і жаночую работу. А цяпер у гарадской кватэры мужчынскіх работ мала. Цвік забіць раз у год. Мужчына адно прыносіць зарплату, не заўсёды поўную. На бутэльку ж трэба пакінуць. На футбол...

— Гэта праўда, таварыш мічман,— падтакнуў Ахад.— На папяросы жонка дасць, а на «маленькую» не заўсёды.

Мілая мая Галінка, мусіць, надакучыў табе сваёй пісанінай? Канчаю, хоць я выказаў не ўсё, пра што мы гаварылі. Згодзен з табой і таксама лічу, што быць хатняй гаспадыняй нялёгка. Мне падабаецца твой цвярозы погляд на сямейнае жыццё. Памагаць буду ва ўсім, і пра гэта я, здаецца, пісаў. Але нам трэба дамовіцца, каб не набываць лішнія рэчы, не ганяцца за рознымі трантамі. Мець усё неабходнае і нічога лішняга, бо можна зрабіцца рабом рэчаў, палоннікам. А гэта жахліва. Я ненавіджу «вещизм». Вось коратка мае (і не толькі мае) думкі аб сям'і і хатняй гаспадарцы.

Пішы, мілая, хутчэй. Не трэба доўгіх лістоў. У цябе так мала часу. Беражы сябе.

Моцна цалую!

19 лістапада. Твой А.

Дарагі Алёша!

Даруй, што затрымалася з адказам. Суткі такія кароткія, а работы па самыя вушы. Дзякуй за ліст. Ой, якія цікавыя ў вас там гутаркі! Мабыць, асаблівыя ўмовы, тое, што няма зямной мітусні, спрыяюць вам думаць шырока, маштабна, па-філасофску. А боцман твой малайчына. Як бы я хацела яго паслухаць!

А цяпер, Алёша, пра школьныя навіны. Учора пісалі сачыненне пра зіму. Ёсць цікавыя. Але мала ў іх непасрэднасці, дзіцячай наіўнасці. Відаць, я перастаралася, занадта «падрыхтавала» вучняў. Усе пісалі пра сняжынкі, пра зайку, вавёрку, лісу, як жывецца ім узімку. Спачатку чытала і радавалася, а потым знайшла шмат памылак, засмуцілася. І нават Свецік атрымала тройку за пісьменнасць і «выдатна» за змест. Усё-такі яна разумніца.

Неўзабаве канец другой чвэрці. А там — перадышка. Дзеці змагліся, я таксама. Неяк маці адной дзяўчынкі гаворыць мне: «Учора Аленка прыйшла са школы з плачам: «Галіна Максімаўна не заўважыла, што я ў белым хвартушку, па-святочнаму апранутая». А раніцай яна так ужо збіралася. Спытае Галіна Максімаўна, чаму я такая, скажу: маці абараняе дысертацыю. А спытаюцца сяброўкі, скажу: у мамы свята... Я разумею, вы стаміліся, многа дзяцей. Не да таго, каб разглядаць, хто як апрануты...» Разумная, далікатная жанчына. Не дакарала, але мне ўсё роўна так было сорамна, хоць скрозь зямлю праваліся.

Другі выпадак. Артур (бязбацькавіч) на перапынках увесь час каля мяне цёрся, за партай сядзеў утаіўшы дух, а бывала ж, круціўся, нібы ўюн на скаварадзе, уважліва слухаў, першым руку паднімаў адказваць, у сталоўцы падаў мне шклянку чаю. А я і не прыкмеціла, што ў яго новы значок: Артура прынялі ў клуб футбалістаў. Ён ганарыўся, радасць якая! І хлопчык не вытрымаў. Калі скончыліся заняткі, падыходзіць да мяне і як бы між іншым гаворыць: «Галіна Максімаўна, а ў мяне значок новы. Вось, пагля-

дзіцеl» І тут я ўсё зразумела. Пахваліла яго: «Малайчына! Добра вучыся, будзеш майстрам спорту, чэмпіёнам». Каб ты бачыў, як засвяціліся ў яго вачаняты! Было б меней дзяцей, я б адразу заўважыла той значок. А так не магла, стамілася. Для сябе зрабіла выснову: вучыцца ўсё прыкмячаць. А яшчэ падумала: меў рацыю Ушынскі, калі пісаў, што ў настаўніка не павінна быць больш дваццаці пяці выхаванцаў (!).

Нядаўна мае купалаўцы глядзелі, ў беларускім тэатры «Беласнежку і сем гномаў». Спектакль спадабаўся. А як дзеці ўспрымалі! Вось уяві сабе, грозная каралева пытаецца, звяртаючыся да залы:

— Эй, ты, народ! Ёсць сярод вас незадаволеныя?!

— Ёсць! — нечакана выгукнула зала. Дзеці адразу неўзлюбілі каралеву. Затое гномы і Беласнежка вельмі спадабаліся. Беласнежка стройная, тонкая, што лазінка, у сіняй доўгай сукенцы, сама сінявокая, валасы льнянымі хвалямі спадаюць на плечы. А галоўнае — яна добрая. І дзеці гэта адчулі і сэрца аддалі ёй. Добра, што ты не бачыў яе, а то б закахаўся... Спектакль цікавы, цудоўна аформлены. Адзіны недахоп — дыкцыя, мова. Не ўсе словы артысты даносілі, а песні ўвогуле нельга было разабраць. І вінавата не толькі дыкцыя, але і кепская акустыка. Ты, мабыць, усё разабраў бы, каб прыслухаўся, праўда?

Вось ужо канчаецца другая чвэрць. Нават не верыцца, што праз паўгода развітаюся са сваімі дзецьмі. Як яны будуць вучыцца далей? У чацвёртым класе адразу ўсе ўбачаць, чаго я вартая. Днямі неяк разгаварылася з Марыяй Антонаўнай — яна выкладае беларускую літаратуру. «Як вашы купалаўцы? Сёлета я выпускаю свой клас. Можа, мне ўзяць ваш на будучы год?» Я ўзрадавалася, а яшчэ болей устрывожылася. Марыя Антонаўна вучыла мяне. Ніколі не забуду, як яна чытала (я тады вучылася ў чацвёртым класе) паэму Янкі Купалы «Курган». Адказ гусляра вымаўляла гэтак грозна, з такім пачуццём і сама тады падалася вялікай і грознай, хоць яна невысокая, круглы твар, як месячык, з невялікім кірпатым носам, невялікія цёмныя вочкі ласкава пазіраюць праз шкельцы акуляраў, над імі шырокія, бухматыя бровы, якія, мабыць, ніколі не ведалі пінцэта, над ілбом грыўка густых кароткіх валасоў, прыцярушаных сівізной.

Апранаецца вельмі проста, але заўсёды акуратна і з густам. Калі бацькоўскі сход ці педсавет, яна ў цёмна-сіняй сукенцы з шырокім светла-блакітным каўнерыкам. Муж Марыі Антонаўны загінуў у аўтамабільнай аварыі, адна гадавала дзяцей — сын канчае інстытут, дачка выйшла замуж. За апошнія дваццаць гадоў ні разу не брала бальнічнага. Неяк жартам сказала: «Я не ведаю, якога колеру лісток непрацаздольнасці. Няма калі хварэць...»

— Старайся, Галя, каб дзецям навука была ў радасць. Гэта — самае важнае. Вучацца цяпер доўга. І той шчаслівы, каму школа дае радасць. А то гавораць: «От, дзесяць гадоў вучыўся, мучыўся, а што з таго?» Трэба зайздросціць таму, хто можа вучыцца пятнаццаць год, пераадольваць перашкоды і радавацца ад гэтага...

Я ўспомніла, калі была старшай важатай, неяк яна выступала на педсавеце, і мне запалі ў душу яе словы: «У нашай рабоце няма дробязей. Ставіцца трэба сур'ёзна да любога даручэння. Вырасце наш вучань і будзе ■ душой адносіцца да работы, да сваіх бацькоў, да іншых людзей...»

Цяпер я разумею, што ўсё гэта менавіта так, але як дамагчыся, каб дзеці вучыліся з радасцю, каб раслі добрымі людзьмі?

Неўзабаве — Новы год. Я рада, што так хутка ляціць час... Мой родны, калі не будзеш спаць трыццаць першага апоўначы, падумай пра мяне. Роўна ў дванаццаць, добра? Я — таксама. І тады ўвесь год мы будзем разам. Ёсць такая прыкмета. Не падумай, што я прызнаю забабоны! Я веру адно ў шчаслівыя прыкметы.

З Новым годам, любы!

Твая Галя.

24 снежня.

Каханенькая, родненькая!

Атрымаў выклік з універсітэта. Ура! Камандзір і нампаліт абяцаюць дзесяць сутак водпуску. Чакай мяне, мая Галінка! Нават не верыцца, што неўзабаве мы сустрэнемся. Цяпер увесь вольны час, а больш за ўсё — пасля адбою, нелегальна, у курылцы, сяджу над кнігамі. Трэба здаць экзамены датэрмінова, каб на дзень-другі заехаць дамоў. Маці так сумуе, чакае. Ды

і мне хочацца пабачыць старых. Неяк пакруціў я прыёмнік у бібліятэцы і злавіў Мінск. Перадавалі канцэрт самадзейных калектываў. Спяваў Маладзечанскі ансамбль. І гэтая песня — «Што ж ты мне сэрца параніў», кранаючая, шчымлівая, запала ў душу. А потым жанчыны з Мсціслаўскага раёна зацягнулі народную «Ой, даўно, даўно я ў мамкі была...». У мяне аж мароз па скуры пабег, горла перахапіла, ледзь стрымаўся, а то заплакаў бы, як бабёр. У нашай вёсцы таксама спяваюць гэтую песню. Бывала, надвячоркам, увесну, калі разальецца рака, бабы, дзеўкі збяруцца на ўзгор'і і заспяваюць — дружна, гучна, шырока, і ў канцы кожнай страфы доўга цягнуць — гу-у-ух! Над залітым лугам далёка коціцца звонкае чыстае рэха, аж да лесу, таямнічага, самотнага, які цёмнай сцяной падпіраў дзіўна блакітнае неба. А па рацэ з шоргатам і трэскам плывуць крыгі. Мы лётаем па ўзгор'і басаножь — зямля тут ужо прагрэлася — і радуемся сонцу і вясне. Песні былі розныя: вясёлыя, жартоўныя, бесклапотна-тужлівыя, з нейкай самотнай гарэзлівасцю. Жанчыны гукалі вясну. Памятаю пачатак адной песні: «Жавароначкі, прыляціце, цёпла лецейка прынясіце, а зімачку прыбярыце...»

Як проста і як цудоўна сказана!

Прыгадалася маці... Бывала, тчэ яна кросны і спявае, ціха, быццам забыўшыся пра ўсё на свеце. Рыпяць панажы, грукаюць набілкі, птушкай лётае між нітак чаўнок, а песня льецца і льецца. У акно бліскучыць серабром паводка, на рудаватай макаўцы кургана, што ледзь высунулася з вады, стаіць задуменны бусел — адпачывае пасля дарогі. А на курганы, што бліжэй да рэчышча Беседзі, узбіліся крыгі, і нібы белыя печы высяцца там. Помню, калі быў зусім малы і ўбачыў гэтакае дзіва, дапытваўся ў маці: «Хто склаў печ на кургане?» — «Вецер»,— адказала яна. «А ці ён гэтакі дужы?» — «Вада яму памагала. Яна несла крыгі, а ветрык падганяў, укладваў іх. А сонца ў гэтых печах паліць».— «Праснакі пячэ?» — пытаўся я, бо маці акурат пякла тады праснакі, чырвонае полымя асвятляла яе твар, на шчацэ, каля рота, была відаць паска сажы — правяла незнарок пальцам. «Так, сынок, сонца таксама пячэ праснакі і рыбкам аддае...»

Дык вось я сяджу каля акна і сукаю цэўкі. Паплю-

еш на далонь і давай круціць сукала. Такое няхітрае прыстасаванне, здаецца, яно захавалася ў нас, стаіць на гарышчы. Дык вось, я быў мастак сукаць цэўкі. Наматваць іх трэба было наўскасок, каб не спаўзалі ніткі. Насукаю з дзесятак цэвак і — зноў на вуліцу. Там чакаюць сябры, басаногія жэўжыкі. А ў кішэні ў мяне — цёплы кавалачак тоўстага сіняга шкла. Такое дзіўнае ўсё вакол праз гэтае шкло!.. Нездарма кажуць, што самая светлая, самая незабыўная пара ў жыцці чалавека — дзяцінства.

Усё, хопіць. Няма часу болей пісаць.

Да сустрэчы, любая!

12 студзеня. Твой А.

Дарагі мой чалавек!

Як я чакаю цябе, ты не можаш уявіць! Родны, мілы мой, не магу ні аб чым больш пісаць, ні думаць. Калі ты не перастаў мяне кахаць, мы будзем разам усё жыццё. Хочаш?

Цалую, пакуль табе самому не надакучыць!

15 студзеня. Твая, твая навечна Галя!

Любая марачка!

Вось я і на месцы. Прыбыў без спазнення. А субмарыны маёй няма, у паходзе. Я трапіў у каранцін — ляжу ў ізалятары. Грып. Таму ўсіх, хто вяртаецца з водпуску, заганяюць у санчасць. Трэці дзень адлежваюся. Выцягнуўся, як лут (так маці гаворыць), і ляжу. Сплю па дзесяць гадзін у суткі, чаго і зроду не было. Заўтра, відаць, выпусцяць, буду хадзіць у каравул, пакуль не вернецца наша лодка.

Сустрэў тут неспадзеўкі Хачыка Аганесяна — сябра па вучэбнаму атраду. Ён служыць на другой лодцы, таксама вярнуўся з водпуску. Вельмі змяніўся, ледзь пазнаў яго: патанеў, пасталеў, з твару самотны, задуменны... У яго вялікае гора — загінуў бацька. Хачатур ездзіў на пахаванне. Бацька працаваў шафёрам, ехаў з грузам — вёз цэглу. На крутым спуску падвялі тармазы. Наперадзе ішоў аўтобус, і каб не наляцець на яго, крутнуў убок... Засталося трое дзяцей: Хачык і дзве дзяўчынкі-школьніцы. Мы падоўгу гаварылі і Аганесянам. Чым я мог памагчы яму? Калі ў чалавека гора, адчуваеш сябе так прыкра, няёмка ад улас-

най бездапаможнасці — бо нічога ўжо не пераменіш. Я імкнуўся ўсяляк яго падбадзёрыць, дамовіліся на беразе часцей сустракацца, разам хадзіць у звальненні.

Старыя мае, як у нас кажуць, мадзеюць памалу. Дабрацца да іх было нялёгка. Цягнік прыйшоў позна — ні машын, ні аўтобусаў. Перад гэтым два дні лютавала завіруха, пазабівала дарогі, а потым ціскануў марозік градусаў пад трыццаць. Пасядзеў я на вакзале і ўжо думаў ісці ў райцэнтр, у гасцініцу, як раптам падыходзіць да мяне малады цыбаты хлопец: «Ці не з Кузьмінкі вы?» — «Адтуль,— адказваю,— а што?» — «Бачыў вас некалі ў райкоме камсамола... Я з Гайкоўкі. У тэхнікуме вучуся, еду на канікулы». Гайкоўка — суседняя вёска. Прапанаваў хлопцу ісці дахаты, не шукаючы начлегу. Мне дваццаць вёрст, яму на тры меней. Хлопец згадзіўся. Завязаў я шапку пад бараду — форма шэсць, чамаданчык на ручнік — ды за плечы, і пашыбавалі. А мароз быў люты, вецер як дыхне — агнём паліць. Выйшлі ў дзве гадзіны ночы, дома быў ужо калі пачало на дзень займацца. У нашай хаце свяціўся агеньчык — маці звычайна паднімаецца рана.

Колькі было радасці, мітусні — апісаць немагчыма. Маці насмажыла паўнюткую патэльню сала, дастала з-за шафы запыленую бутэльку. Мы з бацькам узялі па чарцы, маці выпіла з напарстак. І тады я адчуў сябе дома. У роднай хаце, дзе ўсё блізкае і дарагое, дзе кожная рэч абуджала цэлы рой згадак...

Два дні прамільгнулі так хутка, што нават сваякоў усіх не абышоў. Завітаў у школу. У нас — васьмігодка. А калі я вучыўся, была пачатковая, маленькая, у старой цеснай хаціне. Цяпер будынак новы, спраўны, стаіць у прыгожым месцы — над рэчкай, на пагорку, у маладым бярозавым гаі. Настаўнікаў шмат новых, незнаёмых, але працуюць яшчэ і мае. Як яны пастарэлі! Неяк ростам паніжэлі. Мабыць, таму такое ўражанне, што яны здаваліся тады вялікімі, грознымі, асаблівымі людзьмі, а потым вучні вырастаюць, настаўнікі старэюць... Не, гэта не пра цябе, Галінка. Ты — нестарэючая... І ўсе гэтыя дні я думаў пра цябе, у думках паказваў табе нашу вёску, лес, з дзяцінства любыя мясціны. Я хадзіў на лыжах на спатканне з імі. Дзень

быў цудоўны. Ноччу падкінула свежага снегу, лыжы ляцелі так хутка, што за імі, як за тарпедным кацерам, уздымаліся, нібы пеніліся, белыя іскрыстыя бурунчыкі. Я імчаў паўз лес, напрасткі, насустрач сонцу. Свежы, колкі ветрык дыхаў у твар, спіна пад світэрам узмакрэла, усё цела быццам ахапіла гарачая хваля бадзёрасці, нейкай невыказнай радасці. Родныя мясціны, мароз, сонца, на дзіва чысты, зіхатлівы снег, сінія цені ад вяршалін дрэў, чырвоныя гронкі каліны, мудрагелістыя ланцужкі заечых слядоў — усё радавала мяне, і я бязгучна смяяўся. Душа спявала песню радасці.

Здаволіўшыся, угрэўшыся, пад'ехаў да завеянага стажка. На сонейку ўжо раставаў снег, пахла волкім сенам, талым снегам, пахла вясной. Доўга прабыў пад стогам, думаў пра цябе, мая любая. Увушшу стаяў твой шэпт: «Хачу, каб у нас быў сын...» Я таксама гэтага вельмі хацеў, і сам не ведаю, чаму стрымаўся, чаму сказаў тыя словы... Ці зразумела ты мяне? Можа, падумала, што я не кахаю цябе ці не веру?.. Не, гэта не так. Прыгадалася чамусьці, як у пятым ці шостым класе падаравалі мне кніжку «Як гартавалася сталь» і «Народжаныя бурай», такі тоўсты томік у вішнёвых вокладках. Цалюткую ноч я чытаў, пакуль маці не прачнулася і не пагнала спаць. Памятаю, усхваляваў той момант, калі ў турме да Паўкі звярнулася дзяўчына, здаецца Хрысцяй звалі (раніцой яе чакаў допыт белагвардзейскага афіцэра). Дык вось яна гаварыла: «Бяры мяне, хлопчыку любы...» І Карчагін адмовіўся. Чытаючы, я дзівіўся і думаў: ці змог бы я так паступіць? Мо не стаў бы адмаўляцца... Смешна, праўда? А паглядзець з другога боку, дык і я трохі навучыўся валодаць сабой. Каб ты ведала, як гэта нялёгка! Я не маю на ўвазе той вечар... Не ведаю, чаму так усё адбылося. Неяк аўтаматычна, як шафёр робіць паварот: ён жа не думае — зараз трэба павярнуць, значыць, уключыць сігнал павароту, прытармазіць... Гэта не самае ўдалае параўнанне, але спадзяюся, што ты зразумееш мяне правільна. Помню, ты была не ў гуморы, калі я ад'язджаў, і мы развіталіся холадна. Ты не хацела, каб я ехаў? Але ж трэба было зазірнуць дамоў, маці чакала... Як было б здорава, калі б мы ўдваіх прыехалі... Калі стаяў там, пад стогам,

так хацелася, каб ты была побач. І я крычаў на ўвесь голас: «Я люблю цябе, Галя! Люблю назаўсёды!..» Хочаш — вер, хочаш — не, а так было.

Пасля лыжнага шпацыру патрапіў у госці да Міколы Баброва — запрасіў у лазню. У адным з першых лістоў я апавядаў, як праводзілі яго ў армію. Цяпер у Міколы чацвёра дзяцей — тры сыны, як лузанцы, і дачка, чакаюць пятае дзіця. Вось гэта сямейка! Не тое што ў тваіх калег — па аднаму залізанаму. Мы з Міколам здорава папарыліся. Ты не ўяўляеш, якая гэта радасць — распарыцца, разагрэцца — і галяком у снег. Цела гарыць, пакалвае, пашчыпвае, нібы тысяча халодных мурашоў абляпіла цябе. Разатрэшся снегам і, ахутаны воблакам пары, шыбуеш у лазню, чуеш, як прыліпаюць пяткі — хапае мароз. Зноў лезеш на палок і сцёбаешся бярозавым венікам. Выходзіш з лазні, як нованароджаны, бясконца добры і разамлелы. Потым кульнулі з Міколам па кілішачку і доўга гутарылі пра жыццё-быццё. Добра жывуць мае землякі. Усё ёсць — і хлеб і да хлеба. І ведаеш, Галя, мне так карціць жыць у вёсцы. Давай махнём куды-небудзь у сельскую школу, га?

Раніцай бацька запрог лысага жарэбчыка, апрануў армяк з башлыком — застаўся яшчэ ад дзеда,— я захутаўся ў кажух, «набуў» валёнкі — і сані памчалі. Дзянёк быў сонечны, срабрыстыя языкі лізалі дарогу: трохі перамятала, смачна рыпеў пад палазамі снег. І так хораша было думаць, марыць, прыгадваць...

Мабыць, ніколі ў жыцці не забуду тых сем зімовых дзён... Я быў у адным горадзе з табой, бачыў цябе кожны дзень і кожны вечар, дыхаў адным паветрам...

Пішы хутчэй, мая любая, хоць некалькі радкоў.

Твой Аляксей.

6 лютага.

Родная мая, любая!

Тры дні назад паслаў табе ліст, а сёння пішу зноў. Не магу без цябе!

Учора быў на вахце — памочнікам дзяжурнага па часці. Ноччу правяраў пасты. З нашай базы добра бачна ўся гавань, цёмныя грозныя сілуэты караблёў. Перад святамі яны ўсе ззяюць агнямі. А неяк у нас на рэйдзе стаяў атамны ледакол «Ленін». Які ён прыгожы ўвечары! Увесь аплецены гірляндамі, цёмныя

высокія барты, белая высокая надбудова. Які-небудзь эсмінец, стройны, зграбны, фарсісты, здаецца прыгажэйшым. Але перад гэтым мірным суднам я гатовы стаць на калені. Ён даражэй за любую субмарыну. Дык вось, глядзіш ноччу на гавань, на цёмныя ракетаносцы, сочыш за далёкімі агнямі вартавых караблёў і міжволі думаеш: колькі людзей не спяць у гэтую ноч! У кожнай больш-менш вялікай краіне не спяць сотні тысяч людзей, маладых, здаровых. Пагранічнікі, маракі, лётчыкі. А колькі днявальных і вахценных! Дзесьці іх чакаюць каханыя, жанкі, а мо, не дачакаўшыся, гуляюць з другімі?.. Але хопіць. А то мая каханенькая-родненькая падумае, што я зусім ёй не даю веры... Не, я буду служыць столькі, колькі загадае Радзіма. А ты будзеш чакаць мяне доўга, так?

З дзяжурным па часці мы пераглядалі почту, перабіралі пісьмы, раптам ён усміхнуўся і кажа: «Гэта табе, Гардзіевіч». А на канверце напісана «самаму прыгожаму». Зваротны адрас — горад Чудава Ноўгарадскай вобласці.

— Гэта не мне, таварыш капітан-лейтэнант. У мяне ёсць адрасат,— адказваю я.

— Бяры, дзівак. Пазнаёмішся, будзеш ехаць са службы, зазірнеш. Можа, добрая дзяўчына. А не — дык што ж. Разыдзецеся, як у моры караблі... Не хочаш? Ну, дапусцім, я самы, самы...

Узяў ён пісьмо, чытае, рагоча. Між іншым, ліст звычайны. Такія прыходзілі да нас і раней: сумую, хачу перапісвацца, працую на будоўлі, вучуся ў дзевятым класе вячэрняй школы, дашліце фотакартку, потым я сваю. Ці займаецеся вы спортам? Я люблю валейбол, і ростам я даволі высокая — метр семдзесят пяць. Мне падабаюцца высокія хлопцы.

— Ліст на высокім узроўні,— хмыкнуў «каплей».— Ладная аглобля вырасла... А можа, і нічога дзяўчына? Напішы, Гардзіевіч. Не пашкадуеш.

Я аддаў ліст хлопцам. Можа, Санька Партноў і напіша, і знойдзе сваё шчасце. Чаго не бывае на свеце?!

Усё яшчэ жыву ўспамінамі пра водпуск. Здаецца, у мінулым лісце не пісаў, што ў райцэнтры, перад ад'ездам, сустрэў шмат знаёмых. Рад, што давялося пабачыць Толю Раманоўскага. Ён зараз працуе ў абкоме камсамола, і трэба ж такое супадзенне — у той дзень

якраз прыехаў у камандзіроўку да нас. Толя амаль не змяніўся, такі ж рухавы, бадзёры, калі размаўляе са знаёмым хлопцам, можа ўзяць таго за гузік — ёсць у Толі такая мілая звычка. І ўсё ж ён пасталеў, у вачах з'явілася нейкая сумнаватая заклапочанасць, а мо гэта проста стомленасць? Увогуле клопату ў яго хапае: другі сакратар абкома ды і бацькоўскія турботы — сям'я, дачка гадуецца.

Расказаў Толя пра выступленне на абласной канферэнцыі. Ён расчахвосціў некаторых абкомаўцаў: працуюць па прынцыпу «д»-квадрат, «ш»-квадрат (давай-давай, шуруй-шуруй); калі звоняць у райком, дык толькі цікавяцца, які рост, як узносы, а далей хоць трава не расці. Чалавек ён самакрытычны, таму не хаваў, не залізваў недахопы ў сваёй рабоце. Месяцы праз два выклікаюць Толю ў абком партыі:

— Вы вельмі талкова гаварылі на канферэнцыі. Чалавек вы энергічны, падрыхтаваны. Кіруйце.

Так і стаў Раманоўскі сакратаром абкома. Агітаваў мяне, каб пасля службы ехаў да яго: месца знойдзецца, работы хопіць. Не ведаю, як яно будзе. Між іншым, у нашым райкоме амаль усе новыя работнікі. Некаторыя надта важныя. Уяві сабе: сядзіць за сталом хлапчук, такі маладзёнак — ручнікам голіцца яшчэ, мабыць, а да яго і на мятле не пад'ехаць — «Павел Паўлавіч», інакш яго і не клічуць. А ён, Пал Палыч, робіцца яшчэ больш важным. Дзіва, дый годзе. І адкуль бярэцца чванлівасць? Няўжо ветрам разносіцца? Калі я працаваў, у нас, здаецца, такога не было.

У той вечар давялося выступаць на сцэне — не змог адмовіцца. Затое пасля канцэрта мяне праводзіла на вакзал вясёлая кампанія — добрыя два дзесяткі хлопцаў і дзяўчат. Ішлі, спявалі, а як уваліліся ў вакзал, там адразу стала цесна. Неўзабаве падышоў мой цягнік, і я паехаў. У Оршы рабіў перасадку. Што цікава, куды б ні ехаў, заўсёды цераз гэту станцыю: і ў Маскву, і ў Мінск, і дамоў, і на Балтыку, і на Поўнач. Не адну ноч давялося прасядзець мне тут у былыя часы. Цяпер жа быў усяго тры гадзіны, з'ездзіў у горад. Так, мае рацыю боцман Харашун: да маракоў стаўленне асаблівае. Сеў я ў аўтобус, даю на білет, а кандуктар, сталага веку кабета ў цёмнай плюшавай жакетцы і вязанай хусце, захутаная па самыя бровы, зір-

нула на мяне: «Не трэба, сынок. Адслужыш, тады і заплоціш...» І не ўзяла, як ні настойваў. Давялося ехаць зайцам... На гэтым закругляюся. Зноў наплёў доўгі ліст... Учора атрымаў пісьмо ад старога сябра Алега Кузьміцкага. Ён увосень вярнуўся з арміі, жыве ў Віцебску ў бацькоў. Працуе на заводзе токарам — у школу нідзе не ўладкаваўся ды, мусіць, і не дужа туды рваўся. А цяпер надумаў паступаць на рэжысёрскі факультэт. Я ўхваляю. Ён быў у нас самым заядлым удзельнікам драмгуртка. Ёсць у чалавека талент на гэта. І я напісаў яму: «Дзерзі», хлопча! Будзь вялікім рэжысёрам!»

Моцна цалую.

10 лютага.

Увесь твой А.

Алёша, добры дзень!

Ведаеш, мне чамусьці думалася, што ты пісаць не будзеш. Пасля нашага развітання засталося нешта недаканчанае, ці што. Мабыць, таму, што я не праводзіла цябе на вакзал. Канечне, я не хацела, каб ты ехаў. Але ты паступіў правільна. І я не крыўдую... А мо ты не дараваў мне гэтую прыкрую гісторыю з Аўсюком? Але ж я не вінавата... І вось прайшло два тыдні, як ты паехаў, а здаецца — два месяцы. Такія доўгія дні без цябе! Прыгадваецца адна і тая ж сцэна: позні вечар, мякка, утульна свеціць настольная лямпа, у пакоі таямнічы паўзмрок, паблісквае зялёны агеньчык радыёпрыёмніка, і мужчынскі голас спявае нешта пра начны горад. Помніш? Што я гаварыла табе — нічога не памятаю, затое твае словы не забываюцца: «Не трэба, мілая. Чакалі два гады з паловай, пачакаем яшчэ паўгода...» Не, я не крыўдую на цябе. Адно дзіўлюся, адкуль у цябе столькі вытрымкі, цвёрдасці? Можа, так адбылося таму, што ты сапраўды моцна кахаеш? Праўда? Нам было так хораша... І вось цябе няма. І ніхто болей не звоніць увечары, роўна ў восем... А так хочацца выйсці ў сквер і ўбачыць цябе, хадзіць, пабраўшыся за рукі, гаварыць пра ўсё на свеце. На прыпынку, калі пад'едзе твой тралейбус, ты пяшчотна і паспешліва пацалуеш мяне (як мяне гэта заўсёды кранала!), сядзішся і махаеш у акно...

Мілы, мілы!!! Я хачу толькі аднаго, каб хутчэй гэта ўсё паўтарылася. Каб хутчэй прыйшла вясна, а за ёй

лета. І мы паедзем з табой за горад, назбіраем кветак... Бачу, ты ўсміхаешся і думаеш: фантазёрка. Не, я ўсё разумею, і калі хочаш,— я рэалістка, ведаю, што ў жыцці бываюць не толькі кветкі, не толькі ружы, але і калючкі. Каб даказаць, што не забываюся пра гэта, пішу табе выказванне Сухамлінскага — цудоўнага настаўніка і цудоўнага чалавека (а мо інакш і быць не можа: благі чалавек не стане добрым настаўнікам): «Жыццё сямейнае — гэта не асалода вячэрніх сустрэч. Гэта вялікае ўмельства кіраваць сваімі жаданнямі, абмяжоўваць свае жаданні». Яшчэ адно яго выказванне: «Любоў твая да жонкі, твая любоў да мужа — гэта сфера найтанчэйшага духоўнага жыцця. Самая моцная і высакародная любоў у чалавека тады, калі яна адзіная на ўсё жыццё».

Пра гэта ж пісаў і ты, дарагі мой, толькі іншымі словамі.

Я таксама часта ўспамінаю цябе. Вось толькі заўсёды мне было сумна, ведаеш чаму? У мяне надта ж благая звычка: як бы добра ні было мне, я гэтаму не радуюся ніколі, а думаю пра тое, чым усё скончыцца. Тужліва было таму, што мы ўсё роўна павінны разлучыцца, і неўзабаве. Гэта думка прыгнятала мяне ўсе дні, калі ты быў тут. Гэта вельмі кепска, праўда? І жыць не захочаш, калі думаць, што ўсё роўна памрэш. Але нічога, мо яшчэ выпраўлюся. Пішу пад музыку, мусіць, яна навеяла на мяне такія думкі... Між іншым, днямі перадавалі канцэрт тваёй землячкі Марыі Пахоменка. Помніш, ты гаварыў, што маракі любяць яе за песню «Матроскія ночы»? Ці пісаў ты ёй, Алёша? Ты ж гаварыў, што хлопцы прасілі цябе напісаць ёй ад імя экіпажа. Прызнавайся!

У школе, здаецца, нармальна ўсё. Праўда, тыдня першая мяжа — панядзелак — і для нас цяжкі дзень. Асабліва першы ўрок: дзеці сонныя, нічагуткі не разумеюць. Пакуль раскратаюцца, прачухаюцца — праходзіць гадзіна. І яшчэ непакояць урокі працы — хоць не ідзі ў школу: не ведаю, што на іх рабіць. Ужо ўсялякія закладкі для кніг, мядзведзі і зайкі, грыбы, лодкі — клееныя, выразаныя — усё было. А што далей? Ніхто не ведае.

Сёння хопіць. Ужо надта позна. А заўтра адкрыты ўрок матэматыкі. Будуць дырэктары з розных школ

рэспубліці. Хвалююся. Але, спадзяюся, усё будзе добра.

Бывай, мілы! Хутчэй пішы!

Цалую мільярд разоў!

17 лютага. Твая Галя.

Дарагі Алёша!

Дзякуй за віншаванне з жаночым святам. Але я сярдзітая: тэлеграм не люблю. Люблю доўгія лісты, напісаныя дробным почыркам. Забывацца пра гэта не раю. Я жартую, мой родны, дарагі акустык. Хіба ж я не разумею, што ў цябе так мала часу? Ты, мусіць, ужо за кантрольныя ўзяўся? Правільна, малайчына. Я пакуль не дабралася да іх. Буду рабіць кантрольныя работы ўвесну, каб не цягнула на спатканні. Гэта ж ты пачнеш знаёміцца: адзнак матроскай доблесці ў цябе зараз хапае: на пагонах тры лычкі, на грудзях поўна значкоў. Так што «завярбуе» цябе якая-небудзь рыбачка. Нешта неспакойна на душы. Чуе маё сэрца: ты некаму ўсміхаешся зараз. Катэгарычна забараняю! Ты мой і больш нічый!

Навін асаблівых няма. Перад святам Ганна Міхайлаўна, маці Андрэйкі Рабцэвіча, пытаецца, далікатна, быццам між іншым: што вам купіць? Я кажу: нічога не трэба, маўляў, не рабіце мне ліха. І дзецям сказала: вы грошы не зарабляеце, ніякіх падарункаў не купляйце, а для сваёй маці кожны павінен нешта змайстраваць. Хто што прыдумае — скажыце мне, абмяркуем, але каб ніхто болей не ведаў. Дзеці так любяць таямніцы! Падарункі мамам атрымаліся вельмі арыгінальныя, мяне вучні засыпалі кветкамі і паштоўкамі. Ну, што ты зробіш! Але ж кветкі — не сервіз, не сорамна прымаць, і ўсё-такі прыемна. Неяк пачынаеш думаць, што не такая ўжо я благая настаўніца. Бачыш, да чаго даводзяць падарункі? Дарэчы, тата падараваў маме цудоўнае футра з шапачкай і муфтачкай. Мама ў нас цяпер што баярыня. Мы, жартуючы, звяртаемся да яе з падкрэсленай павагай і пашанай. А яна толькі саркастычна ўсміхаецца. Тата і мама часта ходзяць у кіно, тэатр. Мы рады, што яны не лаюцца, а раней здаралася і такое. Мусіць, ва ўсіх гэта бывае. Мама іншы раз гаворыць: хто з кім не жыве, той з тым не сварыцца.

Ты ніколі не думаў, Алёша, як мы з табой будзем сварыцца? Мне здаецца, цябе цяжка раззлаваць. Ты такі ўраўнаважаны, памяркоўны, але затое калі раззлуешся, дык, мабыць, надоўга? А я наадварот. Магу хутка пстрыкнуць, псіхануць, але хутка астываю, супакойваюся. Не магу доўга злаваць. Сястрыцы мае гэтым карыстаюцца. І ўсё-такі мая здольнасць псіхаваць, рабіць трагедыю з нічога павінна цябе насцярожыць. Апамятайся, пакуль не позна!

Алёша, мілы, а можа, хай будзе ўсё, як і раней? Будзь такім жа добрым, ласкавым і чулым і кахай мяне мацней! Я стану лепшай! І сваё жыццё я прысвячу табе, мой любы. Чалавек можа стаць лепшым, праўда? Учора ў нас дома разгарэлася спрэчка. Я хуценька выпіла чаю, бо, кажу, яшчэ сшыткаў цэлая гара. «Дзе яны дзенуцца, твае сшыткі. Сядзь і паеш па-людску. А то высахла, як бубен»,— пачала ўшчуваць мама. Гэта няпраўда, не думай, што я худоба. «Канечне, павячэрай, не ляці да сшыткаў, як муха на мёд,— падаў голас тата.— Толку з тваёй работы. Набіваеце іх галовы ведамі, як мех саломай. Скончыць школу, усе гэтыя веды, як труху, развее вецер... А ты ў выдатнікі іх выцягваеш, адзнакі завышаеш. Нараджаеш ілюзіі. Вучыць усіх, усе таленавітыя... Кожны можа стаць паэтам, кампазітарам, акадэмікам, а інжынерамі — усе пагалоўна...» — «А чаму ж не? Ну, не кожны, але здольных шмат»,— сказала я і нібы падліла масла ў агонь. «Вось так. Усе — геніі і вундэркінды! А трэба, каб кожны пазнаў самога сябе. Гэта яшчэ старажытныя мудрацы гаварылі. Каб гэты хлапчук ведаў пасля школы, што ён можа і чаго не можа. І каб не ляцеў, як з прывязі сарваўшыся, у інстытут, не лез, як жаба на корч, у вучоныя, а як міленькі ішоў на завод слесарам, столярам на мэблевую фабрыку. Ды ці мала прафесій на свеце!» Я кажу: «Якраз у класе, дзе шмат вучняў, кожны і можа параўнаць сябе з іншымі. Зведаць свае здольнасці».— «Думаеш, так проста? Ты накіруй яго на гэты шлях. А не пяцёркамі задабрывай...» — «Калі я скажу: «Юрасік, ты лепей, чым на тройку, вучыцца не можаш. І працаваць ты будзеш грузчыкам...» — «А на якое ліха яму твая вышэйшая матэматыка? Ёсць рэчы важнейшыя. Зараз я табе дакажу.— Тата шпарка выйшаў з кухні,

прынёс маю ж кніжку па педагогіцы, якую ніяк не прачытаю, хутка пагартаў.— Дзе мае акуляры? На сама... У цябе вочы маладзейшыя». Пачала я чытаць: «Геаметрыя вучыць мерацъ зямлю, але з яе нельга даведацца, як адмерацъ гэтулькі, колькі патрэбна чалавеку... Якая карысць з майго ўмельства дзяліць поле на ўчасткі, калі я не ўмею падзяліцца з братам?..» Далей даўжэзная цытата, і канчаецца яна так: «...Ты ведаеш, што такое прамая лінія, але якая з гэтага карысць, калі ты не ведаеш, што такое прамое жыццё?» — «Ну, што, аб'елася маннай кашы?» — захіхікала Томка, радуючыся, што тата пасадзіў мяне ў лужу. «Гэта Сенека. А ён не быў дурнем»,— зазначыў тата. «Дык і мы гэтаму вучым. І вучым усіх. Бо ўсе павінны быць адукаваныя,— не здавалася я.— Напалеон гаварыў, што адукацыя для Францыі — якар выратавання. А для нас гэта — якар надзеі. Бо дзеці — наша будучыня...» — «Не хачу пакрыўдзіць цябе, Галя, але табе яшчэ самой трэба шмат вучыцца, каб ля, але табе яшчэ самой трэба шмат вучыцца, каб нечаму вучыць іншых». Мама, баючыся, што мы пасварымся, пачала нас супакойваць і, як заўсёды, цвярдзіла сваё: галоўнае ведаць, што трэба рабіць і чаго не трэба, каб шчаслівым быць. «А ты ведаеш, што трэба рабіць? — узбурыўся тата.— Каб ведала, дык бы...» Але тут не вытрывала Томка: «Ці не хопіць вам? Заўтра двойку па гісторыі адхаплю!»

Гэта на ўсіх падзейнічала, і кожны заняўся сваімі справамі. Зрэшты, я сама вінавата: расказваю дома пра свае школьныя бядоты, а бацьку неяк прачытала твой ліст, дзе ты пісаў пра Мантэня. Вось мой стары і вырашыў даказаць, што мы ■ табой яшчэ зялёныя... Ой, як хочацца пайграць на піяніна! Але позна ўжо. Бывае, гэтакі паганы настрой, хоць на свеце не жыві, а пачну граць, і на душы пасвятлее. На маю думку, трэба як мага болей вучыць дзяцей музыцы, спевам. У іншых школах мо і лепей, а ў нашай музыка занядбана: Юльчын тата прыглушыў яе, «пад сурдынку» грошы калыміць і ў вус не дзьме.

Ну, канчаю. І так шмат напісала ў адказ на кароткую, хоць і цёплую тэлеграму.

Твая Галя.

12 сакавіка.

P. S. У мінулым лісце быў мільярд пацалункаў, і ты, мабыць, спалохаўся?! У гэтым — ніводнага!

Родная, любая Галінка!

Не крыўдуй, што адказваю са спазненнем: быў у далёкім плаванні. А мо ты ўжо не чакаеш маіх лістоў? Бо напісала ж ты, што табе здалося, быццам я пісаць не буду. Але паўтараю — адказ затрымаў далёкі паход. Цэлы месяц не бачыў зорак, не чуў паху мора, не бачыў яго хваляў. Роўны манатонны ход, роўнае святло. А на паверхні бушавалі штормы (мы заставаліся спакойнымі, калі акіян вельмі хваляваўся), магутныя вадзяныя валы абрушваліся на каралавыя рыфы, ліў трапічны лівень, праплывалі міма кантыненты, мяняліся дні і ночы, а для нас гэта лічы ў блакноце штурмана ды ўздрыгванне стрэлак на прыборах.

У паходзе рыхтаваў сабе замену: такі закон — кожны, хто звальняецца ў запас, павінен выхаваць надзейную замену. Мой падшэфны — хлопец з Чэлябінска. Падлеткам пайшоў на трактарны завод, скончыў вячэрнюю школу, спартсмен, першы разрад па боксу. Мабыць, таму ў яго трохі шыракаваты, пляскаты нос, як у качкі,— відаць, даставалася не раз «прама па носе». А вочы ў яго надзвычай добрыя, і па характару пакладзісты. У паходзе ён хадзіў за мною як здань. Аднойчы на вахце задрамаў. Я тузануў яго: «Ты што, акуні вудзіш?» Ён усхапіўся: «Га, што? Дзе?» Я кажу: «Нічога. Мне здалося, што ты задрамаў».— «Ды не. Я толькі вочы звёў.— І, памаўчаўшы, дадаў: — А заснуць тут лёгка... Тут цяжэй, чым на рынгу».— «Прывыкнеш. Уцягнешся. Усё будзе добра»,— супакоіў я хлопца.

Пасля вахты мы падоўгу слухалі з ім «падводную музыку». Уяві сабе: уключаеш магнітафон і чуецца шоргат, свіст, пастукванне, як у сапсаваным тэлефоне. У марской вадзе гук ляціць амаль у пяць разоў хутчэй, чым у паветры, таму любы шолах чуцен далёка. А мора не маўчыць, там і ўдзень і ўноч гучыць несціханы хор. І салістаў хоць адбаўляй. Ёсць такі кіт — нарвал або адзінарог: шэсць метраў даўжыні і тона вагі — своеасаблівая жывая субмарына. У самца празаецца левы зуб-бівень і выцягваецца на два-тры метры, прычым пакручасты, нібы штопар, і мае левыя нарэзы, хоць гайку закручвай. Навошта гэты зуб нарвалу, вучоныя так і не ведаюць: адны кажуць, што для шлюбных турніраў — рыцарская шпага, другія —

што патрэбен для палявання. Але ліха з ім, з яго зубам, калі ён патрэбен яму, хай носіць. Нарвал замінае акустыкам сваім шумам, бо мае гідрарэхалакатар: на глыбіні соцень метраў цемрадзь, хоць вока выкалі, без лакатара не знойдзеш харчу, палонкі, згубіш статак. Нарвалы рэзка свішчуць, іншы раз канчаюць яго кароткім выбухам, яны стогнуць і ўздыхаюць, нібы каровы, скрыпяць, як драч адвячоркам у лузе, булькочуць, быццам палошчуць горла. І калі плыве статак нарвалаў — аркестр будзь здароў! Бо кіты падтрымліваюць не толькі ўнутраную сувязь, яны пераклікаюцца з іншымі статкамі. Дапусцім, да палонкі, дзе яны гулялі, дыхалі паветрам, падкраўся белы мядзведзь — галоўны іх вораг, нарвалы даюць сігнал небяспекі і кіруюць у госці да суседзяў. На магнітафоннай стужцы запісаны «галасы» многіх марскіх жыхароў і рыб. Ты не можаш сабе ўявіць, як ціўкае сардынела, акурат верабей! Тунец жа стукае, як дзяцел. У Міжземным моры ёсць рыба сціена — яна можа брахаць па-сабачы, каркаць і нават рохкаць. А дэльфіны — вялікія свістуны і шчаўкуны! Вучоныя адрозніваюць трыццаць два віды іх свісту. Трыглы, або «марскія пеўні», кукарэкаюць так гучна, што хоць вушы затыкай ці здымай навушнікі. Паспрабуй у такім падводным хоры пачуць ціхуткі шум чужых вінтоў. Вось данеслася нейкае хлюпанне, нібы нехта ідзе па гразі,— гэта транспартнае судна. Вось глухі, размераны жалезны рытм — плыве крэйсер... А гэта шуміць трапічны лівень. Цікава, праўда? Хацеў бы я, каб і ты паслухала. Каб такую стужку ды ў твой кабінет прыроды. На жаль, гэта немагчыма. Мо калі-небудзь на атамнай падводнай лодцы будзе музей, тады і паслухаюць нашы дзеці, ці ўнукі, ці праўнукі — хто ведае, калі гэтыя людзі паразумнеюць? Ды і ўвогуле, ці паразумнеюць? Боцман Харашун неяк прыгадаў словы мудрага Гегеля: гісторыя чалавецтва сведчыць, што яно, гэтае чалавецтва, ніколі не рабіла высноў са сваёй гісторыі. Так было. А будзе мо інакш? Павінна быць, чорт пабяры! І нашы нашчадкі пабываюць у музеі на атамнай субмарыне... Дублёр мой адрознівае вельмі добра галасы караблёў, акустык з яго будзе выдатны. Узрадаваны яго поспехамі, я неяк жартам сказаў камандзіру лодкі, што мяне ўжо можна адпусціць дамоў.

— Бач, які шустры. Да снежня трэба паслужыць і ніяк не раней,— строга сказаў камандзір.

— Таварыш капітан першага рангу, нелагічна атрымліваецца. Раз сказалі «а», трэба гаварыць і «б». Адпусцілі зімой на сесію, дык і ўлетку...

— Вось яны, «плоды просвещения»! — усміхнуўся ён.— Ва ўсім шукае логіку. На экзамены адпусцім, а служыць да снежня...

Я трохі павесялеў. А потым нампаліт сказаў:

— Ты класны акустык, Гардзіевіч. Таму баця і не хоча адпускаць.

Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень! Я заўважыў, што гэта непедагагічна: хто лепш служыць, таго даўжэй трымаць, а лайдакоў звальняць першымі. Нампаліт пагадзіўся і абяцаў мяне падтрымаць.

Так, каханенькая-родненькая, ты не памылілася: цяпер штурмую кантрольныя работы. Хачу адаслаць іх раней, бо можам зноў пайсці далёка, а без кантрольных не прышлюць выклік. Думаю, «баця» адпусціць. Дарэчы, яму нядаўна прысвоілі новае званне — зараз ён капітан першага рангу, а быў «кап. два». Мы яшчэ не прывыклі, што наш камандзір ужо «кап. раз». Між сабой матросы і афіцэры называюць яго «баця». Не ведаю, чаму гэта да яго прыляпілася. Уяві сабе: сярэдняга росту, хударлявы, з рудаватымі, коратка падстрыжанымі вусамі, у сіняй куртцы, у сандалях. Прысядзе, бывае, у час начной вахты на разножку побач з боцманам, адкінецца на корпус электрарухавіка, закрые вочы, быццам спіць. І на стомленым, бледным твары — тыповы выгляд падводніка,— нібы блукае ўсмешка. У адсеках цішыня. Акустыкі маўчаць: «гарызонт» чысты. Лодка працінае водную тоўшчу, і зусім не адчуваецца рух. Зрэдку шчаўкане ручка маніпулятара рулей глыбіні — боцман Харашун вытрымлівае глыбіню. Камандзір заводзіць з ім гаворку. «Баця» паважае нашага філосафа, любіць пагаварыць на вечныя тэмы. Я толькі нядаўна дачуўся, што наш камандзір — сірата. Бацька загінуў на фронце, маці памерла ў Ленінградзе, у блакаду, а яго вывезлі па Дарозе жыцця. Потым — нахімаўскае вучылішча, затым Вышэйшае ваенна-марское, шлях ад лейтэнанта да капітана першага рангу.

У паходзе баця амаль заўсёды бярэ сабе ноч, а стар-

пом дзяжурыць удзень. Але і днём камандзіра часта турбуюць. Калі ён спіць — проста невядома. І як ён вытрымлівае такую нагрузку! Матросы любяць бацю за справядлівасць і строгасць. Так, так, мілая, я ўсё больш пераконваюся, што можна любіць чалавека за строгасць, калі яна жыве разам са справядлівасцю. Калі камандзір строгі і патрабавальны да ўсіх без выключэння і перш-наперш да сябе — гэта заўсёды выклікае павагу і любоў.

Мабыць, кожны чалавек у глыбіні душы хоча быць чэсным, добрым. Нават самы закаранелы злачынца хоча бачыць сваіх дзяцей сумленнымі людзьмі, каб яны не рабілі нічога дрэннага. Ён і сам не хоча рабіць блага. Але не кожны можа стрымацца, перамагчы сябе, ці, як ты пішаш, не ў кожнага хапае «ўмельства кіраваць сваімі жаданнямі». А некаторыя, мабыць, лічаць, што і не варта стрымлівацца, не трэба кіраваць сабой, жыццё, маўляў, такое кароткае... У кожнага чалавека — свая ідэалогія, свая філасофія жыцця — прымітыўная, мяшчанская або высокая, гуманная... Зноў мяне пацягнула ўбок. Гэтак я магу дагнаць Санньку Партнова! Ён заўсёды гаворыць: «Я чэмпіён лодкі па скачках убок!» Не, ён не лайдак, але пры выпадку можа і «сачкануць» — увільнуць,— гэта і ёсць скачок убок. Дык пра што я? Ах, так, пра стрыманасць, умельства кіраваць сваімі жаданнямі. Вось я думаю, колькі людзей, што п'юць гарэлку, не хочуць гэтага і ў той жа час не могуць не піць. Гарэлка робіць іх бязвольнымі, як медузы. У кампаніі яны з'едліва падсміхваюць над чалавекам, які не п'е,— гэта я зведаў неаднойчы,— імкнуцца яго падпаіць, і калі гэта не ўдасца, зайздросцяць яму ўпотай, хваляць характар. Адным словам, чалавецтва з вякоў вечных паважала і будзе паважаць заўсёды цвёрдую волю, строгасць і справядлівасць. Даруй, што пішу прапісныя ісціны, але мне здаецца, чалавек, які ўсё сабе дазваляе,— ужо або яшчэ не чалавек.

Пра гэта я не раз думаў, гледзячы на нашага бацю — стомленага трыццацісямігадовага чалавека з бледным тварам, валявога камандзіра, добрага і справядлівага. Калі я прыехаў пасля экзаменаў, у час пераходу ён зазірнуў да мяне на пост.

— Ну, як, Гардзіевіч, здаў?

— Здаў, таварыш капітан першага рангу.

— Малаток. Як бацькі?

— Дзякуй. Усё добра. Жывыя, здаровыя... Як у нас кажуць, мадзеюць патроху.

— Дабро, дабро... Ну, трымайся,— паціснуў мне руку і пайшоў. А паходка ў яго — тыповая, флоцкая: уразвалку, куляючыся з боку на бок. Але на парадзе, на страявых занятках яго не пазнаць: падцягнуты, стройны, крочыць лёгка, спружыніста, чаканіць крок — люба паглядзець. Дык вось нічога асаблівага не сказаў камандзір, а я да глыбіні душы быў удзячны яму, што завітаў, не забыўся, не гаварыў гучных слоў, не чытаў мараль, а проста, па-чалавечы шчыра, спытаўся пра экзамены і пра бацькоў. І такі тактоўны, далікатны — нават не спытаўся пра дзяўчыну... Між іншым, я ўпэўнены, ён зробіць усё для таго, каб адпусціць мяне зусім «на гражданку», калі прыйдзе выклік з універсітэта.

Служыць засталося тры-чатыры месяцы. На беразе, у нашым кубрыку, вісіць на сцяне каляндар. Перад вячэрняй паверкай збіраюцца «старычкі» — усе, хто служыць апошні год. Тамбій падае каманду: «Смірна! Раўненне на каляндар!» Страявым крокам падыходзіць да сцяны, на хвіліну замірае, каб усе адчулі важнасць моманту, потым зрывае лісток. Мы нягучна крычым «ўра!». Яшчэ адзін дзень прайшоў. Санька грае туш. Ахад і Юргіс пачынаюць песню:

Дэмэбэ, дэмэбэ, будь веселым,
Не надо печали...

Канчаю, мая любая. Не думаў столькі пісаць. Неяк само наплялося. Страшэнна мала часу, а так многа трэба зрабіць. У звальненні зусім не хаджу. Дакладней, выходжу, праз гадзіну вяртаюся і ў бібліятэку — да 24 гадзін ніхто мяне не чапае: я ў звальненні. Без дзесяці дванаццаць іду на КПП, адзначаюся, здаю звальняльную запіску і кладуся. Праўда, адразу не заснеш — паслухаю чарговую гісторыю Санькі пра каханне і сплю без задніх ног.

Неўзабаве ў цябе канікулы. Пастарайся добра адпачыць. Не палохайся экзаменаў — здадзім. Не першы раз.

Да пабачэння, мілая! Тысяча пацалункаў!

21 сакавіка. Заўсёды твой Аляксей.

Любы мой, дарагі!

Як я чакаю летнюю сесію! Экзаменаў зусім не баюся, хоць і не рыхтуюся да іх. Я ўжо даўно пераканалася, што чалавек, які «праваліўся» на экзамене, не траціць ад гэтага розум. А раней я так думала. Наіўнае дзяўчо! Цяпер для мяне важна адно, і гэтага я хачу больш за ўсё — ісці поруч з табою і гаварыць аб усім на свеце. Хутчэй бы вясна! Хутчэй бы лета!!!

Павінна адзначыць не зусім лагічную сувязь такіх сказаў: «Можа, ты і не чакаеш маіх лістоў? Бо напісала ж ты, што табе здалося, быццам я пісаць не буду». З таго, што мне здалося, зусім не вынікае выснова: не чакаю пісем. Мне магло здацца, што ты не будзеш пісаць, але не чакаць пісьмаў я не магу. Наадварот: я магу быць упэўнена, што ты пісаць будзеш, і ў той жа час зусім лістоў тваіх не чакаць. Спадзяюся, зразумела? Не прымай, канечне, гэта ўсур'ёз. Ты ж ведаеш, як я люблю... «с каланчи смотреть», памятаеш?

Цяпер у мяне ёсць час разважаць лагічна — пачалася канікул. Агітавалі прафкомаўцы ў турыстычную паездку: Масква, Ленінград. Не адважылася. Кантрольныя ўсё-такі трэба пісаць. Мы з табой некалі з'ездзім, праўда, Алёша?

Учора быў педсавет. Засядалі тры гадзіны. Нечакана зайшла гаворка пра «цифроманию». Як разгаварыліся! Асабліва выкладчыкі старэйшых класаў. А сутнасць вось у чым. За чвэрць мы выстаўляем адзнакі, а потым падлічваем: выдатнікаў столькі, яны складаюць, напрыклад, сем працэнтаў і пяць дзесятых, «харашыстаў» — ёсць такі тэрмін — вучняў, якія маюць добрыя адзнакі,— столькі, «пасрэднікаў» — столькі працэнтаў, нават да сотай долі трэба вылічыць. А паспрабуй паставіць двойку. Ого, які гармідар узнімаецца! Адразу працэнт паспяховасці падае.

Настаўніца літаратуры Марыя Антонаўна,— я некалі пісала пра яе,— гаварыла так:

— Каго мы абдурваем? Перш-наперш самі сябе. Чаму я павінна ставіць здавальняючую адзнаку толькі за тое, што вучань ведае: Пушкін — вялікі рускі паэт, завуць яго Аляксандр Сяргеевіч? Або Купала ці Колас — вялікія песняры. А калі ён назаве некалькі твораў, дык трэба хуценька ставіць «добра». А гэты

аболтус пасміхаецца: «Калі я не буду ведаць ні бэ, ні мэ, ні кукарэку, вы ўсё роўна двойку не паставіце. Вас жа будуць лаяць, а не мяне...» Вось адкуль бяруцца цынікі. Мы вучым дзяцей хлусіць, мы падрываем веру ў справядлівасць, сумленнасць і чысціню. А потым уздыхаем: чаму старшакласнікі нахабныя, бессаромныя цынікі? Мы жнём тое, што сеем. І пачынаем сеяць у першым класе. Толькі там лягчэй падмануць...

Поўнасцю згодна з Марыяй Антонаўнай і нават сама хацела выступіць. Але тут падняўся наш дырэктар:

— Што вы мне тут гаворыце? Я ж не з месяца зваліўся. Гэта ўжо казаная казка. Без вас ведаю. А што я зраблю? А вы думаеце, міністр не ведае? Ведае... Прыйдзе час — зменіцца падыход да школы. Цяпер змянілі праграмы, а потым зменім і яшчэ сёе-тое... Канечне, у пачатковых класах павінна быць меней вучняў. Тут трэба да кожнага дайсці, кожнага навучыць пісаць, чытаць. Першыя крокі ў любой справе даюцца нялёгка... Каб маці першака працавала чатыры гадзіны, тады б дзіця не сядзела адно дома. А жанчына пастаралася б зрабіць план за паўдня...

Прыйшла я дамоў стомленая і сумная. Усё думала пра сваіх дзяцей. Як яны будуць вучыцца далей? Якімі яны вырастуць? Цяпер мае купалаўцы такія добрыя, адкрытыя, шчырыя. Раскажу адну гісторыю. Захварэла Свецік. Вучыцца яна добра, акрамя таго, займаецца гімнастыкай, плаваннем і фігурным катаннем. Гаварыла я бацькам, што гэта занадта, навошта так перагружаць дзіця? А яны сваё: «Светачка развітая, моцная. Здолее». І вось дзяўчынка захварэла — сэрца. З якім нецярпеннем чакалі яны Свету: у яе пакоі ўсё заставалася некранутым, цэлы месяц стаяла ўпрыгожаная ёлка. Яны мянялі ваду, сыпалі цукар туды і яшчэ нешта, каб галінкі не засохлі. І ўсё бедавалі, што Света з малых год не любіць малака, смятаны, а цяпер толькі малако можа выратаваць яе. Расказала пра гэта ў класе. Усе ў адзін голас: пойдзем да яе ў бальніцу. Я сказала, што туды не пускаюць, Свеце нельга хваляваецца. Але можна напісаць запіскі, я пайду і перадам. Потым я чытала гэтыя «пасланні»: усе дзеці кляліся, што вельмі любяць малако, што смачней за яго нічога не бывае на свеце, усе супакой-

валі, падбадзёрвалі, абяцалі памагчы, прыйсці да яе ў бальніцу, як толькі будзе можна. Колькі шчырасці, чалавечай спагады было ў гэтых бясхітрасных радках!

А нядаўна вучні здзівілі сваёй прынцыповасцю, сваёй прагай да справядлівасці. Між іншым, Алёша, ты ж пра гэта пісаў у сваім лісце. Дык вось у канцы чвэрці звычайна ставіцца адзнака за паводзіны і запісваецца ў дзённік. Ёсць у класе два неслухі — Ігар Вайтовіч і Петрык Стрэльскі. Я пра іх табе пісала. Помніш гісторыю з фотаздымкам і «доўг»? Канечне, я магла сама напісаць адзнаку, але я вырашыла запытацца ў дзяцей. Кажу, параіцца хачу з вамі, што паставіць за паводзіны Ігару Вайтовічу. Мы байкот яму аб'яўлялі, ён слова даваў, але і зараз часта дурэе. І што ты думаеш? Пачалі прасіць: «Галіна Максімаўна, пастаўце яму «добра». Ён болей не будзе». Ігар сядзеў чырвоны што рак. Абяцаў не парушаць дысцыпліну. Паставіла яму «добра». Ну, а як нам быць з Петрыкам? Цішыня. І раптам устае Свецік (яна папраўлялася, вучыцца на пяцёркі) і кажа: «Петрыку трэба паставіць тройку. Каб ведаў... Ён учора з Юрасікам біўся. І сам першы пачаў...» І тут усе дзяўчынкі ў адзін голас загаманілі: Петрыку трэба паставіць тройку. Падняла яго. Чырванеў, заікаўся. Таксама абяцаў, што болей так не будзе. Але паставіла «здавальняюча». Каб ведаў...

Малайцы дзеці. Няўжо праз колькі год яны будуць нахабнымі, бессаромнымі цынікамі?! Не магу паверыць. Успомніла пра педсавет, і настрой сапсаваўся. Да таго ж надвор'е сёння кепскае: такая халепа, быццам зноў вярнулася зіма. А я не люблю зіму. Канечне, яна мае сваё хараство і прыгажосць. Але для мяне зіма — гэта заледзянелыя рукі, ногі і нос. Дзе ўжо тут любавацца хараством! А вясна — якое шчасце! Слухай, Алёша, сонейка — гэта ж проста цуд! Праўда? Як хочацца за горад! Паваліцца ў траву, слухаць конікаў, глядзець у неба, дзе плывуць і растаюць, нібы льдзінкі, белыя аблокі... І каб побач быў ты, мой любы, мой дарагі чалавек...

Усё, не хвалюйся, натхненне ўжо знікла, я супакоілася. Задаволена, што не ходзіш у звальненні. Спадзяюся, мясцовыя прыгажуні не памруць, калі не пабачаць тваіх шчодрых усмешак. Вось калі б яны па-

бачылі іх, то наўрад, каб засталіся жывымі. Магу цябе суцешыць: у кіно была два месяцы назад. А камандзір мне твой падабаецца. Думаю, ён паспрыяе табе. І боцман ваш — разумнік. Чаму табе так шэнціць на добрых людзей? Ты — шчаслівчык.

Пішы хутчэй! Чамусьці прыгадалася, як ты ідзеш па лесвіцы, а я стаю і слухаю твае крокі... Маці кажа, што яна заўсёды пазнае крокі таты, калі ён увечары вяртаецца з работы, і нават вызначае, які ў яго настрой...

Да сустрэчы, мой любы!

29 сакавіка. Твая Галіна.

P. S. Алёшачка (ага, суфікс, а ты нічога не можаш зрабіць!!!), можа, табе патрэбны якія падручнікі, кнігі? Напішы — я дашлю.

Алёша!

Што здарылася? Чаму ты маўчыш? Можа, зноў у плаванні твая субмарына? А можа, закахаўся ў рыбачку? А можа, усумніўся ў сваіх або маіх пачуццях? Бачыш, колькі пытанняў узнікае адразу, калі доўга няма ліста? Я ўжо ўсё перадумала. Можа, Аўсюк табе наплёў чаго? Але я ж усё сама расказала. Пасля твайго ад'езду ён спрабаваў заляцацца да мяне, дамагаўся спаткання. Я выкінула, не чытаючы, некалькі яго лістоў, забараніла званіць нам. З таго часу не бачыла яго. Але каб адпомсціць, ён можа напісаць рознага глупства. Ён мастак туманом атуманіць. Улічы гэта.

Мой родны, што б ні здарылася, памятай, што бліжэй цябе ніколі нікога ў мяне не было і не будзе і што адзін чалавек, з кім мне хочацца быць заўсёды разам — гэта ты! Ці разумееш ты, якое злачынства гаварыць такія словы, калі іх падказвае не каханне, а нешта іншае? Ты верыш, што ніводзін чалавек не чуў яшчэ ад мяне прызнання ў любві? Ці верыш ты, што я кажу праўду? Што б ні здарылася, што б табе ні гаварылі, што б табе самому раптам ні здалося — я клянуся, што шчасце для мяне — быць з табой. Помні пра гэта. Добра?

Вельмі непакоюся, ці паспееў ты зрабіць кантрольныя работы. Каб не затрымалі выклік з універсітэта. Я не ўсё яшчэ напісала. Няма калі. Столькі работы ў школе. Рыхтавала сваіх купалаўцаў у піянеры. Хаце-

лася, каб гэта было па-сапраўднаму ўрачыста, каб запамяталася на ўсё жыццё. Атрад таксама будзе насіць імя Купалы. Я пісала табе, Алёша, пра свае задумы, цэлую праграму, памятаеш? Амаль усё мы зрабілі: куток афармілі цудоўны, песня «А зязюлька кукавала...» — наша атрадная, дзеці палюбілі яе. Праўда, у Вязынку, на радзіму Купалы, не з'ездзілі. Вырашылі схадзіць туды пехатою, калі падрасцём — у шостым ці сёмым класе.

Прымалі ў піянеры якраз у Дзень Перамогі. З раніцы паехалі на Курган Славы; ветэраны вайны, сівыя дзядзькі, усе з ордэнамі, медалямі, завязвалі дзецям гальштукі. А праз колькі дзён мы пісалі сачыненне «Я — піянер». Некаторыя былі цікавыя. Здзівіў мяне Юрасік. Дарэчы, яго бацька вярнуўся з турмы, працуе ўжо, нават быў нядаўна на сходзе ў класе; ніштаваты з выгляду мужчына, не скажаш, што які-небудзь там нягоднік. Дык вось, што напісаў яго сынуля: я даўно марыў стаць піянерам, калі мне купілі піянерскую форму, я не адыходзіўся ад яе, а гальштук прасаваў некалькі разоў... І далей апісвае ўсё, як было, і гэтак шчыра, па-дзіцячы. Паставіла чацвёрку, і скончыць год ён, думаю, без троек. А быў жа такі гарэза і непаслух! Нездарма я гэтулькі разоў хадзіла да яго дамоў. Андрэйка напісаў, што ён будзе чэсным, будзе паважаць старэйшых, карміць птушак, саджаць дрэвы, кусты і ўсюды паспее — чырвоны гальштук яму дапаможа, з ім весялей і лягчэй вучыцца і жыць. Вось якія ў мяне піянеры.

Каб ты ведаў, Алёша, як не хочацца развітвацца з дзецьмі! Так прывыкла да іх, ведаю кожнага, хто чым жыве. І з бацькамі добра пазнаёміліся. Толькі б працаваць, а тут аддавай іншым. Тры гады вучыла, гадавала — і няма. Набірай новых. І самае дзіўнае, тых новых, што прыйдуць увосень, ужо не люблю. Быццам яны вінаватыя... Мабыць, таму такое пачуццё, што гэта мой першы выпуск.

Напісала пра гэта, і ўспомнілася іншае развітанне. Яніна з мужам паехала на Брэстчыну да яго бацькоў. Мужу аднялі нагу, а гэтая хвароба — кляшнясты вусач — паўзе вышэй, урачы сказалі, што болей зрабіць яны нічога не могуць. Ён угаварыў Яніну пераехаць у вёску, кінула яна школу, і вось на днях праводзілі.

Прайшло ўжо колькі часу, а ў мяне ўсё гэта стаіць перад вачамі. Поезд адыходзіў пасля дзесяці вечара, сабралася каля паўсотні чалавек. Муж Яніны стаў у сярэдзіне натоўпу, на мыліцах, у шыракаполым капелюшы, расхінутым плашчы — было відаць, што ён адвык ад гэтага адзення: капялюш сядзеў неяк набакір, гальштук з'ехаў. З твару выглядаў нядрэнна — даволі поўны, нават свежы, адно трохі азызлы, і вочы сухавата блішчалі. Ён гаварыў, паціскаў рукі, усміхаўся. А ўсе глядзелі на яго з жалем, вялікай спагадай: хто мог прыхаваць гэта, хто — не, бо ўсе праводзілі чалавека на той свет, і ён гэта разумеў. Яму было цяжка стаяць, ды і вецер, вільготны, золкі, працінаў да касцей. Яніна сказала, што трэба яму ісці ў вагон. Тады ён загаварыў:

— Дарагія таварышы! Сябры мае! Надышоў час развітацца з вамі. Я шчыра ўдзячны ўсім, хто прыйшоў сюды. Я не думаў, што ўбачу тут гэтулькі знаёмых і сяброў... Мінску я аддаў лепшыя гады жыцця. Усяго тут было — і радасці, і бядоты... І вось трэба ехаць. Бывае, што лёс распараджаецца чалавекам, і даводзіцца яму падначальвацца. Яшчэ раз вялікае дзякуй усім. Я ўсё **жыццё** (гэтыя словы ён вымавіў з націскам) буду помніць пра вас...

Жанчыны плакалі, не хаваючыся, дзяўчаты, яго былыя вучаніцы, ды і мужыкі шмаргалі насамі. Яму памаглі падняцца ў вагон — было недарэчна бачыць, што здаровы з выгляду мужчына такі слабы. За ім у купэ, па чарзе, пайшлі сябры — там цалаваліся, абдымаліся. Ён усміхаўся, ажыўлена нешта ўсім гаварыў: было відаць праз шкло, і здавалася, што гэта ідзе нейкі нямы фільм. Вось маладая, гожая дзяўчына, з доўгімі, распушчанымі валасамі, абняла яго, пацалавала, і хваля яе цудоўных валасоў закрыла яго твар. Нарэшце яна адарвалася, задам выходзіла з купэ і махала рукамі. Падышоў барадаты хлопец, паціснуў руку, затым яны тройчы абняліся. Цягнік зашыпеў, запыхкаў парай, людзі замітусіліся на пероне, з купэ выйшлі ўсе яго сябры. Яніна, стомленая, знерваваная, але з усмешкаю, у якой былі пакута і слёзы, дзеці і ён сам махалі ў акно. Поезд адышоў, а людзі доўга не разыходзіліся. І я падумала, што гэты чалавек увачавідкі бачыў свае праводзіны на той свет. Звычайна людзі

не бачаць, як іх хаваюць, а на яго долю выпала і гэта. А перад Янінай я гатова стаць на калені. Цэлы год, штодзень, у любое надвор'е, ездзіла яна да яго ў клініку, вазіла ежу, даглядала, абмывала... Якое жорсткае жыццё! Не магу болей пісаць, Алёша...

Бывай здароў! Прывітанне ад усіх нашых.

Цалую!

Галіна.

16 мая.

Дарагая мая настаўніца!

Выбачай, што доўга не пісаў. Нечаканы далёкі паход выбіў з графіка. Але неўзабаве мы будзем з табой разам, мая мілая Галінка. Я веру табе, любая, веру ў тваё каханне. Яно вытрымала амаль тры гады разлукі, яно дапамагло мне пражыць гэтыя доўгія, страшэнна цяжкія — цяпер я магу прызнацца — гады, пражыць чэсна, каб не было сорамна перад самім сабой, перад сваім сумленнем. Не думай, родная, не хвалюйся, я не сумняваюся ў сваіх пачуццях і для мяне таксама шчасце — быць з табою.

Магчыма, гэта быў апошні паход. І мне трохі не пашчасціла. Боцман Харашун і некаторыя хлопцы бачылі альбатросаў, а я быў на вахце. Потым усплывалі яшчэ: лодка ішла па «счислению»: месца яе вызначаецца па часу і пройдзенай адлегласці, а для ўдакладнення іншы раз трэба і на зоркі пазіраць — штурман замервае вышыню трох зорак і арыентуецца. Калі ўсплывалі, я спяшаўся хутчэй выбрацца на волю. Крычыш памочніку вахценнага афіцэра: «Старшына першай стацці Гардзіевіч пайшоў наверх!» Ззаду чуеш: «Старшы матрос Партноў...» Памочнік усіх запісвае: жалезны закон — каб ніхто не застаўся пры раптоўным пагружэнні. Мора было цёмна-шэрае, яно гарбацілася, падымалася да гарызонта і злівалася з цёмным небам, на якім зіхацелі буйныя яркія зоркі. Мы стаялі поруч з боцманам, і ён, ведаючы, як я бядую, што не пабачыў птахаў, кпіў:

— Ах, якія былі альбатросікі! Ядры тваю каламашку... Яны кружок над намі зрабілі. Памахалі крыламі. На вячэру ляцелі. Яны толькі ноччу і палююць. Надта кальмараў любяць... Нічога, Гардзіевіч, яшчэ пабачыш. Прыйдзем на базу — твае каханыя чаечкі сустрэнуць...

Было цёмна, але я ведаў, што зялёныя вочы боцмана смяюцца. На жаль, альбатросаў болей не бачылі. А чайкі, канечне, сустрэлі... Заходзілі на Балтыку, амаль тыдзень стаялі ў тым гарадку, дзе мяне вучылі на гідраакустыка. Разы два быў у звальненні, выхадзіў усе вуліцы, а потым выйшаў у поле. Па вузкай дарожцы, што бегла цераз жыта, ужо высокае, неўзабаве пачне красаваць; яно хвалямі, цёмна-сінімі, бліскучымі, гайдалася пад сонцам,— ішоў, пакуль не схаваліся дамы, мора, і слухаў жаўрукоў. А яны шчыравалі! Ты калі-небудзь назірала, як яны ўзлятаюць угару? Вельмі хутка і крута, нібы нейкая катапульта падкідвае гэты трапяткі камячок, а як узляціць высока, спыніцца на месцы і спявае, быццам падвешаны званочак, а потым павольна, як па нябачаных прыступках, спускаецца ніжэй, і ўвесь час, няспынна льецца песня, звонкая, радасная, светлая, з дзяцінства знаёмая і дарагая. І вось птаха складвае крыльцы, каменем падае ўніз і ля самай зямлі робіць дугу, ці, як кажуць лётчыкі, выходзіць з піке. Пасля доўгіх дзён пад вадой мне ўсё здавалася незвычайным, і ўсё радавала мяне, я прыкмячаў нават тое, на што раней і не зірнуў бы, нібы зрок мой стаў вастрэйшы і больш пільны. Нахадзіўшыся, я сеў на абочыне дарогі і стаў сведкаю крывавай трагедыі... Не палохайся, нічога страшнага. Я пачуў жаласны піск, дзынканне. Прыгледзеўся і ўбачыў на белым кошычку крываўніка, маленькага зялёнага павучка, ён моцна трымаў у абдымках вялікую муху, якая нагадвала пчалу. Дзесьці я чытаў, што гэтых мух не чапаюць птушкі — афарбоўка палохае — да чаго прырода вынаходлівая! Але павучка не падманеш. Муха страціла пільнасць, і ён упіўся знізу, у сярэдзіну жывата, і здабыў сабе смачны абед. Я адарваў ліст трыпутніку і страсянуў на яго забойцу-ката і ахвяру, але павук не выпусціў сваю здабычу. Крывавая трагедыя працягвалася. А навокал віравала жыццё! Цвіркаталі конікі, лёталі матылькі, гудзелі мажныя чмялі, звінелі пчолы. І так зырка свяціла сонца...

Амаль да вечара быў я ў полі, надыхаўся — разагрэтае паветра пахла мёдам, п'яніла мяне, і я піў яго, як дзівоснае віно. Наслухаўся жаўрукоў, назбіраў букет палявых красак і выбраўся на шашу. Неўзабаве

падышоў аўтобус, і тут мне давялося падарыць свой букет адной прыгажуні. А было вось як. У аўтобусе плакала дзяўчо-немаўля, плакала без слёз, зацята, злосна: мо ёй было горача ці нешта балела — хто яе ведае. Бацькі ніяк не маглі даць рады. І вось яна паставіла вочы на мяне і доўга разглядала. Затым пацягнулася да кветак маленькай, пухнаценькай, нібы перавязанай, ручкай. І я аддаў ёй букет. Бацькі яе — абодва сінявокія, маладыя, узрадаваліся, заўсміхаліся. Нацешыўшыся кветкамі, дзяўчо заснула, і такое яно было чыстае, прыгожае, такая светлая ўсмешка блукала на яе вуснах, што проста воч не адарваць. Маці сядзела, утаіўшы дух, ды і бацька прыціх. Міжволі падумалася, што дзяўчо куды прыгажэйшае за сваіх бацькоў. Я часта прыкмячаў, што дзеці лепшыя за бацькоў. Чалавецтва прыгажэе. Было б яшчэ лепей, каб яно і духоўна, маральна рабілася лепшым. На гэта, пад час дрэннага настрою, я гляджу даволі скептычна... Але хочацца верыць, што чалавек можа быць лепшым...

Учора я дазволіў сабе звальненне, таму што ўсе кантрольныя выканаў. А ў якіх умовах яны пісаліся! Пад вадой, дзесьці па той бок экватара, без самай неабходнай літаратуры. Але ўсё гэта — пройдзены этап. Затое цяпер я адчуваю вялізную палёгку, быццам гара з плеч. Добра, што ў цябе заканчваецца навучальны год, можна спакойна рыхтавацца да сесіі. Не чытай позна, Галінка, шануй сябе, беражы здароўе.

Прывітанне тваім бацькам і сёстрам!

Моцна цалую!

Аляксей.

29 мая.

Родны мой, дарагі!

Як я рада, што атрымала твой ліст! Значыць, усё добра? Ты не перастаў мяне кахаць? Мілы Алёша! Я такая шчаслівая, што ў мяне ёсць ты! Каб ты ведаў, як чакаю я цябе! Маё сэрца адлічвае дні, гадзіны, нават хвіліны да нашай сустрэчы.

Развіталася з дзецьмі. Тры гады я зберагала іх малюнкі, літары і словы, якія дзеці накрэмзалі ў першы дзень заняткаў. І вось цяпер ім раздала. Колькі было смеху! «Няўжо гэта я так пісаў?» — дзівіўся Петрык. Юрасік рагатаў над сваім малюнкам. Я глядзела на іх

і радавалася: на маіх вачах яны падраслі, пасталелі, разам са мной зрабілі першыя крокі па шляху ў краіну ведаў. Ты не ўяўляеш, Алёша, як не хацелася з імі развітвацца! Некаторыя дзяўчынкі пусцілі слязу, я — таксама. Асабліва Свецік пераажывала: радавалася, што выбілася ў выдатнікі і бедавала, што я болей не буду яе вучыць. Артур-бязбацькавіч таксама скончыў на «выдатна». Гэта я лічу сваёй перамогай. Андрэйка, той заўсёды быў першы, ды і бацькі ў яго вучоныя, і сыну грэх кепска вучыцца. Здзівіў мяне Петрык Стрэльскі: самы заўзяты свавольнік і гарэза выступіў з прамовай. Ад імя класа дзякаваў, што я тры гады вучыла іх, лайдакоў. Так і сказаў — лайдакоў. Хіба ж ты лайдак, кажу я, без троек вучышся, добра чытаеш, амаль без памылак пішаш. Сёлета ўсе дзеці вучыліся лепей, чым тыя гады: падраслі, паразумнелі, ды і я разам з імі трохі падвучылася. У мяне тры выдатнікі і дваццаць чалавек скончылі трэці клас на чатыры і пяць, атрымалі падзякі. Гэта болей, чым у іншых класах, і дырэктар сказаў на педсавеце: ці не замнога? Трэба будзе праверыць, як яна атэставала. Але гаварыў ён з усмешкаю, так што я не дужа напалохалася. Ды хай правяраюць, я не завышала адзнак. Мо каго і выцягнула на чацвёрку. Таго ж Петрыка. Затое ён упершыню атрымаў падзяку. Як радаваўся ён і бацькі — яны прыйшлі ўдваіх, чаго раней ніколі не было. Можа, Петрык зразумее, адчуе, як прыемна вучыцца добра, а ён здольны, калі захоча, паверыць у свае сілы, дык і выдатнікам стане. Ці не таму я расхвальваю яго, што ён так шчыра дзякаваў мне і падарыў букет белага бэзу? Кветак дзеці прынеслі дужа многа. А бацькі... Гэтага я ніяк не чакала — падарылі крыштальную вазу. Андрэйкава маці абняла мяне, пацалавала і ўручыла вазу — маўляў, мы развітваемся, гэта на памяць. І што мне было рабіць? Як адмовіцца? Дома сёстры і мама ўзрадаваліся, а тата хмура сказаў: «Ты наставіла ім чацвёрак ды пяцёрак. Бацькі табе — вазу і кветкі. Усе давольны, усе смяюцца... На ліха табе бярэма кветак? Ведаеш, колькі гэта каштуе? Што яны ў цябе — мільянеры? Дурні яны. І дзяцей псуюць... Нанач каб усе кветкі выставілі на балкон. Ад іх галава баліць...» Сапсаваў татуля настрой. А цяпер я думаю: можа, ён і праўду сказаў? Якімі яны вырас-

туць, мае першыя выпускнікі? Магчыма, стрэнуся з імі. Дырэктар сказаў, што гады праз два пойдзе на пенсію Марыя Антонаўна, і тады мне дадуць урокі літаратуры. Гэта мяне і радуе, і непакоіць: ці змагу? Марыя Антонаўна — адзін з лепшых педагогаў раёна. Яна дае цудоўныя ўрокі. Што ж, буду ў яе вучыцца.

Але хопіць. Не магу болей ні аб чым пісаць.

Да сустрэчы, любы!

Твая навечна Галя!

5 чэрвеня.

Дарагая мая, каханая!

Учора атрымаў выклік з універсітэта на экзамены. Гаварыў з бацем. Ён за тое, каб адпусціць мяне. Параіў напісаць рапарт у штаб флоту, што я і зрабіў. Баця загадаў нашым пісарчукам падрыхтаваць дакументы ў Міністэрства абароны, каб мне прысвоілі афіцэрскае званне. Што за чалавек наш баця! Век яго не забуду. Дарэчы, ён атрымаў новае прызначэнне — будзе камандаваць брыгадай падводных лодак. Я рады за яго.

Мілая Галінка, жыву цяпер надзеяй, жыву нецярпеннем хутчэй убачыць цябе... Таксама не магу ні аб чым пісаць... Магчыма, твой ліст ужо не знойдзе мяне тут. Мабыць, не трэба пісаць. Дзякуй табе за такія мілыя, шчырыя і цёплыя лісты. Так многа ты напісала іх за тры гады! Яны саграваді маё сэрца і душу ў далёкіх паходах, на высокіх хвалях раз'юшанага мора і ў халоднай маўклівай бездані акіяна. Ты, мая любая, была для мяне своеасаблівым якарам, якарам надзеі...

Увесь твой назаўсёды Аляксей.

14 чэрвеня.

Добры дзень, Галя!

Калісьці, даўным-даўно, так пачынаў я свае лісты. І вось пішу табе апошні матроскі ліст. Адмірал даў дабро — дазволіў адпусціць мяне датэрмінова. Праз тыдзень, а мо трохі болей, я абдыму цябе, мая любая, і станем мы жыць-пажываць ды дабро нажываць.

Дабро... Ёмкае слова! Яно азначае — зерне, хлеб. Будзем нажываць хлеб! І жыць так, каб на свеце было болей дабра, і не толькі хлеба.

Памалу рыхтуюся да ад'езду. Зменшчык мой, няўрокам кажучы, хлопец надзейны, кемлівы. Я стараўся перадаць яму ўсё, што ведаў. Думаю, ён не падвядзе, і начальства не будзе мяне лаяць...

Разумееш, Галя, не магу даць веры, што праз колькі дзён назаўсёды развітаюся з хлопцамі, з якімі разам жыву больш як два гады, развітаюся з мілай субмарынай. Гэтая вялізная стальная труба, што нагадвае магутнага круталобага кіта, здаецца мне жывой істотай, са сваім характарам, звычкамі, нават са сваёй памяццю. Можа, і мяне яна будзе помніць? Я ніколі яе не забуду... Не, не веру, што на днях пацалую белаблакітны ваенна-марскі сцяг і — бывай, субмарына, бывай, бязмежны акіян!

На гэтым канчаю апошні ліст. Не пасылаю табе пацалункаў. Прывязу іх усе з сабою.

Да сустрэчы, любая!

27 чэрвеня. Твой Аляксей Гардзіевіч.

## Замест эпілога

Добры дзень, Люся! 19 снежня. Мінск.

Атрымала твой ліст. Дзякуй за памяць. Віншую цябе з дачкою. Хай расце вялікая! Хацелася напісаць раней, але неяк не хапала духу. Я доўга была ў бальніцы, магла і не вярнуцца адтуль, думала, ужо прыйшлі канцы, ды неяк ачуняла. Мяне спасцігла вялікае гора... Выбачай за неразборлівую пісаніну: рука дрыжыць, вочы засцілае гарачы туман... Майго любага, ненагляднага Алёшы ўжо няма на белым свеце... Я ведаю, ён падабаўся табе. Помніш, як ён называў цябе прынцэсай Люськай? Некалі я нават раўнавала. І вось яго няма... Не магу паверыць, не магу прымірыцца з думкаю, што ніколі не пачую яго смех, такі вясёлы, жыццярадасны, не пабачу яго мілую прывабную ўсмешку... Каб ты ведала, Люся, што гэта быў за чалавек! Дзе ўзяць словы, якімі можна было б выказаць тое, што я адчуваю? Няма такіх слоў. Іх не прыдумалі людзі.

Амаль тры гады мы перапісваліся і няпоўныя два месяцы пражылі разам, як муж і жонка. І ўсе гэтыя дні, калі я была з ім, мне здавалася, што я самая шчаслівая на свеце. Я купалася ў шчасці. Шчыра прызнаюся табе, я зведала столькі ласкі, пяшчоты, што болей мне нічога не трэба... Нібы ў сне, здавала я экзамены, і дзіўна — ні разу не праваліласся. Алёша здаў усё на «выдатна», пайшоў да рэктара, і той перавёў

яго на трэці курс стацыянара. Пасля экзаменаў мы распісаліся: заяву падалі на другі дзень пасля яго прыезду, справілі вяселле, не дужа шумнае, але вясёлае. Усё было добра. Потым паехалі да Алёшыных бацькоў. Простыя, шчырыя людзі, яны адразу прынялі мяне ў сваю сям'ю. Кожны дзень мы з Алёшам хадзілі ў лес, збіралі грыбы. Ой, Люська, мы нават у лес і з лесу заўсёды ішлі з абдымкамі. Ніхто нам не замінаў: адно бацяны важна пахаджвалі па лузе. Алёша любіў птушак. Асабліва яму падабаліся чайкі. Вельмі шкадаваў, што за службу так і не пабачыў альбатроса — гэта любімая птушка яго боцмана. Як толькі заходзіла сонца, кладліся спаць на духмяным сене. Раніцой пілі сырадой, я памагала гатаваць снеданне, потым ішлі на раку, купаліся, загаралі — стаяў спякотны жнівень, каталіся ў чоўне, вудзілі рыбу, хадзілі ў поле да нашай крынічкі: яна бруіла ў глыбокім раўчуку. Уяўляеш, узнімаецца, у крынічцы белы пясок, быццам нехта дыхае. А якая вада! Чыстая, што крышталь, і халодная, як лёд. Я першы раз у жыцці піла крынічную ваду. Дзе б мы ні былі — у лесе, у полі ці на лузе,— Алёша дарыў мне букет. У полі зрываў жытні колас, рамонак, тры валошкі, і атрымліваўся дзівосны букет, на рацэ, у ціхай завадзі, плаваў за белай лілеяй — там яе называюць гускай,— далучаў колькі лістоў явару, і таксама выходзіў цудоўны духмяны букет. А на лясной паляне Алёша збіраў ружовыя ліпкія смолкі, нейкія буйныя блакітныя званочкі, ахінаў галінкай папараці — атрымлівалася кампазіцыя, якой пазайздросціў бы майстар японскай ікебаны.

Не магу далей пісаць... Каб ты бачыла, Люся, які быў Алёшка ў тыя дні!.. Валасы выгаралі ад сонца, зрабіліся амаль русявыя, а бровы здаваліся яшчэ цямнейшымі, вочы на загарэлым твары — яшчэ больш сінімі...

Мне млосна, пайду на вуліцу. Не магу заставацца ў пакоі...

Вось і вярнулася. На вуліцы такі вецер — грукочуць бляшаныя дахі, шаргаціць сухое лісце, на тратуары цёмныя плямы ад мокрых лісцяў, мільгаюць рэдкія сняжынкі. Пачынаецца зіма.

О, якімі сонечнымі былі тыя дні, што пражылі ў вёсцы! А цяпер свет для мяне зачыніўся... Хто мог

падумаць! Мы ўжо збіраліся ад'язджаць, як настаў той чорны дзень. Раніцой мы схадзілі ў лес, прынеслі цэлы кош баравікоў. Потым Алёша сабраўся ў магазін — купіць хлеба. Я хацела ісці з ім, але ён адгаварыў: маўляў, хмара насунулася, гатоў пайсці дождж, навошта мокнуць. Алёша ўзяў плашч і пайшоў. Неўзабаве вялізная хмара зацягнула ўсё неба. У хаце пацямнела. Даўжэзныя жоўта-рудыя палосы закрылі сонца. «Нейкая хмара страшная. Палавая,— сказала Алёшава маці.— Змокне хлопец. Хапіла б хлеба. Во, ёсць акрайчык...» Я аж уздрыгнула, і рукі мае нібы абвялі. Старая часта гаварыла за сталом: «Табе, Алёшка, акрайчык, каб быў сын Мікалайчык...» Трывога ахапіла мяне. Не магла перабіраць грыбы, не магла глядзець на баравікі, што так радавалі ў лесе. Раптам бліснула маланка — неба быццам раскалолася: ударыў пярун. Потым лінуў дождж. Я хадзіла з кута ў кут сама не свая, месца сабе не магла знайсці. «Божачка міласэрны, гані ты куды-небудзь на лес ету хмару»,— шаптала старая. Хацела я ісці шукаць Алёшу, але бацькі не пусцілі. «Пажар!» — раптам данеслася з вуліцы. Я кінулася да акна: жанчына бегла рыдлёўкай і крычала на ўвесь голас. Я памчала за ёю. Па дарозе мяне перагнала пажарная машына. Недалёка ад магазіна ўбачыла абгарэлую хату без даху, цэлы натоўп людзей. Усе адразу расступіліся перада мной, адна бабулька ўсхліпнула: «А мая ж ты дзевачка... А мая ж ты гаротніца». Другая жанчына ўзяла мяне за руку: «Пойдзем са мной... Ён там, у хаце...» — «Што з ім? Што здарылася?» — пыталася я, але жанчына нічога не адказала. Вусны яе былі сурова сціснуты, а ў вачах стаялі слёзы. Я ўвайшла ў хату і ў паўзмроку на лаўцы ўбачыла Алёшку, і мне здалося, што ён чорны, як вугаль. А мо ён і быў такі, не ведаю. Я кінулася да яго...

Што было далей — нічога не памятаю. Як мяне везлі ў раён, потым на самалёце ў Мінск. Калі ачомалася, падалося, што на мяне навалілася чорная хмара, яна завесіла ўсё неба і ніводнага прасвету не відно. Я не плакала, не спала, нічога не ела — зусім не хацелася. Бацькі, урачы баяліся, што я страчу розум. А я сабе думала: паміраюць жа птушкі, як застаюцца адны; буслы і лебедзі разбіваюцца ад гора; снягір ро-

біцца бледным, траціць чырвоную афарбоўку і гіне, калі памірае яго сяброўка. Я часта пыталася ў доктара: «Чаму я не паміраю? Раз хачу гэтага...» А ён адказваў: «Вы зусім маладая. Арганізм змагаецца. Вы павінны жыць...» І вось аднойчы доктар гаворыць: «Мілая Галіна Максімаўна! У вас будзе дзіця. Трэба есці, каб яно не загінула. Каб дужае было, здаровае...» Адразу не ўцяміла, што да чаго, і доктар паўтарыў гэтыя словы некалькі разоў. З таго часу мяне быццам падмянілі: патрабавала, прасіла есці, а мне не давалі. Не, не зусім так: есці давалі, але патрохі, як верабейку, і я прасіла яшчэ, бо гэтага было мала.

Дарагая Люся! Пішу на другі дзень. Учора болей не магла. Сёння адчуваю сябе лепей. Апетыт добры. Цяпер выглядаю ўжо нічога, а была страшэнна схуднелая і хадзіла што цень. Стараюся быць спакойнай, нічога не браць да галавы, нават усміхаюся, бывае, сама сабе. Я стала такой пасля таго, як пачула штуршок дзіцяці. Люська, мілая, што гэта за пачуццё! Калі яно таўхане, дык усё ўнутры замірае ад невыказнай таямнічай асалоды. Прыкладу руку да жывата і чую тугія штуршкі, нібы нейкая рыбіна б'е там хвастом. Вельмі хачу, каб быў сын. Прабач, пішу так, нібы ты не ведаеш, што такое нарадзіць дзіця. Як твая дачушка? Як прайшлі роды? Як ты сябе адчувала?

Нядаўна ездзіла ў Алёшаву вёску, схадзіла на магілу. Пахавалі яго пад маладым купчастым дубам, могільнік, ці, як там кажуць — кладзішча,— на высокім пагорку, недалёка ад ракі. Трохі збоч, у бярозавым гайку, стаіць школа, дзе вучыўся Алёша. Над будынкам школы высіцца старая бяроза, на якой вялізнае буслінае гняздо. Неяк я сядзела над магілай і плакала. Раптам нехта ціха крануў мяне за плячо — тая самая жанчына, што прывяла мяне тады да Алёшы. «Ты плач, мілая, плач... Лягчэй будзе. Даўней казалі, што жонка павінна трыццаць дзён плакаць над магілай мужыка... Ты ж во, дзетка, не бачыла, як паклалі яго ў бязвокную хату... А хата ж ета на век вечны... Етакая ціжба людзей праводзіла яго! Я зроду столькі не бачыла...» Расказала яна і пра той дзень, калі загінуў мой любы. Іншыя людзі таксама гаварылі, як усё здарылася. І вось па драбніцы ў маім уяўленні склалася, нібы выткалася, такая карціна.

Алёша падыходзіў да магазіна, калі маланка запаліла хату. Ён адразу ўскочыў на дах і плашчом спрабаваў збіць агонь. Падбеглі жанчыны, дзеці, што былі ў краме, пачалі падаваць яму ваду, але патушыць полымя аказалася немагчымым. Тым часам прыбегла старая гаспадыня і загаласіла: «А дзе ж мая ўнучачка? Яна ж была ў хаце...» Алёша выбіў акно і кінуўся ў пакой, адкуль валіў густы едкі дым. Пад ложкам ён знайшоў дзяўчынку, ужо непрытомную, вынес на вуліцу, потым зноў нырнуў у дым і пачаў выкідваць рэчы. Яму памаглі мужчыны і амаль усе пажыткі выратавалі. Напаследак Алёша сарваў са сцяны ходзікі, што як ні ў чым не бывала адлічвалі хвіліны, і выскачыў у акно.

На двары ліў дождж. Мужчыны бусакамі сцягвалі палаючы дах. Алёша кінуўся на дапамогу, але яго спыніў адчайны брэх сабакі. Сярод вуліцы ляжаў чалавек, і сабака сіліўся адарваць свайго гаспадара ад электрычных правадоў: яны абгарэлі і ўпалі на дарогу. Алёша ўхапіў мужчыну за плечы і, перамагаючы страшэнны боль — усё цела трэсла, як у ліхаманцы, рукі выкручвала,— адцягнуў. Таго падхапілі жанчыны і панеслі ў хату, а стомлены Алёша прыхінуўся да плота.

Раптам пачуўся крык: «Ратуйце Міколу!» Алёша азірнуўся і ўбачыў на дарозе аднавяскоўца Міколу Баброва. Той таксама спяшаўся на дапамогу і сам трапіў у электрычны капкан. «Дайце што-небудзь сухое на рукі!» — крыкнуў Алёша жанчынам. Адзенне на ім было мокрае да ніткі. Чакаць, пакуль прынясуць? Не. Бброў курчыўся ад болю. Нейкае імгненне Алёша раздумваў, нібы прыцэльваўся, потым з усяе сілы ўдарыў нагой і выбіў правады з-пад Міколы. Але сам пахіснуўся і ўпаў. Дождж ліў як з вядра. Вада вакол правадоў зрабілася наэлектрызаванай. Адзін мужчына спрабаваў віламі адкінуць правады, але яго трасянула так, што вілы вываліліся з рук. Мясцовы настаўнік прыбег у гумавых ботах і адкінуў правады. Але было позна.

Вось так і загінуў мой любы. Загінуў, ратуючы сябра. Бброў быў старэйшы за яго, але яны некалі сябравалі, коней на начлег разам вадзілі, хадзілі на паляванне. У адным з першых лістоў Алёша ўспамінаў,

як праводзілі Баброва ў армію. А цяпер у яго пяцёра малых дзяцей. Увесну, у час родаў, памерла жонка... Алёша рызыкаваў, ратуючы маленькую дзяўчынку з палаючай хаты, рызыкаваў, калі адцягнуў чалавека ад правадоў, і калі кінуўся на дапамогу Міколу, не думаў пра тое, што ратуе бацьку пяцярых дзяцей.

Люся, мілая, і ўсё ж я ніяк не магу паверыць, што яго няма... Каб не дзіця, якое трапеча пад сэрцам, не было б і мяне. Цяпер я на ўсё гляджу другімі вачыма. Тое, што здавалася раней важным, патрэбным, здаецца зараз дробязным і нікчэмным. Я быццам вярнулася з таго свету. Часам думаю: як лёгка можа абарвацца нітка чалавечага жыцця! Якім кароткім яно можа быць! Але колькі б ні жыў чалавек — усё роўна паміраць. Чаму ж людзі робяць столькі подласці і ліха адзін аднаму? Мусіць, ад прагнасці? Паболей наесціся, напіцца... Маўляў, пасля нас не будзе нас. Але ёсць жа на свеце і другая прага: паболей зрабіць добрага, чыстага, паболей даць людзям радасці. Ад гэтага радуецца і той, хто прынясе радасць... Я вось цяпер задумваюся, як па-рознаму глядзяць людзі на жыццё. Як па-рознаму жывуць!

Успомніла пра сваіх дзяцей. Колькі ў іх шчырасці, чысціні, чэснасці! Няўжо яны будуць кепскімі людзьмі?!

Неяк завітала адна школьная сяброўка. Яна паспела ўжо другі раз выскачыць замуж і зноў няўдала, незадаволена сваім абраннікам. Пачала мяне суцяшаць: маўляў, не сумуй, не бяры да галавы, адтуль не вяртаюцца, ты маладая, прыгожая, яшчэ выйдзеш замуж і будзеш шчаслівая. Я засмяялася. Дзівачка! Яна не ведала кахання: не любіла ні першага мужа, ні другога, не здолее палюбіць і трэцяга. І ведаеш, Люська, я часам думаю, што каханне, сапраўднае, чыстае,— гэта вялікая-вялікая рэдкасць, быццам залацінка ў пяску. Дык вось я сказала сяброўцы, што ніколі не выйду замуж, што мужчыны для мяне болей не існуюць. Не ведала іх да Алёшы, тым больш не хачу ведаць пасля яго.

Днямі пазваніў былы Алёшаў «сябар». Тут цэлая гісторыя. Раскажу пра гэта заўтра. Сёння ўжо змаглася. Пайду пагуляю. Майму чалавеку трэба чыстае паветра. Усё жыццё маё цяпер належыць яму.

Люська, дарагая, не шкадую я паперы і твайго часу. Ці хопіць у цябе духу прачытаць гэтую пісаніну? Разумееш, мне трэба выказацца. Ты ведала Алёшу, ён табе падабаўся. Памятаю, на першым курсе ты неяк усклікнула, што любіш Алёшу за тое, што ён такі вясёлы і спакойны перад экзаменамі. Ты таксама падабалася яму, і я раўнавала, перажывала, ночы не спала, думала, што ён і табе піша лісты. Якая дурніца! Алёша надзвычай цэльны, чэсны чалавек. Ён так рабіць не мог. Затое ягоны прыяцель пакрыўдзіў мяне страшэнна. Ён служыў з Алёшам на адной субмарыне (падводнай лодцы), зямляк. Слава, так звалі гэтага хлопца, рыхтаваўся паступаць у інстытут, Алёша дапамагаў яму. Летась Слава прыехаў у Мінск, здаў экзамены. Неяк ён пазваніў мне. Я ўзрадавалася і згадзілася з ім сустрэцца. Славік — ён сам так прадставіўся — хоць гэта быў здаровы мардасты хлопец, расказваў пра паходы, пра мора, хваліў Алёшу, які ён добры сябар. Мне было цікава, бо кожная вестка пра любага чалавека, пра яго жыццё хвалявала і радавала мяне. Мы сустракаліся некалькі разоў, хадзілі ў кіно. Аднойчы Слава Аўсюк прапанаваў схадзіць у рэстаран: маўляў, атрымаў першую стыпендыю, такая падзея, хоча адзначыць яе са мной — сяброўкай найлепшага таварыша, што грошай у яго хапае: бацька брыгадзір у багатым калгасе, абяцае купіць яму машыну. Пасядзелі мы ў рэстаране, патанцавалі, а як выйшлі ў парк, дык ён і палез абдымацца. Пачаў угаворваць сустракацца з ім. Маўляў, Гардзіевічу служыць доўга, цэлы год, перапісваецца ён са мной проста так, каб не было сумна... Я, вядома, адмовілася. А ён раз'юшыўся — лезе цалавацца. Потым Аўсюк званіў, прасіў прабачэння, запрашаў у кіно. Я адмаўлялася і адразу клала трубку. Тады ён, ад'яда душы, пачаў мяне страшыць: ты не ведаеш Алёшы, гэта чалавек — крэмень, і ніколі не даруе мне, што я хадзіла па рэстаранах, маўляў, ёсць сведкі: знаёмыя яго бачылі нас разам. Во які нахабнік! Каб ты ведала, як шкадавала я, што паверыла гэтаму тыпу.

І вось прыехаў Алёша на зімовую сесію. Я расказала яму пра заляцанні Аўсюка. «Даруй, мілая, што я пазнаёміў цябе з такім чалавекам. Шчыра кажучы, у глыбіні душы адчуваў: ён здольны на подласць. Але

дужа ён хінуўся да мяне, як смала прыліп. Цяпер мы раскусілі яго. Ад мяне больш не пачуеш пра яго ні слова. Лічы, што мы не ведалі ніякага Аўсюка...»
А я-то думала: будзе дакараць, скандал закоціць. Кінулася я на шыю Алёшу і заплакала ад радасці і любасці.

Зноў пачынаю плакаць. Адкуль бяруцца слёзы? Колькі разоў здавалася, што выплакала ўсе вочы, а слёзы зноў сыплюцца, зноў умываюся імі. Калі б людзі не ўмелі плакаць, як бы яны пераносілі гора?!

Усё, хопіць. Мне нельга хваляваца. Прэч нуду! Пад сэрцам так трапеча жывы камячок. Трэба берагчы яго. Адчуваю сябе добра. Апетыт выдатны — маці проста дзівіцца. Штодзень і па некалькі разоў раблю спецыяльныя практыкаванні для цяжарных, не п'ю ніякіх лекаў, нават каву. Ён яшчэ не нарадзіўся, а ўжо ўсё жыццё маё перайначыў.

Заўтра пайду на работу. Тыдзень праседзела дома — прастуда. Аспірыну не піла, адно чай з мёдам. Мае трэцякласнікі (былыя) вучацца добра. Свецік, Андрэйка і Артур — круглыя выдатнікі. Ой, Люська, напісала па звычцы. Ты ж не ведаеш маіх дзяцей. Алёша ведаў усіх выдатнікаў... Увогуле, больш паловы класа вучацца без троек. Значыць, можа з мяне выйсці настаўніца. Дзеці прыходзяць у госці — не забылі, распытваюць пра Алёшу. Усё-такі яны малайцы. Але надалей буду працаваць інакш. Некалі так бедавала, што сёе-той піша «электрофикация», а не «электри...». Дзівачка! Гэта яны засвояць. А ёсць рэчы куды больш важныя. Не сума ведаў, не матэматычныя і хімічныя формулы робяць чалавека чалавекам, грамадзянінам.

Ведаеш, Люся, пра што я думаю? Трэба вучыць дзяцей жыць, падзяляць чужое гора і радасць, здзіўляцца кропельцы расы, любавацца Вялікай Мядзведзіцай, любіць кветкі... А яшчэ вучыць мужнасці, стойкасці. Жыццё — суровае. Яно ў любы момант можа наладзіць экзамен на трываласць... Шкада, сёлета працаваць давядзецца мала: праз колькі месяцаў — дэкрэтны водпуск. А там не ведаю, што і як. Маці кажа: дзіця гадаваць памагу, але на работу цябе не пушчу — малое, вучоба, хопіць табе клопату па макаўку, год можна пасядзець дома. Мусіць, так і зробім. Хачу сама даглядаць дзіця, хачу зведаць усе радасці і

нягоды. А потым буду працаваць. Трэба жыць. Цяпер ёсць прывязка да жыцця — маленькі чалавечак. Гэта мой якар. «Якар надзеі» — так называў мяне Алёша... Потым ажаню сына — усё-такі чакаю сына, але і дачка таксама добра,— буду гадаваць унукаў, расказваць ім пра дзеда... Алёша — і раптам дзед. Для мяне ён заўсёды застанецца маладым. Усясільны час не зможа састарыць майго любага, не зможа сцерці яго ў маёй памяці.

Люся, мілая, ведаю, што ў цябе хапае клопату, але, можа, напішаш колькі радкоў? Прыедзеш на сесію — адразу да нас. От, ужо нагаворымся! А калі падрасце маё малое, мы завітаем да цябе: я ні разу не была ў Віцебску. Ці ведаеш ты, што Віталь Ярохін ажаніўся? Неўзабаве пасля сесіі. Алёша запрасіў яго на наша вяселле, ён абяцаў, але не прыйшоў. Учора пазваніў: даведаўся пра маё гора... Гаварыў, што вельмі шкадуе Алёшу, што кахае мяне як і раней, што ажаніўся з першай сустрэчнай, маўляў, было ўсё роўна з кім ажаніцца і цяпер гатовы развесціся. Я сказала, што ён ніколі не зможа замяніць бацьку майму дзіцяці, і хай не крыўдзіць сваю жонку — яна ж ні ў чым не вінавата... Помніш нашу Ларыску? Яна ўжо на трэцім курсе біяфака, сябруе з Ігарам, будучым архітэктарам. Днямі падалі заяву ў Палац шлюбаў — там чарга амаль на тры месяцы ўперад. Вяселле ў будучым годзе пасля зімовай сесіі. Словам, жыццё ідзе, віруе...

А для мяне час нібы спыніўся. Дні цягнуцца марудна, як па смале. Але экзамены не за гарамі. Усе прыедуць, а яго не будзе... ніколі не здолею прымірыцца з гэтым. Пасля экзаменаў, улетку, паеду ў вёску Кузьмінку. Будзем ездзіць туды штогод.

Іншы раз думаю: падгадую дзіця, скончу універсітэт і пераеду ў Алёшаву вёску назусім — хочацца працаваць там у школе, жыць на яго радзіме.

Бывай, Люся!

Галіна Гардзіевіч.

1971—1977 гг.

# ПРЫЗНАННЕ

## I

Сонца хілілася ўсё ніжэй, ад свежых коп сена выцягваліся доўгія цені, але гарачыня не спадала. Стракаталі конікі, густа і моцна пахла падсохлымі краскамі, аж кружылася галава ад гэтага духавітага настою. Васіль ішоў басанож па тупкай лугавой сцяжынцы, абкошанай, але сям-там збоч яе тырчалі паклычаныя віхры травы. Паперадзе яго лёгка і нячутна, нібы плыла, ступала дзяўчына ў белай караткаватай сукенцы. Хлопцу хацелася ісці поруч з ёй, але пакоша неміласэрна калола ногі, а дзяўчына ўсё прыспешвала хаду.

— Люда, стой! Пачакай! — не вытрываў нарэшце Васіль.

— Няма калі мне чакаць. Даганяй, Цімчук! — Люда гарэзліва зірнула на яго — нібы апякла гарачым паглядам, адкінула назад доўгія, прамыя, залацістыя, як жытняя салома, валасы і панеслася напрасткі па лузе.

Васіль кінуўся ўслед. Ён імчаў з усяе сілы, пазбіваныя ногі смылелі, і здавалася, што бяжыць ён не па лузе, а па бітым шкле. Люда была зусім блізка — прыцягні рукі і схопіш за валасы, але рукі не слухаліся яго. Дзяўчына раптам павярнула да капы, і яны ўпалі на гарачае духмянае сена.

— Люда, мілая... любая,— задыхаючыся, шаптаў ён і цалаваў яе твар, шыю, абдымаў усё мацней.

— Што з табой, Вася? Якая Люда? Ты што, трызніш?

Тут ён прачнуўся. Рукі яго абдымалі жонку, якая слаба і бязвольна, нібы раптам абвяла, як скошаная трава, памыкалася выбавіцца з яго абдымкаў.

— Дык што гэта за Люда ў цябе паявілася?.. Ты

ледзь не задушыў...— праз слёзы сказала жонка і адсунулася ад яго.

Цімчук ціха ляжаў, баючыся павярнуцца, чуў, як гулка тахкае сэрца, а лоб пакрываецца халодным потам. У суседнім пакоі гадзіннік звонка адлічыў пяць удараў. «Яшчэ зусім рана»,— падумаў ён. Галава памалу яснела.

—Чаму ты маўчыш? Хто яна?..— усё роўна як здалёк выплыў голас Валі, жонкі.

— Ніхто... Ці мала што прысніцца? — стараючыся быць спакойным, глухавата сказаў ён і адчуў, што ў роце ўсё перасохла — язык не павярнуць.

Ён падняўся, басанож пашлёпаў на кухню. У зале ступіў на мяккі варсісты дыван — зноў падалося, што ідзе па скошанай, прывялай траве.

Не ўключаючы святла, бо ўжо бралася на ранне, выпіў цеплаватай, з непрыемным пахам хлёркі, вады, пастаяў ля акна. На дварэ было ціха, нават вераб'і яшчэ маўчалі. Захацелася закурыць, ён выйшаў у залу па цыгарэты і ледзь не сутыкнуўся з жонкай.

— Што ты басанож ходзіш?.. Падлога халодная...— і яна ціха паставіла ля яго ног пантофлі.

Цімчук зірнуў на свае ногі, няўцямна сунуў іх у пантофлі, адчуў лагодную мяккасць, і нейкая хваля ўдзячнасці да жонкі і вінаватасці перад ёй агарнула яго. Але ён даволі холадна сказаў «дзякуй» і павярнуў у спальню.

— Вася, што здарылася? — жонка нясмела працягнула да яго рукі.— Хто яна? Скажы праўду... Гэта ў камандзіроўцы што было?.. Раней жа ніколі нічога такога... А то, бачу, моцна задурыла галаву... Яны так і вешаюцца на ваенных...

— Хто вешаецца? На каго вешаюцца? Ты што, з глузду з'ехала? — сярдзіта сказаў Цімчук, зачыніў шчыльней дзверы дзіцячага пакоя, дзе спалі Алёнка і Алежка, дастаў са стала пачак цыгарэт, памкнуўся быў на кухню, але падумаў, што і там жонка будзе даймаць, ускінуў на плечы халат і выйшаў на балкон.

Гэтую кватэру Цімчук атрымаў гадоў пяць назад, калі яшчэ быў капітан-лейтэнантам — каплеем, як кажуць маракі. Яго перавялі тады з Паўночнага флоту на эскадраны мінаносец, які базіраваўся ў гэтым прыбалтыйскім горадзе. З паўгода ён і дняваў і начаваў на

караблі, дзе быў камандзірам баявой часці-пяць: адказваў за катлы, турбіны, генератары пастаяннага і пераменнага току, карацей, за ўсю «цяглавую» сілу эсмінца. Потым прыехала жонка, адсвяткавалі наваселле. А потым Цімчуку прысвоілі званне капітан трэцяга рангу-інжынер. Тут, на Балтыцы, ён пачынаў некалі службу матарыстам-электрыкам тарпеднага катэра, адсюль пайшоў у вышэйшае ваенна-марское інжынернае вучылішча, і вось зноў вярнуўся сюды, але ўжо афіцэрам.

Як добра ім жылося тут! Напачатку не маглі нарадавацца цёплым морам — вядома ж, не зраўняць з Паўночным ледавітым акіянам. Валя і Алёнка не маглі нацешыцца гарачым пяском на пляжы: лета ў той год выдалася як па заказу. А потым нарадзіўся Алег...

Цімчук не ўгледзеў, як дакурыў цыгарэту. Перасмыкнуў плячмі: раніца была золкая, яно і не дзіва — канчаўся жнівень,— увайшоў у пакой, адразу дыхнула цеплынёй, звыклым пахам чалавечага жытла. Валя, мусіць, легла, бо ў зале і на кухні яе не было. Цімчук закурыў зноў, сеў на кухні, якраз пад фортачкай, каб лепей выцягвала дым, і ад нечаканасці ўздрыгнуў, калі ўключыўся, загрукатаў халадзільнік, нібы замармытаў над косткай вялізны кот.

Ужо зусім развіднела. Цімчук пашкадаваў, што служыць цяпер не на караблі: там у яго была хоць невялічкая, але свая каюта, і хадзіў ён тады на службу рана, не тое што зараз — к дзевяці. На пачатку гэтага года яго перавялі ў штаб дывізіёна на пасаду капітана другога рангу, і быў ён цяпер флагманскім механікам, фактычна намеснікам камандзіра дывізіёна.

Асабліва радавалася пераводу жонка: «От, добра! Часцей будзеш дома. А то ўсё то на вахце, то ў моры. А я нібы саламяная ўдава...» Але якраз гэтыя вясна і лета былі не дужа шчаслівыя: спачатку захварэла на запаленне Алёнка — было клопату і хваляванняў, потым неспадзеўкі зацяжарыла жонка — разважыўшы, вырашылі зрабіць аборт...

«Але чаму прысніўся гэты сон?» — не мог даўмецца Цімчук. Здаецца, не думаў пра вёску, не ўспамінаў — і раптам... Няўжо ўчарашняя гутарка з камдывам?

Учора быў панядзелак. У канцы дня Цімчук зай-

шоў да камандзіра дывізіёна капітана першага рангу Бандарэнкі. Той некага распякаў па тэлефоне, кіўнуў намесніку на крэсла, сам працягваў размову, хмурачы шырокі маршчакаваты лоб з белымі залысінамі, хаця рухавы круглы твар быў цёмна-буры ад сонца і ветру: камдыў не прамінаў ніводнай магчымасці выйсці ў мора на любым з падначаленых яму караблёў.

— Што ў цябе? — спытаў камдыў, паклаўшы трубку.

— Пётр Міхайлавіч, па графіку ў мяне ў верасні адпачынак. Цяпер канец жніўня. Можна падаваць рапарт?

— Давядзецца трохі пачакаць,— камдыў падсунуў бліжэй карабок «Казбеку» — іншых папярос і цыгарэт не прызнаваў, закурыў.— Ёсць некаторыя абставіны... Праз тыдзень-два ўсё высветліцца,— зірнуў на гадзіннік, падняўся. — Прабач, мне яшчэ трэба ў палітаддзел заехаць...

На гэтым размова і скончылася. Увечары Цімчук не-не ды і вяртаўся ў думках да гаворкі з камдывам: чаму пачакаць? Што павінна высветліцца? Вучэнні нядаўна прайшлі. Адмірал, камандуючы злучэння, быў задаволены, яшчэ ў моры падняў на сценьзе флагмана «дзякую», а потым на разборы даў высокую ацэнку боегатоўнасці караблёў дывізіёна. Ёсць жа ў гэтым пэўная заслуга і яго, Цімчука, флагманскага механіка.

І раптам — нечага чакаць... А ён стаміўся за сёлетняе лета, як ніколі. Не, зусім не мёд — хлеб флагманскага спецыяліста. На яго плячах і боегатоўнасць караблёў, і забеспячэнне іх, і нават супрацьпажарная бяспека. І вось ужо цэлы месяц ён думаў пра водпуск — паабяцаў маці, што прыедзе дамоў, не вабілі яго санаторыі, гаючыя воды і гразі, хацелася пажыць у роднай вёсцы, пахадзіць па сваім лесе, блізкім і дарагім з маленства, па сцежках, некалі выхаджаных босымі, з цыпкамі, нагамі.

«Няўжо куды перавядуць? — думаў Цімчук. — Давядзецца зноў прызвычайвацца да новых людзей, новых абавязкаў». Не, абавязкаў ён не баяўся — тэхніку любіў і ведаў і з людзьмі ўмеў ладзіць. І ўсё ж не ставала яму дыпламатыі: часцяком ён гаварыў тое, пра што іншыя, больш абачлівыя, маўчалі.

Прыгадаўся партактыў дывізіёна. Даклад рабіў сам Бандарэнка. Цімчук мог і не выступаць, асабіста яго ніхто не зачапіў, ды і чалавек ён у штабе новы. І ўсё ж ён не змог ціха адседзецца, захацелася падзяліцца сваімі думкамі і назіраннямі. Слухалі яго ўважліва, сціхлі прыглушаныя размовы з даволі салёнымі словамі, якія здаўна любяць маракі, ды ў зале ж былі адны мужчыны, купкамі сядзелі сябрукі, радыя сустрэчы — як тут не перакінуцца словам, не пракаменціраваць чыё-небудзь выступленне.

Мабыць, цішыня і ўвага нібы пацягнулі Цімчука за язык, і ён тады рубануў з пляча, што не ўсе экіпажы добра падрыхтаваны да барацьбы за жывучасць караблёў, камдыў слабавата патрабуе за гэта з іх камандзіраў, што сям-там яшчэ няма поўнай узаемазамяняльнасці. І пайшло і паехала.

Бандарэнка сядзеў чырвоны, выціраў бліскучы ад поту лоб і ўрэшце не вытрываў, упікнуў намесніка:

— Гэта вам так здаецца, таварыш капітан трэцяга рангу. Бо вы яшчэ не паспелі як мае быць агледзецца. Не спяшайцеся рабіць вывады. Як кажуць у нас на Украіне: не лезь папярод бацькі ў пекла.

У зале заўсміхаліся.

— Ого, найшла каса на камень.

— От, дае флагманскі механік раскрутку. На ўсю катушку,— чуліся галасы.

Прадстаўнік штаба злучэння поўнасцю падтрымаў Цімчука. Камдыў некалькі дзён хадзіў сярдзіты, нарэшце памалу адтаў, падабрэў. Пасля вучэнняў нават абняў свайго намесніка, па-сяброўску, «на ты», сказаў:

— Дзіўлюся на цябе, Цімчук. Добры ты хлопец. Але задзірысты надта. Беларусы — людзі рахманыя, памяркоўныя. Палешукі, адным словам... Але ж ты, мабыць, не з Беларусі? Чуб у цябе смалявы, вочы карыя. І прозвішча ў цябе хахляцкае. Далібог, твой бацька з хахлоў выйшаў. Прызнавайся шчыра, га?

— Хто яго ведае? Бацька і дзед нарадзіліся на Магілёўшчыне. А вось прадзед, здаецца, пераехаў з-пад Гомеля.

— Та шо я гаварыў? З маёй Чарнігаўшчыны, факт,— хлопаў па плячы камдыў свайго намесніка.

Які месяц назад, пасля даклада пра камандзіроўку, Цімчук сказаў, што праязджаў цераз Чарнігаў.

— Ну, спадабаўся табе горад? — адразу ажывіўся Бандарэнка.

— Што я мог убачыць? Усяго пятнаццаць хвілін стаяў цягнік. Дожджык якраз церусіў. Таполі там высокія, вастраверхія, нібы свечкі. Вакзал зялёны, вялікі, прыгожы. А ўнутры так светла, чыста. Я проста здзівіўся.

— А шо ты думаў? Чарнігаўцы, брат, не лыкам шытыя. Наш вакзал — адзін з лепшых у краіне,— з гонарам сказаў ён.

— Яблыкі, пуцінкі, надта спадабаліся. Надзвычай смачныя. Вінна-салодкія, сакавітыя...

— О, хлопча, путынкі! То ж лепшыя яблыкі ў свеце... Ах, растрывожыў ты маю душу,— камдыў уздыхнуў, твар яго зрабіўся мяккі, задумны.— Любіў я путынкі ў маленстве. А тут, у Прыбалтыцы, вазьмі яблык. З выгляду гарны, а сухі, не ўкусіш. Не тое сонца... От, растукне мне паўсотня, звольнюся ў запас. Паеду на радзіму... Хата, садок ля яе. Жыві і радуйся. Як пабадзяешся па свеце, тады сваё толькі пачынаеш шанаваць... Праўду маці казала: не зведаўшы гора, шчасце не пазнаеш, не ацэніш... Цягне ўжо, браце, да зямлі. Я ж марыў аграномам стаць, садоўнікам. А тут вайна перакруціла ўсё. З сорак чацвёртага на флоце. Вызваляў Адэсу. Там у плячо мяне здорава цюкнула асколачкам... Каб ніжэй — капцы. А так выжыў. Загаілася хутка. Малады быў, васемнаццаць гадоў. Трапіў у Дунайскую флатылію. Вызвалялі Бялград, Будапешт, Браціславу. Сем разоў мог загінуць, а во — уцалеў. Ось як бывае...

Цімчук слухаў камдыва, і перад ім адкрываўся зусім іншы чалавек, бо ўсе гаварылі, што Бандарэнка круты, жорсткі, цярпець не можа пярэчанняў — да трох не гавары, а тут перад ім сядзеў пажылы, стомлены чалавек, які сумуе па сваёй вёсцы, па сваёй даўняй мары гадаваць сады, каб у іх спелі налітыя сонечным сокам, найлепшыя яблыкі ў свеце — пуцінкі.

Успомнілася Цімчуку свая вёска, маці, зноў прыгадаўся сённяшні сон, як абдымаў жонку і крычаў, клікаў Люду... І міжволі... тая сустрэча.

## II

Па-спартыўнаму падцягнуты, стройны флоцкі афіцэр у цёмным кіцелі з трыма залацістымі нашыўкамі на рукавах, у фарсістай, з белым чахлом, фуражцы неταропка крочыў па вуліцы. Ён пільна аглядаў усё навокал, быццам нечага шукаў. На скрыжаванні павярнуў налева, пайшоў шпарчэй, і глядзеў ужо адно наперад.

На рагу вуліцы высіўся стары чатырохпавярховы дом. Афіцэр доўга здалёк пазіраў на яго, як глядзяць на добрага знаёмага пасля доўгага расстання. «Вось які ты, браце...» — гладка паголеная, сіняватая шчака тарганулася ад непрыкметнага хвалявання, афіцэр ссунуў на патыліцу фуражку, нібы яна зрабілася цеснай, ступіў колькі крокаў убок, да газетнага кіёска, каб не замінаць прахожым. Маладая жанчына востра зірнула на яго і спалохана адвярнулася, калі ён перахапіў яе пагляд.

«Чаго гэта яна так стрэльнула?» Цімчук паправіў фуражку, звыкла намацаў рабром далоні зорачку «краба» — кукарды: ёй належала быць на лініі носа, агледзеў сябе,— усё па форме, праўда, «шкары»-штаны былі трохі пакамячаны, а чаравікі не зусім бліскучыя: ведама, дарога.

Жанчына тым часам перайшла вуліцу, Цімчук правёў яе вачамі: была яна ў чырвонай кофце, цёмна-сіняй, шыракаватай унізе, моднай спадніцы і белых зграбных басаножках. Незнаёмка таропка шмыганула ў магазін. Афіцэр зноў зірнуў на дом. Будынак падаўся чужым, незнаёмым: мусіць, яго нядаўна рамантавалі, афарбавалі ў жоўта-лімонны колер — раней сцены былі шэрыя,— і цяпер дом выглядаў неяк ненатуральна, нібы паважнага веку кабета, якой вельмі хочацца быць маладой.

О, якім высачэзным гмахам здаўся гэты дом Цімчуку дваццаць гадоў назад, калі ўбачыў яго ўпершыню. Пасля бяссоннай ночы: першы раз ехаў цягніком, потым трэсся ў халодным пустым аўтобусе, які грукатаў па бруку,— здавалася, што ляскаюць усе яго болцікі і гаечкі, па гэтай вось вуліцы Цімчук з фанерным чамаданчыкам падышоў да будынка на рагу. Тут ён трохі перадыхнуў, аглядаючы дом, і нясмела запытаў у жан-

чыны ў сінім палінялым халаце, што падмятала тратуар, дзе знаходзіцца машынабудаўнічы тэхнікум.

— А ён тутака і знаходзіцца. Во ў етым доме,— адказала жанчына.— Вунь там ля дзвярэй і напісана.

Хлопец пашыбаваў да дзвярэй, пацягнуў іх, але яны не адчыняліся.

— Яшчэ зачынена. Ранняя птушачка. Толькі шэсць гадзін... Ідзі-ка ты, хлопча, у скверык. Сядзь на лаўку, перадыхні з дарогі. Ды не засні. А то ўсяго абчысцяць. Басаты ўсялякай хапае...— Жанчына прыставіла мятлу да густой, з абрэзанай вяршалінай таполі, сунула пад цёмную хусцінку пасмачку сівых, нібы прыцярушаных інеем, валасоў, паглядзела на Цімчука, усміхнулася куточкамі вуснаў: — Паспееш сюды. Калі паступіш, дык надакучыць табе тута галаву сушыць... Ета ж не ў мамкі дома,— і зноў узялася шырока махаць мятлой.

Чатыры гады прайшлі ў гэтым доме: тут Цімчук вучыўся, тут і жыў напачатку — інтэрнат збудавалі пазней.

«Ці помніш ты мяне, стары? Колькі папахадзіў я па тваіх калідорах! Колькі глядзеў у твае вокны...» — нібы са старым прыяцелем гутарыў у думках Цімчук з домам. Потым падышоў бліжэй, зірнуў на бліскучую шыльду, з хваляваннем адчыніў дзверы. У цемнаватым вестыбюлі пахла сырой вапнай, глінай, дзяўчаты ў камбінезонах мылі падлогу. Тэхнікум рыхтаваўся да новага навучальнага года.

Вестыбюль здаўся невялікім, а столь занадта нізкай. Ля стала вахцёра нікога не было. Збоку ад лесвіцы, што вяла на другі паверх, вісела газетная вітрына: пад шклом, на двух цвічках, як і раней, бялела «Звязда».

Адразу ўспомнілася, як некалі ён, упадабаўшы які-небудзь артыкул, ціхутка здымаў увечары газету з вітрыны, прагна чытаў амаль усю, бо выпісаць сабе не было за што, і потым вешаў на месца. Аднойчы яго заспеў за гэтым заняткам дырэктар тэхнікума, лысы, каржакаваты плечавень.

— Ты што гэта робіш, Цімчук? — голас у дырэктара быў надзвычай густы, басісты.

— Ды во сарвалася з цвічка газета. Дык я паправіў.

— Малайчына... Учора я ішоў вечарам, гляджу — няма газеты. А потым яна з'явілася... Нехта, відаць, здымае. Ты не бачыў часам?

— Не, не бачыў.

— Ну, як вучоба? Нармальна? — Цімчук хітнуў галавой у адказ.— Ну, так і трымай! — Дырэктар пацiснуў яму руку і пайшоў.

І яшчэ адзін успамін мільгануў у памяці. На выпускным вечары дырэктар падышоў да яго з бакалам: «Хачу з табой выпіць, Цімчук! Скончыў ты добра наш тэхнікум. Галаву на плячах маеш. Газеты чытаць любіш... — усміхнуўся хітра.— Будзь настойлівы і ўпарты. І ты далёка пойдзеш...» Дырэктар па-бацькоўску абняў... Потым, ужо лейтэнантам-інжынерам, Цімчук заходзіў у тэхнікум, але дырэктара не было: яго перавялі ў міністэрства. Цяпер, стоячы ля газетнай вітрыны, Цімчук міжволі падумаў: як многа добрых людзей траплялася на яго жыццёвым шляху!

— Вам каго трэба?

Цімчук павярнуўся. Перад ім стаяла маладзенькае, усмешлівае дзяўчо ў заляпаным фарбай камбінезоне.

— Ці ёсць там хто з выкладчыкаў? — спытаў ён, каб нешта сказаць.

— Сёння нікога няма.

— Ну, што ж, няма дык няма. Бывайце здаровы!

— Шчаслíва, таварыш марак! — адказала другая дзяўчына, смуглявая, расчырванелая. Усе дзяўчаты заўсміхаліся, і ад гэтага аж пасвятлела ў памяшканні.

Цімчук выйшаў на вуліцу, прыжмурыўся ад яркага, сляпучага сонца, пакіраваў да скрыжавання, але праз колькі крокаў крутнуўся назад: намацаў у кішэні ліст да жонкі, а ля ўвахода ў тэхнікум вісела паштовая скрынка. Ён апусціў канверт, і калі павярнуўся, ледзь не сутыкнуўся з той самай жанчынай у чырвонай кофце, якая зноў пільна зірнула на вайскоўца.

— Прабачце, калі ласка,— сумеўшыся, сказаў ён і пайшоў далей. Жанчына раптам ціха спытала:

— Васіль! Гэта вы?

— Так, Васіль... Але, мабыць, вы памыліліся.

Цімчук спыніўся, уважліва зірнуў на жанчыну: бялявыя валасы, тонкія дугі цёмных броваў, вялікія шэрыя вочы, ружовыя, падфарбаваныя вусны. Усё было незнаёмае. Адно вочы... Дзе ён бачыў гэтыя вочы?.. І раптам успомніў.

— Няўжо гэта вы?.. Даруйце, не памятаю вашага імя...

— А можа, вы і не ведалі яго? — усміхнулася жанчына.— Мы, здаецца, не знаёміліся...

— І сапраўды... І не размаўлялі, здаецца, ніколі.

— Аднойчы была гаворка. Я сказала вам тое ж самае, што і вы мне сёння... Помніце? — Яна пільна ўглядалася ў твар Цімчука, нібы памагаючы яму прыгадваць.— Помніце, як у магазіне я наступіла вам на нагу? Наўмысна, каб загаварыць з вамі. Сказала: «Прабачце, калі ласка» — і адышлася... Але вы нічога не зразумелі.

— Мне было тады якіх шаснаццаць,— саромеючыся за колішнюю нездагадлівасць, сказаў Цімчук. — А вы адкуль ведаеце маё імя?

— Аднойчы была ў вас у тэхнікуме. На вечары. Бачыла вас на сцэне. Помню, вядучы аб'явіў: «Выступае Васіль Цімчук!» Вы так хораша спявалі!.. Потым былі танцы. Я вас шукала, але не знайшла...

— Я не дужа любіў танцы.— Ён не прызнаўся, што выступаў тады ў пазычаным касцюме і гаспадар яго захацеў сам пафарсіць пасля канцэрта, таму Цімчук у сваім лыжным, у якім хадзіў і на лекцыі, сядзеў у пакоі і гуляў у шахматы. А калі партнёр, прайграўшы тры партыі, збег на танцы, зняў з вітрыны газету і чытаў...

— Вы надоўга сюды? — запытала жанчына.

Цімчук адказаў, што ён праездам — камандзіроўка на Чарнаморскі флот, таварышы яго паехалі, а ён на адны суткі завярнуў у вёску да маці, а цяпер во не вытрываў, каб не пабачыць гэтага дома, але сёння мусіць ехаць, праз гадзіну адпраўляецца яго цягнік.

— У мяне ёсць трохі вольнага часу. Калі хочаце, магу правесці вас да вакзала,— жанчына ўзняла на яго вочы, якія здаваліся цёмнымі ад пафарбаваных вейкаў.

— Буду вельмі рады і ўдзячны вам,— сказаў Цімчук, а сам падумаў: «Дзіўна... Першы і, мусіць, апошні раз ідзём поруч».

Згадаў, як на гэтай вуліцы часта траплялася яму насустрач дзяўчынка з касіцамі і вялікімі вачамі на хударлявым тварыку. Калі яна была з сяброўкамі, яшчэ здалёк усміхалася яму, тоўхала пад бакі дзяўчат, маўляў, вось ён, глядзіце. Яны праходзілі міма

хлопца, гучна і весела смяялася, і Цімчук гатовы быў ненавідзець іх за гэты смех, і перш-наперш — яе.

— А ведаеце, я ўбачыла вас упершыню вунь у тым гастраноме. Вы куплялі сайку і маргарын. Упусцілі манету... Мо таму, што я зірнула? У мяне такі пагляд. Я магу зачараваць,— яна какетліва павярнулася да яго, зноў узняла вочы. Цімчук адчуў, што і сапраўды ў яго неяк пацяплела на душы і захацелася ісці як мага далей з гэтай жанчынай.— Вы тады разгубіліся, пачырванелі, як дзяўчынка. І вейкі ў вас былі доўгія, густыя. Я прыкмеціла гэта і пазайздросціла... А потым цікавала за вамі і знарок траплялася на вочы... Давайце зойдзем у магазін,— сказала яна.

У гастраноме было людна.

— О, які ён маленькі, цесны,— здзівіўся Цімчук.— Раней ён здаваўся вялізным...

— Мы выраслі... А тут усё без змен. Праўда, сайкі зніклі. Мабыць, не выгадна іх пячы? Танныя. Помніце, колькі яны каштавалі?

— Помню. Шэсцьдзесят восем капеек на тыя грошы. Сайка, маргарын, кілька — сто галоў на рубель — ліверная каўбаса... Гэта быў наш галоўны харч. Цяпер студэнты жывуць не так...

Яны пастаялі ля парога і, нічога не купіўшы, рушылі назад.

— Дык як жа завуць таямнічую незнаёмку? Ідзём побач. Столькі ўспамінаў,— усміхнуўся Цімчук.

— Гэта вам трэба было спытаць тады. Але вы... А можа, я не падабалася?

— Чаму? Нават вельмі... Таму я і не адважваўся... А потым вы зніклі. Я вас шукаў. Блукаў па вуліцах... А яны ніба апусцелі... Сумна было...

— Мы пераехалі ў другі горад. Я хацела напісаць вам... і пісала. Некалькі лістоў. Але ніводнага не адаслала. пасаромелася. Да таго ж лічыла сябе вінаватай...

— У чым?

— Адкажу потым... Я хачу спытаць вас... Між іншым, мяне завуць Людміла Іванаўна. Можна — проста Люда. Я — урач-стаматолаг. Зубны доктар.

— Добрая прафесія. У наш час кожны трэці бяззубы. Цывілізацыя. Усё перацёртае, ператоўчанае. А нашы продкі елі сырое мяса... Дарэчы, нядаўна мне вырвалі зуб мудрасці.

— Балела моцна? Васьмёрка, яна балючая. Калі зверху, дык лягчэй. Ёсць спецыяльныя шчыпцы. Знізу цяжэй. Бо ніхто не ведае, колькі каранёў у гэтага зуба. Можа быць адзін, а то і восем.

— Хітры зуб. Нездарма яго так празвалі.

— Ой, мудры! Расце калі захоча. У каго ў дваццаць год прарэжацца, у каго ў сорак ці пяцьдзесят. Бывае, доўга корпаешся...

— Значыць, мне пашанцавала. І вокам міргнуць не паспеў, як доктар паказвае зуб: бачыце, які ён быў? І ўвесь страх. Але вы не адказалі мне, Людміла Іванаўна...

— Спачатку я хачу спытаць. Але пытанне недарэчнае... Хто мог падумаць, што мы з вамі сустрэнемся! Я ніколі б вас не пазнала, каб не адна прыкмета...

— Што за прыкмета? Вы мяне зусім заінтрыгавалі,— смяяўся Цімчук.— Адказвайце хутчэй.

— Даруйце за такое пытанне, Васіль. Скажыце, вы шчаслівы?

Цімчук трохі памаўчаў. «Навошта спавядацца? Праз колькі хвілін развітаемся назаўсёды...» І ў той жа час яму хацелася гаварыць з гэтай дзіўнай жанчынай і быць шчырым, як на споведзі.

— Не ведаю, Люда, што вам і сказаць. Жывём у асноўным у згодзе. Гадуем сына і дачку. Здаецца, не горшыя, чым дзеці ў добрых людзей. І жонка нічога. Памяркоўная, спакойная. Яна таксама медык. Часам і спрачаемся. З-за дзяцей. Надта песціць, патурае ім... Ну, вось, здаецца і ўсё,— Цімчук развёў рукамі.— А як вы, Люда?

— У мяне гадуюцца дзве дачкі. Сына, на жаль, не знайшлі,— сумна ўсміхнулася яна. Памаўчала, загаварыла зноў, нетаропка, нібы прыслухвалася да свайго голасу.— Муж інжынер. Заўзяты тэхнар. Сам тэлевізар сабраў... Зарабляе няблага. Не п'яніца. Здаецца, ёсць усё... акрамя шчасця... Мы ўжо не сварымся. Рэдка размаўляем. Ён прыйдзе з работы — за газету і на канапу. Потым корпаецца ў сваіх схемах, то глядзіць футбол, хакей... А цяпер нажылі сабе ліха. Купілі машыну. То карбюратар пацячэ, то карцэр, то стартэр. Як вольная хвіліна — у гараж... У вас няма машыны?

— Ды не... пакуль. Хоць мае сямейнікі — не супроць.

— О, машына — такая нахаба. Гэта маці мая кажа гэтак. Яна страх як ненавідзіць машыны: «Смярдзючая нахаба — гэтая машына. Псуе паветра, забірае кісларод. І мой, і твой...» Канечне, добра ўлетку выехаць за горад, у грыбы. Хаця і там хадзі вакол машыны, як сабака на ланцугу... Мужык раней быў такі акуратны, чысцюля гэткі. А цяпер уваліцца з гаража брудны, перапэцканы...

Цімчук слухаў і міжволі падумаў: а што б сказала Валя пра яго? Мабыць, таксама нешта падобнае: то ў моры, то на вучэннях, то на вахце, а вернецца — то сябры, то більярд або «пулька».

А жанчына тым часам усё гаварыла і гаварыла: як зацягнула мужа ў кіно, і пасля першай серыі ён не вытрываў: «Глупства... Слязлівая меладрама. Пойдзем дамоў».— «Ну, як можна? Такі фільм цікавы. Сядзі»,— шаптала яна. «Глядзі, калі табе падабаецца. А я пайшоў». Добра, што кінатэатр блізка, бо адна бегла дамоў... А фільм быў цікавы — «Франц Ліст»...

«Чаму Франц, а не Ферэнц?» — падумаў Цімчук, але нічога не сказаў, слухаў сваю спадарожніцу і непрыкметна разглядаў яе. Прыкмеціў, што валасы яе, белыя, як лён, ля каранёў былі цемнаватыя. «Фарбуе. Хімічная бландзінка»,— падумаў ён і ўсё ж не мог не любавацца яе гожым тварам: высокі чысты лоб, прамы невялікі нос, шыракаваты абаяльны рот — на яго думку гэта сведчыла пра добры характар, мяккае круглае падбароддзе. «Як бы я жыў з ёй? Пайшоў бы ў далёкае плаванне. Ці чакала б яна? Такая сімпатычная, прывабная?.. Мая Валя рэдка мазюкаецца, не такая яркая... А там хто ведае, што яна думае? Хто іх, баб, разбярэ?»

Жанчына трохі памаўчала і раптам запытала:

— А ведаеце, як я выйшла за яго? Мы вучыліся разам у школе. Проста сябравалі. Ён быў такі нязграбны, цыбаты. Але сур'ёзны, вучыўся добра. Пайшоў у армію. Пачаў пісаць мне. Ну, я адказвала. Нават абяцала чакаць яго... Колькі хлопцаў заляцалася да мяне! А я чакала. І не тое, каб моцна любіла. Не ведаю чаму... І калі ён вярнуўся, угаворваць пачаў. Нерашуча, далікатна... Шкада мне яго зрабілася. Думаю: калі я не выйду за яго, дык ён і не ажэніцца.

Першыя гады жылі мы добра. Ён неблагі чалавек. Але занадта ўжо сухі, нячулы.

Цімчук уявіў цыбатага, хударлявага мужыка, з хмурым тварам, танклявай кадыкастай шыяй, кадык кратаўся, калі чалавек гаварыў, нібы ў горле перасела скарынка хлеба. «Чаму такія прыгожыя, зграбныя часта цягнуцца да няўклюдных і непрыгожых? Маленькія — да высокіх, тоўстыя — да тонкіх? Загадка прыроды»,— падумаў ён.

— Я вам надакучыла, Вася, сваёй балбатнёй?

— Ну, што вы, Люда! Я вельмі рады, што мы сустрэліся.

— Жартуеце ці праўду кажаце?

— Праўда. Усё так неспадзявана. Я адчуў сябе юнаком...

Цімчук перахапіў яе пільны пагляд — ці то прыхаваная радасць, ці то надзея прамільгнула ў яе вачах.

— Вось так і жывём. Кожны сабе... Толькі дзеці і звязваюць,— уздыхнула яна.— А мо я сама не ведаю, чаго хачу?.. У нас з вамі нічога не было, а забыць не магу. Потым былі захапленні, раманы. Усё забылася. А з вамі і цалавалася толькі ў сне. Вы часта сніліся... А як бедавала я, што праз мяне тады вас адлупцавалі...

І адразу, нібы асвяціла маланка, Цімчук успомніў, як сядзеў з кніжкай у скверы, як да яго падышоў падлетак, папрасіў закурыць, потым выхапіў кніжку і пабег. Васіль дагнаў яго, схапіў за каўнер. Але тут падбеглі яшчэ тры хлопцы, і ўсчалася бойка. Свісток міліцыянера перапыніў яе. У інтэрнат Васіль вярнуўся ▪ рассечаным брывом і сіняком пад вокам. Праз тыдзень сіняк сышоў, загаілася брыво, але невялічкі шрам застаўся назаўсёды.

— Я ва ўсім вінавата. Хлопцы да мяне чапіліся. Неяк пасварылася з імі, сказала, што ў мяне ёсць лепшы кавалер. Ну, яны вам і адпомсцілі... Мая сяброўка бачыла гэта і расказала. Яна паклікала міліцыянера, а то вам бы больш перапала... Я так пакутавала, бедавала... Праз мяне носіце шрам,— Люда зірнула на Цімчука, нібы зноў разглядала брыво.— Амаль непрыкметна. Не крыўдуеце на мяне?

— Вядома, не. Я пра гэта даўно забыўся. А шрамы мужчыне да твару.

— Божа, хто мог падумаць, што праз столькі гадоў мы сустрэнемся! Я адразу пазнала. Як зірнула на брыво... А якое ў вас званне? Маёр?

— На флоце трохі інакш... Капітан трэцяга рангу-інжынер.

Тым часам яны падышлі да вакзала. Да адпраўлення цягніка заставалася некалькі хвілін.

— Ну, што ж, Людміла Іванаўна, бывайце,— Цімчук зняў фуражку і з нечаканым хваляваннем дадаў: — Дзякуй за памяць. За ўсё дзякуй.

Людміла Іванаўна пабялела, абхапіла яго рукамі за галаву і тройчы пацалавала.

— Бывайце, мілы мой чалавек! — голас яе дрыжаў, у вачах стаялі слёзы.— Можа, заедзеце, калі будзеце вяртацца... Вось мой тэлефон рабочы,— яна хуценька дастала з рыдыкюльчыка шматок паперы, напісала некалькі лічбаў.— Спытаеце Трафімаву. Я буду чакаць...

— Не ведаю, ці ўдасца... Ну, мне трэба ісці. Бывайце!

Цімчук па-хлапечаму насунуў на лоб фуражку і подбегам кінуўся ў вакзал.

Цеплавоз нецярпліва пыхкаў парай, ля вагонаў тоўпіліся людзі. Цімчук пакіраваў да свайго вагона. Праваднік узяў білет, зірнуў на яго ўладальніка.

— Выбачайце, таварыш ваенны... Хто гэта вас так наштампаваў? Чырвоных пячатак яна вам наставіла... Мусіць, гарачая кабета? — Праваднік ухмыльнуўся і чамусьці пачухаў кончык носа.

— А, было... Неспадзяваная сустрэча,— Цімчук зніякавеў і паспяшаўся ў вагон.

— Неспадзяванкі, яны, браце, самыя прыемныя,— кінуў наўздагон праваднік.

У тамбуры Цімчук выцер хусцінкай твар і пайшоў шукаць сваё месца, яно аказалася ля акна, сеў і адразу ўбачыў Люду. Яна адзінока стаяла ля шэрай сцяны вакзала. Пад вокнамі вагона мітусіліся людзі, нешта крычалі, пісалі пальцамі на шкле. Пачуўся гудок, цягнік здрыгануўся і плаўна загайдаўся на рэйках. Перон, махаючы рукамі, быццам бег услед. Але Цімчук бачыў толькі адно: ля шэрай сцяны стаяла жанчына — сіняя спадніца, чырвоная кофта, бялявыя валасы. Жанчына нагадвала нейкую дзіўную самотную

кветку. Цягнік набіраў хаду. Неўзабаве вакзал знік з вачэй, і растала, як прывід, самотная кветка.

Пасажыры ўладкоўваліся, даставалі пакункі з ежай. Запахла смажанінай, варанымі яйкамі. Панавала бязладная гамана, якая звычайна бывае ў перапоўненым агульным вагоне.

— Хто хоча пачытаць? — увайшоў з часопісамі праваднік.

Цімчук купіў «Вожык», гартаў, няўцямна разглядаў малюнкі. У праходзе круцілася, лётала, як чаўнок, узад-уперад, загарэлае, смуглае хлапчанё гадоў пяці. Бацька яго, хударлявы, з драбнаватым тварам, прагна піў з бутэлькі піва.

— Па, а што такое хапуга?

Бацька адарваўся ад бутэлькі, выцер тыльным бокам далоні вусны.

— Чалавек, які ўсё хапае. І яму ўсё мала.

— А потым ён робіцца — жырняк? А тады лопаецца, як бурбалка?

Пасажыры пачалі прыслухоўвацца, заўсміхаліся.

— Чаму ты не купіў мне такі часопіс?

— Ты ж не ўмееш чытаць па-беларуску.

— Затое я трохі магу па-ерэванску,— важна сказаў малы і раптам спытаў у Цімчука: — Дзядзя, вы марак? Падводнік?

— Выходзіць, так. Ты хочаш быць мараком?

— Я буду лётчыкам. Самым галоўным. Істрабіцелем... Істрабіцеля ніхто не падаб'е. А яшчэ мацней — дырыжабль. У яго тры кулямёты ззаду. Страляюць у ваду... А яшчэ важней дэсантнікі. Самым галоўным у іх — дэсантны камандзір-маёр.

— Ты хацеў сказаць — верталёт, а не дырыжабль,— бацька ўсміхаўся да вушэй, слухаючы шчабятанне сына.

— Ага, верталёт,— ахвотна згадзіўся малы.

Цімчук успомніў пра свайго Алежку: як ён там, дома? Амаль месяц не бачыў яго...

— На, чытай, камандзір-маёр,— Цімчук аддаў малому часопіс і выйшаў у тамбур.

На душы было журботна і тужліва. Ён закурыў, разгарнуў скамячаную паперку, дзе было напісана «Трафімава Л. І.» і радок лічбаў — нумар тэлефона. Каб запомніць, склаў лічбы — атрымалася восемдзе-

сят восем. «На мове радыстаў гэта азначае — цалую»,— мільганула думка. Захацелася адчыніць дзверы і сігануць з вагона, па шпалах лупянуць у гэты горад, дзе прайшло яго юнацтва, якое сёння падарыла яму развітальны пацалунак.

Потым Цімчук сядзеў у вагоне-рэстаране. Акно было разбіта, і шкло патрэскалася на маленечкія кавалачкі. Шкло двайное, разбілася толькі першая шыба: дзюрка зеўрала ў верхнім куце, ад яе ва ўсе бакі разбягаліся звілістыя трэшчыны. І гэтае шкло начамусьці нагадвала Цімчуку самаробныя жорны: набітыя сколкі чыгуну ў драўляны камёлак, у сцёртых жорнах гэтыя сколкі зіхацелі сярэбраным бляскам.

Пацягнула дамоў, у вёску. Міжволі пачаў падлічваць: цяпер яму трыццаць шэсць, значыць, служыць яшчэ дзевяць гадоў. Пры жаданні ён можа служыць яшчэ пяць гадоў пасля сканчэння тэрміну. А калі дарасце да капітана першага рангу — абавязкова быць пры пагонах да паўсотні...

На двары ацямнела, і калі цягнік праміная станцыйныя ліхтары, кавалачкі шкла ўспыхвалі вясёлкавым бляскам, нібы дзіўная мазаіка. Але гэта не весяліла Цімчука.

## III

На кухню зайшла жонка. Цімчук уключыў радыё: прапікала сем гадзін. Не чакаючы, пакуль Валя зноў пачне ў яго дапытвацца, падняўся і выйшаў на балкон. Сонца ўжо ўзышло, мабыць, прачнуўся і ветрык, бо чуўся сцішаны гоман прыбою.

На балконе, на шнуры, вісеў ручнік — заўчора, у нядзелю, усім сямействам, ездзілі на мора. Успомніўшы пра купанне, Цімчук пацягнуўся, памахаў рукамі: звычайна раніцай, пад радыё, ён рабіў зарадку, цягаў гантэлі, але сёння на гэта не мелася жадання.

Цімчук падумаў, што яму патрэбна з'ездзіць на адзін з караблёў дывізіёна, праверыць энергетычную гаспадарку, і пачаў збірацца на службу.

На вуліцы было золка, сыра, прасветлены нізкім сонцам плаваў рэдкі сівенькі туман. Ціснучыся да тратуара, паўзла машына-вадавоз, нібы тоўсты чмель. Машына часта спынялася: палівала дрэвы. Цімчук

ішоў задуманы і ад нечаканасці аж уздрыгануў, калі яго паклікалі:

— Таварыш капітан трэцяга рангу,— з купкі людзей, што стаяла на аўтобусным прыпынку, да яго кіраваў рослы смуглаваты хлопец.— Здравія жалаю, таварыш капітан трэцяга рангу! Пазналі? Старшына першай стацці Фартуна...

— Пазнаў, Мікалай, пазнаў,— Цімчук пацiснуў руку хлопца і адчуў моцны, шчыры поціск у адказ.— Ну, як жывеш?

— Добра жыву, таварыш капітан трэцяга рангу. Працую на заводзе. Здаў на пяты разрад. Зарабляю нармальна. Менш як дзвесці не бывае. Сям'ю ж трэба карміць. Дачка расце. Словам, не сплю ў шапку.— Фартуна ўсміхнуўся, цёмныя вусікі выцягнуліся ў шнурочак.

— Помню, ты любіў прыкархнуць,— таксама засмяяўся Цімчук.

Фартуна служыў электрыкам на эсмінцы. Вясёлы, прыгожы цыган з-пад Кішынёва быў заўзятым танцорам карабельнага ансамбля. І матрос ён быў кемлівы, справу сваю ведаў, як табліцу множання, але і хітрун адмысловы. На тэарэтычных занятках садзіўся бліжэй да камандзіра, падпіраў лоб рукою, хаваў вочы і драмаў. Да часу гэта праходзіла, пакуль аднойчы не захроп.

— Ну, а вусы не надакучылі? Жонка не пярэчыць?

— Жонцы падабаецца... Ды які ж цыган без вусаў? З таго часу, як вы далі дабро, так і хаджу...

За доўгую службу на флоце Цімчуку толькі адзін раз давялося вырашаць такі канфлікт: матрос паскардзіўся на старшыну каманды, які загадаў пагаліцца, бо насіць вусы «не положено». Матрос выканаў загад — пагаліўся, але папрасіў дазволу ў камандзіра баявой часці. І камандзір даў дабро.

Цімчук рады быў сустрэчы. Ён любіў свайго вясёлага электрыка і нават ганарыўся ім: аднойчы ў час вучэнняў малады матрос упаў за борт, і першым у ледзяную ваду штармавога мора кінуўся Мікалай Фартуна.

— Еду на вакзал. Маці сустракаць. Надумалася, старая, у адведкі. Унучку яшчэ не бачыла... У нас там ужо вінаград паспеў, яблыкі... Прыходзьце ў госці, таварыш капітан трэцяга рангу. Адрас ёсць?

— Адрас ёсць. Паштоўкі твае прыходзяць...

Заўсёды, як набліжаўся Дзень флоту, Цімчук багата атрымліваў віншаванняў з далёкіх і блізкіх гарадоў. Месяц назад яму пераслалі ў штаб цэлы жмут лістоў і паштовак.

— Значыць, сёння чакаем...

— Не, Мікола. Не абяцаю. Можа, у канцы тыдня...

— Я паехаў. Мой аўтобус...

Мікалай развітаўся і подбегам рушыў да прыпынку.

Пасля гэтай нечаканай сустрэчы ў Цімчука пасвятлела на душы, але зноў падумалася пра сваю маці, і нейкая шчымлівая туга агарнула сэрца.

Настрой быў кепскі, і таму на караблі Цімчуку ўсё здавалася не гэтак, як трэба, і ён даў прачуханкі камандзірам штурманскай, артылерыйскай і міннатарпеднай баявых часцей, але больш за ўсіх дасталося камандзіру баявой часці-пяць, маладому рухаваму старшаму лейтэнанту, яму Цімчук, як кажуць на флоце, зрабіў «утык» — аб'явіў вымову.

Адвячоркам прыйшоў Цімчук дамоў. У кватэры нікога не было. «Відаць, паехалі па магазінах... І Алежку ўзялі з сабой»,— успомніў, як учора жонка гаварыла, што трэба купляць падручнікі, школьную форму. Цімчук выйшаў на балкон. Сонца вынырнула з-за бухматага, шэравата-белага воблака і прыгрэла так, што хоць здымай кашулю і загарай, але настрой усё роўна быў паганы, галава цяжкая, нібы з пахмелля. Нечакана яму так завінулася паехаць да мора, кінуцца з разгону на хвалі і плыць далёка-далёка...

Праз паўгадзіны Цімчук быў на пляжы. Не зважаючы на вецер, загарэлыя маладыя хлопцы і дзяўчаты гулялі ў валейбол, з сасонніку, што атульваў пляж, чулі-ся гамана і смех. Цімчук хуценька распрануўся, прабег паўз бераг, каб трохі разагрэцца, і ўвайшоў у ваду, якая падалася надзвычай халоднай, але чым далей ён плыў, тым вада станавілася цяплейшай. Ён радаваўся, што дзіця, калі ўзлятаў на грэбень хвалі, задзіраючы галаву, каб не сербануць салёнай пены, потым імкліва і лёгка ляцеў уніз і зноў караскаўся ўгору. Не хацелася ні пра што думаць, толькі радасць, шырокая і поўная, як гэтае мора, ахапіла ўсю ягоную істоту. Мабыць, так радаваўся які-небудзь наш далёкі шчур ці

прашчур, калі, стомлены пасля палявання, пакуль смажыліся на агні мяса, рыба, кідаўся ў мора і плыў, смеючыся ў душы ад гэтай ласкавай блізкасці з прыродай, успамінаючы абдымкі якой-небудзь маладзенькай доўгавалосай дзяўчыны.

А Цімчуку прыгадалася Люда, са шкадаваннем падумалася, што ніколі з ёй не плаваў, і ўвогуле ў іх нічога не было, а ён чамусьці ўсё думае і думае пра яе... Вада здавалася цёплай, як падагрэтае малако, калі ён выходзіў на бераг,— мабыць, паветра яшчэ болей пасвяжэла. Апрануўшыся, Цімчук сеў на лаўку ў засені маладых разгалістых сасонак. Сонца ўжо было нізка, але яшчэ прыгравала, калі выглядвала з-за аблокаў, якія радзелі, сплывалі, нібы крыгі, за небакрай і там раставалі.

Дамоў не хацелася. Кіцель ён знарок павесіў у калідоры, каб жонка адразу ўбачыла, што ён заходзіў пасля службы, запіску, як звычайна, не пакінуў, і цяпер варухнулася думка, што Валя будзе непакоіцца, што яго чакае Алежка. Цімчук падняўся, па звычцы зашпіліў усе гузікі, хоць і быў у шэрым цывільным пінжаку, ужо ўзяўся за партфель, як раптам да яго данеслася:

—...Дык што, паехалі? — пытаўся мужчынскі голас.

— Не хачу я з табой ехаць,— усхліпвала жанчына.

— Я ж незнарок. Усе жартавалі... Навошта рабіць з мухі слана, Ліля! З кожнай дробязі робіш трагедыю...

— Для цябе — гэта дробязь? Таўхануў, што ледзь не ўпала... Што за жарты ў цябе? З сінякамі хаджу... Ты эгаіст. Думаеш толькі пра сябе.— Жанчына зноў захліпала.— Надакучыла ўсё. Твае бясконцыя дакоры. Што я некалі там сустракалася з кім. А хіба ў цябе нікога не было?

— Ну, што ты гаворыш? Калі я цябе дакараў? — мякка ўшчуваў мужчына.

Цімчук адхінуў галінку і ўбачыў іх абодвух: жанчына, стройная, танклявая, стаяла ля хвойкі. Ён — рослы, загарэлы, з гладкім поўным тварам, у сіняй кашулі з закасанымі рукавамі, стаяў побач і вастраносым чорным чаравікам нервова калупаў зямлю. Да іх падышоў малады хлопец:

— Чаго вы тут стаіце? Там чакаюць вас.

— Ды во чарговая трагедыя...— пачаў мужчына.

— Ну і дурань! — яна зноў заплакала, аж уздрыгвалі плечукі.— Не паеду з табой...

— Што ў вас тут робіцца? Дома разберацеся. Паехалі, Ліля,— сказаў хлопец.

— Хай застаецца. Буду я прасіць яе. Калі яна лічыць нармальным... Калі яна можа перавярнуць шахматную дошку, сапсаваць партыю... Калі яна штодзень псуе нервы...

— Дурань ты! Я псую нервы? Сам з-за кожнай дробязі чэпішся.

— Хай я дурань. Будзь ты разумнейшай,— малады муж ішоў на кампраміс.— Я да цябе ледзь дакрануўся. Вось так,— ён спрытна абняў яе і пацалаваў. Ліля замахнулася кулачком, але ён ухіліўся ад удару і зарагатаў. І яна засмяялася, выціраючы кулачком слёзы.

Неўзабаве яны пайшлі. Наперадзе таропка крочыў хлопец і нёс дзве сумкі, а маладыя муж і жонка ішлі ўслед, абняўшыся.

Цімчук памалу рушыў за імі. Падслуханая неспадзеўкі гаворка нібы стаяла ўвушшу. «Як лёгка яны памірыліся. Але гэтак жа лёгка і пасправаліся. Яна бесцырымонна перавярнула шахматы, ён таўхануў яе нагой... А потым цалаваў, абдымаў, яна плакала і смяялася...» Нешта грубае і рэзкае было ў гэтай сцэне, і ў той жа час — нейкая маладая неўтаймаванасць, калі моцна цалуюцца і абдымаюцца. І ўсё ж, як складзецца ў іх жыццё? Не, Цімчук не пазайздросціў ім, бо чамусьці вырашыў: няма ў іх кахання, таму няма і далікатнасці, тонкасці, чуйнасці...

Ён таропка крочыў па асфальтаванай дарожцы, якая шэрай стужкай вілася цераз лес, даволі рэдкі, прасветлены промнямі нізкага сонца. Хвалі прыглушана плёхалі ў бераг, вакол стаяла ціша, не абзывалася ніводная птушка, толькі наперадзе чуліся галасы: вясёлая кампанія, да якой далучыліся маладыя муж і жонка, праставала да аўтобуса. Захацелася болей пабыць на адзіноце, і Цімчук прыцішыў хаду. Цяпер ён думаў пра сваю жонку, дзяцей, непакоіла яго, як сустрэне Валя, няўжо зноў пачне дапытвацца, няўжо не паверыла?

«Чортведама што робіцца,— разважаў ён,— мы ж так хораша жылі...» Бывала, так нудзіўся па жонцы ў плаванні, і колькі было радасці, калі вяртаўся...

Успомнілася першая сустрэча з Валяй.

Ён ляжыць у палаце. Усё навокал белае, і доктар, высокі, сутулы, у бялюткім халаце, мацае яго жывот. Пачынае з левага бока і ўсё пытаецца, ці баліць. Дабраўся да правага, націснуў мацней — востра балела, доктар хутка адпусціў, потым правёў па жываце крыж-накрыж, паглядзеў язык. Унізе, у прыёмным пакоі шпіталя, Цімчука ўжо мацалі двойчы: мужчына і жанчына, вызначылі «востры апендыцыт», а гэты эскулап зноў мацае.

— Ну, што ж, лейтэнант, будзем рабіць аперацыю. Пойдзем рыхтавацца.

— І мне ісці?

— Не,— усміхнуўся доктар.— Па вас прыйдуць.

Неўзабаве адчыніліся дзверы, увайшла медыцынская сястра.

— Хто тут надумаўся хварэць у выхадны дзень?

— Ды во прыспічыла, — усміхнуўся Цімчук.

— Давайце ваш жывоцік,— ласкава, як малому, сказала яна.— Зараз зробім укольчык. Павярніцеся...

У пакоі больш нікога не было. Яны разгаварыліся, пазнаёміліся. Калі медсястра нахілялася, з-пад высокага накрухмаленага каўпака выбіваліся русявыя, аж залацістыя, кольцы валасоў, ад іх тонка пахла парфумай, ад халата камфарай і яшчэ нейкімі лекамі.

— Пойдзем у аперацыйную,— медсястра Валя ўзяла яго пад руку і павяла. Ішлі па светлым калідоры, павярнулі направа, у перадаперацыйную. Тут Цімчук зняў піжаму, пераступіў парог вялікага, светлага пакоя. Доктар паказаў яму на стол, асістэнт, малады хлопец у акулярах, дапамог ускараскацца і легчы, правую руку прывязалі, левую загадалі пакласці пад галаву, ногі накрылі трохі вільготнай, як валкаватае сена, прасцінёй, другой закрылі грудзі, трэцюю прасціну ўскінулі на металічную ручку, што вісела над грудзямі. Цімчук бачыў толькі твары хірурга, асістэнта і аперацыйнай сястры. Валя стаяла ў галавах, і ён чуў яе дыханне.

Хірург пачаў мазаць жывот рознымі квачамі, якія падавала аперацыйная сястра, потым зрабіў укол

і ўсё распытваў, адкуль родам, як служыцца, ці балела раней. Потым ён пачаў рэзаць — Цімчук здагадаўся па рухах, бо не адчуваў болю. Хірург шчыльна прыціскаўся да правай прывязанай рукі, левы бок падпіраў асістэнт.

— Апендыкс-то гнойны,— сказаў нарэшце доктар.— Маніце, што раней не балела...

У роце ў Цімчука ўсё перасохла, рука занямела, лоб узмакрэў. Медсястра Валя выцірала пот, гладзіла па валасах, хлопала па шчацэ, мабыць, каб ён не заснуў.

— Пацярпіце, зараз падцягваць будуць... Пабаліць трохі,— шапнула яна.

Цімчуку пякло ўсярэдзіне, ніба гарэла паясніца, каб не застагнаць, ён сціснуў вусны.

— Ну, вось ён які, апендыкс,— доктар паказаў нешта акрываўленае, падобнае на крывы палец.— Добра ўхапілі. Яшчэ б дзве-тры гадзінкі, мог бы лопнуць...

Рану пачалі зашываць — Цімчук бачыў гэта па руху. Яму было блага, левая рука зусім здранцвела, у роце ўсё сасмягла.

Потым Цімчуку далі морфію, ён заснуў, але смутна адчуваў, як паклалі яго на цялежку, павезлі, потым пераклалі на ложак. Калі прачнуўся, у жываце ўсё гарэла, ламала спіну — месца не мог знайсці сабе. Увайшла Валя.

— Як спалася? Я вам морсіку журавінавага здабыла...

У палаце па-ранейшаму нікога больш не было, і Валя з лыжачкі паіла Цімчука. Патыліцай ён адчуваў яе мяккую, цёплую далонь, чуў, але ўжо не так востра, пах лекаў і парфумы, і гэты арамат здаўся яму на дзіва прыемным, а пітво надзвычай смачным.

— Што за морс! Проста цуд! З вашых рук, Валя, нават вада была б гаючай,— пажартаваў ён.

— У такім разе заўтра буду паіць толькі вадой.

— Не, морс усё-такі лепей... Але дзе вы яго здабываеце? Сакрэт? Хай сабе... Ёсць такая беларуская песня: «Мой міленькі захварэў, кісялёчку захацеў...»

— А вы з Беларусі?

— Так. З Магілёўшчыны.

— О, дык мы суседзі. Я з Бранскай вобласці.

— Мой бацька там партызаніў. Быў камісарам атрада ў злучэнні Фёдарава.



7 Зак. 1905

— І мой таксама ў гэтым злучэнні быў. Можа, бачыліся яны?

— Усё магло быць... Шкада, я ў свайго ўжо не змагу запытаць. Тры гады назад пахавалі...

— А мой сёлета памёр. Па вясне. Не дай бог паміраць вясною...— Валя змоўкла, Цімчук крадком зірнуў на яе: светла-карыя вочы, падобныя колерам на спелыя жалуды, былі цяпер амаль цёмныя, знікла і ямачка на шчацэ, якая ўтваралася пры ўсмешцы. Валя адвярнулася, і яму падалося, што яна гатова заплакаць. Не ведаючы, як суцешыць дзяўчыну, ён асцярожна паклаў сваю далонь на яе маленькія рукі, трохі шурпатыя, мабыць, ад вады. Валя ўстрапянулася, узяла абедзвюма яго руку, ні слова не кажучы, паклала на коўдру і выйшла.

Да канца дзяжурства яна некалькі разоў заходзіла да яго, давала піць, а надвячоркам прынесла белую выгінастую пасудзіну.

— Спадзяюся, ведаеце, для чаго гэтая рэч? — спытала яна з усмешкаю. Цімчук, нечакана засаромеўшыся, кіўнуў, але каб прыхаваць сваю сарамяжлівасць, сказаў:

— Па-беларуску гэта называецца качка. А мо гэта качар? Селязень, значыць.

— Хай будзе качар. Калі гэта вам дапаможа. Нанач дадуць морфію, каб спалі. Заўтра к абеду вы будзеце на нагах. Папраўляйцеся,— Валя таропка выйшла з палаты.

Неўзабаве прывезлі новага хворага, потым яшчэ аднаго. Медсястра, што заступіла пасля Валі, амаль не зважала на Цімчука, бо хапала клопату з новымі хворымі. Раніцой зайшоў доктар, што рабіў аперацыю.

— Ну, як нашы справы, лейтэнант? Не баліць жывот? Усё будзе ў ажуры. Ад апендыцыту вы ўжо не памраце... З'явіцца на свет ёсць адзін спосаб, а пайсці з яго — тысяча...

Папраўдзе Цімчук адчуваў сябе яшчэ кепска, ды і з «качкай», як ні масціў яе ў ложку, нічога не атрымлівалася. Медсястра пабегла да дзяжурнага ўрача. «Каб дзяжурыў мужчына, дык ён бы што-небудзь зрабіў. А доктарка сказала ісці ў туалет». Медсястра ўзяла Цімчука пад руку і павяла.

Увечары праз адчыненыя дзверы ён убачыў, як у калідоры мільганула Валіна постаць. Не, ён не памыліўся — як не пазнаць яе. Было такое адчуванне, быццам ведае яе даўно. Цімчук асцярожна падняўся, трымаючыся за сцяну, высунуўся ў калідор. Валя ўбачыла яго, узрадавалася:

— Ну, што я казала? Вось вы і ходзіце. Як адчуванне?

— Нармальна. На мне ўсё загойваецца, як на сабаку.

— Паглядзім, як яно загоіцца. А цяпер ідзіце ў палату. Кладзіцеся. Ранавата яшчэ хадзіць,— сказала яна звычайным голасам, але маладому лейтэнанту пачулася тут нешта большае, нейкі асаблівы клопат і нават прыхаваная пяшчота.

З кожным днём Цімчук хадзіў усё больш. Калі дзяжурыла Валя, так і круціўся ў калідоры каля яе століка. Гутаркі іх зацягваліся, кола тэм пашыралася, а ток рабіўся ўсё больш даверлівы. У суботу знялі швы, але яго не выпісалі — патрымалі да панядзелка.

На дварэ быў кастрычнік. У запалярным гарадку гаспадарыла зіма. Цімчуку далі на тры тыдні бюлетэнь, але і пасля выпіскі ён амаль штодня прыходзіў да шпіталя: то сустракаў, то праводзіў Валю на дзяжурства. Да хірурга на перавязку паказваўся рэдка, бо рана зусім загаілася. Затое іншая хвароба ўсё мацней авалодвала ім. Гэтую салодкую і пакутлівую хваробу людзі называюць каханнем. Цімчук ужо не ўяўляў свайго жыцця без Валі, і пад Новы год прапанаваў ёй быць яго жонкай. У адказ дзяўчына моцна пацалавала яго, пяшчотна прыхінулася і ціха сказала:

— Ты падабаешся мне, Вася. Ніхто ніколі так не падабаўся... Я веру табе і хачу быць з табой...

І хоць надзвычай радасна было слухаць такое — чуў такія словы ад дзяўчыны Цімчук упершыню, ён не стрымаўся і закрыў яе рот сваімі вуснамі. Як хацелася тады падхапіць Валю на рукі і несці цераз увесь горад. Вядома, насіць на руках яна не дазваляла: маўляў, рана можа адкрыцца. Затое ад пацалункаў не адмаўлялася, а вяселле прапанавала адкласці.

— Нашае каханне яшчэ кволае, як слабенькі парастак. Яго трэба яшчэ расціць, даглядаць... Ці вы-

трымае яно маразы паўночныя, снягі, твае паходы далёкія?..

— Вытрымае, Валюша. Усё вытрымае.

— Давай адкладзём вяселле да лета... Бацьку я сёлета пахавала... А там, можа, у маі ці ў чэрвені, калі ты або я не перадумаем, распішамся, паедзем да нас і да цябе, у Беларусь...

Ён згадзіўся.

Быў чэрвень, калі яны прыехалі на Магілёўшчыну. У лузе ўжо буяла высокая трава, п'янюча пахлі краскі. У лесе, на сонечных узлобках спелі першыя суніцы, ваўсю яшчэ спявалі розныя птахі. І маладым здавалася, што ўсё ў прыродзе створана для іхняй радасці: і шчодрае нястомнае чэрвеньскае сонца, і густая мурава, і мяккі пяшчотна-зялёны мох. Высокая лугавая трава і густы падлесак хавалі іх ад чужога вока, сарокі ў лесе, а жаўтагрудыя плісіцы ў лузе вартавалі іх, паведамлялі пра небяспеку.

Маці не магла нарадавацца сынам, раўніва, насцярожана, але прыветна — раз сын яе ўпадабаў, значыць, яна вартая таго,— сустрэла нявестку. Радзіна клікала ў госці, і адвячоркамі маладыя хадзілі то да браценіка, то да пасёстры або дзядзіны. Гарэлкі яны амаль не пілі, бо і без таго былі п'яны ад свайго кахання і такога поўнага і нязведанага шчасця.

Раніцой яны пілі духмяны пеністы сырадой, елі дранікі з салам. А неяк дзядзька Нупрэй, стары, маленькі, але яшчэ маладжавы з твару і крэпенькі, як смалячок, прынёс вялікі слоік мёду.

— Майскі мядок. Самы, самы лепшы. Ешце, дзеткі, мае залатыя, на здароўе... Ты, Васілёк, не думай, што мядовы месяц так сабе прazываецца. Даўней мядком кармілі маладых. Дужа ён спажыўны. Сілу мае вялікую... Ета значыцца, каб маладыя стомы не ведалі. Каб соладка ім было... Дзед мой, нябожчык, хай яму пухам зямелька,— дык ён расказваў, што мужа маладога, значыцца, на цэлы месяц аслабанялі ад усялякіх работ па гаспадарцы. Каб толькі жонку цешыў... А потым ужо як упрагаўся ў работу, дык да самага скону. А што было ў маладосці — помнілася...

Два тыдні пражыў лейтэнант з маладой жонкай у сваёй вёсцы. Гэтыя дні і ночы запомніліся назаўсёды, як самы шчаслівы час.

Потым паехалі да Валінай маці, на Браншчыну. Вёска, дзе яна жыла, стаяла сярод вялізнага лесу, які перасякала дарога — міжраённы бальшак, уздоўж яго на добрыя сем кіламетраў і выцягнуліся хаты. Валіна маці, увішная, невысокая, цямнейшая за дачку валасамі, радавалася зяцю, не ведала, куды яго пасадзіць і чым дагадзіць, і ўсё прыгаворвала:

— А зяцёк жа ты мой! Дачушка мая любая. Маладым жа цяперыцька толькі жыць. Каб жа толькі вайны не было...

Цімчук дзівіўся, што цешча гаворыць амаль гэтак жа, як і яго маці, і наогул тутэйшая гаворка мала адрознівалася ад мовы землякоў. І калі ён сказаў пра гэта, пачуў у адказ ад цешчы:

— Мой жа дзед, Аўхімчыкам яго звалі, гывaрыў, што некалі мы былі пад Літвою. І Брянск, і Смаленск, і Амсціслаў, і Крічаў. Сам жа ён быў родам з-пад Амсціслава. Там нарадзіўся, а тады піряехалі аттулецькі сюды...

Цімчук любіў слухаць мяккую, пявучую гамонку Сахвеі Аўдакімаўны — і ў яго роднай вёсцы сустракаліся Сахвеі і Аўдакімы — і яшчэ мацней цягнуўся сэрцам і душой да свае маладое жонкі.

— Мы з табой, Валя, зусім блізкія землякі. І ў тваіх жылах цячэ кроў маіх прашчураў.

— Можа, мы і родзічы? Дзе-небудзь у сотым калене... Я спярша падумала, што ты гарадскі. Надта ж па-руску чыста гаварыў.

— Навучыўся. Многія з маіх землякоў, матросы, курсанты, спяшаюцца як найхутчэй пазбавіцца акцэнту. Старанна вымаўляюць «г» і «ч», змякчаюць «р». Каб нехта не падсміхнуў: «Бульбаш, бяры трапку і навадзі парадак».

— А я чула не раз, што беларусаў любяць на флоце.

— Так. Любяць іх за сардэчнасць і весялосць. Не часта сярод іх трапляюцца аматары «прагнуцца», выслужыцца перад начальствам. А найбольш — хлопцы шчырыя і працавітыя. А служба ёсць перш-наперш работа. Цяжкая, небяспечная работа...

У цешчы таксама жылося добра. У лесе было процьма ягад. Валя збірала іх, а Васіль касіў траву па кустах— збіраў цешчы на карову. Валя далёка не ады-

ходзілася: не магла быць без яго. Ды і ён часта клікаў яе. У лесе яны палуднавалі, адпачывалі на свежай траве. Потым пайшлі грыбы. Аднойчы яны набралі паўнюткі кош лісічак, а іх вакол — аж зямля жоўтая. Тады Васіль зняў кашулю, завязаў рукавы, і нарэзалі паўнютка грыбоў. Валя ўсё жартавала: «Давядзецца табе, Вася, і порткі здымаць...» — «Не, лепей ты што-небудзь здымай»,— рагатаў ён.

Пра тое, як збіралі грыбы, Цімчук успомніў ужо едучы ў аўтобусе. І тут яму кінулася на вочы такая сцэна: маці везла малога хлапчука, ён хацеў стаяць ля акна, а яна пасадзіла яго сілком. Малы вырваўся, яна зноў яго рэзка тузанула і пасадзіла сабе на калені. Хлапчук заплакаў і праз слёзы гаварыў: «Калі вырасту, дык паеду ад цябе... назусім...» Жанчына была цяжарная: жывот выпіраў з-пад балоневага плашчыка, на тонкім твары былі відаць рудаватыя плямкі.

«Чаму яна гэтакая злая? Хай бы стаяў... Трымала б за руку, каб не ўпаў,— думаў Цімчук.— А то вырасце сын злым чалавекам. Такі ад маці з'едзе і ліст не прышле. Жонку таўхане чаравіком... І другое ж дзіця носіць...»

Іншы раз, магчыма, гэтая сцэна не ўзрушыла б яго, а сёння ён успрымаў усё абвострана. З самай раніцы, як прачнуўся пасля таго недарэчнага сну, не было на душы супакою. І тут ён раптам падумаў: усё ў жыцці аплочваецца тою ж манетаю, якую кожны сам чаканіць. Так яно бывае і ў каханні. Хаця не ўсё залежыць ад самога...

Цімчук прыгадаў знаёмага афіцэра, з якім служыў на Паўночным флоце. Той быў адданы сем'янін, дужа шанаваў жонку і малую дачушку. Сябры пасміхаліся з яго, што бялізну мые і падлогу, а жонка ад няма чаго рабіць шуры-муры заводзіць. Цімчук гэтаму не верыў, бо неяк быў у іх у гасцях і ў душы пазайздросціў, як дружна і ладна яны жывуць. Аднойчы ён быў патрульным афіцэрам і разам з двума матросамі, якія яго суправаджалі, завітаў у матроскі клуб. Было там людна і тлумна, гучна граў аркестр. Матросы і старшыны адразу пасур'ёзнелі, падцягнуліся, калі афіцэр з павязкаю патруля ўвайшоў у залу. Цімчук, скалелы на халодных вуліцах гарадка, з ціхай зайздрасцю аглядаў пары, што разамлела соваліся ў павольным тан-

цы. І раптам ён аж уздрыгнуў: жонка знаёмага афіцэра танцавала з нейкім высокім рыжым хлопцам у цывільным касцюме, расчырванелая, узбуджаная, яна так і ліпла да партнёра.

«Можа, не яна? Гэтая ў акулярах... А мо з мужам? Не, учора яго лодка пайшла ў плаванне»,— мільганула ў галаве. Жанчына ўбачыла Цімчука, спалохана адвярнулася, і ён таксама адвярнуўся, быццам неспадзеўкі падгледзеў нешта недазволенае і нават агіднае. Калі ён азірнуўся, рыжы з партнёршай тачыліся на сярэдзіну залы, далей ад патрульнага афіцэра. «Ну, і шкуроха. Да сцэнкі б ставіць такіх»,— скрыгатнуў зубамі Цімчук, і яму адразу заманулася пайсці адсюль, хоць і разумеў, як хочацца пабыць тут яго матросам.

## IV

Горад ахуталі густыя прыцемкі, калі Цімчук падыходзіў да дому. У кватэры было цёмна, толькі на кухні свяцілася акно: значыць, вячэраюць, чакалі яго і не дачакаліся. І ён адчуў на душы горкую прыкрасць, лаяў сябе, што запазніўся, і так захацелася памірыцца з жонкаю... Вырашыў быў купіць шампанскага, але разважыў, што яна можа падумаць, нібыта ён замальвае грахі. Цімчук адамкнуў дзверы сваім ключом, распрануўся ў калідоры. Дзеці не кінуліся сустракаць яго, як звычайна. Алежка заўсёды бег першым насустрач, Аленка падрасла ўжо і стала больш стрымакай. Праз адчыненыя на кухню дзверы ён бачыў жонку і дзяцей — яны моўчкі пілі чай. «Някепскую артпадрыхтоўку правяла»,— падумаў ён, але ўголас сказаў:

— Добры вечар. Як вы тут?

— Можа, для каго і добры... Паспеў ужо адзначыцца ў яе? — злосна зірнула жонка, вочы ў яе былі цёмныя, калючыя.

— У каго... у яе?

— Табе лепей ведаць у каго... На дзяцей забыўся. Усё кінуў-рынуў і пабег...

— Якая ж ты ўсё-такі...— Цімчук рэзка павярнуўся, спатыкнуўся на свой партфель у калідоры, узяў яго, памкнуўся быў на вуліцу, але павярнуў назад. Ідучы на балкон, убачыў на канапе цёмную школьную

сукенку з белым фартушком. На балконе закурыў, партфель трымаў у руках, і нечакана яго так пацягнула на вакзал — сесці на поезд і паехаць. Заўтра быў бы ў тым горадзе, пазваніў бы Людзе... Сапраўды, яна там, няшчасная, а ён тут.

«Заўтра падам рапарт на водпуск. Паеду ў вёску да маці»,— і злавіў сябе на тым, што думае не толькі пра маці і родную вёску. Раздражненне на жонку мацнела. Апошнім часам была такая няласкавая, штовечар сядзіць з дзецьмі ля тэлевізара, а з клінікі ўсё плёткі прыносіць: каму неўзабаве званне прысвояць, каго куды прызначаць, каму даюць новую кватэру... Не дзяжурыла б яна ў той дзень у шпіталі і, магчыма, нічога б у нас не было. Меў бы я іншую жонку, іншыя былі б дзецi... А хіба мае дзеці дрэнныя? Ды і з ёй жа некалі жылі так добра... Можа, кахае, таму і раўнуе? А мо проста дрыжыць, каб не кінуў...»

Цяпер усё жыццё з Валяй здавалася суцэльнаю драмай, іх дробязныя колішнія спрэчкі — як апрануць дзяцей, што глядзець па тэлевізары, што не,— выраслі да велізарных памераў, і бачылася адзінае выйсце — разысціся, перавесціся на Поўнач або на Далёкі Усход, а можа, і камісавацца з флоту, уладкавацца б якім механікам у райцэнтры ці ў калгасе, забраць да сябе Люду і пачаць новае жыццё.

Тым часам жонка і дзеці ўлегліся спаць. На двары памалу гусцела цішыня, толькі зрэдку даносіліся прыглушаныя ўздыхі прыбою. У кватэры было цёмна і неяк вусцішна. Цімчук лёг на канапе, але сон не ішоў. Міжволі ўсплылі на памяць розныя жыццёвыя здарэнні, як вучыўся ў тэхнікуме, потым ваенна-марское вучылішча, служба, як ажаніўся, і ўсё ягонае жыццё нагадала яму тое разбітае шкло ў вагоне, і розныя па ягонай біяграфіі цяпер свяціліся, нібы шкельцы мазаікі, але святло іх не было скіравана ў адзіны фокус, а ўрассыпную, ва ўсе бакі.

А яму ж здавалася раней, што ў яго жыцці ўсё проста і ясна. З дзяцінства марыў стаць лётчыкам, потым захацелася быць урачом-хірургам, потым захапіла тэхніка — спаў і бачыў сябе інжынерам-канструктарам, паступіў у машынабудаўнічы. Пра мора і не думаў, бо не бачыў яго да службы, праўда, марацкая форма падабалася яму з маленства. І служба пайшла

добра. За асваенне новай тэхнікі яго ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі, датэрмінова прысвоілі званне «капітан-лейтэнанта-інжынера». І вось цяпер ён флагманскі спецыяліст дывізіёна. Некаторыя зайздросцяць, а яго ўсё больш не задавальняе штабная служба, і ў глыбіні душы шкадуе, што паддаўся ўгаворам, пайшоў з карабля.

Гадзіннік спраўна адлічваў удары. Вось ужо і тры прабіла, а сну не было. Галава гудзела, думкі блыталіся. Цімчук падняўся, зайшоў ціхутка ў дзіцячы пакой. Алежка разбрыкаўся, нават было відаць у паўзмроку яго збітае калена — упаў з веласіпеда. Цімчук накрыў сына, зірнуў на Аленку, тая спала, закінуўшы рукі за галаву, нібы абдымала падушку. Потым падышоў да дзвярэй спальні, і там чулася роўнае дыханне. «Як яна можа спаць? — падумаў пра жонку.— Мне сапсавала настрой... Зрабіла з мухі слана, а сама спіць хоць бы што».

Ён зайшоў на кухню, доўга сядзеў там, курыў.

## V

На службу Цімчук прыйшоў з рапартам у кішэні, дачакаўся, калі капітан першага рангу Бандарэнка застаўся ў кабінеце адзін, рашуча адчыніў дзверы. Камдыў прагна смаліў «Казбек» і паспеў ужо добра надыміць. Цімчук казырнуў, павітаўся, як належыць, бо адразу ўсёк, што шэф не ў гуморы. Камдыў падаў руку, паказаў на крэсла. Цімчук сеў і, не марнуючы лішне часу, пачаў:

— Пётр Міхайлавіч, я вас прашу дазволіць мне водпуск.— і паклаў на стол рапарт.

— Ну я ж табе гаварыў, што цяпер не выпадае,— яшчэ больш спахмурнеў Бандарэнка, зірнуў коса на паперку, потым узяў яе, разгладзіў тоўстымі кароткімі пальцамі, закрыў паперу шырокай далонню, на пальцах якой квола сінелі літары «Петя» — наколата было яшчэ, мабыць, у юнацтве, літары пабляднелі, але так і не сцёрліся.— І потым гэта для цябе самога важна. Пачакай. На днях усё высветліцца,— камдыў паморшчыўся, сунуў руку за спіну.— Каб на яго ліха, гэты радыкуліт... Мабыць, надвор'е пераменіцца...

— Таварыш капітан першага рангу, што павінна высветліцца?

— Тое, што павінна, тое і высветліцца... Вазьміце рапо́рт і нікому яго не паказвайце,— афіцыйна сказаў камдыў, але Цімчук сядзеў нерухома.— Гэта загад, таварыш капітан трэцяга рангу. Можаце быць свабодны...

Пад канец дня Цімчук адчуў сябе зусім блага: у галаве шумеў прыбой, давіла нешта на вочы — угору іх цяжка было ўзняць, у грудзях сціснула, а язык зрабіўся сухі і шорсткі.

«Што гэта я раскіс? Здаровы чалавек раптам ператварыўся ў медузу»,— ушчуваў сябе Цімчук, але вырашыў схадзіць да доктара, каб даў снатворнага.

У санчасці ён трапіў да флагманскага ўрача, ужо не маладога, хоць ён яшчэ ўсяляк маладзіўся, падпалкоўніка медыцынскай службы Астаніна. Сустрэў той Цімчука вясёлай, прыязнай усмешкай: мабыць, хворых сёння ў яго было мала і чытаць «Морской сборник», які ляжаў на стале, надакучыла.

— Ну-с, бацюхна, чым магу служыць? Сядайце, расказвайце. Даўненька вас не бачыў.

— Я не аматар хадзіць да вашага брата.

— Ухваляю, але не зусім. Хадзіць да нас трэба не толькі тады, калі зусім скруціць, а раней. Параіцца, праверыць. Прафілактыка — важней, чым само лячэнне. Вось так, таварыш капітан трэцяга рангу. Думаю, што ў будучым медыцына будзе займацца ў асноўным прафілактыкай. І чалавек будзе жыць доўга і шчасліва.

Цімчук расказаў пра бяссонне, галаўны боль. Урач змерыў крывяны ціск, і яго бровы, яшчэ чорныя, густыя, хоць галава была белая, як грэбень пеністай хвалі, палезлі ад здзіўлення на лоб.

— Ну, бацюхна! Сто семдзесят на сто дзесяць. Гэта, я вам скажу... Мне гэта не падабаецца. У вас жа быў юначы ціск летась. Сто трыццаць на восемдзесят. І раптам такі скачок! Што здарылася? Канфлікт на службе?

Доктар прымусіў Цімчука легчы, зняць чаравікі, павадзіў нечым па пятках, памацаў жывот, потым загадаў устаць, выцягнуць рукі перад сабой, заплюшчыць вочы.

— Пацісніце мне руку. Мацней!

— Ну, што вы, таварыш падпалкоўнік. Я не хачу, каб вам балела,— сказаў Цімчук, але ўсё ж цісхануў яго далонь.

— Ну, бацюхна, сілёнка ў вас ёсць! — урач выцягнуў у трубачку поўныя, з фіялетава-ружовым адценнем губы, падзьмуў на далонь, разнімаючы пальцы.— Дык чаму ж ціск гэтак падскочыў?

Слова па слове, Цімчук разгаварыўся і нават расказаў пра недарэчны сон і пра тое, што ўчора не ўдалося памірыцца і што ён ні ў чым не вінаваты перад жонкай, а яна не можа даць веры.

— О, гэтыя жанчыны! Я са сваёй ужо амаль трыццаць гадоў пражыў. І то не ведаю, якога коніка яна заўтра можа выкінуць. Паехала ў Ленінград унука нашага паглядзець, і няма ўжо цэлы месяц. Унуку трэці год. Добры хлапец... Так што я ўжо даўно дзедам стаў. Ці чулі вы анекдот? Адзін мужык, яшчэ не дужа ў гадах, зрабіўся дзедам. Ну, абступілі яго сябры: «Вось у цябе ўжо ўнук ёсць. Як ты сябе адчуваеш у ролі дзеда?» Ён кажа: «Ды нічога. Гэта прыемна. Унука вельмі люблю. Але як падумаю, што сплю цяпер з бабусяй, дык робіцца сумна»,— Астанін зарагатаў, паказаўшы роўныя здаровыя зубы.— А вы, калі не вінаваты, нават калі нешта там недзе і было, не ўздумайце прасіць у жонкі прабачэння... Гэта яшчэ Дастаеўскі пісаў: барані вас бог прасіць прабачэння ў любімай жанчыны. Яна гэтага ніколі не даруе. У палюбоўніцы дык можна і прабачэння папрасіць. І на калені стаць дзеля смеху. Яна можа і паверыць. Такі гэта народ — жанчыны. І хто іх толькі выдумаў?

Астанін усміхнуўся, звыклым рухам прыгладзіў вусы, але адчувалася, што ён сярдзіты на жонку, якая доўга не прыязджае, і адзінота яго зусім не радуе.

— Жанчыны цяпер не тыя пайшлі. Яны ўжо развучыліся раджаць, дзяцей гадаваць. Паначапляюць на сябе трантаў розных і шпацыруюць. Жывыя манекены. Ні зварыць табе, ні падаць, ні прылашчыць. У свеце ўтварыўся велізарны дэфіцыт пяшчоты, ласкі. Людзі яшчэ то ваююць, то вучацца ваяваць. Можна падумаць, што чалавек дзеля гэтага і нараджаецца... Так, так, бацюхна, дэфіцыт пяшчоты і ласкі расце. Як падводнікам не стае ў паходзе ультрафіялетавых промняў, так

на зямлі нам усім не хапае пяшчоты і чуласці. Падводнікам мы зрабілі сонца пад вадой. Усе яны атрымліваюць там пэўную дозу, дакладней, патрэбную дозу,— падпалкоўнік падняў уверх палец, маўляў, урач ні ў якім выпадку не можа памыляцца,— ультрафіялетавых промняў. А як зрабіць, каб паболела на зямлі пяшчоты, спагады? От, бацюхна, праблема... Але што гэта я вам зубы загаворваю? Вам трэба зрабіць кардыяграму. Абавязкова. Але сёння позна ўжо. Лабараторыя зачынена. Заўтра прыходзьце раней,— Астанін узяў картку, пачаў нешта запісваць.— Вызваленне магу даць. З гэтакім ціскам доўга не паслужыш. Пісаць?

— Не трэба,— запярэчыў Цімчук, бо ўявіў, што можа падумаць камдыў.— Проста мне трэба адаспацца. Мо якіх таблетак...

— Снатворных, бацюхна, не раю. Выпішу вам інтэркардзінчык. Папіце пару тыдняў,— падпалкоўнік хутка, размашыстым почыркам пісаў рэцэпт.— Ад снатворных галава потым баліць. Лепей жонку мацней абдымайце. Ці ёсць там хто да мяне? — ён выглянуў у калідор.— Нікога няма. Можна ісці дадому,— але відаць было, што Астаніна не дужа цягне ў пустую кватэру.— Замест таблетак магу прапанаваць кілішак армянскага. Пашырае сасуды, здымае напружанасць. Кажуць, нібыта сто грамаў каньяку замяняюць таблетку валідолу. Але ж валідол кілаграмамі не ядуць. Так і каньячок. Калі не перабіраць — не шкодзіць.

Цімчук пачаў адмаўляцца, але падпалкоўнік не стаў яго і слухаць, зачыніў на ключ дзверы, дастаў з белага сейфа, які нагадваў халадзільнік, паўбутэлькі армянскага, наліў у шклянкі, шыракаватыя, прысадзістыя — карабельныя, для ўстойлівасці,— падсунуў шклянку Цімчуку. Пітво цёпла, залаціста прасвечвалася праз шкло. Яны чокнуліся.

— За ваша здароўе! — сказаў падпалкоўнік, адпіў трохі, смакуючы, паклаў перад Цімчуком цукерку і сухарык.— Заядайце.

— Дзякуй, таварыш падпалкоўнік. У нашай вёсцы таксама гавораць заядайце, а не закусвайце.

— Я нарадзіўся ў Віцебску. Але я не беларус. Бацька быў ваенны. Сібірак. Маці — масквічка. Ездзілі па свеце... У Віцебску я пачаў у школу хадзіць. По-

тым паехалі далей. На Волгу, у Саратаў, затым у Арэнбург. Бацька служыў у авіяцыі. Ваяваў у Іспаніі. Палкоўніка атрымаў перад вайной. Загінуў у сорак першым... Ваш яшчэ жыве?

— Не, памёр. Партызаніў, ранены быў...

Афіцэры памаўчалі.

— Ну, давай, браце, за нашых бацькоў,— ціха сказаў Астанін.

Яны падняліся, выпілі, моўчкі селі. Чамусьці Цімчуку адразу ўспомніўся Алежка з цемнаватым, збітым каленам. Пацягнула дамоў, і ён зірнуў на гадзіннік.

— Зараз пойдзем,— кіўнуў падпалкоўнік.— Як адчуванне?

— Здаецца, лепш. У галаве неяк пасвятлела.

— Ну, то дап'ём гэтыя кроплі. Што тут пакідаць? — Астанін выліў каньяк у шклянкі.— Давай, за ўсё добрае! — шчыра, па-сяброўску на «ты», сказаў ён.

— За ўсё добрае,— паўтарыў Цімчук.

Неўзабаве яны выйшлі на вуліцу. Ужо бралася на вечар. Цёплая фіялетава-бэзавая смуга ахутала прыморскі горад. Вось такія бэзавыя прыцемкі Цімчук бачыў толькі ў прыбалтыйскіх гарадах: мабыць, мора і сонца нараджалі гэтую смугу, і асабліва яна ўладарыла ў светлыя і доўгія вясеннія вечары. На душы ў Цімчука зрабілася лёгка і ціхамірна.

Яны ішлі шырокай каштанавай алеяй. Дрэвы былі яшчэ зялёныя, даўжэзнае лісце выглядала свежым, матава-сінім, сям-там жаўцелі круглыя, з шыпамі плады, і раптам яны нагадалі Цімчуку гэтакія ж круглыя і рагатыя гальвана-ўдарныя міны. Ён сцепануў плячыма і наддаў кроку. Астанін узяў яго пад локаць.

— Не спяшайся, таварыш капітан трэцяга рангу. Цішэй едзеш, далей будзеш. Ад таго месца, куды едзеш. Вечар сёння цудоўны. Лета хоць на развітанне падаравала нам некалькі сонечных дзён.

Пачуўшы пра гэта, Цімчук адразу ўспомніў Люду, развітанне з ёй і ў думках перанёсся ў горад свайго юнацтва. Астанін тым часам усё гаварыў, што чалавецтва мала рухаецца, а японцы раяць рабіць дзесяць тысяч рухаў у суткі.

— Я іншы раз іду па вуліцы і чытаю па тварах, хто на што хварэе. Колер твару і вочы гавораць мне больш, чым кардыяграма...

— Мая маці гаварыла: у злых людзей баліць пячонка, у зайздроснікаў — страўнік, у добрых — сэрца.

— Здорава сказана. Але што гэта мы ў такі цудоўны вечар?.. Сумную размову завялі, га? — ён зноў узяў Цімчука пад локаць.— А што, бацюхна, ці не зганяць нам партыйку на більярдзе? Размінка для рук, галаве — адпачынак.

— Даўно не гуляў. Некалі любіў,— прызнаўся Цімчук.— На Поўначы більярд, шахматы і лыжы былі нашай уцехай. Асабліва для халастых лейтэнантаў.

— Значыць, згода. Тады кіруем у Дом афіцэраў.

У більярднай ярка гарэла святло. Астанін павітаўся з маркёрам, хударлявым, немаладым ужо, у цёмных акулярах, які сядзеў ля ўвахода за столікам і чытаў кнігу. Два маладзенькія старшыя лейтэнанты, што завіхаліся ля даўжэзнага стала, застылі ля яго. Другі стол быў не заняты, звабліва зелянела яго зялёнае сукно, нібы футбольнае поле перад матчам.

— Працягвайце, таварышы,— кіўнуў Астанін лейтэнантам, як старшы па званню, хоць яны больш пазіралі на капітана трэцяга рангу — флоцкага афіцэра.— Дзе тут мой кій?

— Сучок, таварыш падпалкоўнік? Ёсць,— маркёр адклаў убок кнігу, выбраў доўгі кій, пагладзіў яго рукой, нібы добрага каня перад дарогай, падаў Астаніну, запісаў крэйдай час пачатку гульні і зноў усеўся за кнігу.

Цімчук узяў сабе кій, што стаяў з краю, выторкваўся вышэй за іншыя, а тоўсты канец яго быў абматаны сіняй ізаляцыйнай стужкай. Астанін спрытна паставіў шары, нацёр кій і далоні крэйдай:

— Ну-с, бацюхна, прашу. Ваша слова, таварыш маўзер.

Цімчук паставіў паласаты шар-біток правей ад сярэдзіны стала, потым падкаціў трохі бліжэй да сябе, каб далёка не цягнуцца, павёў локцем — правяраў, як трымаецца кій, прыцэліўся ў бок крайняга шара справа і лёгка, з накатам пусціў «паласаціка», той стукнуўся, дакладней, слізгануў і апынуўся ў лузе.

— Цалок! Адразу шар паклаў, га! Што ж мне рабіць? Здавацца загадаеш? А мо ў «піраміду» пачнём? Там бы штраф за «сваячка» запісалі,— сказаў Астанін, кладучы «паласаціка» на палічку. Яны гулялі ў

«амерыканку», і біць дазвалялася любым шаром, забіваць і сваякоў і чужакоў, а ў «пірамідзе» правілы больш жорсткія: б'юць толькі адным шаром — паласатым, а калі ён упадзе ў лузу, за яго здымаюць пяць ачкоў з рахунку.

— У піраміду доўга. Зганяем во пару амерыканак, дый годзе,— сказаў Цімчук, спрабуючы адарваць «зайцоў» — два шары, якія стаялі побач. Але «зайцы» тыцнуліся ў левую лузу і адкаціліся. Адзін стаў недалёка, праўда, біць яго было надта нязручна.

— Ну што, «чужак» ідзе, маэстра? — Астанін прыкідваў, як падрэзаць шар.

— Усё можа быць,— адказаў Цімчук, назіраючы, як меціцца падпалкоўнік. А той вызначыў на вока вугал удару, адвёў руку і рэзка, моцна стукнуў — шар са звонам ускочыў у лузу.

— А, пайшоў, галубок! Толькі нагамі баўтануў,— задаволена ўсміхнуўся Астанін.

«Удар мае добры»,— адзначыў для сябе Цімчук, вымаючы шар.

Хоць пачатак і быў удалы, першую партыю флоцкі афіцэр прайграў, затое ў другой даволі лёгка перамог пад гоман балельшчыкаў: вакол іх стала тоўпіліся гледачы, бо цікава было падзівіцца на гульню майстроў.

— Ну, бацюхна, трэцюю, рашаючую,— разгладзіў вусы падпалкоўнік і ўзяўся крэйдай націраць кій. Цімчук зірнуў на гадзіннік, было каля дзевяці. «Зноў пазнюся. Ох, як недарэчы гэта ўсё»,— з прыкрасцю падумаў ён, але адступаць было няёмка, ды і азарт гульні захапіў яго.

Партыя пачалася бурна. Цімчук, каб хутчэй скончыць, хоць і прайграць, моцна разбіў шары першым ударам, і яны раскаціліся па ўсім полі. Астанін паклаў тры шары і не пакінуў партнёру ніводнай падстаўкі. Адзін шар адкаціўся далей, астатнія збіліся ў кучу на другім канцы стала. Каб не рабіць больш падставак, Цімчук вырашыў біць у гэты адзінокі шар і пачаў меціцца.

— Што, таварыш капітан трэцяга рангу, «штаны» вырашылі зрабіць? — Астанін прыкінуў спрактыкаваным вокам.— Магчыма. Рыхтуюся вымаць два шары.

— Не сурочце мяне, таварыш падпалкоўнік,— Цімчук зноў прыцэліўся. Біць было няёмка: калі моцна ўдарыць, то чужак можа заскочыць, але свой не патрапіць у лузу, і гэта ўжо будуць не «штаны». А так былі патрэбны два шары. На імгненне выплыла ў памяці, як некалі вучыў гуляць у більярд Валю — яны былі яшчэ нежанатыя тады, і жартам сказаў: «Вось, глядзі, я стаўлю шар, б'ю ў яго гэтым, і абодва падаюць у лузы. Гэта называецца «штаны». Валя не паверыла, маўляў, чаму гэта яны так пакоцяцца. Малады лейтэнант прыцэліўся, моцна стукнуў, і абодва шары сапраўды апынуліся ў лузах. «Чорт вазьмі! Рэдка, але бывае. Я сам здзівіўся...» Згадаўшы гэта, Цімчук падумаў: «Трэба хутчэй дамоў. Дарэмна пайшоў сюды...» Ён сціснуў кій, адчуваючы, як рука нібы злілася з ім, прыклаўся і рэзка ўдарыў па шары. Не верачы сваім вачам, сачыў, як матава-белыя шары, быццам дзве каметы, мільганулі і зніклі. Балельшчыкі, якіх паболела вакол стала, загулі:

— От гэта ўрэзаў!

— Аднак, таварыш падпалкоўнік, партнёр у вас сёння дастойны,— падаў голас маркёр, які адклаў кнігу і цікаваў за гульнёй.

Неўзабаве Цімчук забіў тонкі, прыгожы шар у сярэднюю лузу.

— Тры на тры,— сказаў маркёр.— Усё пачынаецца спачатку.

— Ідзём поруч. Наздра ў наздру,— усміхнуўся Астанін.

— Званок, таварыш падпалкоўнік,— абвясціў маркёр, калі Цімчук забіў сёмы шар.— Во, прамы ў левую лузу,— не стрымаўся, падказаў ён.

— А што гэты шар біць? Ён стаіць каля лузы. І ногі туды звесіў,— жартам запярэчыў Астанін, мабыць, не хацелася яму прайграваць. Усе заўсміхаліся, бо зразумелі гэта.

— Хоць і мая ўласная падстаўка, але канчаць партыю такім чынам нецікава,— Цімчук прыгледзеўся да двух шароў, што стаялі амаль насупраць у другім канцы поля. Ён мысленна правёў лінію цераз іх да супрацьлеглага борта і назад — лінія ўперлася каля сярэдняй лузы, падрэзаць больш — шар стукнецца далей

ад яе. А калі ўдарыць моцна, з адцяжкай, каб шар ад гэтага борта пакаціўся ў лузу насупраць. Гэта магчыма, калі дакладна ўдарыць.

— Дуплет? — запытаў маркёр.— Два барты. Можа пайсці.

— Калі захоча,— дадаў нехта з балельшчыкаў.

— Тры барты,— рашуча сказаў Цімчук, мецячы ўніз і трохі ў бок шара. У цішы, якая ўсталявалася ў більярднай, ён моцна стукнуў з адцяжкай на сябе. Чужы шар — на ім быў восьмы нумар, тыцнуўся ў борт, лёгка памчаў да Цімчука, нібы адштурхнуўся каля яго ад борта і павольна, як бы нехаця, пакаціўся назад, да сярэдняй лузы, перад ёй нават прыстояў, быццам раздумваючы, і потым мякка кульнуўся ўніз. Цімчук з палёгкай уздыхнуў, балельшчыкі запляскалі ў далоні.

— Цудоўны трыплет! Ён вам будзе сніцца, таварыш капітан трэцяга рангу,— маркёр паціснуў руку Цімчуку.— Віншую! Заходзьце да нас часцей.

Астанін падзякаваў партнёру за гульню.

— Проста більярд яшчэ новы. Барты добра спружыняць,— нібы апраўдваўся Цімчук, думаючы, каб хутчэй адсюль уцячы.

Але Астанін таксама пайшоў з ім. Цімчук на вуліцы адчуў сябе зусім здаровым, нават галава не балела, і яму хацелася прыпусціць бягом і бегчы да самага дому.

— Можа, да мяне зазірнём? — прапанаваў падпалкоўнік.— Вып'ем чайку з рамішэвічам. Ром добра ўсыпляе. Пазвонім вашай жонцы. І я магу сказаць пару слоў, каб не думала чаго лішняга...

Цімчуку хацелася хутчэй дамоў, і ён адмовіўся, але запісаў тэлефон Астаніна, які прасіў званіць яму, а заўтра не забыць прыйсці да яго на прыём.

## VI

Дома яшчэ не спалі. Цімчук даволі весела сказаў «добры вечар», бо сапраўды ўзрадаваўся, убачыўшы жонку і дзяцей, але тут жа зразумеў, што даў маху. Валя востра зірнула, не знайшла на яго твары стомленасці і пахмурнасці і яшчэ мацней сцяла вусны.

— Доблы вечал,— за ўсіх адказаў Алежка. У доўгай начной кашульцы ён падбег да бацькі.— Мы цябе даўно чакаем. Дзе ты быў?

— Забавіўся на службе. Потым заходзіў да доктара...

— Які гэта доктар прымае да дзесяці гадзін? Штодзень адзначаешся? — Валя выйшла з кухні, была яна ў блакітнай сукенцы з белым каўнерыкам — неяк Цімчук сказаў, што гэтая сукенка яму падабаецца; здалася танклявай і стройнай, хоць у апошнія гады, асабліва пасля нараджэння сына, пачала памалу паўнець, набіраць цела, а ногі заставаліся тонкімі і стройнымі, як у дзеўчаняці-падлетка, і гэтая неадпаведнасць непакоіла яе. За гэтыя дні яна неяк раптоўна, увачавідкі зблажэла, спала з твару, і пад вачамі былі знаць цёмныя кругі. Цімчуку зрабілася яе шкада, захацелася падысці, абняць. Але жонка апярэдзіла яго:

— Што ж, гэтак і будзеш жыць на два двары? Пра дзяцей падумаў бы... На кожным кроку няпраўду кажаш,— яна села на канапу і заплакала. Алежка прыхінуўся да яе, пачаў супакойваць, гладзіць па плячы. Дачка таксама падсела бліжэй да маці, сядзела, падпёршы галаву кулачкамі, тонкія касіцы з белымі бантамі звісалі ўніз.

— А калі праўду? Можаш праверыць. А мне надакучыла твая звягня... Навыдумляла чорт ведае чаго!

— Ага, я вінавата! Сам у сне крычыш пра яе... Я месца сабе не знаходжу. Хаджу, як пад зямлёй... Хопіць мяне мучыць! Выбірай: сям'я ці яна?

— Хто яна? Я кажу табе яшчэ раз. Нікога ў мяне няма! Няўжо да цябе гэта не даходзіць? Як з табой жыць далей?

«Не будзе спакою і сёння»,— засмучана мільганула ў галаве, і ён адчуў, як хваля раздражненасці падымаецца ў ім; захацелася пайсці на вуліцу, куды вочы глядзяць, каб не чуць яе голасу, не бачыць злоснага, знерваванага твару. Пайшоў у спальню пераапрануцца, адчыніў шафу, на паліцы кінулася ў вочы электрабрытва, а ўнізе стаяў яго партфель. Ён узяў брытву, патрымаў яе ў руках і нечакана паклаў у партфель, кінуў туды майку, трусы, ручнік. «Пайду да Астаніна. Пераначую. Хай супакоіцца». З партфелем, ні на кога не гледзячы, пакіраваў у ванны пакой,

каб узяць мыла і зубную шчотку. Калі выйшаў з ванны, ля дзвярэй з Алежкам стаяла жонка.

— Куды ты сабраўся? Не пушчу! — голас яе дрыжаў, страх, рэўнасць, злосць і надзея былі на яе перакошаным твары з адвіслай ніжняй сківіцай.— Дзеці! Алёнка! Алежка! Станавіцеся на калені! Прасіце бацьку,— яна тузанула малога за руку, той хіснуўся і апусціўся долу, на тварыку яго адбілася грымаса болю, бо калена яшчэ не загаілася.

— Што ты робіш! — Цімчук падхапіў на рукі сына, прыхінуў да сябе і панёс у спальню. Малы ашчаперыў бацьку за шыю тонкімі гарачымі ручанятамі.

У спальні было цёмна. Бацька адхінуў штору, унізе праносіліся машыны, асвятляючы пакой дрыготкім, нібы палахлівым святлом. У гавані свяціліся караблі, яшчэ далей, на рэйдзе, таксама пабліскваў ланцужок агнёў. «Мабыць, вартавы карабель... А мо гэта прыйшоў ракетны крэйсер?» — падумаў Цімчук, бо чуў нядаўна, што на іх базу павінен прыйсці ракетаносец.

Малы яшчэ ўздрыгваў, ніяк не мог супакоіцца. І тады бацька пачаў яму паказваць агеньчыкі на моры, дзе зіхацяць агнямі доўгія эскадраныя мінаносцы, цямнеюць сілуэты тральшчыкаў, куртатых катэраў.

— А на падводнай лодцы ты плаваў? — спытаў сын.

— Плаваў і на падводнай. Яшчэ курсантам. Маракі называюць яе субмарына. Суб — гэта значыць, унізе пад нечым.

— Гэта як стаіць суп, а пад ім катлета,— разважаў малы, і Цімчук не вытрываў, каб не засмяяцца.

— Праўда, Алежка, акурат так. А марына — значыць, марская.

— У нас у садзіку ёсць Марынка. Яна таксама... марская? Бацька яе на караблі служыць,— Цімчук пачуў у словах сына ні то дакор, ні то зайздрасць да той дзяўчынкі.— А чаго мама сёння такая сярдзітая? — нечакана спытаў малы.

— Яна проста стамілася. Ты не крыўдуй на яе... Болей такога не будзе... Праз два гады ты пойдзеш у школу. Вырасцеш вялікі... Ніколі, сынку, не станавіся на калені. Ні перад кім...

— Я таксама буду мараком. Хочаш, каб я стаў капітанам?

— Добра. Хачу,— сказаў Цімчук, а сам падумаў: «Я хачу, каб людзі нарэшце перасталі рабіць ваенныя караблі, каб каштаны нікому не нагадвалі міны... І каб хлапчанё малое не марыла стаць істрабіцелем або дэсантным камандзірам-маёрам».

Яны яшчэ пагаварылі. Малы зусім супакоіўся, пачаў пазяхаць, і калі павекі яго зліпліся, бацька ціхутка паклаў яго на ложак, але сын тут жа прахапіўся:

— Я хачу з табой! — працягнуў рукі да бацькі.

— Мы ж тут удвух не памесцімся,— ложкі ў спальні стаялі асобна, пасля таго сну Валя паставіла іх так.

— А ты канапу раскладзі... Я хачу з табой. Мне страшна...

Пярэчыць не выпадала. Цімчук расклаў канапу, і яны ляглі побач. Алежка зноў абняў бацьку, паклаў галаву яму на плячо, але неўзабаве яна пачала хіліцца да падушкі, быццам яе прыцягвала магнітам, а рукі абдымалі ўсё слабей. Хлапчук заснуў, бацька палажыў яго раўней, асцярожна памацаў каленка — яно было сухое, струп не лопнуў, накрыў сына коўдрай. «І такога чалавечка ставіць на калені! Да чаго дайшла! Да чаго дадумалася... Гэта я давёў яе... Я ва ўсім вінаваты...» — пачуццё віны ахапіла ўсю істоту Цімчука. Ён не адчуваў да жонкі нянавісці, якая была ўспыхнула ў той момант, калі яна тузанула сына.

Бацька прыўзняўся на локці, пацалаваў малога ў цёплы лоб, накрыў руку, што выбілася з-пад коўдры. «Не, сынок, я не пакіну цябе... І Алёнку, і маму... Твае маленькія рукі — самы моцны якар, які ўтрымае мяне на плаву... Нікуды ты не дзенешся, таварыш Цімчук... Жывём-то дзеля дзяцей, браце, і нельга іх крыўдзіць...» — раздумваў Цімчук, і тут прыгадаўся нядаўні выпадак у аўтобусе, потым сцэна на пляжы, успомнілася, як Алёнка аднойчы запыталася ў яго:

— Татка, скажы, калі ласка, што значыць — «агалцелы»? Не магу зразумець. Хто ходзіць голы, так?

Алежка, малы ўсявед, які апынуўся тут, засмяяўся:

— От, галава! Няўжо ты не чула па радыё: «агалцелыя імпеь́ялісты...»

Цімчук таксама зарагатаў, і Валя заўсміхалася, гледзячы на сына. Алежка рана пачаў гаварыць, і выходзіла ў яго ўсё добра, толькі «р» не слухалася.

— Няма чаго рагатаць. Я сур'ёзна пытаю,— пакрыўдзілася Алёнка.— Я без вас разумею, што імперыялісты, ці там фашысты — агалцелыя... А чаму маленькі хлопчык?.. Я стаяла з Кацькай за апельсінамі. Перад намі была жанчына з хлопчыкам. Як наш Алежка, мо трохі меншы. Малы ўвесь час круціўся, як падсмалены, адыходзіў ад мамы. Яна клікала яго, сварылася. А калі ён палез у скрыню, мама хлопнула яго па руцэ. Малы не заплакаў, надзьмуўся і дакрануўся губамі да прылаўка. Мама пстрыкнула яго па носе, адцягнула. «Што гэта за маці? Усё б'е і б'е,— сказала жанчына ў акулярах, яна стаяла за намі.— Хіба ж гэтак выхоўваюць? Агалцелым вырасце. Наберыцёся тады гора. Я сваіх ніколі не біла. І ўсе выраслі, людзьмі сталі. Ніхто на іх ніколі не скардзіўся. І я не нарадуюся... Гаварыць болей трэба, ласкава, спакойна. І не ў магазіне выхоўваць, а дома». Усе прыціхлі. Маладая маці спахмурнела, нічогенька не адказала, неяк сцялася і пайшла з хлопчыкам. Мне было так шкада і яе, і малога шкада... Якім ён вырасце? І што значыць — агалцелы?

Цімчук з Валей пераглянуліся, і тады ён сказаў:

— Ну, як табе растлумачыць? Агалцелы — гэта чалавек без пачуцця меры. Нахабнік, распуста... Бабуля тая праўду гаварыла. Калі з пялёнак біць, штурхаць, дык, вядома, добрым не будзеш...

Гэтая размова прыгадалася з такой выразнасцю, што Цімчук аж здзівіўся, бо прайшло ладна часу, здаецца, вясной гэта было, і ён не ўспамінаў ніколі, ну, пагаварылі, дык штодзень жа даводзіцца пра нешта гаварыць, адказваць на дзіцячыя пытанні. Аказваецца, нічога не забылася, бо нішто ў жыцці не мінае бясследна.

Сон усё яшчэ не браў Цімчука, і тады ўспомніўся Астанін, більярд. Каб сёння не затрымаўся, можа б, усё было добра, паміраліся б...

О, гэты більярд! Даўно Цімчук не гуляў, а некалі сапраўды захапляўся більярдам. Пачалося гэта яшчэ ў вучылішчы, і асабліва калі служыў на Поўначы і быў халасцяком. Іншы раз мог цэлую гадзіну сам-насам ганяць шары па зялёным полі і ствараць розныя геаметрычныя фігуры, якія нагадвалі яму сузор'і: збяруцца ў гурт шары — акурат зоркі Плеяд, лёгкі ўдар —

раскаціліся, і вось табе — Цялец; мацней стукнеш — Арыён з магутнай чырвонай — хай сабе шар белы — зоркай Бетэльгейзе; ударыш яшчэ мацней — шырэй раскоцяцца шары, і вось ужо ляціць Лебедзь, вунь як размахнуў крылы; стукнеш з другога боку — вось табе драпежны палёт Арла, свеціцца яго вока — альфа Альтаір. А калі між гэтых дзвюх зорак — правае крыло Арла, паставіць яшчэ шар — будзе Компас, падкоціш яшчэ адзін — Карма: любуйся сузор'ямі Паўднёвага неба. Яшчэ ўдар — і на зялёнае поле стала нечакана выскачыць Заяц, а за ім памчыць Леў — пяць шароў, выцягнуты прамавугольнік; ледзь кранеш шары, і ўтворыцца нейкая трапецыя, падобная на цыганскую кібітку — гэта Вознік са сваёй альфай жоўтай Капэлай, нібы ліхтар гарыць над ім. Яшчэ адзін рух кіем, і трапецыя стане трохі сплюшчаным ромбам, над ім дзве зоркі, як ускінутыя рукі — Дзева... Гэтае «сузор'е» вяртала маладога лейтэнанта на зямлю.

Цяпер, у цішы ночы, лежачы побач з сынам, Цімчук раптам падумаў: людзі, як тыя шары, катаюцца, бегаюць, лётаюць, носяцца, стукаюцца адзін аб адзін, ды так, што аж іскры сыплюцца, сыдуцца разам, зноў разбягуцца. І гэтак без упынку, покуль не скоцяцца ў лузу-дамавіну...

Захацелася закурыць, але ён баяўся паварухнуцца, каб не пабудзіць сына, і мала-памалу сон адолеў.

## VII

Да абеду на службе ў яго было шмат клопату, званіў бясконца тэлефон, заходзілі афіцэры з караблёў, і Цімчук адчуў, што вельмі стаміўся. Дзень быў зноў цёплы, душны, прыпарвала, мабыць, на дождж. Ён выйшаў у горад, пахадзіць, каб супакоіцца, «сагнаць» ціск перад візітам да ўрача.

Доўга хадзіў паўз мора, па вуліцах, павярнуў у сквер, адшукаў ціхую лаўку, сеў, зняў фуражку. У засені дрэў стаяла прахалода і цішыня. Ён задумаўся і аж уздрыгнуў, калі пачуў:

— Можна тут, сынок, прымасціцца? — цемнаварая, сталага веку цыганка ў квяцістай хусце з махрамі пазірала на яго.

— Сядайце, калі ласка,— адказаў Цімчук, здзіўлены нечаканым з'яўленнем цыганкі.

— Давай, сынок, пагадаю. Я нахабства не люблю. Усё па-чэснаму, па справядлівасці. Усю праўду скажу. Што было, што будзе, чым сэрца супакоіць...

Цімчук заўсміхаўся, слухаючы пявучую, гартанную гамонку. «А ўсё-такі яны псіхолагі, цыганы,— мільганула думка.— Мабыць жа, убачыла, што я не зусім спакойны». Між тым цыганка гаварыла, не чакаючы згоды на варажбу.

— У цябе добрае жыццё, сынок, і ты ім задаволены. На службе ў цябе ўсё як мае быць. Ты галавой працуеш гэтак, як, дай бог, маім дзецям і ўнукам... Былі ў цябе і непрыемнасці, зайздроснікі, хацелі насаліць, але ім далёка да тваёй галавы... Ты дамогся, чаго хацеў. І шчасце ў цябе ўзвышанае. Так, сынку, я праўду кажу. Я старая, век зжыла, усяго пабачыла. Наперадзе ў цябе яшчэ многа радасці. І дзеці, і жонка будуць радаваць.

Ён слухаў, пасміхаўся ў душы, але настрой яго адразу перамяніўся: «У цябе ўзвышанае шчасце, а ты яшчэ нечым не задаволены,— папікнуў сябе.— Дамогся, чаго хацеў. Паперадзе яшчэ многа радасці. Усё будзе добра... Мастакі яны, цыганы, суцешыць...»

— Неўзабаве ты пераменіш месца жыхарства. Чакае цябе далёкая...

— Далёкая дарога і пісьмо з казённага дома? — не стрымаўся Цімчук.

— І пісьмо ад чырвеннай дамы.

— Дык яна ж не ведае адраса.

— Ого, сынок мой, даведаецца. Як прыпячэ, дык знойдзе.

— Шукаць яна не будзе. Ды і няма яе. Вы лепей скажыце, адкуль вы прыехалі? Як вы сюды трапілі?

— Ой, здалёку, залаты мой. Да сына прыехала. Служыў ён тут у мараках. Ажаніўся. Акруціла яго адна кабета. Але, дзякуй богу, жывуць няблага. Дачушку сабе знайшлі...

«Няўжо гэта маці Фартуны?» — яшчэ болей здзівіўся Цімчук.

— А як прозвішча вашага сына? Служыў у нас Фартуна Мікалай...

— Мой ты залаты-расхарошы! — пляскала ў далоні ад здзіўлення і радасці цыганка.— Гэта ж мой сын і ёсць! Дык гэта вы камандзірам былі?

Цімчук кіўнуў. Цыганка раптам ухапіла яго руку і хацела пацалаваць, але Цімчук апярэдзіў:

— Ну, што вы? Хіба ж так можна?

— Не крыўдуйце на мяне. Сын жа так хваліў вас. Пойдзем жа да яго. Калюня будзе рады вам, як бацьку роднаму... Я ж была некалі захварэла, дык сынок прыляцеў да мяне. Кажа, камандзір адпусціў. Пойдзем, паглядзіце, як ён жыве.

Цімчук абяцаў на днях зайсці, потым расказаў, што Мікалай быў добрым матросам, выдатным спецыялістам, і маці можа ганарыцца такім сынам. Цыганка забылася на варажбу, гаварыла пра сваё жыццё-быццё: у яе восем дзяцей, меншы ходзіць у дзесяты клас, а ўнукаў у яе — не пералічыць.

— Мае дочкі абортаў не робяць. І нявесткам наказала: будуць дзеці — хай жывуць. Усім хопіць хлеба. Мужыку майму ўжо семдзесят гадкоў. А яшчэ ў саўгас на работу ходзіць. Жывём цяпер каля Бабруйска. Ніхто нас не крыўдзіць. Ёсць хлеб і да хлеба...

«Дзіва, дый годзе,— падумаў Цімчук.— Трэба ж было тут сустрэцца...»

— Дзякуй вам за гутарку. За ўсю праўду,— ён падняўся, надзеў фуражку.

— Ой, што ты, залаты-расхарошы, брыльянтавы ты мой! Табе дзякуй за сына. За ўвагу да мяне, старой. Я ж пагаварыла і душу адвяла. Мяне ж хлебам не кармі, а дай павaражыць. Звычка гэтакая ўелася. Да скону ўжо буду такой...

У санчасць Цімчук прыйшоў а пятай гадзіне. Адчуваў сябе намнога лепш. Пастукаў у дзверы, адчыніў.

— А, заходзь, бацюхна, заходзь! Даўно чакаю,— падняўся насустрач падпалкоўнік Астанін.— Ну, віншую, таварыш капітан другога ранга-інжынер! — Здзіўлены Цімчук пазіраў на яго.— Ты што, не ведаў? Толькі быў у мяне Казлоў з палітаддзела, сказаў, што табе прысвоілі новае званне...

«Дык вось на што намякаў камдыў,— падумаў Цімчук.— Але мог бы і сказаць... Чаму трымаў гэта ў сакрэце? Не ўпэўнены быў? Ці нешта яшчэ хаваецца за гэтым? Няўжо далёкая дарога?..»

— Дзякуй, таварыш падпалкоўнік, за віншаванне. Я сапраўды не ведаў. Так нечакана...

— Тым лепш калі нечакана. Ну-с, як мы сябе адчуваем? — Астанін памераў ціск, задаволена ўсміхнуўся.— Сёння зусім іншы каленкор. Сто сорак на дзевяноста. З гэтакім можна даслужыцца да адмірала. Але кардыяграму трэба зрабіць.

— Сяргей Іванавіч, давайце адкладзём гэта... Я здаровы...

— Згода. Праз тыдзень каб абавязкова зайшоў. А сёння табе і мора па калена. Шкада, мае прыпасы скончыліся. Святой вадзіцы б па кроплі за новую зорачку,— Астанін расправіў вусы, кашлянуў.— Каб сапраўды да адмірала даслужыўся. Між іншым, хоць мора ў Беларусі няма, а колькі яна дала флоту людзей, га! Ды якія маракі! Віцэ-адміралы Дрозд, Халасцякоў. А колькі старшых афіцэраў! На Поўначы ж ёсць нават карабель імя Дразда.

— Я быў на ім. Махіна, будзь здароў!.. У мяне да вас просьба, Сяргей Іванавіч. Толькі не адмаўляцца. Зойдзем да мяне дамоў. Пасядзім, пагамонім. Пазнаёміцеся з маім сямействам...

Праз гадзіну яны падыходзілі да кватэры Цімчука. Па дарозе завіталі ў ваенны універмаг. Цімчук купіў новыя пагоны, вядома, можна было набыць толькі зорачкі і замест адной, пасярэдзіне пагона, прымацаваць дзве, бліжэй да краю, але ж дзірачка пасярэдзіне была б відаць, і адразу кожны б разумеў: вось ідзе свежаспечаны капітан другога рангу, салага, так сказаць. А хто гэта папусціцца да такога — лепей купіць новыя пагоны, новыя нашыўкі прышыць — жончына работа, і даволі прыемная: вышэй званне ў мужа — вышэй аклад і больш ёй гонару.

Гаспадар адчыніў дзверы сваім ключом і здзівіўся: у зале стаяў засланы абрусам стол, на ім самавіта высілася бутэлька шампанскага, стаяла паўнюткая ваза яблык, цёпла ружавелі бухматыя алыя ружы. Валя і Алёнка завіхаліся ля стала, Алежка кінуўся насустрач бацьку, але ўгледзеў незнаёмага вайскоўца, спыніўся разгублена.

Цімчук падхапіў малога на рукі і ўбачыў радасны пагляд жончыных вачэй. Яна ціха падышла бліжэй.

— Знаёмся, Валя... Падпалкоўнік Астанін, Сяргей Іванавіч.

— Вельмі прыемна,— яна падала руку, Астанін далікатна пацалаваў яе.— Праходзьце, Сяргей Іванавіч, калі ласка...

Цімчук адразу адчуў, што настрой дома сапраўды святочны, жонка, канечне, ведае пра новае званне, імкнецца ўсё зрабіць, каб загладзіць учарашняе ды і ўсё, што было ў апошнія дні...

Астанін аказаўся на дзіва кампанейскім чалавекам. Па ўсім было відаць, як надакучыла яму адзінота, ён дасціпна жартаваў, прыгадваў смешныя здарэнні са сваёй медыцынскай практыкі. Іскрыстае шампанскае, святочны стол, свежасць ціхага вечара, што цадзілася праз адчынены балкон,— усё радавала і цешыла Цімчука.

— Вось прыедзе мая бабуся... Сёння атрымаў ліст: на днях будзе. Прашу да нас. Усім сямействам. Згода, Алежка? — Астанін прыхінуў да сябе малога.

— Згода, таварыш падпалкоўнік,— хлапчук прыклаў далонь да віхрастай галавы — казырнуў, як сталы вайсковец.

— Да голай галавы руку не прыстаўляюць,— упікнула яго Алёнка. Але малы не пакрыўдзіўся, ён смяяўся, як і ўсе за сталом.

Ад віна, ад радасці, што ўсё ідзе на дабро, Валя расчырванелася, яе стомлены твар сёння здаваўся зусім іншым: тонкім, прыгожым, а вочы свяціліся ціхім бляскам, і ўся яна нібы свяцілася знутры — мабыць, менавіта гэтак і выглядае чалавек, калі адчувае сябе шчаслівым.

— Ну, добрая ў вас сямейка. Вам толькі жыць ды радавацца,— хрумстаючы чырванабокім яблыкам, гаварыў Астанін.— І я нібы адтаў, адагрэўся ў вас тут... Вы яшчэ маладыя. У цябе, бацюхна, яшчэ ніводнай сівой валасіны,— хлопнуў ён Цімчука па плячы.— І ў жонкі вунь цэлая капа аржаная на галаве. А між іншым вучоныя даказваюць, што бландзінак з кожным годам усё меншае. Здаецца, у Бірмінгамскім універсітэце гэта адкрылі. Мяркуюць, што прычына — серная пара, якую выдыхаюць у паветра заводы... Словам, акцыі Валянціны Антонаўны растуць...

У разгар вечара пазваніў камдыў, павіншаваў,

спытаўся, як самаадчуванне, перадаў паклон Астаніну, на развітанне дадаў:

— Што яшчэ я хацеў сказаць, таварыш капітан другога рангу? Глядзі, на радасцях каб... Заўтра ў дзесяць мы павінны быць у адмірала. Нічога асаблівага. Невялікая нарада. Ну, але сам разумееш, каб быў як агурчык.

— Ёсць, таварыш капітан першага рангу! — весела адказаў Цімчук.

Неўзабаве дзеці, задаволеныя, што маці і татам сёння такія вясёлыя, што ім, малым, было ўволю ліманаду і цукерак, пайшлі ў свой пакой. Астанін пачаў збірацца дамоў. Гаспадары выйшлі яго правесці. Калі праходзілі міма Дома афіцэраў, Астанін сказаў:

— А ведаеце, Валянціна Антонаўна, ваш грозны муж учора раскалашмаціў мяне тут у пух і прах. Мы цэлы вечар гулялі ў більярд. І я вымушаны быў капітуляваць...

Жонка мацней прыхінулася да Цімчука. Вядома, не ягоная перамога ўзрадавала яе, а тое, што ён быў тут і збіраўся ісці начаваць, мабыць, да гэтага падпалкоўніка.

— А мне ён не прызнаўся. Я думала быў чортведама дзе,— з прыхаванай радасцю сказала яна.

— Ты ж бы мне ўсё роўна не паверыла,— папікнуў Цімчук.

— Я ж табе гаварыў: давай напішу распіску. Запрашаў да сябе, каб пазваніць. І я б сказаў слова... Ведаю, бацюхна, калі жанчына не ў гуморы, яна можа такое нафантазіраваць, што нам, мужчынам, гэтакія грахі нават і не сніліся.

— Дзіва што! Чаму ж не думаць? Калі няма чалавека дома... Я за гэтыя дні з'ехала кілаграм на пяць, калі не болей...

## VIII

Быў позні вечар, калі Цімчук і Валя вярталіся дамоў. Па звычцы яна ішла з левага боку, каб ён мог казыраць. Калі павярнулі ў цемнаваты завулак, яна спынілася, абняла мужа і моцна пацалавала.

— А ты, праўда, схуднела гэтак? Праверым,— Цімчук падхапіў жонку на рукі і панёс.

— Ой, што ты робіш? Ідзе нехта!

Цімчук адпусціў яе. Наперадзе сапраўды чуліся гучныя крокі. Насустрач ішоў патрульны нарад: малады лейтэнант і два матросы. Патрулі казырнулі старшаму афіцэру і пакрочылі далей.

— Я, праўда, палягчэла?

— Не разабраў,— Цімчук зноў хацеў падхапіць Валю на рукі, але яна запярэчыла:

— Не трэба, Вася, мілы... Ну, што ты... Людзі вакол,— і, прыхінуўшыся, ціха спытала: — Ты мяне ўсё-такі любіш?

— Канечне. Моцна,— ён пацалаваў яе так, як ужо даўно не цалаваў.

— Я таксама цябе люблю. Яшчэ мацней... Але зразумей: у нас дзеці. Я ўсё аддаю ім... Можа, табе і прысніўся такі сон, што мы апошнім часам неяк жылі... я рэдка цябе абдымала... Прыйдзеш з дзяжурства, з ног валішся. Сям'я, клопаты... Бывала, ты пойдзеш у плаванне, і мы ўсе цябе чакаем, сумуем. А потым гэтак радаваліся...— і раптам яна сказала: — Даруй, Вася, учарашняе... Я перапалохалася... Алежку пакрыўдзіла... Але ён малы, забудзецца...

— Не трэба было гэтага рабіць,— уздыхнуў Цімчук. Перад вачыма зноў паўстала тая сцэна: тварык сына, скрыўлены ад болю і знявагі, насупленая Алёнка.— Пайшлі хутчэй. Як там дзеці?

— Пойдзем. Я гатова бегчы,— яна зірнула на гадзіннік.— Без чвэрці дванаццаць. Ты вяртаешся са звальнення, бяжыш, каб не спазніцца. Помніш, расказваў некалі?

— Помню. Усё помню... О, сёе-тое ледзь не забыў! Сёння нечакана сустрэў маці свайго былога матроса. Яна цыганка. Прыехала з Малдавіі. А ўчора яго самога бачыў. Абое ў госці запрашалі.

— Дык давай сходзім. Даўно нідзе не былі,— Валя прыхінулася да яго, чмокнула ў шчаку.

Нейкая маладая хваля радасці агарнула Цімчука, і яму сапраўды захацелася бегчы, спяваць.

— Ну, што, пабеглі?

Ён узяў жонку за руку, і лёгка, трушком, яны паджгалі па ціхай вуліцы.

## IX

Раніцай, як толькі Цімчук з'явіўся на службу — з дзвюма зоркамі на пагонах і чатырма нашыўкамі, залацістымі, бліскучымі,— Валя пастаралася, прышыла новыя, таварышы пачалі яго віншаваць. Неўзабаве затзваніў тэлефон: камдыў клікаў да сябе. Ён моцна пацісную руку, пахлопаў Цімчука па плячы, агледзеў з ног да галавы: ці ўсё па форме, і, мабыць, застаўся задаволены аглядам, бо сказаў:

— У цябе цяпер нашывак удвая больш, чым у нашага камандуючага. У контр-адмірала іх дзве. А ў мяне дык і зусім адна, як сірацінка.

— У вас, таварыш капітан першага рангу, затое шырокая...

— Думаю, што некалі будзе і ў цябе такая. Служыць табе яшчэ, як меднаму кацялку... Дык ведаеш, чаму нас кліча камандуючы? — Цімчук пацісну плячамі.— Увогуле, ён хоча бачыць цябе. Я тут збоку-прыпёку... Карацей, справа такая. На ракетны крэйсер патрэбен флагманскі механік, ён жа і камандзір БЧ-5. Пасада гэта важная, адказная і...— камдыў востра зірнуў на Цімчука,— і перспектыўная. Камандуючы любіць задаваць такія пытанні: як ваша думка наконт прапановы, ці ёсць жаданне, ці адпавядае вашым намерам пасада і гэтак далей. Раю табе не ламацца і не быць чырвонай дзяўчынай. Падзякуй яму за давер і згаджайся... Паслужыш на ракетаносцы, потым можаш быць флагманскім механікам злучэння, камандзірам базы. Галаву на плячах маеш...— Бандарэнка, як заўсёды, уразвалку хадзіў па кабінеце, заклаўшы рукі за спіну.— Варта падумаць пра акадэмію. Некаму ж трэба і ў адміралах хадзіць, га? — усміхнуўся ён.— Мая ўжо песенька спета. Я буду пытынкі расціць. Прыедзеш некалі — пачастую... А шчыра кажучы, хлопча, мне шкада з табой развітвацца. Ну, але што зробіш? Таварышаў па службе не выбіраюць. Іх даюць, як і ўсё астатняе... Я табе зайздрошчу. Служыць на гэтакім караблі... Я, калі выходжу ў мора, дык маладзею. Здаецца, не чую цяжару гадоў...

Цімчук зразумеў, чаму не дазволілі яму водпуск; прыгадалася вёска, якая нібы яшчэ болей аддалілася ад яго. Сёлета да маці, магчыма, так і не вырвецца. Ад

хвалявання лоб яго ўзмакрэў. Ён правёў рукой па твары, быццам сціраючы ўспамін, намацаў шрам ля брыва...

Усё гэта пранеслася ў адно імгненне. Капітан другога рангу — інжынер Цімчук ужо бачыў сябе на палубе ракетнага крэйсера.

1972, 1976 гг.

# АПОШНІ АЎТОБУС



Ціхі майскі вечар. У светлым, сіняватым небе кружылі ластаўкі, зычна гулі на маладой бярозцы хрушчы, ля моста яшчэ раз-пораз закідвалі вуды заядлыя рыбакі. Па шашы, якая перасякала пасёлак і была галоўнай вуліцай, пабраўшыся пад ручкі, чародкамі, хадзілі дзяўчаты, сцішана спявалі, гучна смяяліся.

Я сядзеў пад запыленым кустом бэзу і чакаў аўтобуса. У нядзелю заўсёды шмат людзей вярталася з пасёлка ў горад, і толькі апошні рэйс больш-менш свабодны.

Да аўтастанцыі падышлі двое: рослы, плячысты хлопец і амаль на галаву ніжэйшая, але зграбная, дужанькая, русявая дзяўчына ў шырокай блакітнай сукенцы. Адной рукой хлопец трымаў пузаты саквояж, а другой пяшчотна падтрымліваў пад локаць сваю сяброўку. Яны ўзялі білеты і пакіраваліся да суседняй лаўкі.

Хлопец здаўся мне дужа знаёмы, але дзе бачыў яго, ніяк не мог прыгадаць. Калі яны наблізіліся, я заўважыў, што маладая жанчына цяжарная. Падбароддзе жанчыны магло б здацца цяжкаватым і нават суровым, калі б не мяккі шыракаваты рот і такі спакойны, лагодны, нейкі прасветлены выраз твару. Вялікія шэрыя вочы пазіралі спакойна, даверліва і задуменна. Бачыліся ў гэтым паглядзе і таямнічая ўнутраная засяроджанасць, і разуменне сваёй годнасці і значнасці, і чаканне...

Мабыць, толькі ў цяжарных жанчын бывае такі пагляд, які быццам гаворыць: усе вашы турботы, уся ваша мітусня нічога не вартыя ў параўнанні з маім клопатам — я рыхтуюся падараваць свету новае жыццё.

8 Зак. 1905

Маладыя сцішана гутарылі.

— Заўтра ў нас камсамольскі сход. Выступіць трэба...

— Навошта гэта? — запярэчыў ён.— Табе цяпер нельга хвалявацца.

— Нічога... Трэба выступіць. Разумееш, тут такая справа...

Яна нешта гаварыла, хлопец уважліва слухаў, ківаў галавой.

— І ў ГУМ трэба з'ездзіць. Ды часу няма. Ніяк во не выберуся...

— Што ты хочаш купіць? Мо я...

— Лепш самой. Матэрыі якой-небудзь трэба ўзяць. Хачу пашыць сукенку. Дзявочыя ўжо цесныя. А скора я буду, як бочачка,— жанчына ўскінула на хлопца вочы, усміхнулася, шчыльней прытулілася да яго, нібы ёй было холадна.

У ГУМе людзей заўсёды, як мурашак. І чарга можа быць... Стомішся. Шчэ млосна зробіцца... У сераду вазьмі адгул, і ў школе ў нас няма заняткаў. Вось і з'ездзім. Адну цябе не пушчу!

— Дзівак ты. Нічога са мной не зробіцца... Ну, але ладна. Паедзем разам...

Слухаў я іх гаворку і ўсё намагаўся прыгадаць, дзе бачыў гэтага хлопца. Зноў і зноў прыглядаўся да яго: дужы, буйная галава, высокі лоб, густы вожык рыжаватых валасоў, загарэлы энергічны твар, сінія, трохі лупатыя вочы. На ім была бялюткая кашуля з невысока закасанымі рукавамі, модныя чорныя штаны. На левай руцэ цямнелася татуіроўка: невялікі якар, абвіты ланцугом.

Неўзабаве прыйшоў аўтобус. Маладыя селі недалёка ад мяне, па левы бок. Ля ўвахода, тварам да пасажыраў, сядзеў пажылы мужчына нападпітку, шапка з'ехала на патыліцу, над вухам быў відзён шрам, які рэзка чырванеў на фоне сівых валасоў. Стары доўга корпаўся ў кішэні, дастаў манету, паўглядаўся на яе.

— Дзяўчынка, зірні, якая гэта манета? — звярнуўся ён да дзяўчыны, што стаяла побач.

— Пятнаццаць капеек, дзядзька.

— Якраз хопіць на білет. Мне ж тут блізенька... Гэта ж я да Пясэцкага ездзіў. Чаргу заняць у рай. Дык

не запісаў. Ідзі, кажа, яшчэ пагуляй. Яшчэ дна не відаць у тваёй бутэльцы,— у аўтобусе засмяяліся, і падбадзёраны стары дадаў: — От табе і поп. Разбіраецца. Пі і еш, кажа, звыш плана. А навошта? Усё роўна паміраць. Раней ці пазней? Ад смерці не адкупішся... Хто мае золата, брыльянты — усё роўна прыўдзе і ціха павядзе. Так роўненька і ціхенька... Вось так, б-ха-муха...

— Э, дзядзька, ты таго... Не лайся. Жанчыны вакол,— не стрываў малады муж.

— Ну, чаго ты, Барыс? У чалавека добры настрой. Хай пагавора,— заступілася за старога Барысава жонка.

— О, бачыш? Яна разумее. Душэўны чалавек, значыць. Шануй яе, хлопча... Дык я сабе думаю. Раз Пясэцкі не запісаў — пажывём яшчэ. Я дзве вайны адбухаў. Фінскую і германскую... Пяць разоў у смерці з зубоў вырываўся, б-ха-муха...

— Не, дзядзька, не трапіш ты ў рай,— усміхнуўся Барыс.

— Ат, мне ўжо ўсё роўна,— стары махнуў рукой.— Я столькі ўсяго нагледзеўся... Проста дзіва, як я жывы... Аднойчы поўз я з разведкі. Снег глыбокі, сыпкі, што пясок. А па мне лупяць з кулямёта. У шынялі знайшлі васемнаццаць дзюрак! У ватоўцы — шэсць, у кашулі — дзве. Спіну падрапала, і во шрам,— стары памацаў за вухам.— На сантыметр бы ніжэй — капцы. Або чарапок прабіла б... І не дайшоў бы я да Берліна.

У аўтобусе зрабілася ціха, усе прыслухоўваліся.

— А цяперака паказваюць немцаў у тэлевізары — такія ж людзі. Як і мы. Учора плаванне гэта самае паказвалі. Ох, якія спрытныя немачкі! Гэтак плаваюць. Ды прыгожыя, зграбненькія. От сабе думаю: паплаваць бы з такой, б-ха-муха. Тады і паміраць можна. Баба мая ўжо стара... От ты,— спытаў ён у дзяўчыны, што глядзела манету,— пайшла б за мяне замуж?

Вакол засмяяліся, дзяўчына ўсміхнулася, бліснуўшы залатым зубам, гулліва сказала:

— Стары ты, дзядзька. Што з цябе толку!

— Ну, во, бачыце. Не хоча. Эх, б-ха-муха! Праваяваў усю маладосць...— уздыхнуў стары.— Унукі ўжо

гадуюцца. Не ўгледзеў, як і жыццё праляцела... Эх, давайце хоць песню заспяваем,— і зацягнуў нізкім сіплым голасам:

Палюбіла дзяўчына байца
За адвагу і мужнасць ў баях,
За прыгожую постаць яго,
За стальную вінтоўку ў руках...

— Цікавая песня, дзядзька. Я ніколі не чуў яе,— азваўся Барыс.

— Адкуль табе чуць, хлопча?.. Цябе на свеце не было, калі мы спявалі яе... Усе любілі гэту песню. Усё Мінскае злучэнне...

Стары змоўк, спахмурнеў, насунуў шапку на лоб. Мабыць, песня абудзіла не толькі вясёлыя ўспаміны...

Прайшоў вадзіцель, стары сунуў яму сваю манету.

— Безбілетных няма? — спытаў вадзіцель.

— Няма,— адказаў за ўсіх Барыс.

Аўтобус крануўся, і я адразу прыгадаў, дзе бачыў хлопца.

## II

Быў халодны восенькі вечар. Я вяртаўся ў горад. На прыпынку, сярод лесу, дзе шашу перасякала вузкая дарога, зырка гарэла вогнішча, вырываючы з цемры твары людзей. У аўтобус уваліўся вясёлы шумлівы натоўп. Адразу стала цесна, тлумна, запілікаў гармонік. Музыка сеў насупраць мяне, ля яго прыляпілася жанчына, мабыць, жонка.

...Раскинулось море широ-о-ко,
И волны бушуют вдали...

Густым, хрыплым, усё роўна як з прастуды, голасам зацягнуў музыка. Ён разы са тры пачынаў песню, але ніхто яго не падтрымаў.

— Антон, ну-ка рэзні, каб аж штаны злезлі! — рагатнуў нехта ад кабіны. Гарманіст ірвануў мяхі і рэзнуў:

Касіў Ясь канюшыну,
Касіў Ясь канюшыну...

Песню падхапілі. Асабліва стараўся, хоць і не зусім у лад, высокі чырванатвары хлопец у сіняй куртцы з капюшонам і мноствам замкоў-маланак. Ён аберуч трымаўся за металічную парэнчу, пагойдваўся і спя-

ваў на ўвесь голас. Але ў музыкі ненадоўга хапіла імпэту. Тоўстыя пальцы не хацелі слухацца, цяжкая галава хілілася на гармонік.

— Ты не граеш, а равеш. До, не дакучай людзям,— жонка ўзяла гармонік, зашпіліла раменьчыкі, паставіла яго на калені.

— Ён добра грае...— прамармытаў высокі хлопец.— Ясь ведае, што робіць...

На наступным прыпынку зайшлі яшчэ людзі.

— Тут во дзіця малое... Дайце месца або дзіця вазьміце,— пачулася ля кабіны.

— Сюды, калі ласка,— падняўся каржакаваты немалады мужчына ў кепцы і зімовым паліто.

— Не прабіцца да вас... Трымайце дзіця...

Па руках перадалі хлапчука гадоў чатырох-пяці, чырванашчокага, у клятчастым палітончыку і чырвоных бурачках. Хлапчук надзьмуўся і гатовы быў заплакаць. Мужчына мітуслівa і, як мне падалося, усхвалявана ўсаджваў малое сабе на калені, нешта гаварыў яму, нізка нахіляючыся да яго.

Высокі хлопец зноў спрабаваў спяваць, але без музыкі сціх, невідушчымі п'янымі вачыма ўтаропіўся на дзяўчат, што сядзелі побач.

— Дайце троху пасяджу з вамі,— падсеў ён да іх і адразу палез абдымацца. Першая дзяўчына войкнула і ўцякла. Хлапец падсунуўся да другой, абняў за плечы.

— Барыс! Сядзь як чалавек! — цвёрда сказаў чарнявы мужчына ў кепцы, што трымаў дзіця на каленях. Ён увесь час сачыў за хлопцам.

— Я сяджу як чалавек... Каму не падабаецца?

— Мне не падабаецца,— спакойна сказала дзяўчына, зняла хлопцаву руку з плячэй.— Цвярозы, можа, вы і добры... Нават прыгожы... А цяпер глядзець на вас непрыемна...

Дзяўчына адвярнулася. Барыс скрыгатнуў зубамі, устаў і, хістаючыся, пасунуўся да кабіны. Ён наступаў на ногі, штурхаўся, а калі аўтобус тармазнуў на паваpоце, ледзь не паваліўся і некага моцна таўхануў. Да курткі адразу пацягнулася некалькі рук.

— Людцы добрыя, не чапайце яго! — Мужчына ў кепцы перадаў некаму дзіця, кінуўся ў натоўп, абхапіў Барыса і, нібы мяшок, кінуў яго на сядзенне.— Гэта

мой брат... Як-небудзь дам яму рады... Прабачце, браточкі...

Барыс спрабаваў падняцца, але мужчына наваліўся на яго.

— Кастусь, пусці! Пусці, кажу. Буду біць,— хрыпеў Барыс.

— Бі. Што хочаш рабі. А не пушчу. Давязу да месца... Заўтра ты будзеш на каленьках поўзаць... Дзякаваць будзеш...

— Ах так,— Барыс стукнуў Кастуся па галаве. Замахнуўся быў яшчэ і скінуў капялюш у мужчыны, што сядзеў насупраць, той ухапіў руку і заціснуў паміж крэслаў.

— Прабач, даражэнькі. Не крыўдуй,— папрасіў Кастусь мужчыну.

— Давайце выкінем яго з аўтобуса. Колькі можна трываць! — чулася з усіх бакоў.

— Зараз я да яго дабяруся,— сціснуўшы кулакі, падымаўся гарманіст.— Я хутка яго ўціхаміру...

— Сядзі, Антон. Не трэба, міленькі, родненькі,— павісла на яго руцэ жонка.

Неўзабаве паказаліся агні горада. Людзі пачалі выходзіць. Выйшаў і я на сваім прыпынку.

— Ну, каб не Кастусь, мы б яго адмяцелілі,— пачуў я ззаду голас гарманіста.

— Што хацець ад гэтага хлопца? — уздыхнула гарманістава жонка.— Сіратою гадаваўся. Без бацькі... У турме сядзеў... Летась вярнуўся. На мэблевай фабрыцы працуе. Што ўжо майстар, кажуць,— дзіва! Зробіць рэч — вачэй не адвесці. Залатыя рукі ў чалавека. Але і да гарэлкі заядлы... А Кастусь ніякі яму не брат. Мо хіба траюрадны...

— Я дзесьці бачыў гэтага Кастуся,— сіліўся прыгадаць муж.

— А ён да дзядзькі Андрэя прыязджае. Яны ж разам у партызанах былі... Кастусёву жонку з дзіцем немцы забілі... Тут, у Рудні, і пахавана... Цяпер у яго другая баба. А дзяцей няма... Сёння ўзяў малое, дык рукі аж задрыжалі... А ў мяне аж сэрца зайшлося,— жанчына раптам змоўкла, як асекшыся.

III

Аўтобус вільнуў да прыпынку.

— Стоп, машына! Прыехалі. Вось і мая Рудня,— весела сказаў стары.— Ну, бывайце, людцы добрыя. Пацягнуся да сваёй...— відаць, хацеў сказаць «жонкі», але ўбачыў некага на прыпынку і ўсклікнуў: — Кастусь Іванавіч! Няўжо гэта ты! Ай, б-ха-муха! Павяртай назад...

Стары абняў мужчыну. Яны тройчы пацалаваліся.

— Не, дзядзька Андрэй, трэба ехаць. На работу рана...

Дзядзька Андрэй штосьці даказваў, мусіць, угаворваў, размахваў рукамі, а Кастусь Іванавіч адмоўна хітаў галавой.

— Ну, што вы там? Ехаць думаеце? — крыкнуў вадзіцель.

Кастусь Іванавіч сеў на месца старога — я зразумеў, што стары жартаўнік і ёсць той самы дзядзька Андрэй, пра якога гаварыла Антонава жонка.

— Добры вечар, Кастусь Іванавіч,—ціха сказаў Барыс.

— А, здароў, Бора,— адказаў той, спакойна, роўным голасам, быццам і чакаў яго тут убачыць, агледзеў пасажыраў, кінуў пільны позірк на сяброўку хлопца, ледзь прыкметна падміргнуў:

— Як жыццё?

— Усё нармальна.

— Ну, так і трымай...

Цяпер я добра разгледзеў Кастуся Іванавіча. Мажны, плячысты, круглая галава з густымі яшчэ валасамі, невысокі, але шырокі лоб, круглыя цёмныя вочы, кірпаты нос і трохі адтапыраныя вушы — усё гэта надавала твару незабыўную адметнасць. Ад усёй паставы, па-сялянску моцнай, каржакаватай, дыхала здароўем і дабрынёй, але вочы пазіралі суха, сумнавата, быццам дзесьці ў глыбіні іх ужо даўно асела жыццёвая стома і застарэлая скруха.

Кастусь Іванавіч павярнуўся да кабіны і пазіраў некуды наперад, дзе ў святле фар мільгалі, нібы трасіруючыя кулі, буйныя начныя матылі-бражнікі. Асветленыя, яны здаваліся белымі, як шызыя галубы робяцца бялюткімі на фоне чорнай хмары.

Аўтобус, мякка пагойдваючыся, імчаў наперад. Я зірнуў на маладых. Жанчына спала, паклаўшы галаву на плячо мужа.

«Якая яна маладая...» — падумаў я і раптам пазнаў яе: гэта была тая самая дзяўчына, што сказала тады Барысу: «Цвярозы, можа, вы і добры... Нават прыгожы...»

Барыс сядзеў, баючыся паварухнуцца. Сустрэўшы мой позірк, усміхнуўся куточкамі рота, мацней сціснуў дужку пярэдняга крэсла і заплюшчыў вочы. У паўзмроку цьмяна паблісківаў на руцэ пярсцёнак.

1970, 1976 гг.

# ШЫПШЫНА САЛАСПІЛСА

Пад нагамі шаргаталі вострыя дробныя каменьчыкі, якімі была высыпана нешырокая палоса. З абодвух бакоў палосу сціскалі бетонныя пліты, падобныя на карабкі запалак. Мокрыя ад дажджу, пліты настыла блішчалі пад нізкім вераснёўскім сонцам. Моцны, рэзкі вецер калашмаціў танклявыя бярозкі, зрываў пажоўклае лісце.

Каменьчыкі шаргаталі, быццам нехта малоў зерне ў самаробных жорнах. Мерна, нібы ўдары сэрца, глухавата-журботна стукаў метраном. Свінцова-чорная хмара закрыла сонца. Мы ішлі па Дарозе пакут, па якой хадзілі вязні Саласпілса.

— Перад намі скульптура маці. Звярніце ўвагу, яна быццам спрабуе схаваць, абараніць дзяцей. Яна гатова аддаць жыццё, каб толькі выратаваць іх...

Голас Рыты Андрэеўны, нашага гіда, уздрыгнуў, і я міжволі перавёў позірк з гранітнай скульптуры на яе. Танклявая, стройная, разлахмачаныя ветрам русявыя валасы, прамы прыгожы нос, выразна акрэсленае аблічча.

— У лагеры напачатку былі ваеннапалонныя. Вясною сорак другога сюды прыгналі некалькі тысяч жанчын з Беларусі. У многіх былі дзеці. На першым часе іх пасялілі разам з малымі. Усіх вязняў ганялі на работу. Неўзабаве лагернае начальства ўбачыла, што жанчыны з дзецьмі не выконваюць норму. І тады дзяцей перавялі ў асобныя баракі...

З-за хмары выцерабілася сонца і заліло ўсё навокал яркім, сліпучым святлом. Ружавата-шэры граніт скульптуры ніба пацяплеў. Цеснай, прыціхлай купкай абкружылі мы Рыту Андрэеўну. Рослы, шырака-

твары хлопец, якога пад руку трымала кволая, вастраносая дзяўчына, згарнуў пярэсты, як мухамор, парасон, апусціў яго долу. Збоч ад мяне, як застылі, прысадзістая, мажная таджычка і дзяўчо гадоў шасці ў чырвоным палітончыку і цюбецейцы, таксама чырвонай, вышытай жоўта-залацістымі ніткамі. З-пад цюбецейкі выбівалася кароткая цёмная касіца. Дзяўчынку звалі Фіруза.

— Фашысты кармілі вязняў бурдой з буракоў, давалі лусту хлеба з пілавіннем. І прымушалі працаваць з цёмнага да цёмнага... У бараках былі печы. Гітлераўцы рабілі ўсё абдумана: раптам памяшканні спатрэбяцца для іншых мэт. Дык вось, печы меліся, але іх не палілі. Дроў шкадавалі. Каб не карміць дзяцей дарэмна, і іх пачалі выкатываць кроў...

Я спрабаваў уявіць гэтых дзяцей і не мог.

Сонца сляпіла вочы, пацішэў трохі вецер, здаецца, пацяплела паветра, але ўнутры ўсё як застыла, кроў ледзянела ў жылах.

Усе стаялі хмурныя, маўклівыя. Маці Фірузы паднесла да вачэй скамячаную хусцінку. Скупая сляза скацілася па шчацэ Аўгуста, высокага хударлявага мужчыны, які прыехаў з невялікага латышскага гарадка Мадона. Вастраносая нешта шапнула хлопцу з парасонам, той моўчкі кіўнуў, паправіў фарсісты сіні берэт.

— А цяпер пойдзем да месца, дзе былі дзіцячыя баракі.

Адразу сціснула горла: дзіцячыя баракі... Дзіцячыя сады, яслі, дзіцячыя калыскі, лялькі. А тут — дзіцячы канцлагер.

Мы прайшлі з паўсотні крокаў, спыніліся перад каменным падмуркам, за якім жывой сцяной зелянела шыпшына з чырвонымі гарлачыкамі. На цёмным адпаліраваным камені ружавелі гладыёлусы, сіратліва ляжалі... цукеркі.

— Ушануем памяць... хвілінай маўчання.

Гулка стукае метраном. Б'ецца сэрца Саласпілса. Я не мог адарваць вачэй ад кветак, што ярка палымнелі на халодным камені. Вастраносая дзяўчына пакорпалася ў сумачцы і паклала на камень дзве бліскучыя цукеркі. Маленькія чырвоныя далонькі Фірузы шнырылі па кішэньках палітончыка. Дзяўчо нешта сказала

маці, і тая таксама пачала шукаць. І я аблапаў кішэні, хоць і ведаў, што цукерак у мяне няма. Маці Фірузы разгублена трэсла сумачку. Дзіцячая далонька нырнула туды, вывудзіла там белую манетку і паклала побач з цукеркамі. Хлопец з парасонам ухмыльнуўся і нешта ціха сказаў.

— Сева, ну што ты...— з дакорам зірнула на яго вастраносая і сцепанула ад холаду плячамі.

А мне адразу паўстала ў памяці Хатынь. Спякотны летні дзень. Тысяча маўклівых людзей, заплаканыя жанчыны ў яркіх, квяцістых сукенках, хмурыя, гладка паголеныя твары добра апранутых мужчын, сцішаныя дзеці з вялізнымі бантамі, у белых чысцюткіх гольфах. Няспынны людскі паток пульсаваў па вуліцах былой вёскі. Паперадзе мяне жанчына вяла за руку белагаловага, віхрастага хлапчука. Рыжаваты, абсыпаны рабаціннем, круглы тварык, акурат сланечнік, круціўся ва ўсе бакі. Маламу хацелася запыніцца, агледзецца, прыслухацца, як б'юць званы, але маці цягнула наперад.

Я звярнуў убок, спыніўся ля могільніка вёсак. Потым падышоў да калодзежа. Тут было шмат людзей. Сёй-той кідаў у ваду манеты. Назбіралася іх там багата, аж бела.

— Гэта польская. А гэта нямецкая. А вунь французская...— углядаліся ў ваду хлапчукі.

Маўкліва стаяў сівы мужчына ў цёмным пінжаку, левы рукаў целяпаўся пусты, а левае плячо здавалася ніжэйшым і не такім шырокім. На левым штрыфлі пінжака жаўцела Зорка Героя. Мужчына кінуў манетку і схіліў галаву ў маўчанні. З натоўпу высунуўся той самы рыжаваты хлапчук, зірнуў на старога, рашуча выцягнуў уперад далоньку — белая манетка шчабоўкнула ў ваду.

— Сержык, вось ты дзе. Я з ног збілася шукаючы.— Маці ўзяла малога за руку.— Ты ж піць хацеў. Чаму ліманаду не купіў?

Хлапчук нічога не адказаў.

Сівы мужчына павярнуўся і асцярожна, пяшчотна пагладзіў віхрастую галаву.

І яшчэ ўсплыло з памяці. Калі я вяртаўся з Хатыні, на шашы спыніўся разгарачаны БелАЗ, высунуўся з кабіны ўспацелы малады шафёр.

— Колькі адсюль да Хатыні?

— Мо кіламетр будзе.

— Спярша я збегаю, а ты потым,— кінуў шафёр напарніку і знік за дрэвамі...

...Тым часам наша група ішла далей. Рыта Андрэеўна ўсё гаварыла, і голас яе зрабіўся трохі хрыплаваты, як надтрэснуты.

— На гэтым месцы стаяла шыбеніца. Амаль штодзень вешалі людзей... А цяпер мы падышлі да скульптурнага комплексу. Тут чатыры фігуры. Вязень грудзямі падтрымлівае саслабелага таварыша. Гэта сімвалізуе Салідарнасць. У цэнтры — Клятва...

Я глядзеў на гранітныя скульптуры, што нібы выраслі з роўнай зялёнай травы і цягнуліся ў неба. Сонца зноў схавалася за хмару, вецер падзьмуў мацней. Заварушыліся, як жывыя, галінкі сосен, што дзвюма шарэнгамі стаялі ля цёмна-шэрай бетоннай сцяны. Здалёк яна нагадвала бервяно ці плаху. Калі праходзіш пад ёй, узнікае адчуванне, што яна ўпадзе, як мінеш яе, і назад вяртання не будзе. На фоне сцяны сосны здаваліся яшчэ зелянейшымі.

Гэтыя дрэвы пасадзілі самі вязні.

— Перад намі скульптура «Няскораны». У лагеры дзейнічала падпольная арганізацыя...

Вецер падзьмуў мацней. Раптам пайшоў дождж з градам. Дробныя градзінкі секлі як шрот.

— Можа, у аўтобусе закончым, га?— Сева раскрыў парасон, прыхінуў да сябе дзяўчыну.

Рыта Андрэеўна гаварыла, ніба не чула гэтых слоў. Ніхто не зварухнуўся з месца, толькі Фіруза зірнула на Севу — як два вугольчыкі бліснулі яе вочы.

— Здымі берэт! Не растанеш,— ціха, скрозь зубы, сказаў Аўгуст.

Сева павольна, як не сваёй рукой, сцягнуў з галавы берэт.

— ...Здесь некуда спешить.
Остановись и слушай...
Как капли мерные,
Пульс времени стучит.
В потоке вечности мгновения слились.
Здесь Саласпилс...

Гэта радкі з верша нашага латышскага паэта Юлія Ванагі,— усхвалявана, ахрыплым голасам гаварыла Рыта Андрэеўна.

Яна стаяла ў сваім плашчыку, як напятая струна. Аўгуст зайшоў збоку, каб прыкрыць яе ад ветру, я стаў побач з ім, Фіруза пацягнула сюды маці.

Дождж гэтаксама, раптоўна ўшчук, як і пачаўся, зноў выбліснула сонца. Па гулкіх прыступках мы паднімаліся да верха бетоннай сцяны. З вышыні ўвесь мемарыял быў як на далоні: выцягнутая ўдоўжкі зялёная падкова, на якой асветленыя яркім сонцам застылі гранітныя постаці. Мой пагляд міжволі скіраваўся да трапяткой купкі бярозак, бо недалёка ад іх — месца дзіцячых баракаў, там — шыпшына.

Мы спусціліся ўніз, дзе ў нішах, пад шклом, свяціліся вялікія фотаздымкі. У адной нішы былі выстаўлены авальныя металічныя пласцінкі-меткі, якія насілі дзеці Саласпілса. «Байкова Нина. 1936» — напісана на адной пласцінцы. Фіруза нешта дапытвалася ў маці. Міжволі падумалася, што тая Ніна мела таксама якіх-небудзь сем гадоў.

Калі мы выйшлі на пляцоўку перад мемарыялам, Рыта Андрэеўна паказала кіёск, дзе можна купіць саласпілскія паштоўкі. Сева адразу пацягнуў туды сваю сяброўку.

— Палдзіес,— падзякаваў Рыце Андрэеўне Аўгуст і дадаў яшчэ некалькі слоў па-латышску.

— Замерзлі? — спагадліва спытала ў яе маці Фірузы.

— Не. Я прывыкла. Ды ў мяне світэр цёплы. Дома чаю з малінай вып'ю. Сёлета ягад было багата. Назбірала.

— Вы латышка?

— Не зусім. Бацька сібірак. Маці тутэйшая.

— А сям'я ёсць?

— Двое дзяцей. Сыну — дзевяць, а дачцэ — сем. У першы клас пайшла.

Усе дзівіліся, што яна, гэткая маладая, мае ладных дзяцей. Фіруза штосьці сказала маці, зняла сваю цюбецейку і падала яе Рыце Андрэеўне:

— Вашай дзяўчынцы. На памяць. Саласпілс...

— Ну, што вы? Навошта?

— Вазьміце,— прасілі, малілі цёмныя вачаняты.

Рыта Андрэеўна падзякавала, асцярожна ўзяла цюбецейку, нібы баялася, што яна можа разбіцца.

— Як тваё імя?

— Фіруза.

— Фіруза? А што гэта значыць?

— Шчаслівы камень,— адказала маці дзяўчынкі.

— Будзь шчаслівай, Фіруза! — Рыта Андрэеўна прыхінула малую і пацалавала яе ў лоб.

Неўзабаве мы ад'язджалі. Апошнімі ў аўтобус ваваліліся Сева і яго сяброўка. У іх быў цэлы жмут паштовак.

Я павярнуўся, каб яшчэ раз зірнуць на бетонную сцяну, на якой вялізнымі чорнымі літарамі было напісана па-латышску: «За гэтымі варотамі стогне зямля». Зноў перад вачамі паўсталі чырвоныя гарлачыкі шыпшыны, як застылыя кроплі крыві.

1977 г.

# ПОЗНІЯ ГРЫБЫ

Як ціха ў лесе!
Песень птушыных не ўчуеш.
Скора сам заначуеш...
І не прачнешся.

*Гётэ*

Было ўжо каля сямі гадзін раніцы, сцішана спявала радыё, на вуліцы крычалі пеўні, быццам клікалі позні восеньскі світанак, які заблукаў дзесьці ў цемры: ночы рабіліся ўсё даўжэй, неахвотна саступалі месяца дасвеццю. Я падняўся і пачаў таропка апранацца.

На дварэ было холадна і золка. Калі я выйшаў за вёску, зусім развіднела, мутнаватае, бледна-ружовае неба пасвятлела, зоркі зніклі, як расталі, толькі высока на паўднёвым усходзе востранька мігцела зеленаватая Венера-Мілавіца. Зрабілася яшчэ халадней, і я пашкадаваў, што не ўзяў пальчаткі, глыбей засунуў рукі ў кішэні курткі, прыціснуў кош, які вісеў ля локця, і наддаў ходу.

У той год верасень быў надзвычай сухі і цёплы. Гарадскія ліпы ўжо на пачатку восені моцна зажаўцеліся і дружна скідвалі лісце. А ў лесе было суха і пуста — хоць бы адзін грыб на смех. Потым пайшлі дажджы, і ў кастрычніку высыпалі апенькі, шмат нарасло іншых грыбоў — хоць касу закладай. І тут, дні за два да пакроў, ціскануў марозік...

Я ішоў, пазіраючы на Венеру, і думаў: мабыць, нездарма ў паданнях жыхароў славутай Аркадзіі, якія не ведалі ні клопатаў, ні гора, у міфах індзейцаў майя не ўпамінаецца пра Месяц: начное неба ў іх асвятляе Венера. Потым, як пішуць астраномы, міма Месяца прайшло вялізнае касмічнае цела і звяло яго з арбіты. Месяц трапіў у абдымкі Зямлі — у сферу яе прыцягнення і стаў яе спадарожнікам.

Неўзабаве я ўвайшоў у лес, звярнуў убок — выра-

шыў прайсці ўскрайкам, дзе ў маладым густаватым хвойніку раслі баравікі — жаўтавата-белыя, на танкаватых ножках. Грыбавікі звычайна абміналі гэты хвойнік: хутчэй, навыперадкі, праставалі ў глыб лесу.

У рудаватай траве, бліскучай ад інею, я нечакана ўбачыў рыжыка — даволі вялікі, бякла-ружовы, ён адразу кінуўся ў вочы. Я ўзрадаваўся, зрэзаў. Рыжык быў цвёрды і халодны, як лядзень, і надрэз карэньчыка не зачырванеўся, як звычайна. У хвойніку я знайшоў некалькі зялёнак — зашыліся ў пясок, пад іглiцу, і сядзелі хоць бы што. А баравікоў не было.

Раптам пачуліся галасы — ля дарогі я згледзеў дзве постаці. Гэта былі ён і яна, відаць, маладыя муж і жонка.

— Ой, якія зелянушкі! — усклікнула яна, паставіла белае пластмасавае вядзерца і пачала зразаць грыбы, толькі лязо паблісквала.

— А ты ж гаварыла, што нічога не знойдзем,— з лёгкім дакорам сказаў мужчына, паправіў акуляры, агледзеўся вакол і таксама ўкленчыў над грыбамі.

— Гэта ж твой лес. Ты і павінен лепш ведаць...

«Бач ты яе, апраўдалася. Яшчэ і яго ўпікнула,— падумаў я.— О, гэтыя Евіны дочкі! Ці ж яна скажа, што памылілася...»

Жанчына была ў сіняй балоневай куртцы, з-пад якой быў відзён белы каўнерык світэра, на галаве — цёмны берэт. Яна радасна, узбуджана гаварыла:

— Ой, колькі грыбоў! І насолім, і насмажым. Добра, што прыехалі...

«От сарока, растрашчалася»,— усміхнуўся я і пайшоў далей.

Праз колькі часу ў мяне ўжо было паўкаша зялёнак, шаравата-белых, крамяных ад марозу радовак, рыжыкаў. Сонца паднялося вышэй, халодныя промні прасвечвалі голы лес, і ад гэтага зрабілася яшчэ болей золка. Рукі мае зусім адубелі, і я падумваў ужо вяртацца дахаты.

Неўзабаве наперадзе засінела неба. Я выйшаў на поле азіміны. Зялёная, кусцістая рунь квола паблісквала пад сонцам. На полі стаялі бетонныя слупы высакавольтнай лініі. На апоры сядзелі дзве сойкі, згледзелі мяне, адляцелі ў хмызняк, што рос у нізіне. За хмызняком высіўся стары сасновы бор.

Я прайшоў ускрайкам — тут ужо трохі прыгравала сонейка. Раптам з лесу выскачыў вялізны цёмнабуры дзік, спыніўся, убачыўшы мяне, пастаяў, нібы раздумваў, і цераз поле лупянуў у хмызняк. Я крыкнуў. Дзік прыпусціў яшчэ мацней.

Нечакана з лесу вытыркнуўся другі вяпрук — трохі меншы, не такі грывасты, і таксама дзогнуў цераз поле. Беглі дзікі шпарка, кароткія тушы з доўгімі лычамі нібы каціліся, падскокваючы, у хмызняк. У кустах яны спыніліся, рохнулі, быццам пужалі ўжо мяне, і, ламаючы голле, пабеглі далей.

Трохі пастаяўшы, я павярнуў у лес, кіруючыся дадому. Задумаўшыся, я брыў напрасткі і раптам — аж сэрца ёкнула — ледзь не растаптаў баравік. Грыб быў вялізны, але замаскіраваўся так удала, што не кідаўся ў вочы. Таўшчэзны корань быў сагнуты: баравік нібы прыпаў да зямлі. Спачатку ён рос прама, але, мабыць, адчуваючы холад, прыгнуўся, прыкрыўся ад сіверу мохам, лісцем і толькі з сонечнага боку быў добра відаць. Я доўга стаяў над ім, любуючыся. Нарэшце зрэзаў. Корань быў белы і тугі, як сыр. Я паклаў баравік, і кош адразу пацяжэў.

Азірнуўся, ці няма болей баравікоў, ступіў колькі крокаў. З тоўстай кашлатай сасны пасыпалася ігліца: блакітна-рудая вавёрка сярдзіта зацокала, фыркнула з прысвістам, нібы хто рэзка махнуў пугай, і шмыганула на вяршаліну — толькі мільгануў агніста-рыжы хвост. Мабыць, і яна толькі цяпер згледзела баравік і пашкадавала, а мо і дакарала сябе, што прамаргала.

Неўзабаве я выбраўся на дарогу і пайшоў, ужо нікуды не зварочваючы. Вакол было ціха і пуста. Зрэдку папісквалі нейкія маленькія птахі, адстукваў «тэлеграмы» дзяцел. Лес жыў сваім адвечным жыццём.

Праз нейкі час дагнаў старую Андрэіху. Яна несла цалюткі кош грыбоў і злёгку кульгала.

— Во, галёш, каб яго ліха, ціснe нагу. Першы раз буркі адзела. Ссохліся за лета, мусіць. Хоць ты скідай, ці што з гэтым галёшам рабіць,— сказала яна, нібы апраўдваючыся.— Во і паўзу памалу. Вы ідзіце сабе...

Я прапанаваў паднесці яе кош, але старая адмовілася.

— Ды не, дзетка. Ці ж я ўжо такая слабая? Я ж

усё жыццё нашулкі цягала. І не такія...— бабка павярнула да мяне абсівераны, вастраносы тварык, захутаны чырвонаю хусткаю, востра зірнула на мяне.

У гэтую вёску я прыязджаў даволі часта да сваякоў, якія жылі недалёка ад Андрэіхі, і старая трохі ведала мяне. Я прыцішыў хаду і ішоў поруч з ёй. Пераканаўшыся, што я не спяшаюся, Андрэіха пачала гаворку:

— Чакала ўчора дзяцей, а яны нешта не прыехалі. Дык вось сама грыбкоў трохі назбірала... Заўтра адвярнуся ў горад... Сын жа мой хоча ўзяць мяне на зіму,— старая зірнула на мяне, шморгнула носам.— Можа, яно і добра было б. Дык баюся. Малога трэба глядзець. А ён такі ўтрапёны! Такі неслух... Дзе ты яму дасі рады... З усёй работай я справілася б. Ці памыць што, ці зварыць, у краму схадзіць... А з малым — не ведаю... У каго ён такі ўдаўся? У мяне ж было пяцёра. Тры сыны і дзве дачкі. Большыя... абодва не вярнуліся з хронту...

Андрэіха памаўчала, ямчэй узяла кош і зноў загаварыла:

— Мае дзеці былі слухмяныя, спакойныя... Да трох гадоў грудзі ссалі. Малака ў мяне хапала. Уга, колькі было... Дасі нанач, дык і спіць малы. І я сабе сплю як пшаніцу прадаўшы,— голас бабчын пацяплеў, нібы памаладзеў.

Я слухаў Андрэіху, і перад вачамі паўставала маладая, чырванашчокая жанчына, з высокімі, як налітымі, грудзямі.

Нібы ўгадваючы мае думкі, старая ўздыхнула:

— А што ўжо я да работы была заядлая! Упынку не было. І з сярпом, і з касою. А як адна засталася... Ужо дваццаць гадкоў як чалавека свайго пахавала. Дык і з тапаром сама, і з пілою... Пакуль сілу мела, з усім спраўлялася. А цяперака ўжо стапталася. Семдзесят восем гадочкаў маю...

— Вы яшчэ добра выглядаеце... Вунь грыбоў яшчэ колькі назбіралі. Больш за маладых,— сказаў я, каб падбадзёрыць старую.

— Не, дзетка мой мілы. Зажылася на гэтым свеце я. Трэба на спачын. Гэта ж калі сам цягаешся яшчэ, дык яно нічога. А як ужо і падняцца не можаш, гэта ж адна пакута... Не, лепей адысці, пакуль сам кратаеш-

ся... Мой Андрэй усяго на тры гады быў старэйшы, а ўжо даўно няма... Ну, войны ж гэтыя прайшоў. Яшчэ ў царскую ў плячо ранілі. Як перамена надвор'я, дык і кволіўся, балела яму... І ў гэтую ж вайну ён у партызанах быў. А як прагналі немца, старшынёй калгаса выбралі. Хапіла клопату. Зусім знябыўся чалавек. А тады пенсію ўжо далі. І то не сядзеў склаўшы рукі... І хворым ляжаў мала... Помню, як цяпер, кажа: «Марыля, хачу выйсці на двор, палягчэла мне». Вывела яго з хаты, стаў ён на ганку і абвёў вачамі ўсе куточкі. Доўга аглядаўся. Завяла ў хату, памагла легчы. К вечару — і гатоў. Во, лёгкая смертухна...

Тым часам выйшлі мы на ўскрай лесу. Сям-там траплялiся тут валуны, відаць, іх сцягнулі сюды з поля.

— Ах, каб яго ліха, гэты галёш. Во трэба пераабуцца. Ты ідзі, сынку. Не зважай на мяне, старую. Я во сяду, пераабуюся, трохі перадыхну і дачапаю памалу.

Я выйшаў з лесу і здзівіўся: наперадзе крочылі тыя самыя грыбавікі — удваіх неслі паўнюткае, ■ коптурам, вядзерца, а мужчына яшчэ нёс і цэлафанавы мяшэчак. Ішлі яны нетаропка і аб нечым галасна гаманілі.

Грыбнікі раптам гучна і весела засмяяліся.

— Ой, не магу. Лопнуць можна ад смеху,— усклікнула яна і зноў залілася звонкім рогатам. Жанчына азірнулася, убачыла мяне і адразу ўзялася папраўляць берэт. Мужчына таксама азірнуўся — бліснулі шкельцы акуляраў. Нечакана грыбнікі спыніліся, памяняліся месцамі — мабыць, у яе стамілася рука.

— А вы нават баравіка знайшлі. Ды гэтакі вялізны! — пазайздросціла яна, здалёк агледзеўшы мой кош.

— Пашанцавала. Хоць напаследак,— сказаў я.

— Хто шукае, той знаходзіць,— усміхнуўся ён, паглядзеў на мой кош.— А баравік дзіўны...

— Чаго ён гэтак сагнуўся? Прыціснуты быў чым? — Жанчына ўкленчыла ля майго каша, асцярожна дакранулася да баравіка, пагладзіла корань, нібы прылашчыла. Танклявыя пальцы яе былі перапэцканыя зямлёй, чырвоныя вострыя лакіраваныя ногцікі здаліся яшчэ больш бліскучымі. Твар яе быў чысты,

гладкі, на лбе ніводнай маршчынкі, на цёмным берэце бялела сярэбраная павуцінка.

— Не. Проста пад мохам сядзеў. Мусіць, халадэча ціснула,— сказаў я.

— Канечне. Таму ён і хінууся да зямлі. А які вялізны вырас! Во, што значыць, роднай зямелькі трымацца,— мужчына паправіў акуляры, узяўся за дужку каша. Грыбавікі рушылі далей.

Я ішоў памалу ўслед — спяшацца не хацелася. Дзень быў на дзіва светлы, прыгожы, нейкі сцішанаўрачысты — развітальная ўсмешка бабінага лета.

Сонца паднялося вышэй і ўжо добра прыгравала. Неба было сіняе і чыстае, як вымытае шкло. Ад хады мне зрабілася цёпла. Дыхалася лёгка, і цела налівалася бадзёрасцю.

Зусім не хацелася думаць пра зіму.

1976 г.

# ПАМЯЦЬ

Вечарэла. Дагараў спякотны жнівеньскі дзень. Мы сядзелі на ганку каля лясніцтва. Хлопцы, рабочыя, адчайна дымілі папяросамі.

— Маю да вас пытанне,— павярнуўся да мяне Цімох Канаплёў — немалады ўжо чалавек з цёмным, ледзь не шакаладнага колеру тварам,— і на мяне зірнулі невялікія сінія вочы.— Пытанне от якое... Хачу праз газету ці па радыё аддзячыць аднаму чалавеку. Выратаваў ён мяне. З магілы выцягнуў. Я ўжо канцы аддаваў. Саўсім не мог ні піць, ні есці. Думаў — усё. Дам дуба... Язва ў мяне была. Зрабілі аперацыю. І вось жыў-здароў. Ем што хачу. І гарэліцы магу дзербалызнуць... Адным словам — жыві і радуйся. А я, парасё нямытае, нават дзякуй не сказаў доктару. Забег у кабінет, калі выпісваўся,— няма. «Дзе Дзмітры Іванавіч?» — пытаюся ў дзяжурнай. «Паляцеў, кажа, на самалёце. Тэрміновая аперацыя. Будзе заўтра...» Ну я і пайшоў. Дужа рады быў, што выкарабкаўся. Зямлі не чуў пад нагамі... А цяпер не магу сабе даравяць... Дык як бы прапусціць у газеце?

— А калі гэта было? — спытаў я.

— Было гэта ў Архангельску. У пяцьдзесят першым годзе...

Хлопцы зарагаталі, так, што аж рэха пакацілася па лесе.

— Ну, Піліпавіч, адмачыў ты!.. Га-га-га! Ой, не магу! Успомніў праз дваццаць гадоў, от хахмач! — рагатаў шафёр Пецька Будай, малады хлопец з рыжай грыўкай і рудымі бакенбардамі.— Твой доктар мо сам сканаў даўно... Ды і што яму з твайго «дзякуй»? Пашлі біклажку мядку ці гарэліцы. Я завязу на пошту,— хітравата падміргнуў Будай і зноў зарагатаў.

— Чаго ржэш, жарабё няшчаснае! Калі табе «дзякуй» не трэба, дык, думаеш, усе такія абдзіралы? Ты хоць раз падвёз каго-небудзь дарма?

— Чаму ж не? Сваякоў і сяброў — без грошай. А астатнія — гані манету. А што ж дарма? Толькі ішак ішака за дзякуй чэша...

— Во, чуеце? Ах ты, гад печаны! Ці ж машына твая? Дзяржаўная. І бензін дзяржаўны. І аклад маеш. Усё роўна ж едзеш. І калі падвёз чалавека, дык яму дзякуй скажы, што табе сумна не было. А ты сем шкур лупіш... Ох, і нахабства! Што гэта робіцца?

— Не кажы, Цімох Піліпавіч. Надоечы падышоў я да булгахціра,— ушчаміўся ў гаворку маленькі чалавек з лысай, круглай, што більярдны шар, галавой.— Падышоў і кажу: «Выпішы, Антонавіч, тапорніку якога метры тры на дровы. Ляснічы дазволіў». А ён кажа: «Магу аформіць гэта дзела толькі праз магазін».— «Як праз магазін?» — пытаюся. А ён ухмыляецца, зубы скаліць: «Ты што, з неба зваліўся ці ўчора нарадзіўся? Не ведаеш? Ты ідзеш у магазін, бярэш бутэльку — і ўсё ў парадку...»

— Дык куды ж мне напісаць? — зноў звярнуўся да мяне Канаплёў.

— Можна ў абласную газету. На абласное радыё...

— Ага, ага... Значыцца, так і напісаць: «Архангельск, рэдакцыя абласной газеты...» Во неяк сядзем з Алеськам і накатаем. Гэта малодшы мой. Дужа добры почырк мае... Трэба будзе напісаць... Ну, то дзякуй за параду. Пайду. Забавіўся я. Баба мая каровы пагнала сянні. Гаспадарка недагледжаная... Бывайце здаровенькі!

— Ідзі здароў!

— Да заўтра, Піліпавіч! — пачуліся галасы.

Усе доўга моўчкі глядзелі яму ўслед. А я пазіраў на Пецьку, бо ніяк не чакаў пачуць ад яго, што толькі ішак за дзякуй чэша... Няўжо ён забыў сённяшняе дарожнае здарэнне?

Мы ехалі з райцэнтра ў лясніцтва. Гарачыня, шлейф пылу за машынай. Пецька выціраў рукавом лоб і насцярожана прыслухоўваўся: пад кузавам пачало пастукваць і скрыгатаць. Калі застукала мацней, спыніліся. Пецька — адразу пад кузаў.

— Ёлкі-маталкі. Падшыпнік паляцеў. Ролікі ўсе

высыпаліся. Тваю маць...— вылаяўся Пецька, пачухаў патыліцу.— Яшчэ кіламетраў дзесяць да лясніцтва...

Аказалася, гумовая пракладка-кальцо вылезла са свайго месца, метал цёрся аб метал, раскаліўся да чырвані — не дакрануцца. Патрэбна была вада.

Спыніліся мы недалёка ад вёскі. Метраў за сто відзён быў калодзеж, і жанчына кіравала да яго з вёдрамі. Я пайшоў туды. Павітаўшыся, растлумачыў што да чаго, папрасіў вядра. Жанчына, круглавідая, гадоў на сорак пяць кабета, у квяцістай старэнькай сукенцы і палінялай хустцы, прыязна паглядзела на мяне і падала поўнае вядро.

Калі я вярнуўся назад, ля студні нікога не было. Я набраў вады, азірнуўся і рушыў да хаты цераз дарогу: добра не прыкмеціў, але здаецца — адтуль выходзіла жанчына. Увайшоў на двор — адкрыты, не было ні коўрат, ні вясніц. На двары стаяла поўнае вядро, такое, як і ў мяне, і цынкавыя ночвы вады. З хаты выйшла гаспадыня з венікам. Твар яе быў абвязаны яшчэ адной хустай, пахла хларафосам: жанчына збіралася ў паход на каларадскага жука.

— Ой, вы і вады прынеслі...

— Дык я ж браў з вадою. Дзякуй вам.

— Няма за што. Адкуль жа вы едзеце?

Я адказаў, куды — яна ўжо ведала. Я агледзеў хату, старую, даволі вялікую, але ■ малаватымі вокнамі, страха прасіла рамонту, плот — таксама.

— З кім жа вы жывяце?

— Сын пры мне. У армію сёлета пойдзе. А дачка вучыцца ў горадзе... Мужыка во няма... Памёр,— дадала яна, памаўчаўшы.

— Што ж ён так мала жыў?

— Захварэў. Выпіць любіў... А хто цяперашнім часам не п'е? — яна зірнула на мяне і ўзялася памешваць «мікстуру».— Во жук адолеў. Няма ратунку... І што з ім рабіць?

Збоч дзвярэй з хаты стаяла старая, патрэсканая ступа, у адным месцы збітая скабой. З другога боку дзвярэй стаялі жорны — ніжняя частка, калода, ■ набітымі аскабалкамі чыгуну: такіх жорнаў было шмат пасля вайны, а цяпер — вялікая рэдкасць.

— Што, ступа ўжо адслужыла сваё?

— Даўно. Спаліць трэба.

— Ну, што вы! Гэта ж музейная рэч. І жорны таксама. Ці ёсць вярхняк ад іх?

— Дзесьці ёсць.

— Не паліце пакуль. Падкажу ў раёне, каб забралі. Яшчэ і грошы вам дадуць.

Жанчына здзівілася, што некаму можа спатрэбіцца гэтая старызна, якую яна аддасць і без грошай. Я падзякаваў і пайшоў. Але мне давялося вяртацца сюды: у незнаёмага шафёра, які ехаў міма, Пецька папрасіў ключа на семнаццаць.

— Ключ-то ёсць. Ды ў мяне часу няма. Зерне важу...

— Мы пакінем яго вунь у той хаце, ля студні. Потым забераце,— сказаў я.

Шафёр, лысаваты таўстун, згадзіўся, кіўнуў на развітанне і паехаў.

Калі мы з Пецькам заціснулі гуму на месца, закруцілі дротам, я аднёс ключ, напісаў запіску, бо хата была зачынена сухім прутком, паклаў паперку на жорны, а зверху — збіты, бывалы гаечны ключ. Пашкадаваў, што не спытаў імя жанчыны, ні таго шафёра. Дапамаглі нам незнаёмыя людзі, і мы раз'ехаліся, каб ніколі не сустракацца больш. Зрэшты, Пецька можа калі заехаць...

Мужчыны пра нешта гаманілі, а Пецька Будай маўчаў і моршчыў лоб. Мо і ён што ўспамінаў?

1970, 1977 гг.

# ПАВІНАЕ ВОКА

Вясна ў той год была халодная, шчодрая на дождж і надта скупая на сонца. Усё жывое чакала цяпла. І нарэшце, у канцы мая, раптам прыпарыла — прырода падабрэла. Адразу зацвілі сады, успыхнулі белыя свечкі на каштанах.

Надвячоркам ішоў я цераз старыя могілкі, зарослыя кустоўем, над якім высіліся купчастыя клёны, таўшчэзныя ліпы. Сонца ўжо схавалася за дрэвы, але сям-там яшчэ загаралі падлеткі, сядзелі з вязаннем — востра паблісквалі металічныя спіны — бабулі; гулялі дзеці: недалёка адсюль, цераз дарогу, быў іх садзік.

Я прысеў на каменную пліту з гатычнымі літарамі, месцамі яны пазбіваліся, сцёрліся, і разабраць надпіс было цяжка — магчыма, нейкі барон спачываў пад каменем. Я разгарнуў кнігу.

— Дзядзя, во адламалася...

Перада мной стаяў карапуз гадоў пяці, падаваў блакітны грузавічок і кола ад яго, маленькае, як гузік ад паліто. Я ўзяў папку, круціў яе і так, і сяк, але прымацаваць кола не ўдалося.

— Як цябе завуць? — спытаў я.

— Алег.

— На жаль, Алег, так проста не зробіш. Трэба інструмент. Папрасі свайго тату...

— А ў мяне... няма таты.

Размова прымала сур'ёзны паварот, але тут, як гэта часта бывае ў жыцці, умяшалася... «жанчына»:

— А ў мяне класівыя басанозкі...— дзяўчынка з вялікім чырвоным касніком у бялявых, як лён, валасах паставіла на камень маленькую ножку ў белым сандаліку.— А завуць мяне Эля.

— Так, Эля, басаножкі тваё прыгожыя,— падтакнуў я.

— А мяне тата скола забялэ,— важна паведаміў хлапчук у новым шэрым гарнітурчыку.

«Што ж, табе, відаць, няблага жывецца»,— падумаў я.

Уміг мяне абкружылі з усіх бакоў, разглядалі з першароднай цікавасцю. Выхавацелька была гэтаму рада, бо да яе падсеў хлопец у рудаватай скураной куртцы, з доўгімі, аж да плячэй, валасамі, нешта гаварыў, і яна гучна і задаволена смяялася.

— Дзед ці баба? — наблізілася да мяне Эля, рукі яе былі схаваны за спіною.

— Дзед,— адказаў я, не задумваючыся.

Эля паказала белы шарык-дзьмухаўку, склала губкі ў трубачку і дзьмухнула, але не на ўсю моц, а так, каб чубок застаўся. Я зразумеў гэту маленькую хітрасць і другі раз сказаў: «баба». Тады Эля акругліла шчокі, дзьмухнула з усяе сілы і паказала мне галенькі пянёк кветкі з цёмным вяночкам насення.

— Не ўгадалі. Лысы дзед.

— Не ўгадаў! Не ўгадаў! — запляскала ў далоні дзятва.

Урэшце я не вытрымаў.

— Вось што, дзеці, вы сабе гуляйце. А мне трэба чытаць,— сказаў я і адышоў убок.

— Тлэба чытаць,— падтрымаў мяне хлапчук у шэрым гарнітурчыку, і малыя пакіравалі да выхавацелькі.

Але чытаць мне давялося нядоўга.

— Дзядзя, а пад гэтым каменем ляжыць чалавек? — перада мной зноў стаяў Алег, за ім — Эля і ўся дружная кампанія.

— Так, ляжыць.

— А які ён? У адзенні? — спытаў хлапчук у шэрым гарнітурчыку.

— Не. Усё ўжо даўно згніло...

— І скура, і валасы? — здзівіўся Алег.

— Ну, канесне. Адзін скілет застаўся,— прасюсюкала Эля.— А я калі памру, буду скілетам?

Я не ведаў, што сказаць. Выратаваў Алег.

— Усе людзі пасля смерці робяцца шкілетамі,— філасофскі заключыў ён.

— А я не хачу паміраць,— усклікнула Эла.— Раз чалавек нарадзіўся, дык хай зыве і зыве...

Невядома, да чаго б мы дагаварыліся, але размову нечакана перабіў хлапчук у шэрым гарнітуры.

— Павінае вока! Павінае вока! — закрычаў ён.

Дзеці кінуліся лавіць матылька. Эля аказалася самай спрытнай, і неўзабаве паднесла мне кулачок, у якім трапятаў крыльцамі матылёк. Сапраўды, гэта было дзённае павінае вока: на пярэстых, рудавата-зеленаватых крыльцах былі відаць яркія буйныя, карычнева-блакітныя з жоўтай каймой плямы-вочы, нібы вясёлкавыя кроплі. «Няўжо з новага пакалення? — падумаў я.— Зарана... Мабыць, перазімавалы матылёк...»

— Эля! Дай мне паглядзець! Дай мне...— наперабой крычалі дзеці.

— Эля, не задушы,— сказаў Алег.— Адпусці...

— Праўда, Эля, адпусці. Хай жыве...— сказаў я.

Эля накрыла кулачок другой далонькай, быццам хавала ад усіх сваю прыгожую ахвяру. Па ўсім было відаць, што ёй дужа ж не хочацца расставацца з такой незвычайнаю цацкай.

— Выпусці. Не муч,— настойваў Алег.

— Выпусці. Хай ляціць! — крычалі дзеці.

Эля памалу расшчапіла пальцы. Матылёк памахаў крыльцамі, нібы развінаў іх, і пырхнуў угору.

— Дзеці! Ідзіце сюды,— строга і нецярпліва паклікала выхавацелька. Яна ўжо развіталася, відаць, дамовіўшыся аб сустрэчы, і штохвіліны пазірала на гадзіннік: карцела, каб хутчэй скончыўся рабочы дзень.

Я пайшоў далей. Ішоў і разглядаў помнікі, разбіраў надпісы. «Хіер рут ін Гот генерал-інтэндант...» — было напісана па-нямецку на масіўным квадратным помніку з цёмнага мармуру. Тут спачывае «во бозе...». І спачываў генерал ужо даўно — з тысяча восемсот шасцідзесятага года. Маю ўвагу прыцягнуў помнік, які нагадваў дрэва з абрэзанымі сукамі. На ім было нешта напісана, здалёк блішчала жоўтая свежая бронза. Я прыткнуўся да агароджы, таксама нядаўна пафарбаванай, сілячыся прачытаць надпіс.

— Сюды! Тут! — пачуліся галасы.

Да помніка шыбавалі і дзве цыбатыя дзяўчыны ў цёмных школьных сукенках з белымі фартушкамі і

хлопец, высокі, хударлявы, у акулярах. Першай падышла смуглявая дзяўчына з кучаравымі валасамі. Яна, не зважаючы на мяне, пачала гучна чытаць эпітафію, напісаную двума слупкамі-строфамі.

— Крепче был дуба в бурях житейских, стойко перенося удары судьбы, пал же ты жертвой супруги коварной, не поборов к ней своих чувств в груди... От матери и сестры...

— Не дужа складна, затое моцна,— сказаў хлопец.

Падышло яшчэ некалькі дзяўчат і хлопцаў. Смуглявай давялося чытаць другі раз. Слухалі, усміхаліся.

— От, дурань. Загінуў праз жонку. Ажаніўся б яшчэ раз, і ўсё.

— Канечне, а то ў трыццаць пяць год даў дуба.

— Калі ён памёр? У 1928 годзе? Даўно. А што ўнізе напісана?

Ніжэй, дзе помнік-дрэва ўрастаў у зямлю, былі высечаны драбнейшыя літары ў невялікім квадраце, падзеленым напалам, нібы раскрытая кніга. Смуглявая з сяброўкай укленчылі і пачалі па складах расшыфроўваць надпіс.

— Любящее сердце, перестань стремиться, в душе ея...

— А чаму «ея»? — перапынілі дзяўчаты.

— Стыль такі,— сур'ёзна сказаў хлопец у акулярах.

— Слухайце далей,— нецярпліва зіркнула смуглявая.— В душе ея отклика ты не найдешь. Тебя заменили другие. В могиле холодной покой ты найдешь...

— Ну і ну,— парушыў маўчанне хлопец,— моцна дапякла...

— Трэба ж гэтакае на граніце высякаць,— хмыкнула смуглявая.

— Значыць, трэба. Каб ведалі людзі, што каханне злое,— з прыхаваным хваляваннем запярэчыў хлопец.— Каварства і каханне жывуць побач...

Смуглявая востра зірнула на яго, моўчкі адвярнулася, і шчокі яе злёгку заружавеліся.

«Ды ён жа па самыя вушы закаханы ў яе! А гэтая красуня нават і не здагадваецца. А мо зараз адчула? Можа, ён знарок прывёў іх сюды?» — раздумваў я.

Дзяўчаты загаманілі, зноў пачалі смяяцца. З галёканнем і рогатам пайшлі далей. Я перачытаў надпі-

сы, і быццам ажыў халодны граніт: пачулася ў гэтых словах вялікая мацярынская любоў да сына і пякучая нянавісць да той распусніцы. Успомнілася Эля, як на яе далоньцы махаў крыльцамі матылёк. Яна таксама некаму будзе жонкай. І невядома — ці добрай...

Я ішоў па дарожцы. Сям-там на помніках былі надпісы на польскай мове. Нечакана ўбачыў школьнікаў — прыціхлай купкай яны абступілі невысокі белы абеліск, што стаяў каля таўшчэзнай старой ліпы. «Усяго дваццаць тры гады пражыў»,— данеслася ціхая гамана. Калі яны адышліся, я прачытаў: «Сідаровіч Віктар Іванавіч, 1920—1943. Загінуў у барацьбе з нямецкімі акупантамі. Памяць ад маці і сястры». Зноў успомнілася Эля: «Я не хачу паміраць...»

У вяршалінах старых дрэў гучна крычалі гракі, галёкалі галкі, цвіркалі вераб'і. Вясна рыхтавалася сустракаць лета і нібы наўмысна запаліла свечкі на каштанах. Адзін каштан высіўся непадалёк ад помніка, і што мяне здзівіла: яго маладыя галінкі выцягнуліся ўжо сантыметраў на дваццаць, амаль такой жа даўжыні былі вялізныя, шырокія, што лапці, лісты. І гэта за якія-небудзь два-тры тыдні! Якая ж сіла таілася ў зялёных, тугіх, таўставатых, як пінгвіны, пупышках!

Я сеў пад каштанам і зноў узяўся за кнігу. Раптам наперадзе, за кустамі, пачуўся смех. Я прыгледзеўся і ўбачыў выхавацельку, яна сядзела на каленях у хлопца ў скураной куртцы. Яны цалаваліся, забыўшыся пра ўсё на свеце. Побач, на камені, пабліскваў транзістар, сцішана гучала вясёлая мелодыя.

Што маладосці да таго, што пад камянямі ляжаць косці людзей, якія некалі жылі.

Сонца яшчэ свяціла, калі я выйшаў на вуліцу. У светлым небе лёталі белахвостыя гарадскія ластаўкі. Вясёлкавай іскаркай мільгануў матылёк павінае вока — радаваўся жыццю.

1976 г.

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

*Леонид Леванович*
*(Леонид Киреевич Леонов)*

ЯКОРЬ НАДЕЖДЫ

Повести и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак А. А. Лапіцкая. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Е. У. Дзмітрыенка.

ІБ № 520

Здадзена ў набор 05.01.79. Падп. да друку 12.06.79. АТ 01172. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,60. Ул.-выд. арк. 12.35. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1905. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Леванові́ч Л.**

Л 34 **Якар надзеі: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979.—240 с., іл.**

Новую кнігу Леаніда Левановіча складаюць аповесці «Якар надзеі», «Прызнанне» і апавяданні. Першы твор нагадвае сабою своеасаблівую біяграфію пачуццяў, гісторыю аднаго кахання. Закаханыя марак-падводнік Аляксей Гардзіевіч і настаўніца пачатковых класаў Галіна Жданка ў сваіх пісьмах адзін да другога закранаюць розныя праблемы сучаснай школы, службы на флоце і г. д.

Нялёгкім будням у ваенна-марскім флоце прысвечана аповесць — «Прызванне».

Апавяданні пісьменніка пра нашу рэчаіснасць, нашых сучаснікаў.

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Л $\frac{70303-110}{М\ 302(05)-79}$ 13—79

